ББК 84 Бел 7
Г 47

Для старэйшага школьнага ўзросту

Мастак В. П. Масцераў

Книга прозы известного белорусского поэта, лауреата Государственной премии БССР Нила Гилевича — о послевоенной юности, с размышлениями о дне сегодняшнем.

Все, что написано автором «о времени и о себе», воспринимается как образ поколения, тех юношей и девушек, которым, пережив войну, довелось пережить трудности и невзгоды послевоенных лет.

Книга автобиографическая, только некоторые имена, по понятным причинам, заменены.

$\text{Г}\ \frac{4803010200-124}{\text{М}\ 307(03)-88}\ 49-88$

ISBN 5-7880-0048-3

## ТАК СКОНЧЫЛАСЯ ДЗЯЦІНСТВА

А скончылася яно адразу, раптам, у адзін дзень.

Сонечнай раніцай на пачатку вясны, у канцы сакавіка сорак трэцяга.

Скажаце, што так не бывае, каб — раптам, імгненна? Што гэта адбываецца паступова, патроху і цягнецца доўга? Напэўна, сапраўды так, спрачацца не стану. Дый навука лічыць, што пераход да якасна іншай узроставай свядомасці займае перыяд больш-менш працяглы. Несумненна, маё развітанне з дзяцінствам пачалося яшчэ тады, калі ў бесклапотны свет дзіцячых гульняў пачалі ўрывацца пэўныя падзеі з жыцця дарослых — падзеі, якія ўражвалі, былі для мяне незразумелыя і прымушалі задумвацца. Але якую з тых падзей узяць за пункт адліку — не ведаю.

Можа, гэта пачалося летам трыццаць сёмага, калі ў суседнім Плешчаніцкім раёне схапілі як «ворага народа» роднага бацькавага брата Аляксандра і ў нашай сям'і надоўга ўсталявалася цяжкая гнятучая трывога?

Ці, можа, восенню трыццаць восьмага, калі ў клас зайшла настаўніца і загадала нам замазаць у чытанках чарнілам партрэты Маршалаў Савецкага Саюза Блюхера і Ягорава?

Ці ў ліпені наступнага трыццаць дзевятага, калі пагранічнік (а наш раён быў да 17 верасня таго года прыгранічным) застрэліў ноччу ў жыце «шпіёна» — і ім аказалася жанчына з хатулём насастрыганых жытніх каласоў, якімі яна, удава, хацела накарміць галодных дзяцей?

Ці, можа, у той паабедзенны час на шосты дзень вайны, калі мы пачулі моцны траскучы гуркат матораў на вуліцы і кінуліся да вокнаў, і старэйшая за ўсіх нас сястра Ліна, імгненна збялеўшы, з перакошаным ад жаху тварам, страшна на ўсю хату закрычала: «Мамачка, гэта ж немцы!..», і мы ўбачылі іх — па трое на кожным матацыкле, у касках і з пагонамі, з

ручным кулямётам — у таго, што ў калясцы, і з аўтаматам напагатове — у таго, што на другім сядзенні, за спіною вадзіцеля?..

Ці, можа, тады, у сярэдзіне ліпеня, калі па вёсцы разышлася чутка, што ўсіх няхрышчаных дзяцей немцы будуць забіваць, а нас у сям'і, нехрысцяў, ажно васьмёра, і мама ўпрасіла свайго дваюраднага брата Ліксандра Давідовіча звазіць нас у Лагойск у царкву, дзе няўцямна п'яны поп апырскаў нас, усіх гуртам, «свянцонай» вадою?..

Ці, можа, на пачатку жніўня таго страшнага сорак першага, калі паліцаі, дагнаўшы на ўскраіне вёскі, застрэлілі, разам з бацькам, слабодскім краўцом Мэндалем, майго равесніка і сябрука Люсю Шульмана, а яго маці Роха прыбегла на месца расправы з поля, дзе жала, і, не чакаючы кулі, на вачах у фашыстоўцаў перарэзала сабе горла сярпом?..

Ці, можа, трохі пазней, у канцы таго ж жніўня, калі мы, хлапчукі-падшыванцы, ладзячы гульню ў стозе саломы, з-за нейкае дробязі пасварыліся, і вечна смаркаты Фэлька Шпачок прыгразіў мне: «Пачакай, пачакай, будзе табе, што і Люсю, твой бацька камуніст — і немцы вас усіх расстраляюць!..», і я расказаў пра гэта дома, і мама, заплакаўшы, пайшла да бацькоў Фэлькі пытацца: «Што мы вам кепскае зрабілі — ці я, ці мой Сымон, ці мае дзеці?..»

А можа, адлік трэба весці з тых начэй улетку сорак другога, калі на асцярожны стук у шыбіну бацька выходзіў з хаты і вяртаўся няскора, а я, міжвольны сведка таямніцы, заміраў ад хвалявання, здагадваючыся, чый гэта стук і хто гэта ноччу прыходзіць да адзінага ў вёсцы камуніста?..

А можа, усё пачалося з тае шэрай імглістай снежаньскай раніцы — за нейкі тыдзень перад новым, сорак трэцім годам,— калі партызаны брыгады «Штурмавая», пасля ўдалага налёту на фашысцкі гарнізон у самім Лагойску, арганізавалі ў Слабадзе, прама на вуліцы, першы, можна сказаць, антыфашысцкі мітынг, і я, шчаслівы ад гордасці, слухаў іх палымянага прамоўцу, які стаяў на санях, на трафейных мяшках мукі,— у падперазаным шырокім рэменем кажушку з кабурою пры боку, у чорнай, кучаравенькай шапцы-кубанцы з чырвонаю стужачкай наўскасяк?..

Ці позним вечарам дваццаць першага лютага сорак трэцяга, калі ў хату Петруся Дразда, дзе было сабраў-

шыся шмат моладзі, убег хтосьці з двара і закрычаў: «Гарадзішча гарыць!», і ўсе высыпалі на вуліцу, і жахнуліся ад вялізнага — на палавіну неба — і страшнага зарава, і пачулі густую кулямётную і вінтовачную страляніну, і разбегліся па хатах будзіць сваіх — каб былі на горшы выпадак на нагах і апрануты, і да раніцы ўжо спаць не кладзіся, а ўранку ціхім, як пры нябожчыку, голасам адзін аднаму паведамлялі, што Гарадзішча скіпела датла і загінула — ад куль і ў агні — каля шасцісот чалавек?..

Не ведаю, не ведаю, не ведаю, у якой ступені кожная з гэтых падзей памагла маёй дзіцячай несвядомасці перарасці ў зусім не дзіцячую свядомасць, але ведаю, што дзяцінства маё — раптам і назаўсёды — скончылася ў канцы сакавіка сорак трэцяга, на другі дзень пасля гібелі Хатыні і хатынцаў, і здарылася гэта на слабодскіх могілках, у кар'еры, з якога калісьці бралі на будаўніцтва гравійкі пясок...

Дзень Хатыні я помню. Уранку людзі стаялі на вуліцы, глядзелі туды, дзе далёка за лясістым гарызонтам усплывалі ўгору чорныя клубы дыму, і гадалі: што гарыць? Адны гаварылі: мабыць, Губá, другія: мабыць, Казыры́, бо Губа правей будзе... Пад вечар даведаліся: на гэты раз не стала Хатыні. Спалілі разам з людзьмі, з жывымі...

Назаўтра, дзесьці так а познім сняданні, бо ўжо ладнавата паднялося сонца, страшная паніка ахапіла Слабаду: едуць немцы! Карнікі! Тыя самыя, што ўчора спажарылі Хатынь. Вестку перадавалі ў такім узрушэнні і трывозе, што ніхто не перапытваў — адкуль вядома і ці праўда гэта; усе, хто мог, кінуліся ўцякаць — пераважна дарогай на Айнáравічы, за першы пагорак, дзе пачыналіся равы з хмызам і пералескі. Без дарогі — не надта і разгонішся: ранняя вясна, яшчэ нават не ўсюды сышоў снег, але ралля прыадтала, і поле гразкае, коўзкае... Пабеглі на Айнаравічы і Ліна з Леўкам — нашы старэйшыя: Ліне — семнаццаць, камсамолка, Леўку — чатырнаццаты. Чаму не пусціла мама разам з імі і мяне — усяго на два гады меншага за брата? У яе склаўся свой план, як уратаваць нас, астатніх, калі карнікі сапраўды налятуць учыняць расправу. Яна загадала ўсім нам хуценька абуцца і адзецца, а чатырохгадовага Марацíка абула і апранула сама, затым дала мне ў рукі дзве тонкія лёгкія пасцілкі і сказала:

— Сынок, вядзі іх усіх на могілкі, у той кар'ер, што адразу за магіламі. Выберыце там сушэйшае месца, на сонцы, рассцяліце пасцілкі і сядзіце, не паказвайцеся, аж пакуль я не прыйду за вамі. Калі пачуеце, што страляюць, ці ўбачыце дым, можа, паліць будуць — сядзіце там і не вылазьце! Зразумеў? — Затым паглядзела на ўсіх і спытала: — Дзеткі мае, вы чулі, што я сказала? Сядзіце там ціхенька і не паказвайцеся. Ідзіце з богам, спяшайцеся, каб хаця паспелі. Мяжою ідзіце, мяжою, а то па воранаму, па гразі, не зойдзеце...

— А ты, мамачка, а ты? — скрывіўшыся ў плачы, ухапіла маму за руку большая з сястрычак Ідзея. Ёй — амаль дзевяць, і ў адрозненне ад двайнят Колі і Святланкі, якім па шэсць, і тым больш ад Мараціка,— яна ўсё разумее.

— Куды ж я з хворым Алесікам пайду? Я застануся дома, можа, дасць бог, усё абыдзецца...

Яна правяла нас за гумно, яшчэ раз сказала ісці як мага хутчэй і вярнулася ў хату, дзе ляжаў у прастуднай гарачцы любімец усёй сям'і двухгадовы Алесік.

Могілкі ад вёскі недалёка, можа, і кіламетра не будзе, сярод поля на пагорку, у густым маладым сасонніку. Хвілін праз дваццаць мы ўжо былі ў кар'еры, адзін бераг якога — той, што ў бок вёскі,— высокі, абрывісты, а другі — пакаты і парослы сасонкамі. Толькі разаслалі пасцілкі і ўселіся — як там, дзе дарога на Гайну, усчалася страшэнная страляніна — і з кулямётаў, і з аўтаматаў, і з вінтовак,— няйначай разгарэўся люты, зацяты бой. Над галовамі ў нас запелі кулі і зашпокалі побач, на пакатым беразе кар'ера, у пясок.

— Ой, пчолкі зумкаюць, ці чуеце? — у здзіўленні падала голас Святланка.

— Якія табе пчолкі, дурная! Гэта кулі свішчуць, скарэй усе сюды, пад абрыў! — злосна скамандаваў я і, хапаючы малых за рукі, падштурхнуў іх пад высокі, стромы бераг кар'ера.

Уткнуўшыся галовамі ў жоўтую пясчаную сцяну, мы сядзелі — хто на кукішках, хто на каленьках — пад абрывам і слухалі страляніну і свіст куль над кар'ерам. Колькі разоў ахнуў мінамёт і дзесьці далей, у сасонніку, грымнулі выбухі. Шквал кулямётнага і аўтаматнага агню быў такі густы, што з хваін, якія

стаялі на самым краі кар'ера, на нас падалі зрэзаныя кулямі галінкі.

— Чаму яны сюды, на могілкі, страляюць? — павярнуўшы ка мне галаву, ціха спытала Ідзея.

— Адкуль я знаю! Маўчы і ні слова!

Стрэлы сталі радзейшымі, але я выразна чуў, што яны гучаць усё бліжэй і бліжэй. Нарэшце яны амаль замоўклі зусім. Наступіла цішыня. Заварушыліся пабачкі малыя — відаць, занямелі ад сядзення ў адной і той жа позе ногі. Ціхенька зашапталіся між сабой. І я чую пра што. Пра маму і Алесіка. Ці жывая яна, і што там цяпер, у Слабадзе, робяць немцы? Я таксама думаю пра гэта. Сеў зручней і задраў галаву ўгору: павылазіўшы з пясчанай сцяны абрыву, над намі звісаюць доўгія тонкія карані сосен.

— Рукі ўверх! Рукі ўверх! Ні з месца! Здавайсь, сволачы!

З рэдкага хвойніку справа з нацэленымі на нас вінтоўкамі выскачылі некалькі мужчын у чорных шынялях і чорных пілотках. Крыкі іх былі такія нечаканыя і такія страшныя, што падхапіцца адразу не хапіла сілы: не слухаліся ногі. Нарэшце я ўстаў і падняў над плячыма рукі.

— А дзетачкі мае! А мамачка любая! А яны ж нас пазабіваюць зараз! — залямантавала-загаласіла адразу ж Ідзея, памагаючы ўстаць з зямлі меншым.

— Падымайце рукі! — паўтарыў я злосным, не сваім голасам, каманду фашыстаў.

Паліцаі ідуць прама на нас, і прама ў вочы нам глядзяць нацэленыя дулы, якія з кожным крокам карнікаў робяцца ўсё большымі і большымі, і вось ужо я нічога, нарэшце, апрача гэтых чорных дзір смерці, не бачу,— нават тых, што іх трымаюць у руках; дулы — адразу некалькі — упёрліся мне амаль у самы твар і замёрлі, знерухомелі. Я стаю моўчкі. Побач з паднятымі рукамі стаяць і ўсе іншыя «партызаны»: дзевяцігадовая Ідзея, шасцігадовыя Святланка і Коля і чатырохгадовы Марацік — ён таксама трымае ручкі паднятымі. Пяць жывых палонных, пяць страшных ворагаў гітлераўскай імперыі. Ідзея і Святланка плачуць, скарэй, жаласна скуголяць, мужчыны — я, Коля і Марат, як і належыць мужчынам, трымаемся без слёз.

— Ану, пайшлі! Пайшлі, пайшлі! Жыва! — закамандаваў нарэшце адзін з карнікаў, і, падштурхоўваючы ў плечы дуламі вінтовак, нас пагналі з кар'ера,

затым — праз рэдкі сасоннік на поле. Выйшаўшы на чыстае, мы ўбачылі ўсю карціну: скрозь па аселіцы, па лугавіне і па полі, па ўзгорку міма могілак подбегам, уроссып ідуць — у чорных або шэра-мышастых шынялях — фашыстоўцы. Мне здалося, што іх незлічона шмат — як варання на свежым ворыве.

Поле, на якое нас выгналі карнікі,— адталая на сонцы і пад першымі вясновымі дажджамі ралля, якая пудамі наліпае на абутак, а дзе глыбей — у гразі застрае і зрываецца з нагі атопак-валёнак ці чунь. З-за гэтага раз-пораз спыняюцца, і клічуць на дапамогу, і плачуць то Марацік, то Святланка, то Коля, а карнікі крычаць, і падштурхоўваюць, і брыдка лаюцца... Але вось падагналі нас да афіцэра, пры якім — паліцай-перакладчык. Тут жа, на полі, з мяне, як з камандзёра каманды, здымаецца кароткі допыт.

— Чаго вы сюды прыйшлі — на могілкі?

— Баяліся, што вёску паліць будуць...

— А хто вам сказаў ісці хавацца?

— Мама сказала, многія з вёскі ўцякалі, дык мама і нас адправіла...

І ў гэты момант закрычала-залямантавала Ідзея:

— А вунь наша мамачка! А яна ж нас бачыць, як нас гоняць па гэтай гразі! А мамачка любая! А яны ж хочуць забіць — тваіх маленькіх дзетачак!

— Ціха! — злосна крыкнуў на сястру адзін з тых, у чорным, што гналі нас.— Замаўчы, шчанючка!

У гэту кароткую паўзу я глянуў туды, дзе наша сядзіба, і сапраўды, убачыў на гумне, каля пунькі, маму. Адсюль, з пагорка, было вельмі добра відаць, як яна, ломячы рукі, кідаецца з боку ў бок і, не зводзячы вачэй, сочыць за намі. Паглядзелі туды, на наша гумно, і паліцаі.

— А дзе ваш бацька — дома ці ў партызанах? — пачуў я чарговае пытанне.

— Бацькі няма ў нас,— хлушу, не думаючы і не цямячы, што раблю, ці разумна адказваю.

— А дзе ён?

— Яго забралі на вайну. Яшчэ ў сорак першым...

Божа прасветлы! Усявышні і ўсемагутны! Якой велічыні свечку я павінен табе ставіць да канца дзён маіх, што ты адняў у тую хвіліну ў карнікаў розум?! Яны ж бы маглі ў каго-небудзь з малых спытаць пра бацьку і тут жа выкрыць маю хлусню, пачуўшы ў адказ, што яшчэ ўчора вечарам бацька быў дома, вячэ-

раў разам з усімі, а пасля апрануўся і кудысьці пайшоў. Гэта я перастаў быць дзіцем — зразумеў, што з ворагамі Радзімы, з чужакамі-захопнікамі трэба гаварыць як з ворагамі Радзімы і чужакамі-захопнікамі. Але ж меншыя мае браты і сёстры яшчэ былі дзеці і гэтага не разумелі. Страшна падумаць, што было б, калі б карнікі пачалі здымаць допыт з іх, з дзяцей... Але лёсам было нам суджана размінуцца са смерцю ў той пагодны вясновы дзень. Закончыўшы допыт, афіцэр штосьці сказаў, і нас адпусцілі са словамі: «Марш дамоў! І запомніце, будзеце ад нас хавацца,— дык у другі раз пастраляем...»

Знішчаць, паліць нашу Слабаду ў той дзень, як відаць, проста не планавалася. Загінулі толькі тыя, што кінуліся ўцякаць з вёскі позна, ужо пачуўшы на гаенскай дарозе страляніну. А здарылася так, што ў нашым Баранаўскім лесе з карнікамі сутыкнуліся два верхавыя партызанскія разведчыкі. Далі стрэлы — як сігнал Слабадзе — і наўзгалоп пусціліся назад і з дарогі скіравалі якраз у тую лагчыну з кустоўем, што перад могілкамі. Туды ж пабеглі і слабодскія мужчыны — Юзя Драгун і Рыгор Жызнеўскі, а таксама старая Рыгорава маці Маланія, якіх карнікі, напэўна, таксама прынялі за партызан. Гэтым тлумачыцца і тое, чаму яны пайшлі полем урассыпную, з ахопам могілак. Партызаны — на добрых конях — уцяклі, паспелі заімчацца за пагорак, а Юзя з Рыгорам і Маланняй нават да хмызняку не дабеглі — леглі, прашытыя кулямі, на мокрай, хлюпкай лугавіне адразу ж за сядзібамі...

Вопыт размовы з фашыстоўцамі спатрэбіўся мне вельмі хутка — праз месяц з гакам. Спатрэбіўся і дапамог. Вайна вайной, а чалавеку хочацца жыць, і ён — насуперак усім страхам смерці — думае пра жыццё. Іменна таму ў першы дзень мая я прынёс з гаю дзве невялічкія бярозкі, каб пасадзіць іх у двары, каля хаты. Прыйшоўшы на падворак, я паставіў дрэўцы ля плота, тут жа ўтыркнуў у зямлю рыдлёўку і ў гэты час пачуў нязвыкла звонкае цоканне падкоў на вуліцы (наша вуліца была адмыслова забрукавана яшчэ ў канцы дваццатых гадоў). Канешне ж, я адразу выбег за вароты — паглядзець, што за цоканне, і ўбачыў — ужо амаль насупраць нашай хаты — некалькі, вярхом на конях, немцаў. Я нават не паспеў шмыгануць назад, у двор, як першы, у афіцэрскім мундзі-

ры, штосьці мне крыкнуў і рукою пазваў к сабе. Немцы спыніліся, я падышоў бліжэй. У руках афіцэра быў невялікі лісток, у які ён зазірнуў і на ломанай рускай гучна ў мяне спытаў:

— Гідзе жіфьёт Гілевідж Зімон?

— Хто? — перапытаў я машынальна, хаця ў апошняе імгненне да мяне дайшло, што ён пытае пра майго бацьку.

— Гілевідж Зімон, Зімон! — паўтарыў яшчэ гучней немец.

— Там,— паказаў я рукой у той канец вёскі, куды былі скіраваны і конскія, і фашыстоўскія морды. І дадаў: — Во там далей, пад гарою...

Зацокалі падковы, а я вопрамеццю шыбануў у хату.

— Мама! Немцы прыехалі па тату!..

— Дзе? — глянула на мяне, збялеўшы, мама.

— На вуліцы! Пыталі ў мяне, дзе жыве Гілевіч Зімон. Я паказаў ім у той канец, пад гару...

— Бяжы да каго-небудзь загуменнямі і перачакай там! Бо яны цябе пазнаюць, як вернуцца...

Мама пракрычала мне гэта ўжо на хаду і бегма кінулася на гумно, дзе, як я зразумеў, быў у гэты час бацька. Я выскачыў з хаты ў двор і — цікаўнасць перамагла: выткнуў з-за шула варот галаву — паглядзець, дзе ж немцы. А немцы запынілі каля Бануковай студні жанчыну з вёдрамі на каромысле і ўжо павярнуліся мордамі назад, сюды, дзе наша хата, і я ўбачыў, як яна рукою паказвае і тлумачыць ім, дзе жыве Гілевідж Зімон. Тады і я плітануў штосілы на загуменне і паўз агароды — да хаты аднаго са сваіх сябрукоў, дзе і праседзеў да вечара. Немцы бацьку дома не знайшлі і паверылі маме, што ён маніўся пайсці на пасёлак да сястры Паўліны і, мабыць, сапраўды там.

Гэта былі апошнія дні, калі бацька афіцыйна яшчэ не быў залічаны ў партызанскі атрад і то знікаў з дому, то паяўляўся зноў, выконваючы розныя даручэнні падпольнага райкома партыі. Неўзабаве ён зусім, канчаткова, перабраўся ў партызанскі лагер у Руднянскім лесе, і становішча нашай сям'і стала яшчэ больш небяспечным. Тады і давялося мне яшчэ раз паглядзець у чорную дзірку вінтовачнага дула — у вочы смерці — і яшчэ раз адчуць і зразумець, што дзяцінства маё скончылася, і скончылася назаўсёды.

...Ішло другое ў тым годзе (першае было ў самым пачатку мая) «прачэсванне» нашых партызанскіх лясоў. У Слабадзе быў пастаўлены заслон. З вёскі фашысты нікога не выпускалі. Але ж кароў трэба карміць, і жанчыны ўпрасілі нейкага там обера, каб дазволіў дзецям пасля абеду папасвіць галодных рагуль непадалёк ад вёскі — не далей як за паўкіламетра. Разам з іншымі пастушкамі вывеў на павадку нашу Недзяленьку і я. Пасём сабе каля кустоў, за рэчачкай, адчуваем усю небяспечнасць становішча, на душы трывожна, і таму ніякіх гульняў-забаў, як гэта звычайна рабілася, не ладзім. Раптам чую: з кустоў мяне хтосьці няголасна акліквае. Азірнуўся: бацька! Твар моцна зарослы шчэццю — відаць, ужо колькі дзён, як не галіўся. Я трохі спалохаўся, што ён так блізка ад вёскі, у якой поўна немцаў. Падбег да яго. Размова была зусім кароткая — гаварыў бацька, а я адно ківаў — у знак згоды — галавою.

— Схадзі, сын, у Слабаду ў разведку, пабегай з канца ў канец вуліцай, асабліва каля школьнага двара, дзе размясціліся немцы, і пастарайся злічыць і запомніць, колькі іх і якая ў іх зброя — ну, там, кулямёты, мінамёты і іншае. Зразумеў?.. А тады адразу ж сюды, я буду цябе тут чакаць.— Ён паклаў мне на плячо руку і падміргнуў: — Лічы, што гэта табе партызанскае заданне. І глядзі, каб яны не западозрылі... Знаеш што,— дадаў ён пасля маленькай паўзы,— нарві і вазьмі снапок кміну з сабою, на выпадак чаго — скажаш: вот, назбіраў і нясу дадому кмін...

Разведчыку, аднак, моцна не пашанцавала, выканаць ганаровае заданне народных мсціўцаў не давялося. Я быў ужо каля самай вёскі, калі ўсчалася страляніна. І амаль у гэта ж імгненне мяне пераняў здаравілісты — высозны, мардасты, шыракаплечы — немец. Ён так раўнуў «хальт!», што я ледзь не абамлеў ад страху. Пранізваючы злоснымі вачыма, ён пачаў у мяне пра штосьці гучным басам пытацца, і паколькі ўвесь час паўтараў адзінае мне зразумелае слова «партызан», я здагадаўся, што ён пытаецца, дзе партызаны. Я паціскаў плячыма, круціў галавою і лепятаў у адказ: «Не знаю, не бачыў, не знаю, я во кмін нясу дадому, кмін». Тады ён з усяго размаху ўдарыў мяне па вуху таўшчэзнай і шырокай, як пранік, ручышчай. Я адляцеў далёка ўбок, бразнуўся вобзем, але тут жа падхапіўся і, плачучы, залепятаў зноў: «Я не бачыў,

я не ведаю, дзе яны, я не бачыў...» Другі ўдар быў яшчэ мацнейшы. А пасля быў і трэці, і чацвёрты... Ён гахаў даланёй-пранікам з такою сілай, што галава мая напоўнілася звонам і, апрача «партызан!», іншых яго слоў я ўжо не чуў. Пасля нейкага асабліва ёмкага ўдару падхапіцца адразу я не змог, вочы завалакло туманам, адчуваю, што правальваюся ў сон. Абудзіў знаёмы металічны лязгат. Расплюшчыў вочы — прама ў пераноссе мне глядзіць чорнае вока карабіна. Я страшна закрычаў і рвануўся ўсёй істотай з-пад дула ўбок, але адкаціцца не паспеў: немец, пашкадаваўшы, мабыць, патрон (выхоўваўся ж у ашчаднасці!), скаблянуў па галаве цяжкім падкаваным ботам. На шчасце — не ў скронь, а за вухам... Колькі я праляжаў там без памяці — не знаю. Летні дзень доўгі, і калі я апрытомнеў, сонца яшчэ было высока...

## «ПІШУ СОБСЦВЕННАЙ КРЫВЁЮ...»

Трэцяя наша зіма ў акупацыі. Мы не проста спадзяёмся, што трэцяя і апошняя, але моцна ў гэта верым. Верым, бо ведаем, што ўжо ідзе выгнанне ворагаў з беларускай зямлі, што нашы ўжо вызвалілі абласныя цэнтры Гомель і Мазыр, занялі Калінкавічы, Рэчыцу, Мсціслаў, Прапойск і многія іншыя гарады на ўсходзе і на поўдні рэспублікі, што фронт запыніўся пад Віцебскам, пад Оршай і Магілёвам — а гэта ж так недалёка...

Верым яшчэ і таму, што ўжо і ў нас на Лагойшчыне даўно пануе фактычна савецкая — партызанская — улада. Паўгода прайшло, як немцы ні разу не сунулі сюды носа,— з ліпеня месяца, калі тут прачэсвала лясы карная фашысцкая экспедыцыя. Тады, летам, зноў палыхалі пажары, гарэлі жывыя людзі, а з многіх навакольных вёсак усіх жыхароў пагналі на катаргу ў Германію. Гэтакая доля не абмінула і суседнія з нашай Слабадой Айнаравічы, адкуль была родам мама. Каля чатырохсот яе жыхароў загрэблі, разам з пажыткамі, і пагналі ў няволю. У тым ліку нашага дзеда Мікалая і бабулю Альжбету, роднага дзядзьку Кастуся з жонкай і пяцярыма дочкамі і родную цётку Ганну з мужам і таксама пяцярыма дачушкамі.

З пачатку восені мы, гэта значыць — мама і васьмёра дзяцей — жывём у дзедавай хаце, у Айнаравічах; Слабаду пакінулі, бо яна — на больш бітай дарозе і туды лягчэй могуць дапасці фашысты. К зіме да нас падсуседзіліся яшчэ некалькі бежанскіх сямей — і са Слабады, і з-пад Лагойска. Усяго — чалавек дваццаць. Старэйшыя спяць на ложках і тапчанах, а мы, дзеці, усе ўпокат на падлозе, шчасліўцы — на печы. Ні адна хата ў Айнаравічах ужо не пустуе — усе пазайманы сем'ямі, сагнанымі з родных гняздоўяў страхам смерці, людзьмі, што, спадзеючыся на паратунак, туляцца бліжэй да лесу і лясных салдат — партызан.

З тых, што жывуць разам з намі ў дзедавай хаціне, мне асабліва падабаецца наша слабодская суседка цётка Марыля Базыліха. Падабаецца за свой бадзёры, ніколі не паныла настрой і за сваю ўпэўненасць, што мы выжывем і дачакаемся нашых. Амаль кожны дзень яна ў гутарцы з мамай і іншымі жанкамі — калі тыя пачнуць цяжка ўздыхаць і божкаць — цвердзіць адно і тое ж: «Выжывем, бабы! Выжывем! Трасца яму, гэнаму Гітлеру, у бакі! Вось убачыце — вызваляць і нас скора!.. Сымон жа казаў, дзе ўжо фронт стаіць: за Магілёвам!..»

Сымон — гэта наш бацька, ён у партызанах; як камуніст назначаны палітруком другой роты атрада «Бальшавік», і мы, дзеці, ганарымся гэтым. Іншы раз ён заглядвае дадому, праведвае нас — сваю вялікую сям'іску, і кожны яго візіт для мяне радасная падзея. Па-першае, у яго бельгійская вінтоўка, і я прашу дазволу патрымаць яе, панасіць на плячы, палязгаць затворам. Па-другое, яго палітрукоўская скураная сумка набіта прэсай — партызанскімі і дастаўленымі з-за фронту газетамі, лістоўкамі, брашуркамі і іншымі выданнямі. І ўсё гэта я павінен паспець перачытаць, бо ўсё гэта мне страшна цікава!

Падтрымаць настрой у людзей, іх веру ў хуткую перамогу і вызваленне якраз і дапамагаюць партызанскія палітработнікі, агітатары і прапагандысты. За гэту зіму ўжо колькі разоў у Айнаравічах, у пустой хаце, што стала своеасаблівым клубам, выступіла партызанская камсамольска-маладзёжная агітбрыгада з канцэртнай праграмай. Людзей набівалася ў хату — як дзверы зачыніць. Напачатку невялікі даклад ці проста палымяная прамова. Затым вершы, песні, гумарэскі і сатырычныя антыфашысцкія сцэнкі. А нарэшце, танцы. Прапусціць такі канцэрт я не магу ні ў якім разе. Асабліва хвалююць мяне песні: і непасрэдна партызанскія, і даваенныя савецкія, і народныя — беларускія, рускія, украінскія... Я стараюся іх запамінаць, паўтараю ўслед, каб не забыцца, а што не змагу пасля ўспомніць — які радок ці слова,— прыдумваю, запаўняю прабелы сам. Тады і нарадзілася ў маёй галаве ідэя — запісаць усе гэтыя вельмі дарагія і любыя мне песні на паперу, зрабіць для сябе такі невялічкі спеўнічак. Вось толькі дзе гэтай самай паперы ўзяць? Ды і алоўак жа патрэбен... Выручыла бацькава сумка: сярод газет і лістовак у ёй аказаўся і чыс-

ты вучнёўскі сшытак. У партызан дэфіцыт на паперу быў тады неймаверны, і прасіць бацьку, каб ён аддаў мне цалкам увесь сшытак, я не адважыўся — гэта было б і страшэнным нахабствам з майго боку, і справай нерэальнай. І я папрасіў падзяліцца — вырваць для мяне з сярэдзіны сшытка тры здвоеныя аркушы. Гэтую маю просьбу бацька ўважыў, і ў той жа дзень я зрабіў сабе тоненькую запісную кніжачку — фарматам на адну чвэртку аркуша; атрымалася аж дваццаць чатыры старонachкі. Цяпер трэба будзе раздабыць хоць бы які агрызачак алоўка. Пакуль што яго няма. Можа, зноў дапаможа бацька?..

Тым часам у нейкі адліжны зімовы адпаўднёвік, з сонцам за вокнамі, у хаце зноў сабраліся ў гурт жанкі, і зноў цётка Марыля Базыліха ўсчала ну проста-такі камісарскую палітгутарку на тэму «пераджывём вайну!».

— Бабы! Успомніце некалі мае словы: гэта ліхалецце мы пераджывём! І мы, і дзеці нашы — дачакаемся асвабаджэння, вось убачыце! Я проста не магу паверыць, што нас пазабіваюць! І што ж гэта, мы ўжо і белага свету, і гэтага сонца на двары не ўбачым? Жыць жа хочацца, бабы!..

Пры гэтых яе словах усе — і я ў тым ліку — міжволі паглядзелі на залітыя сонцам шыбы. Я ўжо шмат разоў чуў гэты бунт цёткі Марылі супроць смерці, яе такія дарагія для ўсіх нас прароцтвы, што ад гібелі мы ўратуемся і вайну пераджывём, яе дзіўную, апантаную веру, што мы дачакаемся вызвалення. На гэты раз яе словы зрабілі на мяне асабліва моцнае ўражанне, і мне хацелася яе слухаць яшчэ і яшчэ, і разам з ёю верыць, што ўсё будзе іменна так. А яна, няйначай, адчула, што ў мяне на душы зараз робіцца.

— Ніл! — нечакана гукнула да мяне.— Вот ты ж ужо вялікі хлапец і кніжкі чытаць любіш. Вот скажы ты: пераджывём мы вайну ці не?

— Пераджывём! — бадзёра і ўпэўнена, у тон Базылісе, адказаў я.— Канешне, пераджывём!

— Вось бачыце! — павярнулася зноў Базыліха да жанок.— І хлапец тое самае кажа! А ў яго ж усё жыццё наперадзе!..

Ад гэтай спасылкі на мяне і ад сваёй упэўненасці я нават пачырванеў трохі. Як быццам мае слова для іх, дарослых, можа сапраўды нешта значыць!

Сядзеў я ў пакоі, дзе гутарылі жанкі, не без справы: падшываў цялячаю скурай свае новыя вераўчаныя лапці. Плесці з пяньковых аборак лапці навучыла мяне мама яшчэ на зазімку сорак першага — калі я ўпершыню ў сваім жыцці і абуў іх. У лапцях — на валёнкі, ці на «буркі», ці проста на анучку — хадзіў ужо трэцюю зіму. Забяспечваў сябе гэтым пяньковым абуткам сам. Ад хвалявання — пасля слоў Базыліхі — няўдала парнуў шыльцам і пракалоў палец. Імгненна ш ранкі выбегла кропля крыві, сарвалася з пальца, упала на бялёсы зніцу кавалак цялячай скуры і «напісала» на ім нейкую загагуліну-літару. Думка спрацавала імгненна: крывёю можна запісаць і тое, што ў гэты момант поўніла ўсю маю істоту. Не на скуры, вядома, а на паперы. Я выйшаў у пярэдні пакой, адшчапіў ад палена дроў пад прыпечкам тоненькі вузенькі аскепачак, зайшоў у каморку і зачыніўся, каб ніхто не перашкодзіў. Затым дастаў з кішэні сваю самаробную і яшчэ не пачатую, чыстую запісную кніжыцу і, макаючы тым драўляным «пяром» у чырвоную кроплю на пальцы, на першай старонцы вялікімі друкаванымі літарамі вывеў: «Пішу собсцвеннай крывёю, што перажыву вайну».

Іменна «собсцвеннай» — іншае слова мне тады на памяць не прыйшло.

Так была абноўлена кніжачка, прызначаная мной для песень. Неўзабаве паявяцца ў ёй і першыя запісы. Кончык алоўка пазычыць мне на нейкі час сын Марылі Базыліхі Геня. Але пра гэта я раскажу пазней, а зараз — аб тым, як мая сакраментальная — на ўласнай крыві — клятва была агалошана публічна.

У вёсцы тады быў сярод дзятвы і падлеткаў звычай — вечарамі збірацца ў чыёй-небудзь хаце для забаў і гульняў. Можна сказаць, ад няма чаго рабіць: урокі ж рыхтаваць не трэба, у школу не хадзілі. Гульні былі ўсялякія, найчасцей даўнія, народныя, якія прыгадваў для нас хто-небудзь са старых. Мы, хлапчукі, нярэдка «рэзаліся» і ў карты. Аднойчы ў разгар гульні сын гаспадара хаты Мішка, па мянушцы Кіндзё — на год ці два старэйшы за мяне хлапец, распуснік і забіяка страшэнны — закрычаў:

— Ціха! Паслухайце, што я вам прачытаю! Крывёй напісана!

Усе павярнуліся паглядамі да яго. Я таксама. І мне

адразу ж стала не па сабе: у руках Мішкі была мая запісная кніжачка.

— Слухайце: пішу собсцвеннай крывёю, што перажыву вайну!

— Аддай, Кіндзё! — крыкнуў я ў вялікім гневе і рынуўся з-за стала, за якім гуляў у «воза», да Мішкі.

Усе зразумелі, што кніжачка мая і прачытаныя Кіндзём словы належаць мне.

Відаць, гнеў мой быў такі страшны, што Мішка не кінуўся ўцякаць і не стаў барукацца са мной: маўляў, адбяры, калі можаш. Выскаляючыся, ён паслухмяна працягнуў мне кніжачку.

— На, калі твая. Я ж не ведаў, чыя гэта. Валялася во пад нагамі...

«Няўжо яна выпала з кішэні, калі мы рабілі тут кучу-малу? І трэба ж было мне ўзяць яе з сабою! А зрэшты, дзе дзяваць? Дзе пакласці дома, каб ніхто не ўбачыў? Толькі ж пры сабе і насіць!..»

— Праўда, крывёй напісаў? — перабіў мае прыкрыя думкі нехта з хлопцаў.

— А якая твая справа? Чым хацеў, тым і напісаў,— адказаў я ўсё яшчэ злосна.

— Тут няма чаго смяяцца,— падаў з палатак голас Мішкаў бацька, кульгавы шавец.— Ён добра напісаў, правільна. Вайну трэба нам перажыць, дзеці. Нам як нам, а вам, маладым, абавязкова. Так што смяяцца з гэтага нельга...

Развага сталага мужчыны настроіла ўсіх, часова, праўда, на сур'ёзны лад. Загаварылі пра вайну, пра блізкі фронт, пра тое, што ўсё больш паліцаяў перабягае ў лес, да партызан... Што ж да аўтара незвычайнага запісу ў кніжачцы, дык ён як бы нават адчуў, што маленькае здарэнне зрабіла на ўсіх хлапчукоў уражанне, як бы нават трохі падвысіла яго ў іх вачах. А можа, гэта яму ў тую хвіліну толькі здалося.

Так ці не, але сам ён асаблівага значэння гэтаму эпізоду не надаў і хутка на яго забыўся. Вясною недзе згубілася назаўсёды і кніжачка — разам з песнямі, што паспеў запісаць у яе, і з тымі незвычайнымі малітоўна-клятвеннымі словамі. Шкадаваць аб страчаным не было калі: пачыналася новая, апошняя ў нашым партызанскім краі фашысцкая блакада, вестка пра якую ўсіх нас ахапіла вялікай трывогай, даўшы знаць, што страшная крывавая жудасная вайна для нас яшчэ не скончана, што вайну яшчэ трэба перажыць...

# АДПАКУТАВАЛІ!..

А пошнія дні чэрвеня сорак чацвёртага. Толькі што вярнулася з Паліка, вытрываўшы нейкім цудам блакаду, тутэйшая партызанская брыгада «Бальшавік».

Разам з усімі вярнуўся і наш бацька. Як-то кажуць: адно скура ды косці. Такім худым і страшным ніколі мы яго не бачылі. Казаў: два тыдні трымаўся на двух прыгаршчах жыта, якія недзе паспеў усыпаць у сваю палітрукоўскую сумку. У дзень — па жмені сухіх зярнят. Ды балотная вада ў дадатак. Ды леташняя, перамерзлая на імшары, журавініна зрэдку.

Ужо каторы час мы жывём прадчуваннем небывалай радасці. Стала дакладна вядома, што нашы войскі пайшлі ў наступ, вызвалілі Віцебск і Магілёў і імкліва ідуць далей, на захад. Хутка, зусім хутка прыйдзе і да нас доўгачаканая свабода! Пра гэта — толькі і гаворка. І сярод дарослых, і, мабыць, не менш сярод нас — падлеткаў і дзяцей.

У вёску, у дзедаву хату, перабірацца мы яшчэ не рашаемся — ці мала што можа здарыцца, калі фронт дакоціцца сюды, што могуць натварыць, уцякаючы, разлютаваныя фашысты. Але з нашай блыхастай зямлянкай на Барку і з самім Баркам у дзічы, у балоцістай лясной глухамані, мы развіталіся — у спадзяванні, што назаўсёды. Перабраліся на ўскраек лесу, у густы малады сасняк, і жывём у шалашы. Дакладней — толькі начуем, бо самі — цэлы дзень у вёсцы, у Айнаравічах, сярод людзей,— каб не ўпусціць, не празяваць якую добрую, радасную навіну.

Першага ліпеня позняй раніцай у наш сасоннік прымчаў увесь упараны Алёшка Барэйка — мамін дваюрадны брат.

— Ужо занялі Плешчаніцы і ідуць на Корань! Партызан на кані ляцеў і крычаў, каб збіраліся сустракаць нашых! Праз гадзіны дзве будуць у Айнаравічах!..

Алёшка, задыхаючыся ад хвалявання, паўтарыў гэта некалькі разоў, выцер рукавом узмакрэлы лоб і зноў пабег у вёску. За ім следам пусціліся і мы — бадай усе жыхары шалашнага пасёлка, апрача зусім старых бабуль і яшчэ някемнай малечай.

Абапал вулачкі, што рассякала напалам вёску, сабралася безліч народу. Пераважна жанчыны і дзеці. Колькі чалавек партызан — нашых, з «Бальшавіка». Гамана — нязмоўчная. На вуснах адно і тое ж: «Няўжо такі праўда? Няўжо дачакаліся?..» З бліжэйшых хат павыносілі і паставілі каля дарогі сталы, засцяліўшы іх белымі абрусамі. На сталах — жбаны з кіслым і свежым малаком, кубкі, конаўкі, шклянкі. Каля сталоў, на табурэтках, вёдры са студзёнай крынічнай вадою.

— Кветкі!.. Дзяўчаты, паболей кветак! Ірвіце ў агародчыках кветкі!..— закамандаваў хтосьці з натоўпу.

Божа! Як доўга цягнуцца гадзіны!.. Мы прагледзелі ўсе вочы ў чаканні, калі ж на айнараўскай дарозе пакажуцца яны — **нашы**! Колькі разоў сёй-той з дарослых хлопцаў вылятаў галопам на кані ў бок Мураванкі, адкуль павінны ісці **нашы**, і гэтак жа галопам вяртаўся назад: яшчэ не відно.

І менавіта тады, калі пачуліся першыя сумненні: «А можа, няпраўда, што ўжо блізка»,— дарога з-пад Мураванкі запыліла. І было гэта ў гадзіны дзве апаўдні, у самую спёку. Дзень быў сухі і гарачы, лёгкі ветрык ні трохі не ахаладжаў паўдзённага скварy.

Прыскакаў нейкі партызанскі начальнік. Выгляд у яго быў такі, няйначай гэта асабіста ён забяспечыў усім нам вызваленне — прывёў сюды **нашых**.

— Падрыхтавацца да сустрэчы! — закамандаваў ён, прыпадняўшыся на сядле.— І каб быў поўны парадак!..

Нарэшце мы іх убачылі. Яны ішлі пяшком, калонай, паходным крокам, узбіваючы цяжкімі салдацкімі ботамі клубы шэрага дарожнага пылу. Маладзейшыя з натоўпу, асабліва дзяўчаты з кветкамі, кінуліся вулачкай ім насустрач. Калі ўжо яны былі ад нас метраў за паўтараста, над калонай узнялася песня — магутны і, як мне цяпер здаецца, досыць зладжаны мужчынскі хор. Песня, ніколі дагэтуль мною не чутая. Песня якойсьці незвычайнай страшнай сілы. Асабліва гэты прыпеў, які яны паўтаралі двойчы:

Пусть ярость благородная
Вскипает, как волна.
Идет война народная,
Священная война!

Я і дагэтуль упэўнены, што спазмы тады падступілі ў мяне да горла іменна ад гэтай песні, і слёзы ўзбеглі на вейкі і затуманілі цёплаю імглою вочы — ад гэтай песні. Я стаяў, знямелы, у гурце хлапчукоў-падлеткаў і глядзеў толькі на іх — на салдат-вызваліцеляў: стомленых, страшна запыленых, з потнымі, у струменьчыках-рагах, тварамі, з шэрымі скаткамі праз плячо, з аўтаматамі на грудзях, з цяжкімі падсумкамі і біклажкамі на поясе...

— Рота — стой! Не расходиться!

Яны спыніліся толькі на адну хвіліну.

— Родныя! Любыя! Дарагія!.. Дачакаліся мы вас нарэшце!

Жанчыны, амаль усе са слязамі, з плачом, кінуліся да салдат — з абдымкамі і пацалункамі, дзяўчаты і дзеці совалі ім у рукі букеты кветак, старэйшыя жанкі падносілі малако або ваду ў конаўках...

За першай калонай прайшла другая, за ёю — трэцяя, затым чацвёртая, і яшчэ, і яшчэ, і яшчэ. І кожная прыпынялася толькі на хвіліну. Прывал у Айнаравічах не планаваўся: воіны спяшаліся на захад, спяшаліся вызваліць ад фашысцкай нечысці ўсю нашу зямлю...

Праз нейкі час, як прайшлі калоны пехацінцаў, дарога запыліла зноў — ад машын. Ішлі цягачы з гарматамі, грузавікі з крытымі брызентам кузавамі, салдацкія кухні і іншыя. Машыны прыпыняліся таксама, і мы, хлапчукі, паспявалі агледзець нашу савецкую баявую тэхніку з усіх бакоў. Можа, таму, што іншай, больш грознай, мы ў сваім жыцці не бачылі, гэта здалася нам дастаткова магутнай, каб размалаціць Гітлера ўшчэнт.

Прыход нашых імгненна ўсвядоміўся ўсімі вяскоўцамі як факт беспаваротны, як канец трохгадовай жудаснай чорнай няволі і пачатак жыцця зноўку свабоднага, пачатак таго, што з гэткім нецярпеннем чакалася, аб чым так горача марылася... Нам, дзецям, хацелася тут жа вярнуцца — пабегчы, паляцець, як на крылах — дадому, у Слабаду, дзе ўжо амаль год, як пустуе наша родная хата, але бацька перасцярог: «Сёння яшчэ нельга, яшчэ кругом нямала недабіткаў-

немцаў, што адсталі ад сваіх, можна трапіць у бяду і ні за што прапасці. Хай адкоціцца трохі фронт, хай паспакайнее...»

Праз дзень стала вядома, што нашы занялі і Лагойск, пасля чаго заставацца ў бежанцах надалей ужо не было сэнсу, і мама сказала:

— Збірайцеся, дзеткі: пойдзем дадому, у сваю хату. Адпакутавалі як дося: пааціраліся па чужых кутках, папасклелі ў дзічы і балоце, папакармілі блох у зямлянках, пойдзем пачынаць жыццё нанова...

Дадому мы, з хатулямі за плячыма, з Недзяленяй на павадку, дабраліся апоўдні. Радасць радасцю, а карова галодная стаяць не можа, і як ні хацелася мне пабегчы да сяброў, з якімі так доўга не бачыўся, а давялося весці на пашу, за вёску, нашу карміцельку Недзяленю. Да захаду сонца — калі звычайна гоняць статак з поля — не выцерпеў, вярнуўся крыху раней. Падлога ў хаце ўжо зіхацела — было бачна, што яе старанна шаравалі дзеркачамі і мылі цёплай вадой. Маснічыны былі ўсыпаны зялёнымі стрэлкамі аеру, і ў хаце стаяў яго моцны водар, які забіваў цвілы, нежылы дух запусцеласці.

На другі дзень па нашым вяртанні вёску абляцела навіна: да Францусі Рулькевіч прыехала яе дачка Ліда, пра якую тры гады дома нічога не ведалі, гэтак жа, як нічога не ведала пра сваіх родных-блізкіх і яна. Прыехала Ліда ў вайсковай форме, у новым салдацкім абмундзіраванні. Аказалася, што яна з першых дзён вайны на фронце, у гаспадарчым узводзе; яе часць праходзіла зусім непадалёк ад нашых мясцін, і Ліду адпусцілі на кароценькую пабыўку дадому. Яна і была першая, хто прынёс у нашу Слабаду новыя, не знаёмыя раней, франтавыя песні.

Вечарам уся моладзь сабралася пасярэдзіне вёскі, дзе пад сцяною свіронка, ля вуліцы, высіўся стос бярвенняў — гатовая для выступленняў сцэна. Бярвенні былі заняты пераважна дзяўчатамі, сярод якіх у цэнтры сядзела, канечне ж, Францусіна Ліда; побач, па праву і не хаваючы гонару,— дзве яе малодшыя сястры — Ларыса і Фаіна. Дзіва што не хаваючы гонару! Родная сястра — вызваліцельніца! Прыйшла разам з нашымі — як сапраўдны воін! Дорага даў бы тады любы з нас, хлапчукоў, каб апынуцца на іхнім месцы. Ого, каб гэта была твая сястра, або брат, або бацька! Зрэшты, дзесь у глыбіні душы мы, аднавяскоўцы, га-

нарыліся ёю ўсе: яна была наша, слабодская. А галоўнае — яна была жывым сведчаннем таго, што вызваленне — не сон і не міраж, а рэальнасць. Для многіх жа, чые сыны або мужы пайшлі ў сорак першым і ад іх з нецярпеннем чакаліся дарагія вестачкі, яна была сімвалам вяртання надзеі. «От жа Ліда — жывая, вярнулася,— можа, і мой Коля (ці Міша, ці Косцік, ці Алёшка) жывы, можа, і ён скора аб'явіцца...» — колькі тады ў Слабадзе жанчын перадумалі гэтак! Пры сустрэчы яны абдымалі і цалавалі Ліду і, выціраючы слёзы, ціха пыталіся: «Можа, часам бачыла майго? Ці хоць чула што-небудзь?..»

Незвычайны, непаўторны гэта быў час — першыя дні па вызваленні! Незвычайны і жыццёвы лёс тых, каму было суджана іх дачакацца, адчуць іх высокае блаславенне, азарыць душу іх непагасна-вячыстым святлом!

Дык вось у той незабыўны вечар і пачулі мы ад Ліды надта прыгожыя франтавыя песні, сярод якіх асабліва спадабаліся ўсім «Темная ночь» і «Огонек». Спачатку Ліда праспявала іх двойчы ці тройчы сама, а потым — разам з дзяўчатамі, якія імгненна асвоілі мелодыю і запомнілі простыя, але такія шчырыя і глыбока-пранікнёныя «куплеты». Абапёршыся на канец бервяна, я стаяў увесь час збоку і як бы крыху за спіной у спевакоў і паўтараў у памяці кожны радок новых песень, зусім нячутна насвістваючы матыў. Так што к канцу імправізаваных вячорак запомніў іх добра і назаўтра аднавіў у памяці дакладна. Цудоўнымі здаліся мне тады гэтыя Лідзіны песні! Тады здаліся, а пазней я зразумеў і пераканаўся, што яны сапраўды цудоўныя, што гэта класічныя ўзоры савецкай песеннай лірыкі ваенных гадоў. Можа, таму, сярод мноства незабыўных эпізодаў з тых самых першых дзён свабоды, мне найвыразней бачыцца гэты? Здавалася б, нічога ж асабліва незвычайнага не здарылася: вывучыў дзве новыя песні, і толькі. Хіба гэта падзея? А выходзіць, падзея. А выходзіць, нешта здарылася. Здарылася тое, што высокае святло радасці вызвалення, святло свабоды спалучылася, зліпося тады ў душы маёй з высокім святлом сапраўднай паэзіі і музыкі, якія ўсё больш і больш будуць забіраць мяне з гэтага часу ў свой палон. Так, прынамсі, я думаю сёння, ведаючы, што наогул усё маё жыццё, дакладней, жыццё душы і сэрца, пачалося з песні.

# СПАТЫКНУЛАСЯ

Ліпень сорак чацвёртага.

Першыя тыдні па вызваленні.

Настрой — такога не было яшчэ ніколі і, можа, ніколі ўжо не будзе.

Радасць ні з чым не параўнаная, і ў табе яна проста не тоўпіцца. Уседзець на месцы немагчыма: ніякая сіла не стрымае. Хочацца бегаць, крычаць, куляцца, «хадзіць на галаве». Хочацца сваволіць. Нічога, што табе ўжо скора трынаццаць, што ты ўжо зусім не малое дзіця і цябе ўсё больш цягне ў грамаду дарослых, дзе гавораць пра рэчы і клопаты сур'ёзныя, сталыя.

Калі б да гэтага настрою, да гэтай радасці ды яшчэ было што есці! Хоць бы на палавіну губы. Але і на палавіну маглі дазволіць сабе толькі самыя запаслівыя, у каго сёе-тое ў засечку ці ў якой кадушцы засталося, прыхавалася. Вядома, людзі-суседзі дзяліліся між сабою і апошнімі крохамі, зусім агалелыя ішлі ад няма выйсця да «мацнейшых» у пазыку.

— Ці ў цябе, Міхалінка (або Марылька, або Ганначка) яшчэ трохі ёсць там у торбе, ці ўжо нічога? Выручай, калі можаш... Дні праз тры буду ўжо зажынаць свой ячмень — тут жа аддам табе...

Такія ці прыкладна такія размовы-просьбы можна было ў тыя дні пачуць часта. Людзі жылі надзеяй на першы зажын ячменю, на першыя ўкопкі бульбы. Іншыя не вытрымлівалі галоднага позірку акашчанелых дзяцей і рабілі ўкопкі дачасна — даставалі з баразны дробныя, як арэхі, бульбінкі.

Падлеткі і дзеці шукалі і знаходзілі свае спосабы спатолення голаду. Каб не так востра смактала пад лыжачкай — зрывалі ў садах (найчасцей у чужых, вядома) непаравыя зялёныя яблычкі — «гаркачыкі» — і грызлі, пакуль аскоміна не зводзіла пашчэнкі. Дарма гэта, як правіла, не абыходзілася: па-першае, нярэдка даставалася ў косці, а па-другое — пакараннем бывалі і пакуты ад расстрымання жывата.

У тое лета была ў нашай вёсцы і такая завядзёнка. Вечарамі гатавалі посную зацірку-«калантэху» або варылі бульбу, калі ў каго была, не ў печы, а на падворку на вогнішчы. Чыгунок або каструлька ставіліся на дзве цагліны, абкладаліся трэскамі, дробна пасечаным голлем, дрэўкаю — так атрымлівалася эканомія ў паліве, што было немалаважна, бо ў людзей, якія павярталіся з лясоў і балот, дроў назапашаных не было. Мабыць, па звычцы ляснога табарнага жыцця, калі на адным вогнішчы каля зямлянак гатавалі вячэру адразу некалькі сямей, і цяпер на вясёлы агонь у чужым двары прыходзіла суседка з поўным посудам у руках — дазвольце, маўляў, і мне прыткнуцца да вашага цяпельца, зварыць трохі заціркі дзецям...

У адзін з такіх вечароў — ужо запознена, на добрым змярканні — весела паблісквалі язычкі агню ў двары нашай суседкі Спасібеніхі. Апрача гаспадыненага чыгунка з бульбай на цаглінках стаяў і невялікі, літры на тры, чорны круглы, без вушак і без вечка кацялок, у якім раз-пораз памешвала доўгай драўлянай лыжкай Волечка Смалянка — худзенькае, кірпаносае, далікатнае з твару дзяўчо, мая равесніца. Маці яе ўдалося пазычыць паўгарца мукі, і яна паслала Волечку — большую з пяцярых дзяцей — зварыць у Спасібеніхі зацірку. У іхняй сям'і сёння была вялікая радасць — прыйшоў першы, складзены трохкутнічкам, ліст ад бацькі, мабілізаванага на фронт па вызваленні: «Жывы і здаровы, вот пішу вам, а на сталі, з правай рукі, мой баявы аўтамат, якім скора буду біць гадаў...» Таму і зацірка дома чакалася ў асаблівым настроі. Пра пісьмо ад Якуба ведала ўжо амаль уся вёска, і Волечка, стоячы на каленьках каля агню, у каторы раз расказвала цётцы Спасібенісе, што напісаў бацька.

Другое такое цяпельца дагарала ў двары, хаты за тры далей, і каля яго сабралася нямала дзятвы; за доўгі летні дзень набегаліся, намарыліся, дык цяпер сядзелі і расказвалі пра розныя страхі. Пачалі з тых, што яшчэ зусім нядаўна былі рэальнымі — з успамінаў пра «бежанскія» ночы ў лясной дзічы або на балоце, а затым перайшлі да страхаў адвечных — пра сустрэчы з мерцвякамі, зданямі, чэрцямі і рознай іншай нячыстай сілай. Вядома ж, былі сярод хлапчукоў і такія, што храбрыліся: «А я не баюся! Магу адзін сярод ночы і праз могілкі пайсці!..»

Ах, ты нічога не баішся? Ну, гэта мы зараз праверым, паглядзім, ці гэткі ты смелы, як хвалішся!.. Я ўспомніў, што ў нас за пуняй валяецца вялізны конскі чэрап, з доўгімі ашчэранымі зубамі. Хто і нашто яго туды прывалок, адкуль ён там узяўся, я не ведаў; але ўдзень бачыў, ёсць, ляжыць у траве пад плотам. Задума радзілася тут жа: трэба гэным чэрапам напалохаць храбрацоў каля вогнішча!

Я пакінуў унепрыкмет гаманлівы гурт, бегма кінуўся на наша гумно, знайшоў тое, што некалі было галавой каня, і ўстаркнуў на кавалак зламанай штакеціны; затым узяў у пуні зношаны, безліч разоў латаны колішні бацькаў кажух, вывернуў яго касмаццем наверх, накінуў на сябе, прадзеў рукі ў рукавы, пастрыжаную пад нулёўку галаву пакрыў пакуллем, прыгнуўся, прыгорбіўся і, несучы конскі чэрап перад сабою так, каб ён здаваўся мордай гэтага пачварнага страшыдла, высунуўся на вуліцу... От зараз падкрадуся да тых кустоў бэзу, што непадалёк ад вогнішча, схаваюся за імі, зараву нечалавечым голасам, а хто адыдзецца — храбры — ад агню, каб глянуць,— той пашкадуе, убачыўшы...

Па вуліцы, у той бок, куды і мне трэба, пайшло нейкае дзяўчо, са спіны ды ўпоцемку я не пазнаў адразу, да таго ж і пакулле на вочы з'ехала. «От зараз і праверу, ці страшна: калі яна спужаецца, тады і тых, каля агню, напалохаю...» Бягом я ў нейкую долю хвіліны дагнаў незнаёмку, якая, заўважыў у апошні момант, крочыла неяк ненатуральна памалу, асцярожна, і нягучна загырчаў па-звярынаму... Дзяўчо азірнулася і спалохана ўскрыкнула. Толькі цяпер я пазнаў Волечку. У гэта ж імгненне з яе далоняў выслізнуў чорны круглы кацялок, які яна несла, абгарнуўшы анучынай. На шчасце, варыва з кацялка плюхнулася ўбок, а не на яе босыя ногі. Волечка ўскрыкнула яшчэ раз, ужо ад жаху, што здарылася. Паляцеў вобзем, выпаўшы ў мяне з рук, і пракляты конскі чэрап.

Я аслупянеў і глядзеў на абернуты дагары дном кацялок, і на гарачую лужыну побач, як апошні дурань.

— Што ты нарабіў? — дрыготкім голасам прагаварыла Волечка.— Мама заб'е мяне...

Яна апусцілася на календкі і ціха, але горка-горка заплакала.

Я таксама прысеў побач на кукішкі і вінавата залепятаў:

— Я ж не хацеў, Волечка, я ж не хацеў... Я не наўмысна...

Дзесьці воддаль на вуліцы пачуліся жаночыя галасы.

— Уцякай адгэтуль хутчэй,— давячыся слязамі, сказала Волечка.— Уцякай, кажу табе...

«Відаць, яна пазнала голас маці,— падумаў я.— Ну, тады, сапраўды, трэба ратавацца.

Я схапіў у рукі агідны і ўжо ненавісны мне конскі чэрап і — колькі духу — пусціўся прэч, да свайго двара. На гумне скінуў з сябе кажух, занёс за агароды, да ручая, і шпурнуў у зараснік вербалозу чэрап. Адтуль на падворак вяртаўся са страхам у душы, прыслухоўваючыся: ці не чуваць крыку. Я быў упэўнены, што маці Волечкі, Анэта Смалянка, тут як тут заявіцца пад вокны нашай хаты і скажа ўсё, што ў такім выпадку палічыць патрэбным сказаць. Прычым будзе гаварыць так, пачаўшы яшчэ на вуліцы, на падыходзе, каб і суседкі пачулі. Роўна тры гады назад, у першыя дні фашысцкай акупацыі, ужо было адно прыкрае здарэнне — [illegible] яе прыходам на наш падворак; здарэнне, у якім я быў вінаваты і якое мне добра запомнілася. До-обра запомнілася!..

...Немцы прыйшлі, вясковая крама закрылася, а ў нас у хаце запасаў амаль ніякіх, як то кажуць: на два-тры дні. Сям'я старшыні сельсавета, жылі з бацькавай зарплаты, тым, што куплялі. Сам старшыня пайшоў на вайну, а нам — васьмярым пагодкам — хочацца есці. Кінулася маці туды-сюды, нешта трохі ў некага пазычыла — жменю мукі на «падкалотку», жменю круп... Але хіба гэтага досыць, каб уняць голад?

Голад і загнаў мяне ў садок Анэты Смалянкі: хтосьці сказаў, што ўжо амаль выспелі і вельмі смачныя Смалянчыны ранеткі. Я ведаў, тыя дзве маладыя яблыні — за хлявамі, пасярод гарода. На звыклай аперацыі па здабыванню зялёнага харчу мне не пашанцавала. Падскочыў, ухапіўся за галіну, каб прыгнуць сук з яблычкамі, і пачуў трэск: сук адвіхнуўся. Спалохаўшыся, я плітануў з чужога саду па загуменнях дадому. Крыку ўслед не было, значыць, ніхто не ўбачыў, і гэта мяне трохі заспакоіла. Тым не менш у хаце я сядзеў, з кнігай у руках, ціхенька, затаіўшыся,

і слухаў, як стракочыць маміна «Зінгер» — ручная швейная машынка. Мама выконвала заказы суседзяў — ці што-небудзь шыла новае з крамнага матэрыялу, ці што-небудзь перакройвала і перашывала. Калі ўжо было я амаль зусім супакоіўся і сапраўды ў нешта ўчытаўся, я пачуў, як на падворку штось зашалясцела; падняў галаву і ў адчыненым акне ўбачыў кунатыя галінкі яблыні з дробнымі зялёнымі «гаркачыкамі» на іх. І пачуў спакойны, але нядобры, з'едлівы голас:

— Вось табе, Кацярынка, яшчэ адзін вазон у хату, ты ж любіш вазоны...

Мама спыніла стракатанне, ступіла да акна, глянула — і ўсё зразумела.

— Што, гэта... мой адвіхнуў? — з выразным націскам на «мой» спытала яна.

— Твой, Кацярынка, твой. Марыля Базыліха бачыла на свае вочы, яна табе скажа, калі не верыш,— праскрыпела Смалянка і пайшла, пакінуўшы пад нашым акном вялізны «вазон» у яблычках.

Мама нават не спытала, каторы «мой»? Ведала, што старэйшы за мяне на два гады Леўка на такое не здольны. Гэта на мне скура гарыць, на мне!

Выскачыць з хаты, каб дзе-небудзь схавацца і перачакаць, пакуль у мамы аціхне злосць, мне не ўдалося. І адкуль той пастронак апынуўся ў яе руках, не помню. Але пісягі на спіне і ніжэй паясніцы насіў, мабыць, цэлы тыдзень...

...Вось і цяпер, ступаючы баязліва па двары, я прыслухоўваўся да цішыні і быў амаль упэўнены: зараз Анэта Смалянка з усёю гурмой сваіх галодных дзяцей прыйдзе на наш падворак і скажа маме: «Кармі, Кацярынка!.. Раз твой фуліган з'еў усю нашу зацірку адзін, дык кармі! Бо дзеці есці хочуць...» Я туляўся па падворку — ад пуні да хаты і назад, выглядваў на вуліцу, але ніхто к нам не ішоў. Звечарэлая вёска ўсё больш заціхала. «Відаць, позна ўжо сёння, дык на заўтра адклала... Раніцой прыйдзе... Прыйдзе! Быць не можа, каб не прыйшла!..» З такімі невясёлымі думкамі я падаўся ў пуню і палез на вышкі, дзе ўжо было трохі сена, спаць.

Але Смалянка не прыйшла і назаўтра — ні раніцой, не ў полудзень, ні па абедзе. Затое вечарам заходзіла да нас старая Базыліха і расказала маме нешта такое, што мяне страшэнна здзівіла і азадачыла. «Бы-

ла, кажа, я ўчора вечарам у Анэты, суседкі сваёй. Пачула, што Якуб пісьмо прыслаў, дык думаю сабе — схаджу, можа, што пра майго Геню напісаў, можа, дзе разам, думаю: забіралі ж разам... Не, нічога пра майго сыночка ён не піша, толькі пра Кутаса ды Малейку з Гайны, разам з імі ён, значыцца... Ужо сабралася ісці дамоў, ужо за клямку трымалася, як заходзіць яе старэйшая, Волечка, і так жаласна плача — не здыхаецца... «Чаго ты?» — пытае Анэта, а сама спужалася, бачыць, што нейкая бяда здарылася. А тая паказвае пусты кацялок, давіцца слязамі і кажа: «Спатыкнулася... і ўпусціла ненаўмысна...» А маці ёй: «Як гэта спатыкнулася? Дзе?» «Каля Церавых», кажа... «А божачка мілы! Як схапіла яна гэну Волечку за валасы, як пакоціць на падлогу ды як пачала дубасіць па чым папала чапельнікам!.. Лупіць і ўсё прымаўляе: «А гэта, каб не спатыкалася! А гэта, каб глядзела пад ногі! А гэта, каб помніла!..» Дык тая енчыцца: «Мамачка, родненькая, не бі, пашкадуй мяне!.. Мамачка, пашкадуй мяне!..» Кацярыначка, каб толькі ты чула! Я думала, сэрца маё там разарвецца. Добра, што я не паспела пайсці дамоў. Яна ж бы яе насмерць забіла, каб не я... Чуць адцягнула ад таго няшчаснага дзеўчаняці, чуць супакоіла... А пасля села Анэта, значыцца, села каля стала, на якім пустая міска з лыжкамі, і сама галосіць. І дзеці каля яе ў плач. Ну, і я следам за дзедам, таксама ў слёзы. Так і наплакаліся разам. А пасля я схадзіла дадому і прынесла кавалак праснака, быў якраз... Які там праснак, з аднае бульбы, і колькі там таго праснака было...»

Я даслухаў расказ Базыліхі да канца, і так мне стала шкада Волечкі, што я таксама ледзь не заплакаў. Уявіў як такую худзенькую, тоненькую — ды чапельнікам!.. І так было мне гадка на душы, і так сорамна ад таго, што гэта ўсё з-за мяне здарылася, з-за маёй дурноты. Хай бы лепш яна сказала ўсю праўду, хай бы прыйшла да нас яе маці, і хай бы дасталося ў косці мне — нават куды больш, чым ёй!..

Некалькі дзён Волечкі я не бачыў. Прызнацца, дык і баяўся ўбачыць. Ад сораму баяўся. Трэба ж нешта ёй сказаць, убачыўшы, а сказаць... адчуваў, што не хопіць смеласці... Вот каб што-небудзь для яе зрабіць — такое добрае... Можа, выбіць пярсцёнак з манеткі? Гэта ў мяне атрымлівалася няблага. Ды і манеткі ёсць: і срабрыстыя, і медныя... Яшчэ лепш бы-

ло б выразаць і старанна аздобіць узорамі грабеньчык з алюмінію — зімой, у Айнаравічах, я вырабляў іх таксама. Але дзе знайсці шматок алюмінію? Ад гэнага самалёту, што зваліўся яшчэ ў пачатку вайны на Падлужжы, даўно ўжо адзін жалезны касцяк застаўся...

Пакуль я гэтак думаў-гадаў, надарылася і сустрэча з ёю. Я ішоў па вуліцы і ўжо быў амаль насупроць іх хаты, калі яна выбегла з двара і села на лаўцы — была каля іх штыкетніку такая гладкая дабрэнная лаўка. Павярнуцца назад і ўхіліцца ад спаткання было ўжо позна, і я адчуў, што зараз прайду як нямко моўчкі, нават не паглядзеўшы на яе. Відаць, так бы і было, але мяне запыніў яе голас:

— Ой, як ты зазнаўся! Усё адно як незнаёмы праходзіш...

— Нічога я не зазнаўся! — буркнуў я адразу ў адказ. І запыніўся. І адчуваючы, як робіцца мне лягчэй, што яна сама зачапіла, першая загаварыла да мяне, дадаў: — Прыдумала, зазнаўся! Было мне ад чаго зазнавацца!..

Кажу гэтак, а сам стаю і не гляджу на яе. Пад ногі гляджу сабе. Падняў вочы, а яна ўсміхаецца. Ды так добра, даверліва...

— Мусіць жа, зазнаўся! — паўтарыла Волечка мякка, але як бы трохі дражнячыся.

— Можа, ты сама зазналася! — сказаў я абы-што, абы не маўчаць.

Няйначай як для таго, каб даказаць, што яна кажа няпраўду, я падышоў да лаўкі і сеў таксама, але — на самы краёк, як можна далей ад Волечкі. Нейкае паўхвіліны мы абое маўчалі. Ад няёмкасці я глядзеў долу і вялікім пальцам правай нагі выводзіў на ўтаптаным пяску колца. Нарэшце, павярнуўшыся к ёй тварам, выдавіў з сябе:

— Ты тады... не сказала дома, што гэта... я?

Волечка адно пачырванела і пакруціла галавой. А потым сама апусціла вочы і спытала:

— А ты мне... скажаш праўду?

— Пра што?

— Пра што? Ці праўда, што ты любіш Анюту?

Пытанне было такое нечаканае, што ў мяне аж рот разявіўся ад здзіўлення.

— Каго-о? — перапытаў я машынальна, хаця добра пачуў каго.

— Анюту. Макарову,— удакладніла Волечка, хаця сярод дзяўчатак-падлеткаў, маіх равесніц, Анюта была адна.

— Во прыдумала! Не бачыў я гэнай... Азялішкі!

Азялой, ці Азяліхай, звалі па-вулічнаму Анюціну маці — за тое, што яна замест «узяла» гаварыла «азяла».

— Але ж ходзіш да іх часта! — ішла далей у наступ Волечка.

— Дык я ж да іхняга Толі хаджу! Мы з ім сябруем! І сёння быў у яго пасля снядання. Ну і што?..

— Да Толі... Толькі так гаворыш, што да Толі...

Вось гэтага я ўжо стрываць не мог: страшэнна не любіў, калі мне не вераць; успыхваў, як порах.

— Знаеш! — рэзка падняўся я з лаўкі.— Любі сваю Азялішку сама! А за нагаворы — можаш палучыць у мызу!..

Гляджу, а яна зусім на гэту пагрозу не пакрыўдзілася; нават, мне здалося, што, наадварот, узрадавалася!..

Я павярнуўся і сярдзіта пайшоў прэч. Развітвацца, як і вітацца пры сустрэчы, у тыя часы сярод вясковых падлеткаў, прынамсі ў нас, яшчэ не было ў завядзёнцы.

Пазней, гадоў праз колькі, успамінаючы тое лета і тую прыгоду з заціркай, я зразумеў, і чаму яна не сказала маці пра конскі чэрап, і чаму яна ўзрадавалася, калі я абазваў Анюту азялішкай. А тады — зялёны, жаўтароты дурань — не зразумеў нічога. Не зразумеў, што хоць ёй таксама, як і мне, трынаццаць, але яна — дзяўчынка, і, значыць, у нечым абагнала мяне, у нечым надзвычай важным яна за мяне намнога старэйшая.

# ДВОЕ КАЛЯ ЦЯПЕЛЬЦА

У дзяцінстве ўва мне доўга жыло ўяўленне, што калі чалавек не наскі, не вясковы, не па-нашаму апранаецца і не па-нашаму гаворыць, дык ён і ва ўсім іншым не такі, як усе мы, вясковыя: напэўна, ён не так і есць, і спіць, і не дазваляе сабе нічога такога брыдкага, ніякіх там грубых слоў або ўчынкаў. Для мяне ён быў прадстаўніком нейкага іншага, далёкага, невядомага свету, дзе ўсё не так, як у нас,— усё іначай, лепш, прыгажэй, усё чыста, культурна, хораша... І хваляваў жа мяне той незнаёмы, незвычайны свет, і вабіў-цягнуў да сябе менавіта сваёй непадобнасцю, інакшасцю, няйначай у душы неўсвядомлена існавала надзея, што там і я стану іншы, зусім іншы — і разумнейшы, і прыгажэйшы, і дужэйшы, і больш кемлівы, і больш спрытны ў гульні, у працы...

Відаць, таму вельмі цягнула і да чалавека адтуль — здалёку, з нянаскага, незнаёмага свету, асабліва калі гэты чалавек твой ці амаль твой равеснік. Перад вайною, памятаю, у верасні трыццаць дзевятага, з прыгранічнага ваеннага гарадка, што быў у нашым Баранаўскім лесе, пачаў хадзіць у Слабодскую школу, у наш другі клас, незнаёмы хлопчык — сын якогасьці камандзіра. Па-нашаму ён гаварыць не ўмеў, гаварыў па-руску, ці, як мы тады казалі, па-гарадскому, і вопратка на ім была гарадская, і ўсе манеры трымацца — таксама былі не наскія, само сабой — быў у яго і гарадскі ранец для кніг і сшыткаў з фабрычнай скуры і на рамянях, а не то што ў мяне ці ў любога з нас — саматробная зрэбная, у лепшым выпадку, суконная торба... І як жа мне хацелася пасябраваць з ім, гэтым сынам чырвонаармейскага камандзіра. І мне, і кожнаму з маіх сяброў. Мы амаль наперабой прапаноўвалі яму свае паслугі, сваю гатоўнасць уважыць і нешта добрае яму зрабіць, стараліся звярнуць на сябе яго ўвагу, якая нярэдка давалася

цаной самапрыніжэння, і горш таго,— цаной страты (на нейкі час, вядома) сяброўства паміж сабою. Бо ішло ж фактычна суперніцтва: хто каго адцісне ад гэтага не падобнага на нас, вясковых абдзіртусаў, гараджаніна, хто хутчэй заваюе яго сімпатыі! Ну, а што ўжо дзяўчынкі з нашага класа, дык яшчэ больш за нас стараліся яму спадабацца — па-свойму, па-дзяўчачы: пэўнымі элементамі ўбору, культурай трымання, падкрэсленай ветлівасцю і маральнасцю (вокрыкамі — каб пачуў Ён — на каго-небудзь з нас: «Пеця, як табе не сорамна!», «Юзік, як табе не брыдка!»). І, канешне ж, нашы хлапчукоўскія аўтарытэты ў іх вачах тады былі ўпалі здорава. Праўда, цягнулася гэта нядоўга, тыдні тры, мабыць, бо ў тым жа верасні гарнізон гарадка зняўся і пайшоў вызваляць ад пілсудчыкаў Заходнюю Беларусь, да якое было рукой падаць: наш, Лагойскі раён, быў прыгранічны.

Вядома, у гэтым поцягу да чалавека іншага жыццёвага ўкладу і іншай культуры было не ўсё адназначна вартае пахвалы. Знакі ўвагі, гасціннасць — гэта, бясспрэчна, добра. Але было тут і нешта ненармальнае, нездаровае, а перад усім — вось тое самапрыніжэнне, аб чым я толькі што сказаў, тое жаданне дагадзіць, якое сведчыла аб неразвітасці пачуцця ўласнай годнасці, здольнасці трымацца як належыць гаспадарам: без фанабэрыі, без пагарды да «культурнага госця», але і без лакейскага ўгодніцтва. Запытаемся, аднак жа: а хто нас змалку вучыў, што трэба заўсёды помніць пра сваю чалавечую годнасць? У нашым баку з такой маральнай вучобай мне ў гады маленства сустракацца не даводзілася. Затое колькі разоў чуў іншае, накшталт: «Прыязджаў жа Дарафей з жонкай, у госці да маткі, а жонка такая культурная — і з гаворкі, і з выгляду, зразу бачна, што гарадская, не тое што наша вясковая задрыпа...»

Ах ці божа мой! А ці не беднасць-галеча наша адвечная не давала нам падняць галаву, каб не ўгінаючыся, не знізу ўгору, а на адным узроўні глядзець у вочы любому-кожнаму — і блізкаму госцю, і далёкаму, і гарадскому, і сталічнаму, і замежнаму, і заморскаму, і ўсяму вялікаму свету!

Ну, але ўсё гэта прыказка. Тое ж, пра што я хачу тут расказаць, можа, і пачалося з той акалічнасці, што яна — Нэля — была прыезджая і з культурнай, інтэлігентнай сям'і, але галоўнае ўсё-такі таілася, мабыць,

у іншым — у тым, што мне яна, з самай першай сустрэчы, здалася незвычайна прыгожай. Зроду не бачанай красуняй! Рослая, зграбная, высочанькі лоб, роўны прадаўгаваты носік, загадкавыя і сумнаватыя, цёмна-табачнага колеру вочы, ладныя каштанавыя косы на спіне, а сама — у бардовай з белым каўнерыкам сукенцы. Ах, гэты белы мярэжкавы каўнерык! Да чаго ж прыгожа ляжаў ён вакол яе тонкай шыйкі, разыходзячыся спераду двума ўзорчатымі паўкружжамі! Ні адна з нашых вясковых дзяўчынак такога каўнерыка не мела. Зрэшты, нічога дзіўнага: яна ж нетутэйшая, яна прыехала здалёку, з горада.

Крыху пазней я даведаўся, што да вайны яна жыла з маці ў Мінску (бацьку схапіў у трыццаць сёмым «хапун»), у чэрвені сорак першага была ў піянерскім лагеры, разам з якім, калі пачалася вайна, апынулася дзесь далёка ў эвакуацыі, а па вызваленні Беларусі вярнулася на радзіму. І вось пакуль у зруйнаваным горадзе маці шукае, дабіваецца кутка, яна прывезла на нейкі час дачку да сваёй цёткі Мар'і ў Слабаду, тым больш што ў цёткі збераглася кароўка і дзяўчынку можна крыху адпаіць сырадоем. На падворку ў Мар'і я ўбачыў першы раз Нэлю. Убачыў — і незвычайна ўсхваляваўся.

У Мар'і былі добрыя жорны,— стаялі ў вялікіх сенцах у кутку,— і мы з мамай прыйшлі апаўдні, каб змалоць гарнец раздабытага ячменю. Я часта дапамагаў маме ў гэтым ручным млыне, які вымагаў высілкаў хаця б дваіх, бо з аднаго цяжкі жарон духі выматае хутка. Мы прыйшлі ў той самы дзень, калі ў Мар'і паявілася госця, пра якую ні мама, ні я нічога не чулі. Але менавіта яна сядзела з кнігай на ўсходках ганка, калі мы ўзышлі на падворак.

— Ты чыя ж гэта будзеш? — спытала мама, пільна паглядзеўшы на незнаёмую дзяўчынку.

Тая паднялася і досыць бойка адказала:

— Я прыехала да бабулькі Мар'і ў госці. Я з Мінска.

— А-а, дык ты госця. А я думаю, чыя ж гэта дзеўка такая. А дзе ж сама бабуля?

— Панесла камусьці малако, нейчым дзецям, а мне сказала быць дома.

— Калі малако, то скора вернецца, гэта недалёка... А мы во трохі ячменю хочам змалоць у яе жор-

2 Зак. 1233

нах. Не знаеш, яны там не занятыя, бабуля сёння не малола?

Увесь гэты час, пакуль мама гаварыла, я не зводзіў з дзяўчынкі вачэй. «Ой, якая прыгожая! Якая чыстая, акуратная... гарадская! Зусім не такая, як нашы!..»

Дзяўчынка, відаць, не зразумела мамінага пытання, мабыць, зусім не знала, што такое жорны, бо паціснула плечукамі і адказала:

— Не ведаю.

І, было бачна, трохі здзівілася, што мы, без дазволу, праходзім міма яе ў сенцы, ведаючы, што гаспадыні няма дома. Нашы вясковыя звычаі і парадкі, напэўна, ёй былі не знаёмы: што мы і ў хату заходзім не стукаючыся, а толькі кашлянуўшы дзеля прыліку ці падаўшы голас яшчэ на падворку (іду да вас, маўляў, калі што-якое, то папярэджваю, каб пасля не казалі, што знянацку халера прынесла), і што да студні ў двары ходзім, як да сваёй, дамовіўшыся з гаспадаром аднойчы і назаўсёды (ці аж датуль, пакуль, не дай бог, не пасварымся), і пакарыстацца жорнамі — таксама, тым больш што яны звычайна стаяць нават не ў сенцах, а пад паветкай.

Незнаёмка рушыла з ганка ўслед за намі, дакладней, за мною, і я пачуўся досыць ніякавата, нават гарачыня да шчок падступіла ад думкі, што яна бачыць, якія на мне штанцы — латаныя-пералатаныя, асабліва — тылак (прычым латы, вядома ж, рознага колеру — дзе ты іх пад адну «масць» падбярэш!). І кашуля з латамі на локцях, і босыя ногі — брудныя (сплю не дома ў пасцелі, а ў пуні на сене, дык ці варта перад сном мыць? Хіба што расою на прыгуменні!). І нагогул — ну такі ж я «пройгрышны» ў параўнанні з ёю, такі ўжо жабракаваты абдзіртус, што, напэўна, здаюся ёй страшыдлам, пудзілам у гародзе.

Жорны аказаліся не занятымі, скрыня чысценька вымеценай, мама засыпала першую жменю сухога калючага ячменю ў вячай — круглую дзірку пасярод каменя — і мы звычна пачалі круціць. Дзяўчынка стаяла моўчкі побач і глядзела.

— Гэта так робіцца мука? — спытала яна, калі жорны на хвілінку запыніліся — мама сказала мне «пачакай» і ўзяла ў шчопаць каля ніжняга каменя мукі, каб паглядзець, як мелецца.

— А ты ніколі не малола ў жорнах?

— Не-а. Нават ні разу не бачыла.

— Вот цяпер пабачыш. Будзеш і сама памагаць бабе Мар'і.

— А круціць цяжка?

— Як удваіх, дык нічога. А аднаму — цяжка.

— А можна мне папробаваць?

Мама паглядзела на дзяўчынку са здзіўленнем — відаць, ад яе смеласці і непасрэднасці — і з ледзь прыкметнай усмешкай сказала мне:

— Ну, што ж, дай, сынок, хай яна замест цябе возьмецца, хай паспрабуе...

Я неахвотна адступіў трохі ўбок, да сцяны, дзяўчынка стала на маё месца, абхапіла белымі тонкімі пальчыкамі палку — там, дзе толькі што былі мае — у плямінах бруду, у шрамах і засохлых ранках,— і жорны зноў загудзелі.

Праз колькі часу мама ўбачыла, што дзяўчынка з непрывычкі стамілася, і гучна сказала:

— Ну, хопіць. Як для пробы, дык хопіць. Вось і будзеш ведаць, ці цяжка.

— Вельмі цяжка,— прастадушна пацвердзіла дзяўчынка.

— Нічога не цяжка! — буркнуў я напаўголаса і чуць-чуць падаўся ад сцяны, даючы ёй зразумець, каб яна ўступіла мне месца.— Мы, бывала, па паўпуда за раз малолі.

Паўпуда — гэта, вядома, быў перабор, ніколі па гэтулькі мы у жорны не насілі, і мне тут жа стала няёмка за хлусню перад мамай, але выпраўляць так горда заяўленае я не стаў: хай ведае гэта паненка-гараджанка, што і мы не лыкам шытыя, што і ў нас ёсць нешта вартаснае, чаго няма ў яе — напрыклад, ёсць сіла, каб за адзін раз перакруціць на жорнах паўпуда.

Я ўлучыў момант, калі мама адняла руку ад палкі, і сунуў сваю далонь на самы ніз — дзе заўсёды бралася яна: таму, хто трымаецца за палку над самым каменем — вядома, цяжэй, бо той бярэ на сябе больш грузу. Мама запярэчыла і хацела аднавіць свае права на самае цяжкое і самае непрыемнае (так яна рабіла ўсё жыццё — нават калі дзеці сталі дарослымі), але я не даўся і не ўступіў. І мама з маім захопам яе правоў змірылася. Мабыць, яна, добрая, мудрая мама, зразумела, як мне хочацца паказаць гэтай прыгожай культурнай гараджанцы, што сапраўды зусім не цяж-

ка, і калі трэба, дык мы змелем за раз не толькі паўпуда, але і пуд і тры пуды!

Я кручіў цяжэзны шэры, акаваны жалезным абручом, жарон так заўзята, з такой сілай, як ніколі раней ды, мабыць, і ніколі пасля.

— Што ты так завіхаешся, сынок! Ты ж усе кішкі надарвеш сабе! — старалася прыгасіць мой запал мама.

— Не надарву! — буркнуў я, не падымаючы вачэй, але адчуваючы ўсёй істотай, што побач стаіць і глядзіць, як з-пад каменя цячэ белымі цурочкамі мука. Яна — незвычайная, зусім не падобная на нашых вясковых замухрышак, дзяўчынка-прыгажуня.

— А як цябе зваць? — спытала на развітанне мама.

— Нэля,— адказала дзяўчынка.

— Нэля! — выказала захапленне мама.— Ой, як прыгожа! У нас дык я і не чула, каб так называлі каго. Усё ці Манька, ці Волька, ці Верка... Ну, добра, скажы бабе Мар'і, што прыходзіла Кацярына ячменю змалоць у жорнах...

Нэля засталася на ганку і праводзіла нас паглядам, аж пакуль мы выйшлі за веснічкі, на вуліцу. І зноў мне было так прыкра думаць, што яна бачыць мае толькі для пудзіла прыгодныя порткі!..

Пудзіла пудзілам, а вобраз Мар'інай госці, гарадской прыгажуні Нэлі, адабраў у мяне спакой не жартам. Я ўспамінаў яе на дзень па сто разоў, лішні раз прабягаў без дай прычыны міма Мар'інай хаты,— а раптам будзе стаяць на падворку. І ўсё думаў: як бы бліжэй пазнаёміцца, разгаварыцца і пасябраваць! Вядома, гаварыць мне з ёю будзе нялёгка, яна, відаць, перачытала вельмі шмат кніг, многа ведае, а што я? Можа, яна і зусім гаварыць са мной не захоча? Але ж і я чытаў што-колечы! А галоўнае, я магу расказаць ёй пра тое, як тут было ў нас пад немцамі, як мы ўцякалі і ратаваліся, як дапамагалі партызанам. Яна ж нічога гэтага не ведае!..

Дні праз два, таксама апаўдні, мама зноў папрасіла мяне дапамагчы ёй змалоць у жорнах. Ад радасці я ледзь не падскочыў: значыць, зараз зноў пабачу Нэлю! І ўжо на гэты раз, калі мама з мукою пойдзе дадому, я знайду спосаб зачапіць якім-небудзь пытаннем Нэлю і прызастацца. Спытаю, напрыклад, пра тую кніжку, якую яна трымала тады ў руках. Або: ці чы-

тала яна кнігу «Палескія рабінзоны», якую мне даў сябрук Лёнік Кулакоўскі на адзін дзень, але нічога страшнага, калі я вярну і днём пазней — пасля таго, як прачытае яна.

Я выйшаў следам за мамай за весніцы і — што такое? Радасць мая раптам перакрэслілася чорнай здагадкай: мама павярнула не ў той канец вёскі, дзе жыла Мар'я, а ў процілеглы.

— Мама! — ледзь не роспачна вырваўся з маіх грудзей голас.— А куды ты?

Мама павярнулася на мой голас і спакойна растлумачыла:

— Пойдзем да Ганны Шахоравай, сынок, у Мар'і надоўга заняла Ладэйшыха, я зараз спаткала хвіліну таму на вуліцы...

Ах ты, якая няўдача! Як нечакана ўспыхнула радасная надзея, так нечакана і пагасла.

Нічога не зробіш, пайду круціць тыя нямілыя мне жорны да Ганны. Як адразу адпала ўся ахвота! Каб гэта знаццё, я ж бы сказаў маме, хай сёння Леўка дапаможа.

Вечарам на сенавале я ізноў доўга думаў пра Нэлю. Чаго толькі не лезла ў маю растрывожаную галаву! А больш за ўсё — розныя незвычайныя здарэнні і прыгоды, у якіх я, праяўляючы спрыт і адвагу, прыходзіў Нэлі на дапамогу, выручаў яе з бяды. Асабліва ярка ўяўляўся і хваляваў мяне эпізод з паліцаем (колькі дзён назад тата расказваў, што ў Заходняй Беларусі ў лясах яшчэ поўна недабітых «бобікаў»), які то ў Баранаўскім лесе, то на Краснай горцы наводзіць на Нэлю карабін, а я ў гэта імгненне або выбіваю карабін у яго з рук, або сам ва ўпор страляю ў яго з бацькавага нагана (ён ляжыць схаваны ў шафе, у прыскрынку, закручаны ў нейкае белае рыззё, але я не быў бы я, каб не апароў яго там; нават адзін раз схадзіў з ім запазухай у лес і там, у глыбокім Гурным рове, выстраліў у воўчую нару).

Назаўтра па абедзе, трохі счакаўшы, каб спала самая спёка, я павёў пасвіць Недзяленю — гэты клопат усё яшчэ заставаўся маім. Кароў у вёсцы было мала, і мы, хлопцы-пастушкі, звычайна збіраліся ўсе ў адну грамаду, каб весялей было. Але сёння «ад паўдня» (кароў пасвілі «да паўдня» і «ад паўдня», з перапынкам на даенне) мне ў грамаду да ўсіх чамусьці не захацелася. Можа, ад таго, што не выходзілі з галавы ра-

мантычныя летуценні і думкі пра Нэлю, захацелася пабыць аднаму, сам-насам з сабою. Я вывеў Недзяленю за аселіцу, да рэчкі, якая ў гэту пару, у сярэдзіне лета, на мелкім перасыхала, заматаў павадок каровы за рогі — хай тут ля прырэчных кустоў пасецца! — выцягнуў з кішэні прывязаны — каб не згубіўся! — сцізорык і пачаў рабіць з вербалозу свісцёлку. Зрабіў, сунуў канец у губы, каб засвістаць, падняў галаву і — ад здзіўлення выпусціў свісцёлку з рук: разам з Мар'яй да мяне набліжалася Нэля, ведучы за повад рахманую Мар'іну Рабоню. Блізілася і — ці то мне здалося? — прыязна ўсміхалася мне вачыма.

— Хлапец,— лагодна загаварыла, яшчэ не спыніўшыся, Мар'я,— вось табе да па́ры, каб сумна не было, пастушка. Пасіце разам, і ты памагай ёй, бо яна гарадская і яшчэ не ўсё па-нашаму ўмее... А ты, Нэлечка, калі што якое — пытайся ў яго, не саромся...

Ад шчаслівай неспадзяванкі я ківаў галавой і разгублена паўтараў больш чым трэба: «Добра, цётка Мар'я, не бойцеся, я памагу ёй», «Добра, не бойцеся, я памагу...»

Мар'я крыху пастаяла, сказала Нэлі яшчэ колькі павучальных слоў і пайшла дадому. А мы засталіся ўдваіх. Яна і я. Ды Недзяленя з Рабоняй.

Вось табе, хлопча, тое, пра што ты ўсе гэтыя дні марыў! Пытайся, гавары, знаёмся!

Лёгка сказаць: пытайся! А пра што і як пытацца, калі язык прырос да нёба. Я падняў з травы свісцёлку і нягучна засвістаў. Нэля трымала ў руцэ павадок і не адыходзілася ад Рабоні, з цікаўнасцюназіраючы, як тая забірае языком высокую каля кустоў траву.

Ага, для пачатку справа знайшлася! Што ж, яна так і будзе ўвесь час трымаць карову на павадку? Навошта? І я, на здзіўленне самому, проста і смела сказаў:

— Давай я заматаю павадок на рогі. Хай сама пасецца!

— А яна не ўцячэ?

— Чаго ёй уцякаць? Тут жа трава добрая. А палезе ў шкоду, дык адгонім.

Я спрытна заматаў вераўчаны повад на прыгожыя вілаватыя, з шызым адлівам і ў зарубках, рогі Рабоні.

— А свісцёлкі ты сам робіш?

— Гэткая работа — свісцёлка! — грэбліва пакрывіў я губы.— Іх нават малыя дзеці выразаюць.

— А мне ты можаш зрабіць? На ўспамін.

— На ўспамін? — перапытаў я, здзіўлены, што такая дробязь, як свісцёлка, можа гадзіцца для такой высокай мэты.

— А што? У Мінску пасвішчу і ўспомню.

Зусім не было падобна, што яна насміхаецца. Надта шчыра гаворыць!

Ад гэтых апошніх яе слоў яшчэ мацней затахкала ў мяне сэрца. «У Мінску хоча граць на маёй свісцёлцы? Каб успомніць? Каго ўспомніць?..»

— Дык гэта трэба, каб не рассохлася,— тонам вопытнага майстра па свісцёлках адказаў я на дзіўную просьбу дзяўчынкі.— А то свістаць не будзе.

— Усё адно зрабі, хоць сабе і рассохнецца. Зрабі, калі ласка. Я хачу, каб у мяне была на ўспамін свісцёлачка.

Я тут жа палез у вербалозавы куст над рачулкай выразаць пруток на свісцёлку. Я быў проста шчаслівы ад аказанага мне гонару, ад такога даступнага, лёгкага задання, для выканання якога не трэба ні смеласці, ні адвагі, ні гераічнага ўчынку. Не паспеў, аднак, я нават выбраць лепшую, на мой густ, галінку, як пачуў голас Нэлі:

— Рыбка! Рыбка тут у вадзе! Ідзі скарэй сюды, тут рыбка!

Умомант вока я апынуўся побач з дзяўчынкай. Нэля стаяла над бухтачкай-ямінай, у якой вада не высахла, хаця было яе там і не многа — не вышэй да калена на самым глыбокім.

— Я тут бачыла рыбку! — узбуджана гаварыла, паказваючы на ваду, Нэля.— Вунь у тую траву шмыганула, к таму берагу!

— Шчупачок? — спытаў я, хаця і без адказу быў упэўнены, што гэта менавіта ён.

— Не ведаю. Во такая во! — паказала двума ўказальнымі пальчыкамі Нэля, якая тая рыбка на велічкі.— Такая вострая, цёмна-бурая...

— Шчупачок! — упэўнена вызначыў я.— Гэта іх вясной, калі паводка, наганяе сюды... І мы іх ловім у такіхямінах проста рукамі.

— Рукамі?

— Ага. Пазакасваем штаны, залезем у ваду і нагамі наробім такога густога муту, што яны задыхаюцца і вытыркаюць насы — тут мы іх і хапаем... Дзіўна, як ацалеў гэты! Мы ж прайшлі нядаўна з хлопцамі па

ўсіх ямінах і, здавалася, усіх вылавілі. А выходзіць, што не ўсіх.

— А пасля што, як зловіце? Вы іх ясцё?

— Ну а як! Хто дамоў нясе і там на патэльні смажыць. А мы дык колькі разоў тут, у полі, на агні пяклі, на гарачым вуголлі.

— І смачна?

— Ну а чаму ж! Канешне, смачна!

І тут мне прыйшла думка: трэба злавіць гэтага шчупачка, затым раскласці цяпельца і спекчы яго — жай яна пакаштуе! Яна ж ніколі не ела спечанага ў полі шчупачка!.. Ідэя здалася мне настолькі значнай і цікавай, што я, забыўшыся на свісцёлку, рашыў тут жа яе ажыццявіць.

— Ты глядзі і за маёй Недзяленяй, каб не пайшла ў той авёс, за рачулку, а я зараз злаўлю яго.

Аддаўшы ёй гэта распараджэнне, я закасаў вышэй каленяў свае «знятыя ▪ пудзіла» штанцы, узяў у рукі доўгую рагазлівую палку і залез у яміну. Варочаючы нагамі і палкай гразь на дне, я праз дзве-тры хвіліны ператварыў толькі што празрыстую чыстую ваду ў чорны густы жужаль. І — калі ласка! Яшчэ праз колькі хвілін — вось яно! — з каламуты вытыркнулася знаёмае вострае рылца. Я спрытна схапіў-сціснуў шчупачка ў дзве жмені — так, што ён і не паспрабаваў выслізнуць, і ў гэты ж момант непадалёк убачыў другое рылца. Ха! Дык ён тут не адзін, тут іх два, аказваецца! Шпурнуўшы здабычу на бераг, на траву, я тут жа ўпаляваў і другога. Па звычцы ляснога чалавека, які, знайшоўшы побач два баравічкі, шукае трэцяга — я пачаў пільна абводзіць позіркам паверхню чорнай каламуты. А чым чорт не жартуе, як то кажуць! І сапраўды, каля самага берага ўбачыў — думаў спачатку, што сучок — яшчэ адзін выстаўлены на пагібель носік. Вось дык удача! Разлічваў на аднаго, а злавіў тры! Маленькія, праўда, кожны — на даўжыню мужчынскай далоні, але ж затое тры! Будзе зусім не мізэрны пачастунак!..

Запалкі ў мяне былі з сабою — вопытны пастух без іх у поле не выходзіць, сухога хворасту ў кустах знайшлося, таму неўзабаве над рачулкай, над тою шчаслівай бухтачкай, задыміла і заблiскала язычкамі полымя цяпельца. Бачыўшы не раз, як гэта рабіла дома мама, я распатрашыў сцізорыкам шчупачкоў, саскроб луску, у суседняй — чыстай — яміне старан-

на вымыў і ўзнізаў тры маленькія тушкі на абкораны белы дубец. Затым утыркнуў па краях вогнішча дзве рагулькі, адсунуў крыху агонь і падвесіў шчупакоў над гарачым жарам — хай пякуцца.

— Рабоня мая, здаецца, у авёс залезла. Пабягу прыганю сюды,— сказала Нэля. Яна ўвесь гэты час пільна сачыла за маімі кухарскімі прыгатаваннямі, разы два ці тры пахваліўшы за ўменне рабіць не мужчынскую, на яе думку, работу.

— Сядзі, я адганю, чаго табе бегаць,— я сказаў гэта зусім як гаспадар становішча, і Нэля не запярэчыла, прыняла маю паслугу з прыемнасцю.

— Толькі ты яе не бі, чуеш? Не бі! — крыкнула мне наўздагон дзяўчынка.

— А я і сваю не б'ю ніколі. Можна і так адагнаць, словам,— адказаў я Нэлі, ужо вярнуўшыся.

Нейкі час пасля гэтага мы сядзелі моўчкі. Я пакручваў ражэнчык са шчупачкамі, каб яны прапякліся раўнамерна, і ў думках дзяліў між намі гэты незвычайны падвячорак: «Сабе — аднаго, а двух — ёй. Можа, і ўсіх трох ёй? Калі возьме, дык я б з радасцю... Калі спадабаецца... Хіба не спадабаецца? Не, павінна спадабацца!..»

Зрэд-часу я кідаў неўпрыкмет позірк на прыгажуню Нэлю, якая адмахвалася рукою ад дыму, прытворна злавалася на яго, фукала, моршчыла носік, выцірала кулачкамі вочы і ад усяго гэтага здавалася мне яшчэ прыгажэйшай. Я быў на сёмым небе ад шчасця! Як добра жыць, калі ўсё выходзіць так, як ты хочаш, калі здзяйсняюцца твае самыя лепшыя, самыя светлыя мары!

Раптам за спіной я пачуў як бы нейкую гаворку і крокі. Азірнуўся і ўбачыў Мікіту Жагора. З прыспушчанымі на вочы павекамі, даўно не голены і таму зарослы чорнай шчэццю, у няўпраўленай пад пояс зрэбнай кашулі, у зношаных, латаных на каленях цёмна-сініх галіфэ, босы, ён набліжаўся да нас і штосьці злосна гаварыў сам сабе ўголас. Мікіта, я пазнаў адразу, быў п'яны. Мяне ахапіла трывога, нават, я сказаў бы, прадчуванне бяды. Гэтага чалавека я з самага ранняга свайго дзяцінства чамусьці баяўся. Баяўся і не любіў. Мабыць, яшчэ з таго здарэння каля калгаснай стайні. Было гэта яшчэ, калі я не хадзіў у школу. Не ведаю, з чаго там усё пачалося, але добра помню: разлютаваны Мікіта трымае за вобраць гнеда-

га, з хворымі вачыма каня і азвярэла дубасіць яго тоўстай палкай па рэбрах, па шыі, па галаве — па чым папала. Жанчыны кінуліся да яго з крыкам: «Ці не ашалеў ты, Мікіта! Што ты робіш! Ты ж заб'еш жывёліну!» — «Гэ-гэ! — асклабіўся на іх Жагор.— Заб'ю адну клячу — будзе другая! Конская матка не здохла!..» Гэтую яго страшную прымаўку я чуў неаднойчы і пасля. Бывала, стоячы ў перадку калёс, ён так пагаяе каня, так лупіць яго пугаўём па крыжы, што той ляціць наўскапыта і як ▪ аглабель не выскачыць. А ён усё дадае пугаўя і галяпуе: «Гэй-гэй, растуды тваю туды! Давай-давай! Конская матка не здохла!..» Мікіту так за вочы і назывaлі: Конская матка не здохла. Звычайна вясковая мянушка давалася з аднаго слова ці, самае большае, з двух, а тут — цэлы сказ прыгадзіўся.

Жагор спыніўся перад вогнішчам, крыху наўзбоч ад мяне і якраз насупроць Нэлі. Я глядзеў на шчупачкоў, але, скасіўшы вока, бачыў яго брудныя босыя ногі, вялікія, крывыя, з жоўтымі пазногцямі пальцы.

— Што вы тут паліце, га? Што вы тут паліце? — п'яна заварочаў языком Мікіта.

Я прамаўчаў. Нічога не адказала і Нэля. Я адчуў, што яна глядзіць на мяне, відаць, пытае позіркам, што рабіць? — але падняць вочы ў адказ баяўся. Я сядзеў зусім нерухома і ліхаманкава думаў толькі аб адным: «Ну, чаму ты не ідзеш прэч?! Што табе тут трэба?! Што табе тут трэба?! І чаму цябе не забралі ў войска? Гаварылі ж, што вось-вось забяруць у працармію. А вось жа не забралі!.. Чаго ты тут стаіш? Што табе тут трэба?.. Ідзі адгэтуль прэч, Конская матка не здохла!..»

Але ён не ішоў, ён стаяў нада мной, паўкрока збоку, і я пачуў, як ён зашамацеў адзеннем. Я паглядзеў на шчупачкоў, якія, было бачна, ужо спякліся, гатовы, і рашыўся: зараз жа забіраю гэтую смакату і сам іду прэч, сказаўшы Нэлі, каб і яна ішла за мною. Але не паспеў: у гэты самы момант у хліпкае полымца вогнішча, у яго гарачае вуголле раптам ударыў жоўты струмень, зашыпелі галавешкі, імгненна пацягнула паскудным смярдзючым дымам. Гэта было настолькі дзіка, што мяне на долю секунды паралізавала — я аслупянеў. Першай, спалохана ўскрыкнуўшы, падхапілася Нэля і пусцілася, колькі сілы, бягом да сваёй Рабоні. Затым апомніўся і я, падхапіўся таксама, але

не пабег, а памалу, моўчкі, пайшоў прэч. Ад крыўды перацінала дыханне. Хацелася плакаць. «Паскуда! — душыў мяне ў грудзях крык.— Паскуда! Ну, пачакай, паскуда! Я табе да смерці не дарую гэтага!..»

— Гэх-хэх-хэ-хэ! — гучна, на ўсю аселіцу, рагатаў у звярынай радасці Жагор.— Г-гэх-хэх-хэ-хэ!..

На шчасце, Недзяленя была далекавата ад Рабоні, і мне было льга падацца ў іншы бок, каб не спаткацца вочы ў вочы з Нэляй і не памерці ад сораму. Такое ўбачыць і перажыць пры ёй, разам з ёю! З ёю!.. Не, глянуць пасля таго, што здарылася, ёй у вочы я не мог. На душы было так, як быццам гэта я ва ўсім вінаваты, я не засцярог яе — прыгожую, далікатную, слаўную — ад такой гнюснасці, ад такой страшнай абразы...

Праз некалькі дзён Нэля паехала ў горад, да маці. Назаўсёды. І добра, што паехала. Усё адно працягу таго светлага летуценнага пачатку быць ужо не магло. У яго ўварвалася і ўсё разбурыла паскудства.

# ДАМАШНЯЕ САЧЫНЕННЕ

Восенню сорак пятага, пасля больш чым трохгадовага перапынку, мяне зноў пацягнула складаць вершы. І на гэты раз ужо нешта зусім іншае і на іншых, асабовых, пачатках, чым было тады — у студзені і лютым сорак другога.

Тады мае «сатыры» на суседзяў і сяброў-равеснікаў самім мною зусім не ўсведамляліся як вершы, як літаратурныя творы. Думаю, што гэта было на ўзроўні звычайнай дзіцячай забавы — спантанна ўзніклая форма дзіцячай гульні, пацехі. Дражніць, перакрыўляць, абзываць — у тым ліку «складнымі», рыфмаванымі двух- ці чатырохрадкоўямі — у нас, у вясковых дзяцей, было ў модзе. Дражніліся на вуліцы, калі ўзнікала сварка, у полі, кароў пасучы, у школе на перапынках... Дык чаму тую дражнілку на кагось нельга зрабіць большай, даўжэйшай, каб пасмяяцца з якойнебудзь заганы, высмеяць які-небудзь недарэчны ўчынак ці здарэнне? Так, мабыць, з патрэбы ў гульні-забаве і нарадзіліся, прынамсі некаторыя, мае сатырычныя «вершы» ў тую суровую, вельмі снежную першую зіму вайны.

Гаспадынька Ліксандрынка,
Як зварыла раз булён
Дый паставіла на ўслоне,
Каб хутчэй прастынуў ён.

Далей расказвалася аб тым, як гаршчок з булёнам абярнуў сабака,— здарэнне гэта сапраўды мела месца ў нашых суседзяў і, натуральна, было ўспрынята ў нашай хаце, у тым ліку і мной, гумарыстычна, з вясёлым смехам.

У другой «сатыры» даставалася суседзям з другога боку. Помню з яе таксама толькі адну страфу:

Манька зіркае ў запечак:
— Ты чаго равеш, бабыль?
А Якуб на ганак выйшаў,
Кліча кур ён: «Пыль-пыль-пыль!..»

Вечарам, седзячы на пяколку, помніцца, пры лучыне (з першай жа ваеннай восені перайшлі на лучыну — газы не стала), я прачытаў свае «сатыры» ўголас і заслужыў ад бацькі пахвалу, асабліва за тую — пра абернуты сабакам булён. Чытаў іх аднойчы і «на сяле», у хаце Жызнеўскіх, з сынам якіх, Ванем, сябраваў. Ванеў бацька, Рыгор Жызнеўскі, быў чалавек трохі граматны і нямала здзівіўся, пераканаўшыся, што «сцішкі» склаў я сам. Ён нават прымусіў прачытаць іх яшчэ раз для суседа Змітрака Драгуна, які зайшоў якраз разжыцца хоць на адну цыгарку курывам — крышаным дуддзем самасаду.

— Ты паслухай, Змітрок, якія сцішкі гэты Сымонаў хлапец складае.— І падміргнуў мне: — Давай расскажы гэнага — як дурны жаніўся!

Дзе то бачана было,
Каб разумны біўся?
Дзе то бачана было,
Каб дурны жаніўся?..

І далей цэлая гісторыя — выдуманая, вядома,— пра жаніцьбу нейкага неразумнага дурня...

Пасля таго «паэтычнага ўсплёску» цэлыя тры і палавінай гады вершатворны «сверб» ува мне, здаецца, не прачынаўся. Хаця чытаць паэзію любіў і тыя вершы, якія мне асабліва падабаліся, вывучаў на памяць. Так восенню сорак трэцяга з партызанскай газеткі (ці то з лістоўкі?) засвоіў верш Якуба Коласа «Голас ветру». Помню, памагаю маме малоць у жорнах і пад манатоннае гудзенне каменя паўтараю ў галаве:

А навіны невясёлы:
Паліць вораг нашы сёлы,
Топча нівы, сенажаці,
Няма літасці дзіцяці,
Ні малому, ні старому,
Забірае скарбы з дому,
Ненаежны, жорсткі, люты,
Чыніць здзекі і пакуты...

Думаю, што тыя вершы з партызанскага друку — а чытаў я іх і завучваў на памяць многа — у нейкай меры былі тады для мяне літаратурна-паэтычнай школай.

Але сам я аж да восені сорак пятага вершаў не складаў. І вось зноў ачнулася, абудзілася ўва мне гэтая неспатольная і неадольная корць. І ўжо зусім не ў форме дзіцячай гульні-забавы, не на пацеху дома або сябрам. Наколькі сам я лічыў цяпер гэты свой за-

нятак справай сур'ёзнай, сведчыць той факт, што першы ж верш паслаў у газету «Звязда» з просьбай надрукаваць. Верш называўся «Сустрэча» — пра вяртанне дамоў франтавіка-салдата; тэма гэта была тады вельмі папулярнай: пра воінаў-пераможцаў і празаічных і паэтычных твораў друкавалася безліч. У тым ліку і на старонках «Звязды», якую мы выпісвалі,— што, напэўна, абумовіла і мой выбар органа друку. Наіўнасць мая была настолькі вялікая, што я ўсур'ёз чакаў апублікавання і кожны нумар газеты браў у рукі з заміраннем сэрца. Праўда, чым далей, тым спакайней, пачынаючы здагадвацца, што спадзяванні мае дарэмныя. Імя свайго ў паэтычнай рубрыцы я, вядома, не дачакаўся, затое дачакаўся адказу з рэдакцыі. «Паважаны таварыш! Верш «Сустрэча» ў газеце друкавацца не будзе. У мастацкіх адносінах ён слабы і бездапаможны...» Помню, як стала горача вачам — ад сораму. Ай, якая ганьба, якая ганьба! «Слабы» і «бездапаможны»! І трэба ж было пасылаць у газету, дурань! Але пачакай! А во і хваляць, здаецца?! «Добрае ўражанне пакідаюць наступныя радкі:

Радасны, падходзіць
Ён да роднай хаты.
Веткамі рабіна
Хіліцца к салдату.

Не парывайце з намі сувязі. Запісвайце фальклор: народныя песні, казкі, прыказкі, частушкі і дасылайце нам. З прывітаннем — літкансультацыя газеты «Звязда».

Дык жа не зусім катастрафічна! Во нешта знайшлі і добрае, трохі і пахвалілі! Дык, можа, не такая ўжо і страшная ганьба? Чым больш разоў перачытваў я адказ, тым спакайней рабілася на душы і тым больш пачуццё задавальнення, што ўсё ж такі сёе-тое ў вершы прызналі, пераважала над пачуццём прыкрасці і сораму. Ну, а збіраць песні, прыказкі, прыпеўкі, дык гэта я заўтра ж і пачну! Зрэшты, песні, праўда, пераважна сучасныя, не народныя, я збіраю даўно, ёсць і спецыяльны блакноцік, амаль увесь спісаны песнямі...

Можна нават сказаць, што, у рэшце рэшт, і так і гэтак паразважаўшы над адказам, я пачуўся досыць акрылёным. А што стане рабіць акрылёны, хай сабе і зусім скупой пахвалою, чатырнаццацігадовы вершатворац? Канешне ж, пісаць новы верш! Жаданне гэта

супала з канкрэтнай патрэбай: настаўнік рускай мовы і літаратуры даў на дом заданне — напісаць сачыненне на тэму прыроды: пра зіму, ці пра вясну, ці пра лета — хто пра што хоча. Дык вось, захапіла мяне шчаслівая ідэя, напішу я сваё сачыненне вершам! А што? Гэта ж цікава будзе! Ва ўсіх сачыненні звычайныя, а ў мяне — вершам. Верш — ён жа такі прыдатны да гэтай тэмы! Вунь як у Купалы: «І лягла цішыня у бары за гарой: Каб галінка адна Хоць кіўнула сабой. Снег пушысты залёг На галінах сасон, І чарнобыль, і мох Атуліў сабой ён...» Да чаго ж знаёмы і родны сэрцу малюнак! І да чаго ж прыгожа, цудоўна гучыць! Вось паспрабую што-небудь напісаць пра зіму і я — тым больш што яна ўжо надыходзіць, ужо кружацца ў паветры першыя сняжынкі.

У тым шчаслівым узросце як хутка прымаецца рашэнне, так хутка яно і здзяйсняецца. Да вечара верш-сачыненне быў гатовы. Акуратна перапісаў начыста — нават узяў для гэтага новы сшытак: хай пачынаецца вершам! З таго дамашняга сачынення ў памяці затрымаліся толькі два першыя радкі, але помню, што «верш» быў напісаны гладка, з выразным адчуваннем рытму і дакладнай рыфмай. Пацвярджаюць гэта іншыя вершы той пары, што захаваліся ў маіх вучнёўскіх паперах. Як і належала па прынятых у нас правілах падачы вершаванай мовы на пісьме, я кожны новы радок верша пачаў з вялікай літары — незалежна ад таго, які знак прыпынку стаяў пасля папярэдняга радка і ці быў там які знак наогул. І словы, перапісваючы начыста, сціскаў, дзе трэба, так, каб радок укладваўся ў радок — не вылазіў на «поле».

Раніцай настаўнік сабраў нашы сачыненні на праверку і сказаў, што ў наступны раз, гэта значыць, праз два дні, ён аб'явіць нам ацэнкі. Праз два дні я чакаў яго прыходу ў клас з прыкметным хваляваннем: што ён скажа пра верш? Як паставіцца да самога факта «паэтычнай творчасці?» І як успрымуць навіну хлоццы і дзяўчаты — мае аднакласнікі? Ці не падымуць, чаго добрага, на смех?

Настаўнік прайшоў да стала, паклаў перад сабой стосік сшыткаў і сказаў:

— Разгледзім спачатку дамашнія сачыненні.

Парадак яго разгляду нашых сачыненняў і дыктовак мы ўжо ведалі: спачатку будзе гаварыць пра тыя, што ацэнены на «выдатна», затым — пра тыя,

што на «добра» і гэтак далей. Дагэтуль усе сачыненні і дыктоўкі (дыктант тады ў нас не гаварылі) я пісаў толькі на «выдатна» і, прызнацца, трохі ўжо прывык, што першым настаўнік браў у рукі мой сшытак. Возьме, разгорне, паглядзіць у мой бок і, задаволена ўсміхнуўшыся, скажа: «Ну, што ж, і на гэты раз, як і заўсёды, памылак няма, напісана акуратна — заслужаная пяцёрка!»

Але што такое? Сёння ён назваў першым зусім другое прозвішча! Значыць, маё сачыненне не самае лепшае? Хаця і вершам напісана? Няўжо я зрабіў у ім памылку? Столькі ж разоў і так уважліва перачытаў, напісаўшы! Хваляванне ўва мне пачало нарастаць, асабліва калі і наступнае прозвішча таксама аказалася не маё! Але пакуль яшчэ ішлі пяцёрачнікі, я стараўся трымацца спакойна і ніякай маральнай катастрофы яшчэ не прадчуваў. Горш стала на душы, і я трохі ніжэй патупіў вочы, калі настаўнік, узяўшы чарговы сшытак, пагартаў яго, указаў на памылкі і аб'явіў: чацвёрка! Значыць, пайшлі ўжо чацвёрачнікі? Значыць, я напісаў на чацвёрку? О-ё-ёй! Ні разу ж яшчэ не было такога! Якія ж я там уляпіў памылкі? Проста не верыцца! Там не павінна быць ніякіх памылак!.. Тым часам настаўнік агаласіў усе чацвёркі і перайшоў да троек. Дык што гэта? Я трапіў у кампанію троечнікаў? За такое сачыненне — і тройку? Адчуваю, як мне робіцца блага. Аднекуль знутры б'е ў твар гарачынёй. Зараз ён скажа, і ўсе паглядзяць на мяне са здзіўленнем, а некаторыя — і не тоячы радасці: маўляў, ага, і табе дасталося!.. Ад гэтага прадчування страх імгненна пачынае ператварацца ў злосць, у гатоўнасць даць адпор. Ну і што, што тройка?! Падумаць! Гэткая бяда — тройка! Наступны раз наўмысна на двойку напішу!..

— І, нарэшце, апошняе,— чую спакойны голас настаўніка. Кідаю спадылба ў яго бок імгненны позірк і паспяваю пазнаць у яго руках свой няшчасны сшытак. Усё ўва мне замірае і абмірае.— У гэтым сачыненні зроблена ажно дваццаць пяць памылак і ўсе — на адно і тое ж правіла. Гэта сачыненне Гілевіча.

«Дваццаць пяць памылак на адно правіла? Не можа такога быць! — хачу запярэчыць, закрычаць штосілы.— У мяне дваццаць пяць памылак?» Я чакаў усяго — папроку, сарамачання, ганьбы, але толькі не гэтага. Усё, чаго я чакаў, раптоўна выцеснілася па-

чуццём неймавернага здзіўлення. «Як гэта — дваццаць пяць? Гэта ж ужо насмешка нейкая!..»

— Я не магу зразумець, што з табой здарылася? — звяртаецца да мяне настаўнік.— Можа, ты быў хворы і пісаў пры тэмпературы, у гарачцы?

— Не, я не хварэў,— адказваю я нейкім не сваім, аселым голасам, не падымаючы ад стала вачэй.— А на якое правіла? — пытаюся.

— Ты не ведаеш, калі слова ў сказе пішацца з вялікай літары, і пішаш з вялікай там, дзе трэба з малой: пасля коскі, пасля працяжніка і нават там, дзе ніякага знаку прыпынку няма наогул!..

Ён яшчэ не кончыў гаварыць, як мне ўсё стала зразумела. І тут жа, імгненна, велізарная гара звалілася з плеч. Ніякіх дваццаці пяці памылак няма! Можа, нават, няма ніводнай! Я пісаў кожны радок з вялікай літары, бо ў вершы так трэба! Няўжо ён не ведае, што ў вершы так трэба? Зараз я яму ўсё растлумачу! Я яму ўсё растлумачу!..

— Ну, вось, напрыклад,— працягвае ўсё тым жа роўным голасам настаўнік.— Опустели давно за деревней поля, И с деревьев в лесу все листочки слетели.

— Гэта ж, мусіць, сцішок,— ледзь чутна сказала Феня Макейчык — адна з самых далікатных і адухоўленых дзяўчынак нашага класа.

— Дзе сцішок? — павярнуўся на яе словы настаўнік.

— Мне здалося, што гэта сцішок,— паўтарыла, чырванеючы, Феня.

— Пры чым тут сцішок? — няўцямна буркнуў настаўнік.— Вось адкажы: чаму ты пасля слова «поля», тойсь, пасля коскі, паставіў вялікае і?

Я падняўся з-за стала. Мы сядзелі тады не за партамі, а за збітымі наспех сталамі на козлах.

— Ну, гэта верш... У вершы так трэба.

— Дзе верш? — перапытаў ён ужо ў мяне і ўткнуўся вачыма ў сшытак.— Я не знаю, верша я не заўважыў, але калі нават і верш, дык усё роўна: хіба можна пасля коскі пісаць з вялікай літары?

Спрачацца і даказваць, што ў вершы — можна, што ў вершы кожны радок пачынаецца з вялікай,— мне не захацелася. Пасля ўсяго толькі што перажытага ў душы загаварыла пачуццё крыўды і горкага расчаравання. Ён нават не заўважыў, што гэта верш! Не адчуў і не ўбачыў, што ў ім і рытм, і рыфма, і памер... Мала

таго, дык яшчэ і выставіў мяне перад цэлым класам непісьменным! Дваццаць пяць памылак прыпісаў мне!

— Вазьмі свой сшытак,— сказаў настаўнік,— і перапішы начыста, тады я пастаўлю табе ацэнку.— Ён, вядома, бачыў, што я перажываю, але што здарылася, што перавярнулася ў душы маёй, здаецца, не зразумеў.— І ў будучым ты, гэта самае, сачыненні сцішкамі не пішы. Тут сцішкі ні к чаму. Пішы як палажана...

* * *

Гадоў праз дзесяць, калі я ўжо быў студэнтам чацвертага ці нават пятага курса універсітэта, адбылася невялічкая гісторыя, якая можа паслужыць своеасаблівым эпілогам да расказанага сюжэта і сёе-тое растлумачыць.

Я ехаў праведаць бацькоў. Нейкая папутка падкінула мяне з Лагойска да Гайны, ну, а далей каб нават і ішла машына, дык усё роўна лепей бы пайшоў пяшком: такая любая, такая знаёмая і родная мне з пасляваенных школьных гадоў дарожка! Тры гады амаль дзень у дзень я бегаў па ёй са Слабады ў Гайну і назад. Таму быў рад, што ёсць магчымасць гэтым прыгожым майскім адвячоркам прайсціся, як тады, пешшу — спачатку лугавінай, каля збажыны, затым — нашым мілым Баранаўскім лесам, а затым — амаль вярсту — прасёлкам...

На выхадзе з Гайны на вуліцы мяне хтосьці аклікнуў. Я павярнуўся і ўбачыў, што з веснічак у высозным дашчаным плоце выходзіць настаўнік мясцовай школы Нічыпар Паўлавіч — так, так, той самы, што калісь павучальна раіў мне не пісаць сачыненні сцішкамі.

— Здрастуйце! — падаў ён мне руку, прыязна ўсміхаючыся.— Я вас праз акно ўгледзеў. Дадому, да бацькоў сабраліся?

— Ну, так. Трэба ж. Ужо даўнавата не быў.

— Можа, зойдзеце да мяне на хвілінку? Паглядзіцё хату і як я жыву. Вы ж, здаецца, не былі ў мяне ніколі?

Я кінуў вокам на яго хату, што высілася над шчыльным дашчаным плотам яшчэ непачарнелымі сасновымі сценамі і бліскучым шыферным дахам. Гэта, канешне ж, была не хата, а дабрэнны, нават шыкоўны дом. З тых, пра якія ў нашым баку гавораць: дом — што звон! Гэта значыць, з такога дрэва — што

аж гудзе, аж рэха ходзіць! Бачны былі за плотам і шыферныя стрэхі хлявоў, свірна, пуні і іншых «халодных» будынкаў. «Але ж і гаспадар, мой былы настаўнік! Якая сядзіба! Мабыць, лепшая ва ўсім сяле!..»

— Не быў,— адказваю я Нічыпару Паўлавічу.— Але зараз зайсці не выпадае — спяшаюся.

— Дык ненадоўга! На якой паўгадзінкі. Пасядзім, пагаворым трохі. Паспееце і да маці. Колькі тут той дарогі!..

Не дайшоўшы дадому, заходзіць у госці? Не, гэта неяк не па правілах. Мама пакрыўдзіцца! Ды і з чаго б гэта? Ніколі раней не запрашаў, а тут — раптам! Баюся, што запрашае ён не так сабе, што не ўсё тут чыста.

— Не, зараз я ўсё-такі не магу. Можа, як буду назад ехаць, па дарозе ў горад?

— А колькі вы будзеце дома?

— Два дні. У нядзелю па абедзе назад.

— Ага. Ну, я тады, можа, што прыдумаю. Да сустрэчы!..

Прыдумаў ён самае элементарнае. Заходзіць назаўтра раніцой — я толькі збіраўся снедаць — да нас у хату, вымае з кішэні бутэльку чырвонага пладова-ягаднага віна, якое пазней ахрысцілі «чарнілам», і бесцырымонна ставіць на стол.

— Нічыпар Паўлавіч! Што гэта вы! — усклікнуў я ад нечаканасці.— Ці ж у нашай хаце не знойдзецца чым пачаставаць, што вы з гатовым прыходзіце?

— Ой, праўда! — паківала галавой мама.— Ёсць жа ў нас для добрага чалавека і свая слязіна! Сядайце, калі ласка! Разам паснедайце!..

— Нічога,— прагудзеў мой былы настаўнік.— І гэта, як вы кажаце, гатовае не пашкодзіць. А снедаць, дык я ўжо даўно паснедаў, таму прысяду толькі так, дзеля прыліку...

Хвілін колькі мы гутарылі абы пра што — успаміналі маіх аднакласнікаў, настаўнікаў, што працавалі ў Гаенскай сямігодцы адразу ж пасля вызвалення... А затым Нічыпар Паўлавіч і раскрыў карты — нашто яму спатрэбіўся студэнт-філолаг.

— У мяне да вас просьба вялікая. Не знаю, ці чулі вы, але я на завочную вучобу падаўся. У педінстытут. Патрабуюць ад нас, настаўнікаў, каб вучыліся, каб павышалі кваліфікацыю...

Я, прызнацца, неяк ніколі раней не задумваўся, якая ў майго былога настаўніка адукацыя, лічыў, вя-

дома, што — належная, і таму быў цяпер нямала здзіўлены.

— А хіба вы раней нічога не канчалі?

— А што ж я канчаў? Да вайны — дзевяць класаў. Пасля вайны завочна — трэці курс педвучылішча... Дык вот прыйшоў з просьбай да вас: памажыце напісаць курсавую работу па рускай літаратуры... Сам я, без помачы, не адолею. Адстаў я моцна, калі сказаць па шчырасці... Нават газету няма калі пачытаць. Апошнія пяць гадоў пакуль будаваўся, дык, мусіць такі, ні разу і не ўзяў яе ў рукі. Не кажучы ўжо пра кніжкі...

Я слухаў яго, і не хацелася верыць вушам сваім. Мне стала і сумна, і цяжка, і прыкра. Настаўнік-гуманітарый гадамі нават газеты ў рукі не бярэ! Вось дзе наша бяда і наша трагедыя! Хто вучыць на Беларусі дзяцей — у гэтых няшчасных, паднятых з попелу партызанскіх вёсках! А іх жа тысячы, такіх «педагогаў», тысячы!

— Якая тэма вашай курсавой? — пытаюся, цяжка ўздыхнуўшы.

— Зараз гляну, тут у мяне дзесь у сшытачку запісана,— заспяшаўся палезці ў кішэнь пінжака Нічыпар Паўлавіч. Ён адчуў, што, здаецца, прыход яго сюды не марны — просьба сустрэта з разуменнем.— Вось яна: Ідэйна-эстэтычныя погляды вялікага рускага рэвалюцыянера-дэмакрата Бялінскага.

— І што — гэта для вас вельмі цяжкая тэма?

Нічыпар Паўлавіч згінае і разгінае ў руках сшытачак і так жалка-жалка ўсміхаецца.

— Ды калі па шчырасці... Канешне... Калі ж было? Гадоў пяць будаваўся... Дзеці малыя... Гаспадарка... Так што памажыце, калі ласка...

# ЛАБЭДЗІНЫ ДЗЕЎКІ

Восеннню сорак пятага зусім нечакана-неспадзявана я стаў паштальёнам.

Начальнік Слабодскага аддзялення сувязі, здаравісты аднаногі дзяцюк Коля Русенькі — па пашпарту Мікалай Аляксандравіч Давідовіч — сказаў:

— Слухай, хлапец. Ты, я гляджу, кожны дзень падпільноўваеш пошту — і — тут як тут! Дык бярыся, брат, рабіць паштальёнам, га? Па Слабадзе і па Муравацны. Масліха сказала, што больш не будзе — цяжка старой, асабліва зімою. А табе што: за гадзіну аббегаеш! І заробіш палавіну «палачкі». Знаеш, колькі за год набярэцца? Паўтараста працадзён! У перадавіках, брат, хадзіць будзеш!..

Вядома, лічба гэта — сто пяцьдзесят «палачак» за год! — падагрэла і падахвоціла мяне здорава. Хто з аднагодкаў можа пахваліцца такім заробкам? Хіба толькі тыя, што не ходзяць у школу, а робяць на конях? Дык яны ж цэлы дзень пекуюцца!.. А тут — сапраўды, за гадзіну, за паўтары, прыйшоўшы са школы, я разнясу і газеты і пісьмы, а галоўнае... Так, было і галоўнае, чаму я імгненна прыняў прапанову Русенькага. Пасада паштальёна давала мне магчымасць знаёміцца з усёю прэсай, якая ішла ў Слабаду і выпісваць якую я, зразумела, не мог: не меў за што. Раней чым разнесці газеты і часопісы падпісчыкам, я змагу перачытаць іх сам! Гэта ж лепей і не прыдумаць, калі так хочацца чытаць, а чытаць няма чаго: новая кніга — неймаверна рэдкі госць у вёсцы.

Дакументальна ў праўленні калгаса «пасаду» афармілі на маму, бо мае чатырнаццаць гадоў мне самому права на гэта не давалі. Зрэшты, якое мае значэнне, на каго запісана? Усе ведаюць, што паштальён — я, і сто пяцьдзесят працаднёў за год буду прыносіць дадому — я!..

Беручыся за паштальёнства, я не падумаў — выпусціў з памяці, што апрача пісем, газет і часопісаў мне

давядзецца разносіць і грашовыя «пасоб'і»: інвалідам вайны, салдацкім удовам, старым бацькам, чые дзеці загінулі на фронце або ў партызанах... У большасці выпадкаў «пасоб'і» тыя чакаліся людзьмі з нецярпеннем — гэта былі для іх, бадай, адзіныя тады грошы: калгас за «палачкі» не плаціў ні капейкі.

Так я пачаў заходзіць — раз у месяц — і да Анюты Алісіёнчыхі, па-вясковаму, за вочы — Лабэды. Жыла яна ў Мураванцы — за добрую вярсту з гакам ад нашай Слабады — і па праўдзе кажучы, тулілася з дзецьмі, трыма малымі дзяўчынкамі, не ў хаце, а ў адным з адсекаў колішняй панскай камяніцы-майстэрні, дзе рамантавалі прылады працы і рознае гаспадарчае начынне. Муж Лабэды, Пётра Алісіёнак, загінуў у партызанах,— за яго яна і палучала «пасоб'е».

Маразы ў тую зіму — маю першую паштальёнскую — былі досыць лютыя, з сівернымі пякучымі вятрамі, і трымаліся падоўгу. Радасці мне ад паходаў у Мураванку было мала, бо адзетак мой, можна сказаць, быў ніякі — пашытая са зношанай салдацкай коўдры ватоўка, а дарога ўвесь час ішла па голаму — ні лесу-пералеску наўзбоч, ні кусціка.

Аднойчы гэткім марозным сцюжным днём я і панёс «пасоб'е» Лабэдзе. Усю дарогу — подбегам, каб угрэцца, затуляючы рукавіцай рот, бо сівер імгненна забіваў дыханне. Вось і прысадзістая, мураваная, абабітая і павышчарбленая на вуглах, будыніна колішніх майстэрань памешчыка Бурнышова — апошняга гаспадара Мураванага Двара, ці Мураванкі. Трое дзвярэй-уваходаў — кожныя ў асобную «кватэру». Першыя справа — да Лабэды. Я ўжо двойчы ці тройчы бываў тут і ведаю, што дзверы трэба цягнуць за тоўстую жалезную ручку на сябе. І адразу трапіш у «святліцу»: ні сенцаў, ні пярэдняга пакойчыка, ні першай, чорнай палавіны — для кухні і для сталовай — няма. Пацягнуў за ручку — дзверы не адчыніліся. Пацягнуў мацней — і зразумеў, што яны не запёрты знутры (замка ў іх не было наогул), а проста здорава прымёрзлі. І вушак абледзянелы, і шчыліна між вушаком і дзверыной уся зарасла лёдам. Бачна, што прынамсі сёння іх ніхто не адчыняў. Дзіўна! Што ж яны — і з хаты не выходзілі? А зрэшты — чаго? Каровы няма, свінні няма, курэй няма. А ўсё «багацце», якое ёсць — трохі бульбы, буракоў, капусты,— яно там жа, у «кватэры». Праўда, большая Лабэдзіна дзяўчынка — школьніца,

другакласніца, але цяпер якраз зімовыя канікулы. Ды ў школу па такім марозе маці і не пусціла б яе — школа ж у Слабадзе, за вярсту з гакам; тут, у Мураванцы, школы няма: вёска маленькая, сямей на дзесяць, и вучняў і дзесяці не набярэцца...

Я ўзяўся за ручку абедзвюма рукамі, правай нагою ўпёрся ў сцяну і штосілы пацягнуў на сябе. Наледзь на вушаку засквірчала, затрашчала і — дзверы падаліся, адчыніліся; не шырока, але дастаткова, каб я мог прайсці. У «святліцы» — прыцемак, як на змярканні, хаця на дварэ палудзенная пара. Адзінае — амаль насупраць дзвярэй — акенца спрэс зарасло, замуравалася лёдам і святла прапускае небагата. Я спыніўся ў парозе, каля печы, якая тут жа, ля ўваходу, справа, і залазіць на якую таксама тут: жаралом яна была разумна павернута на акенца, унутр хаты. Спыніўся, пачуўшы, што ў хаце пяюць. Я ступіў ціханька два крокі наперад так, што стала бачна ўся «святліца», і замёр, прыслухаўшыся. Нікога нідзе не відно, нікога няма,— а пяюць!

Так, я чую песню — прыгожае дзіцячае пянне. Але дзе яны? Адкуль галасы?

Божа прамілы! З печы! З жарала печы!

Ад холаду яны пахаваліся ў печ!

І нават засланіліся тоўстай драўлянай засланкай.

Там, за засланкай, і гучала цяпер іх цудоўнае дзіцячае трыо.

Як памё-ёрла матулька,
Ажані-іўся татулька,
І паслалі сіраці-інку
У сыр-бо-ор па малі-інку.

А ўжо со-онца заходзя,
Сірата-а не прыходзя.
Выйдзі, бацька, паглядзі-і ты
Свайго роднага дзіця-а-ці.

Там стая-а-ла каліна,
Пад калі-і-най магіла,
Там сіро-о-тка хадзі-і-ла,
Сваю ма-а-мку будзі-і-ла:

— Устань, ма-а-мачка, уста-ань,
Устань, ро-о-дная, уста-ань,
Прычашы-ы мне гало-оўку,
І пamы-ый мне кашу-ульку...

Цяпер мне і ўспомнілася, як, прыйшоўшы да нас «на сяло», суседка Ганна Барэйшыха расказвала ма-

ме: «Бачыла ж Лабэду ў краме: дык не нахваліцца сваімі дзеўкамі. Кажа: ну так ужо красіва пяюць, так пяюць — як артысткі!..»

Сапраўды, пелі дзеці вельмі хораша: галасочкі былі ў іх... мабыць, якраз пра такія і кажуць: анёльскія. Я гатоў быў слухаць іх пяянне яшчэ і яшчэ, але спахапіўся ад пачуцця няёмкасці: непрыгожа ўсё ж — стаяць ціхенька, стаіўшыся, у чужой хаце, усё адно як злодзей які... Калі песня скончылася, я працягнуў руку і костачкамі пальцаў лёгка пастукаў у засланку. Масіўная абсмаленая дошка тут жа адвалілася, грукнуўшы аб прыпечак, і ў прыцемку печы я ўбачыў побачкі тры залаціста-русыя кудлаценькія галоўкі і тры пары бліскучых спалоханых вачанят.

— Во куды вы схаваліся! — сказаў ім, усміхаючыся.— І дадумаліся ж!..

— Бо холадна надта,— адказала старэйшая, Зоська.

— А маці дзе? Я прынёс вам пасоб'е за бацьку.

— Мама ў Мінск паехала...

— Сёння?

— Не, учора. Але яшчэ не вярнулася...

— І вы адны начавалі?

— А мы не баімся! Мы тут спалі, у печы. Тут яшчэ духу многа было, цёпленька...

— Ты не баішся,— умяшалася ў размову меншанькая, Маруська,— а мне было ўночы страшна, і я плакала...

Зноў успомнілася, што тады ж гаварыла маме Барэйшыха: «Лабэда ёсць Лабэда. Смяяліся мужчыны, што як толькі атрымае пасоб'е,— дык тут жа едзе ў Мінск і на ўсе грошы накупляе дзецям грэцкіх арэхаў. Тыя бульбіне няскобленай ды поснай заціркі рады, а яна ім — торбу грэцкіх арэхаў! На ўсё пасоб'е!.. Ды яшчэ і дражніцца: «От вашы дзеці і не каштавалі і не ведаюць, што гэта такое, а мае — ведаюць!..»

— А за грошы ты можаш распісацца? Умееш? — пытаюся ў Зоські.

— Умею,— адказала дзяўчынка, вылазячы з печы.

— Яна нават пісьмо напісала дзядзьку Ліксандру,— зноў умяшалася Маруська.

— А чарніла ў вас ёсць?

— Ёсць, але... мусіць, замерзла.

Зоська шуснула нагамі ў вялікія парваныя валёнкі, што стаялі тут жа, ля прыпечку, і падышла да ста-

ла. Пацягнула на сябе прыскрынак, дастала адтуль чарнільнічку-неразлівачку, паглядзела, патрэсла моцна ў далоньцы і, нібы вінаватая, глянула на мяне:

— Змерзлася...

— Ладна, распішашся алоўкам, а я дома абвяду поверху чарнілам. Толькі нацiскай добра, каб літары чыталіся...

Я дастаў з-за пазухі і паклаў перад ёй на стале бланк паштовага пераводу і сваю металічную, яшчэ даваеннай мадэлі, асадку — з двума муштучкамі: адзін для пяра, другі для аловачка.

— Вось тут, пад гэтай рыскай, акуратненька напішы сваё прозвішча: А-лі-сі-ё-нак.

Дзяўчынка ўзяла асадку і старанна, кожную паасобку, пачала выводзіць літары. Не дайшла і да палавіны слова, як Зінка і Маруська апынуліся тут жа, абапал сваёй вучонай — сама пісаць умее! — сястры. Яны сачылі за рухам яе рукі і ў той жа час радасна зіркалі на мяне, і было бачна па вачанятах, як яны ганарацца Зоськай. Ого, якая наша Зоська: сама заместа мамы пасоб'е палучае!..

— Ну, так, малайчына,— пахваліў я дзяўчынку,— добра распісалася, будзеш калі-небудзь падпісваць і вялікія дакументы...

Паклаўшы зноў за пазуху бланк, я падаў Зосьцы падрыхтаваны, роўненька складзены яшчэ на пошце стосік пяцірублёвых купюрак.

— На, і пералічы пры мне, а то, можа, я збіўся. Лічыць па пяцёрках умееш?

Дзяўчынка, не падымаючы вачэй, нясмела кіўнула галавой. Але выканаць маю просьбу не спяшалася.

— Пералічы,— паўтарыў я настойліва.— Так інструкцыя патрабуе, каб грошы тут жа былі пералічаны.

Дзяўчынка пачырванела і ціха сказала:

— Я пасля пералічу...

— Пасля не гадзіцца. Трэба, каб пры мне... Ладна, давай разам лічыць. Пяць і пяць дзесяць. І яшчэ пяць і пяць — дзесяць, ужо дваццаць...

Так мы далічылі да канца.

— Вось і ўсё. Схавай іх дзе-небудзь і аддай маме, як вернецца.

Толькі цяпер я агледзеў, што Зінка і Маруська стаяць на заінелай падлозе босыя.

— Лезьце скарэй у печ! — закрычаў я на іх сярдзіта.— Вы ж прастуду схопіце!..

Малышкі, няйначай, чакалі гэтага загаду, шмыганулі ад стала, лёгенька, адна за другой, з услончыка залезлі, залацістаалосыя, на прыпечак і гэтак жа спрытна, адна за другой, рачком, юркнулі, як лісяняты ў нару, у печ. Праз долю хвіліны адтуль ужо выглядалі іх вясёлыя, сімпатычныя, запэцканыя сажай тварыкі.

А Зоська правяла мяне да дзвярэй і, зусім як дарослая, папрасіла:

— Зачыніце адтуль моцна-моцна, каб не цягнула з двара марозам. Бо адгэтуль шчыльна я не зачыню іх...

«Зачыніце?..» Гэта было першы раз у жыцці, калі да мяне звярнуліся на «вы». Пэўна, не розніца ў гадах прадыктавала ёй гэта: я ж таксама быў яшчэ школьнік, хадзіў у шосты клас, а ў школе ўсе дзеці паміж сабой на «ты». Прадыктавала мая пасада: як ні як, а чалавек на дзяржаўнай службе! Паштальён!..

Ранняй вясной сорак шостага Лабэда з дзецьмі — як і некаторыя іншыя з Мураванкі — выехала на перасяленне ў былую Усходнюю Прусію. Там, гаварылі вярбоўшчыкі, пустуюць дабрэнныя мураваныя дамы і кожнай сям'і бясплатна даюць карову.

# ДАВАЖАЧАК

Сакратаром камсамольскай арганізацыі ў нашай сямігодцы была мая дваюрадная сястра, настаўніца геаграфіі Зінаіда Пятроўна Гілевіч. Яна і сказала мне:

— Заўтра а дванаццатай ты павінен быць у Лагойску, у райкоме камсамола. Будуць уручаць табе камсамольскі білет.

Хаця я і чакаў гэтага, бо на сходзе мяне прынялі ў арганізацыю яшчэ з месяц назад, аднак жа трохі захваляваўся.

— Там будуць у мяне пра што-небудзь пытацца?

— Могуць і спытаць сёе-тое, а можа, і так абыдзецца. Ды табе баяцца няма чаго: статут ты ведаеш, вучышся добра, грамадскія нагрузкі маеш. Вось і скажаш пра гэта, калі будзе патрэба...

Назаўтра я ўстаў раней, чым звычайна, бо да Лагойска — добрыя дзве гадзіны хадзьбы, і то калі чыстая дарога, а калі пазамятала,— дык і на ўсе тры хопіць. А за ноч магло і намесці — сёлетнія лютаўскія мяцеліцы шчодрыя, сыпяць многа.

Вярнулася ад студні мама і сказала, што ў дарогу мне ёсць кампаньён. Толькі што яна бачыла суседа Валодзю Думанскага, і ён таксама збіраецца ў Лагойск — у ваенкамат па нейкай справе выклікаюць. Праз паўгадзіны будзе выходзіць і сказаў, што гукне мяне, каб я быў гатовы.

Думанскі ўсю вайну прабыў на фронце, але, здаецца, «нарадзіўся ў кашулі», шчаслівец, бо дайшоў да Берліна жывы-здаровы і нават ні разу не быў паранены. Дадому вярнуўся ён незадоўга перад Новым годам — у дабротным ваенным паўшубку, у салдацкіх ватніках і валёнках, само сабой зразумела — у вушанцы. Але вярнуўся ў хату халодную і галодную — жонка Ганна з кучаю малых дзяцей спраўляцца па гаспадарцы ўжо проста не мела сілы. Чалавек працавіты і руплівы, хаця па натуры і маруда, Валодзя адразу ж

насек і навазіў з Роўніцы альховых дроў, падрамантаваў сенцы і свіронак, уцяпліў, абклаўшы яловымі лапкамі, наскрозь дзіравы хляўчук,— адным словам, без справы не стаў сядзець а ні дня. Што ж да запасаў у свіронку — тут ён перайначыць становішча быў бяссільны: хлеба не было ні крошкі і купіць яго не было за што. З калгаса за ўвесь сорак пяты год Ганна не атрымала на свае вялікія працадні ні грама збожжа. Сям'я трымалася толькі на бульбе і гародніне.

Бульбай з малаком паснедаў наспех і я, апрануў ватоўку, насунуў на лоб цеснаватую аблавушку і выбег на вуліцу, каб не прымушаць сталага чалавека заходзіць па мяне, лепш пачакаю яго сам. На двары яшчэ было прыцемна, але адчувалася, што ноччу прайшоў снег — свежы, паскрыпліваў пад нагамі. Неўзабаве выйшаў з хаты і Думанскі, падаў мне руку, як роўнаму.

— Ну што — пачэпаем паціху?

— Пачэпаем! — адказаў я паважна, як дарослы.

Сусед наш быў чалавек сціплы, спакойны і негаваркі, таму мы амаль усю дарогу ішлі моўчкі. Сам я распачынаць гаворку саромеўся, ён, мабыць, не меў патрэбы. Да таго ж — я ўсё больш пачынаў хвалявацца, як яно там, у Лагойску, у райкоме камсамола, будзе. Мне, можна сказаць, нават было і выгадна, што мой спадарожнік — маўчун. Я ішоў побач і думаў пра сваё — што адкажу, калі мне пачнуць задаваць пытанні. Галоўнае, канешне ж, ведаць статут. І я пачаў паўтараць у памяці — параграф за параграфам — усё, што завучыў пра абавязкі і правы камсамольца. Затым перабраў у памяці ўсё, што я за апошні год зрабіў у калгасе і ў школе і што мне можа быць залічана за грамадскую актыўнасць.

На канікулах, летам, я не прагуляў, бадай, ні аднаго дня. Амаль увесь ліпень хадзіў касіць — аж пакуль не скончылася касавіца. Успомнілася, як не хацелася раненька, з усходам сонца, уставаць, вылазіць з-пад пасцілкі-рызаўкі, калі мама прыходзіла ў пуню, дзе мы спалі, будзіць мяне з братам. Іншы раз гэта рабіла не мама, а сам старшыня калгаса Ліксандр Банук: ён ведаў, дзе мы начуем, падыходзіў да варот і гукаў: «Хлопчыкі, пад'ём! Косы чакаюць! Даспіцё ў абед, як расы не будзе!..» І мы падымаліся, з'ядалі па кубку малака з бульбяным праснаком і ішлі, босыя, праз белую ад расы аселіцу, на Доўгае балота — асноўныя се-

нажаці стаялі там. Раса была такою сцюдзёнай, так апякала і калола ногі, што мы па чарзе мяняліся, каму ісці наперадзе і прымаць на сябе ўсю лютасць гэтай срабрыста-зіхатлівай нерушы.

У жніво, напачатку, я звозіў снапы з поля да тока. Гэта работа мне падабалася. Мне дастаўся добры, цягавіты конь і дагледжаныя калёсы. Укладаць воз я навучыўся яшчэ вайной, калі калгасная зямля была падзелена і прыходзілася са свайго «шнура» звозіць збажыну на сваё ж гумно. Толькі адзін раз здарылася, што снапы я ўклаў няроўна і на касагоры воз перакуліўся... Апошні тыдзень канікул працаваў на таку, на малацьбе. Там — успомніў і аж скалануўся — я ледзь не зрабіўся на ўсё жыццё калекам. Малацілі жыта вялікай малатарняй з конным прыводам. За адной з упрэжак хадзіў па крузе, з пугай у руцэ, я. За доўгі дзень ды на санцапёку так нахадзіўся, што к вечару ўжо быў асалавелы, задумаўся пра нешта і страціў пільнасць. І калі б не цуд — гэта магло б каштаваць мне вельмі дорага. Левая калашына маіх доўгіх — да самай зямлі — штаноў зачапілася за «кулак» з рухомай зубчатаю шасцярнёю, і нагу пацягнула назад — пад тоўсты сталёвы валік. У долю секунды я зразумеў, што здарылася, і дзіка закрычаў: «Стой!» і з такой нечалавечай сілай ірвануўся наперад, што калашына трэснула вышэй калена і мэнтам спаўзла з нагі, закруціўшыся на «кулаку» анучынай. Толькі пасля гэтага спыніліся і коні і да мяне падбеглі двое іншых паганятых, а таксама людзі ад малатарні. Я стаяў збялелы як палатно і ўсё яшчэ не мог апомніцца. «Шчасце тваё, што, відаць, з нечага гнілога матка штаны пашыла,— сказала, паківаўшы галавой, адна з пажылых калгасніц.— Калі б матэр'ял быў моцны — хруснула б тут твая ножка, як альховы прут. Пашанцавала табе, хлопча, ой, пашанцавала!..» Наконт «нечага гнілога» жанчына не памылілася: штаны былі пашыты са знойдзенай у лесе старой і сапрэлай байкавай коўдры...

Пра што яшчэ, апрача працы на жніве і на касавіцы, я магу, калі будзе трэба, сказаць у райкоме? Відаць, пра тое, што з восені я пачаў рабіць паштальёнам. Праўда, гэта таксама не грамадская нагрузка, а — за «палачкі»-працадні; але ж раблю, лынды не б'ю, не гуляю. А грамадскае?.. Дапамагаю ў школе выпускаць насценную газету, пішу заметкі, а ў апошнім нумары і верш змясціў. Ну, пра верш — гэта я ім не скажу, гэта

дробязь... А да кастрычніцкага свята напісаў на шпалерах — на адваротным баку — аж тры лозунгі, якія развешаны ў класах. Прыняў удзел і ў святочным афармленні нашай Слабодскай хаты-чытальні (да вайны на шыльдзе было: ДСК — Дом Сацыялістычнай Культуры): таксама напісаў лозунг, а яшчэ — намаляваў акварэльнымі фарбамі вялікі партрэт таварыша Сталіна, дакладней — змаляваў з газетнага фотаздымка, у парадная форме генералісімуса. Загадчык хаты-чытальні, бязногі Валодзя Рулькевіч, былы адважны партызан, работу маю ўхваліў, і партрэт закрасаваўся на сцяне. Але радавацца і ганарыцца мне давялося зусім не доўга, бо скончылася гэта для мяне канфузам: дні праз тры, будучы ў нашым баку, заглянуў у хату-чытальню сам сакратар райкома і загадаў маё маляванне неадкладна зняць і знішчыць. «Як вы маглі дадумацца! — абураўся і сварыўся ён на Рулькевіча.— Што ж гэта будзе, калі кожны жук і жаба пачне маляваць таварыша Сталіна!..» «Жук і жаба» ў адной асобе стаяў каля дзвярэй і чуў усю гэту начальніцкую распяканку. Ахвота да малявання высокашаноўных партрэтаў была адбіта назаўсёды...

Вось ужо і Зялёны Луг мінулі, вось ужо злева, на беразе Гайны, і знакаміты лагойскі парк былых графаў Тышкевічаў. Ідзем вузкаю вуліцай па ўзбярэжжы глыбознага рова, які акаляе старажытнае замчышча. Сем-восем стагоддзяў назад тут высіўся магутны замак, тут быў цэнтр горада Лагожэска (Лагожска, Лагойска) — сталіца ўдзельнага княства. Але пра гэта я, вучань шостага класа Гаенскай сямігодкі, яшчэ нічога не ведаю. Я іду побач з Думанскім па ўтоптаным тратуары і думаю пра сваё. Скора будзе паваротка направа — і я пайду туды: райком — там.

Сыплецца мяккі, пульхны сняжок. Цішыня. Нам насустрач, па другой узбочыне вулачкі, ідзе чалавек. Па адзенню — дарагое чорнае паліто з каўняром, хромавыя боты, мехавая шапка — бачна, што немалы начальнік. У руках у чалавека — буханка магазіннага (у нас гаварылі — куплёнага) хлеба, з невялічкім, грамаў на сто, даважкам. Хлеб ён трымае перад сабой, пальцы аднае рукі ляжаць на даважку. І трэба ж! Якраз, калі чалавек параўняўся з намі, ён паслізнуўся, вертыхнуўся, але не ўпаў і буханку з рук не выпусціў, а вось даважачак паляцеў долу і пакаціўся па вуліцы. Я міжволі прыцішыў крок і не спускаю з небаракі ва-

чэй. Нейкае імгненне чалавек стаяў і глядзеў, няйначай у разгубленасці, на дарогу, дзе ляжаў даважачак, нават, здалося, быў памкнуўся пайсці і падняць яго, але тут жа перадумаў — ці то нас пасаромеўся, ці проста паленаваўся нагінацца — і шпаркім крокам рашуча пайшоў далей. «Вазьму! — сказаў я ў думках сам сабе.— Хай толькі трохі ён адыдзецца. Такі ладны кавалачак хлеба! Куплёнага!..» І раптам чую нягучны голас дзядзькі Валодзі:

— Іш, трасца бакам! Наеўся, відаць, начальнічак. Ну, а нам — медалі хлеба не далі. Будзем рады і гэтаму.

Сказаўшы так, ён ступіў з абочыны на дарогу і падняў той даважачак. Спачатку паспрабаваў здзьмухнуць наліплы на яго снег,— не атрымалася, тады ён далікатна абцёр даважачак рукою і сунуў яго за пазуху паўшубка,— туды, дзе сапраўды вісела на грудзях некалькі медалёў. «Добра, што я не кінуўся на гэты кавалачак першы,— з палёгкай уздыхнуў я ў душы, калі мы зноў пайшлі побач.— Цяпер бы няёмка было, каб паквапіўся,— навыперадкі з дзядзькам, сталым чалавекам, франтавіком...»

Праз хвіліну мы дамовіліся, дзе і калі спаткаемся, каб і дадому разам, і разышліся.

«Медалі хлеба не далі... Медалі хлеба не далі»,— паўтараў безгалоса я новую, не вядомую мне раней прымаўку, падыходзячы да будынка райкома камсамола. Можа б, і эпізод з даважачкам так не ўразіў мяне, калі б не гэта прымаўка. Нешта як бы трохі з'інашылася ў свядомасці камсамольскага «неафіта»: у суцэльны мажор пераможнага настрою ўклінілася несугучная, журботная нота. «Медалі... хлеба не далі». Раней я ніколі не задумваўся пра гэта — пра ўзаемасувязь паміж хлебам і салдацкімі медалямі. Я проста ведаў, што прайшла вялікая, крывавая вайна і што на нашай спажаранай, зруйнаванай зямлі цяпер усім жывецца цяжка. Усім? І гэнаму, што пагрэбаваў падняць з дарогі кавалак хлеба?..

Ах, як недарэчы прычапілася да мяне гэтая не сугучная часу думка! І дзе? Можна сказаць, на ганку райкома камсамола. І калі? За якой паўгадзіны перад тым, як я атрымаю з рук сакратара камсамольскі білет. У такі незвычайны, святочны дзень! У такі ўрачысты ў маім жыцці момант!..

## АД ФРАНЦІШКАВАЙ «ПРАДМОВЫ» ПАЧАТАК

Вясной сорак шостага недаяд пачаў давацца ў знакі асабліва адчувальна. Як толькі агалілася ад снегу поле — людзі сем'ямі выходзілі на бульбянішча збіраць «цюпікі», або «шайморы» — перамерзлую за зіму бульбу, што па недагляду дзе-нідзе пазаставалася ўвосень на раллі. Гэтыя паходы ў «цюпікі» (відаць, ад слова цюпаць — таўчы ў ступе на цеста) былі вельмі цяжкія і мардоўныя: грýгаць, як груган, па адталай суглiністай раллі, у якую глыбока вязлі ногі, проста не хапала сілы. На сіверы склеюць і карчанеюць рукі, якія раз-пораз абмываеш ад гразі ў сцюдзёнай лужынцы ў баразне, дзе яшчэ стаіць падталы лёд. Самы «модны» тады ў беларускай вёсцы абутак буркі ў чунях намакаюць, бо чуні дзіравыя, і ты адчуваеш, як ад холаду стынуць і дзеравянеюць ногі. Мне ў гэтым здабыванні хлеба надзённага дастаецца, бадай, больш, чым іншым: блізарукасць, пра якую я яшчэ не ведаю, перашкаджае на адлегласці ў колькі крокаў адрозніць цюпік-шаймор ад каменя, і я кідаюся па знаходку, каб з прыкрасцю і расчараваннем падняць не вылезлую з апалай раллі бульбіну, а камень. Трохі пазней, калі прагрэецца зямля, леташняе бульбянішча пачынаюць араць пад яравое, і паколькі восенню пераараць не змаглі — зусім мала коней, то цяпер з зямлі выворваецца яшчэ нямала бульбы. За кожным аратым — а іх няшмат — ходзіць некалькі чалавек з кошыкамі, калі, вядома, не заяўляе правa на манаполію хто-небудзь з сям'і аратага. Іншы раз з-за няшчаснага шаймора ажно даходзіць да сваркі.

Дома гэтыя шайморы мама ачышчае ад шалупіння і, абмыўшы ў вадзе, каб не засталося пяску, ссыпае ў вялізную ступу. Таўчы іх таўкачом ахвотна бярэмся мы з братам — на змену. Ахвотна, бо чым хутчэй стаўчом, тым скарэй паласуемся шайморавымі аладкамі. У цеста, чорна-шэрае, як тая ралля, на якой мы іх збіралі, мама дадае два-тры яйцы — «каб аладкі былі

трохі разумнейшыя». Есці іх трэба гарачымі, адразу ж са скаварады — тады яны, па-першае, мякчэйшыя, а па-другое — не так чуцен цяжкі трупна-земляны дух. Зрэшты, не з меншым апетытам елі мы іх пасля і халодныя.

Дык вось аднойчы ў такую галодную пару сын нашай цёткі Паўліны Віця, мой аднагодак, які таксама хадзіў у Гаенскую школу, сказаў мне пасля ўрокаў:

— Пайшлі да нас, на пасёлак. Заўтра ж нядзеля, урокі вучыць не трэба, пагуляем...

Цётка Паўліна — удава з трыма дзяцьмі — жыла на пасёлку Новая Слабада — ад нашай вёскі кіламетра за паўтара. Пасёлак гэты ўзнік у сярэдзіне дваццатых гадоў — у выніку гаспадарчай палітыкі тагачаснага народнага камісара земляробства рэспублікі Прышчэпава. Цётка, дзякуючы надзвычайнай працавітасці, да якой яна груніла і дзяцей, жыла трохі лепш за нас, прынамсі, бульба, капуста і буракі ў яе былі, пра што я дакладна ведаў з размоў у нашай хаце. Можа, і гэта падштахнула мяне даць згоду на Віцеву прапанову і пайсці з ім на пасёлак. Вядома ж, цётка адразу пасадзіла нас за стол, насыпала з чыгуна ў малюсенькія начовачкі соленай «лышанай» бульбы і наліла ў вялікую міску — адну на дваіх — гарачай капусты, прыправіўшы яе лыжкай смятаны. Ах, мілая, дарагая цётка Паўліна! Упэўнен, што гэта яна сказала Віцю, каб ён запрасіў мяне «пагуляць на пасёлак» — яна, ведаючы, як кашчанеюць у Слабадзе дзеці яе брата Сымона!.. І як жа мне пасля, калі я ўжо вучыўся ў Мінску, будзе балюча даведацца, што цётка памерла ў поўным сэнсе слова ад гора. Каб прыадзець хоць трохі дзяцей, а галоўнае — закончыць рамонт хаты, яна адгадавала сяк-так парсюка, закалола яго і ўсяго цалкам — апрача капытоў ды вушэй — завезла ў Мінск на базар. Выручыла шэсцьсот рублёў. Вярнулася дадому, палезла ў запазуху кажушка, куды лажыла выручку, а грошай — няма. Вывернула і ўсе кішэні — няма! Закрычала цётка, затым схапілася за сэрца, упала на падлогу і памерла...

Па абедзе мы залезлі з Віцем на печ, дзе заўсёды цёпла і ўтульна, каб пагаварыць пра сваё хлапечае або пагуляць у «воза» (у браценіка былі самаробныя карты). І тут я заўважыў на прымурку кнігу. Усякая кніга была тады ў нас вялікай рэдкасцю, і таму рука адразу пацягнулася да прымурка. На карычневай картоннай

вокладцы чытаю: «Францішак Багушэвіч. Выбраныя творы». Я ўжо ведаў, што быў у мінулым стагоддзі такі беларускі паэт, сёе-тое з яго вершаў чытаў недзе, але кнігі яго ў руках не трымаў ніколі.

— Адкуль у вас гэта кніжка? — пытаюся.

— Ніна, як прыязджала, прывезла, ды забылася дома. Напісала ў пісьме, каб мы тут не згубілі...

Ніна — старэйшая Віцева сястра — мінулым летам паступіла на вучобу ў Мінскае педагагічнае вучылішча, і ў сям'і нямала ганарацца гэтым.

Разгортваю кнігу, углядаюся ў партрэт аўтара — сімпатычнага мужчыны з надзіва даўжэзнымі вусамі, затым перакідваю колькі старонак і натыкаюся на верш з вельмі інтрыгоўнай назвай: «Дурны мужык, як варона». Пачаў чытаць — захапіўся з першых жа радкоў.

— Дык што, у карты гуляць не будзем? — пытаецца Віця.

— А-ай, братачка, такая цікавая кніжка — не магу адарвацца,— кажу яму.— Во, паслухай сам, Віця, паслухай!

І я пачаў уголас, каб чуў і брацанік, чытаць вершы. З захапленнем, выказваючы свае адносіны і ацэнкі. Праз колькі хвілін пачуў нягучны прысвіст у нос. Глянуў на Віцю — спіць! Угрэўся на цёплай чарэні і пад маё чытанне — заснуў. «Ну і добра,— кажу сабе,— бо прыставаў бы з гэтымі картамі, калі тут такая кніга...» Прачытаўшы колькі вершаў, я зноў вярнуўся ў пачатак кнігі і зачапіўся вокам за «Прадмову» — знакамітую прадмову Багушэвіча да зборніка «Дудка беларуская». Пачаў чытаць — і адчуваю, як усё мацней забірае мяне за сэрца гэты ўзрушаны, пранікнёны, прасякнуты і болем і крыўдай зварот паэта: «Братцы мілыя, дзеці Зямлі-Маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, ды і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя мужыцкай завуць, а завецца яна «беларускай». Я сам калісь думаў, што мова наша — «мужыцкая» мова і толькі таго! Але, паздароў божа добрых людцаў, як навучылі мяне чытаць, пісаць, з гэтай пары я шмат дзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў і пераканаўся, што мова наша ёсць такая ж людская і панская, як і французская, або немецкая, або іншая якая. Чытаў я ці мала старых папераў па дзвесце, па трыста гадоў таму пісаных у

нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі, а нашай мовай чысцюсенькай, як бы вось цяпер пісалася. Увідзеўшы гэта, я часта думаў: «Божа ж, мой божа! Што ж мы за такія бяздольныя?..»

Я ўсаджваюся зручней — так, каб на кнігу падала больш святла, каб былі лепш бачны гэтыя неверагодныя радкі. Я адчуваю, што далучаюся да нейкай вялікай, дагэтуль ад мяне схаванай, таямніцы, і ў грудзях маіх, няйначай, усё заміраe.

«Ці ж ужо нам, канешне, толькі ў чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба знаць сваю. Перадумаўшы ўсё гэта, я, братцы, адважыўся напісаць сякія-такія вершыкі: хто іх спадабае, таму дзякуй! А хто надумае лепш і больш напісаць, таму чэсць вечная і ад жывых людзей і ад бацькавых касцей!..

Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так, як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замерлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!..»

Перачытваю «Прадмову» ■ пачатку да канца яшчэ і яшчэ раз, адкідваюся плячыма да коміна, і доўга сяджу моўчкі. Нідзе ніколі раней я не чытаў такога аб нашай мове. Такога шчырага, даверлівага і балючага слова. Ажно страшнаватага ў сваёй праўдзе. «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!..» Я ніколі дагэтуль не задумваўся, што некаму наша мова можа не падабацца, што нехта можа яе лічыць горшай за іншыя і што нехта збіраецца яе пакінуць, адрачыся. Я гаварыў ёю ад нараджэння і штодзённа гэтак жа натуральна, як дыхаў. І акружала мяне ўсюды толькі яна: і дома, і ў школе, і на вуліцы. А вось жа аказваецца! Не пакідайце... каб не памерлі! Як чалавек перад смерцю спачатку перастае гаварыць, так і ўвесь народ,— страціўшы мову, паміраe...

Узрушаны такім нечаканым адкрыццём, я хачу пабыць з гэтай кнігай сам-насам як мага даўжэй. Але ў хату заходзіць цётка Паўліна, якая тым часам нешта рабіла на падворку.

— А што гэта вы так ціха там сядзіцё? — запытала яна, распрануўшыся.— Віця!

— Ён спіць,— азываюся я за браценіка.

— Як спіць? — у голасе цёткі здзіўленне імгненна пераходзіць у злосць.— А-я-яй, які гультай! Сярод белага дня спаць надумаўся! Віця! Уставай, каб цябе

халера ўдушыла, ды ідзіце да Сяўкома змяліце рукавок ячменю хуценька!..

Я штурхаю браценіка ў плячо, а праз хвіліну мы ўжо апранаемся і ідзем да іхняга суседа Сяўкома малоць у жорнах ячмень. А што ж: наеліся, маладыя бычкі, бульбы ■ капустай, дык і папрацаваць трэба. Цётка Паўліна, я ведаю, дармаедства не любіць...

Круцяцца, гудуць жорны, і пад іх гудзенне я ўвесь час паўтараю — сам сабе, вядома, у памяці: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі! Не пакідайце ж мовы нашай!.. Не пакідайце!..»

* * *

З гэтага часу я зусім па-іншаму пачынаю чытаць творы на роднай мове, па-іншаму глядзець на ўсе беларускія кнігі, якія пападаюць мне ў рукі. Гэтыя кнігі ўжо ўспрымаюцца мной як натуральны працяг тых, што былі пісаны трыста гадоў назад «у нашай зямлі і вялікімі панамі», і на мову іх гляджу як на «чысцюсенькую нашу», якая гэткая ж «людская і панская», як і ўсе развітыя, прызнаныя мовы ў свеце. Я ўжо асобым чынам падрыхтаваны да сустрэч з іншымі вялікімі паэтамі нашай зямлі. І гэтыя сустрэчы — о, шчаслівы лёс! — адбываюцца ў мяне на працягу года — адна за другой.

Не пазней канца мая (бо яшчэ хадзілі ў школу) у вясковай краме ў Гайне я купіў «Творы» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і адкрыў для сябе ў яго аповесцях дзіўны, нязвыклы сілабічны верш, які што праўда здаўся мне крыху нязграбным і, аднак жа,— вельмі цікавым, самабытным, важкім. На пачатку лета ў кнігарні па вуліцы Камсамольскай набыў том «Выбраных твораў» Максіма Багдановіча, лірыка якога мяне літаральна ашаламіла і на ўсё жыццё ўзяла маю душу ў балючы, тужліва-светлы палон. Дзесьці ў ліпені, у кнігарні па вуліцы Савецкай, непадалёк ад Дома ўрада, купіў «Далёкія станцыі» Пімена Панчанкі і «На сотай вярсце» Аркадзя Куляшова — і абодва аўтары сталі з гэтага часу маімі любімымі паэтамі. На зімовых канікулах, на навагоднім базары ў Мінску, у кніжным латку прыдбаў два тамы нашых вялікіх народных песняроў: «Выбраныя творы» Янкі Купалы і «Паэмы» Якуба Коласа, чытанне якіх намнога пасунула ўперад развіццё маёй нацыянальнай самасвядомасці, узняло пачуц-

цё гордасці за нашу беларускую паэзію да самай высокай рыскі. Тады ж, зімою, купіў і «Выбраныя творы» Паўлюка Труса, якога яшчэ раней паспеў бясконца палюбіць па тых вершах і паэмах, што былі змешчаны ў школьных чытанках... Усе гэтыя, як і некаторыя іншыя, выдадзеныя ў тыя гады кнігі беларускай паэзіі і прозы, дапамаглі зрабіць глыбока свядомай маю любоў і пашану да роднага слова. І ўжо не было выпадковым, што на прадвесні сорак сёмага я напісаў верш «Родная мова» — сваю першую і давечную клятву на вернасць. Заканчваўся верш такімі радкамі:

А задумае вораг з чужога далёкага краю
Адабраць у мяне, знішчыць родную мову маю,—
Не дазволю.
Не дам.
Не прадам.
Не змяню.
І да смерці за волю яе пастаю!..

Сёе-тое з таго, што ў пятнаццаць з палавінай гадоў чалавек павінен знаць цвёрда, я здолеў засвоіць. Дзякуючы перш за ўсё тым, што падхапілі і высока пранеслі праз сваё жыццё вялікі запавет першага сапраўды народнага беларускага паэта. А най-найперш — дзякуючы яму самому. Ад Францішкавай жа «Прадмовы» пачатак!..

## ПЕРШЫЯ РАДАСЦІ

Зіма сорак пятага — сорак шостага года нечакана для мяне самога стала парой маіх першых «творчых вечароў» — «публічных» рыфмаваных імправізацый.

Не магу зараз дакладна прыпомніць, з чаго і як канкрэтна пачалося, але аднойчы на вячэрнім зборышчы падлеткаў і моладзі ў хаце Юліка Барэйкі, умяшаўшыся ў якуюсьці размову, я пачаў гаварыць у рыфму, складна. Прысутныя адразу звярнулі на гэта ўвагу, зрэагавалі зацікаўлена, я адчуў, што мая рыфмаваная мова ім падабаецца, выклікае вясёлы смех і нават захапленне — асабліва калі зарыфмоўваліся імёны або мянушкі тут жа прысутных дзяўчат і хлопцаў. Такое ўспрыняцце паддавала мне яшчэ больш ахвоты, і я падоўгу імправізаваў самыя розныя сюжэты, іншы раз узятыя з рэальнага вясковага побыту, а часцей за ўсё — самім жа, тут жа на вачах у слухачоў прыдуманыя. Прыдумкі, мабыць, не былі абразлівыя, бо ніхто і «герояў» гэтых імправізаваных бываліц крыўды не выказваў, а смяяўся разам з усімі і ў горшым выпадку гаварыў: «Ой, выдумляка! Ну і выдумляка! Нічога ж не было гэткага!..»

Нашмат гадоў пазней у навуковай фалькларыстычнай літаратуры я вычытаю, што ў нашым народзе, сярод простых людзей працы, здаўна, можа, адвеку, існавала традыцыя такіх складных, у рыфму, гаворак і што ім, простым людзям, гэтыя вясёлыя, пацешныя гутаркі, гэтыя бываліцы вельмі падабаюцца. Тады пра гэту асаблівасць псіхікі, ці характару нашага народа, я нічога не ведаў, але што і маім равеснікам, і старэйшым па ўзросту маладым вяскоўцам рыфмаваныя імправізацыі да душы — гэта было відочна. Прыдумляў і выгаворваў я гэтыя імправізацыі шмат разоў — аж пакуль, мабыць, не перабраў усе «сюжэты» і не надакучала самому. Вынікам было тое, што на ўсю вёску разышлася чутка пра здольнасць Кацярынінага (ці Сы-

монава — як хто) хлапца гаварыць «сцішкамі». Сам хлапец ніякага значэння ні самім гэтым вершаваным гутаркам, ні ўхваленню іх вяскоўцамі не прыдаваў. У яго душы нараджаліся тым часам жаданні і амбіцыі больш сур'ёзныя.

Справа ў тым, што прага выказвацца складна, мовай рытмічна арганізаванай і ў рыфму, не спаталялялася на тых вясковых вячорках. Паралельна з імправізацыямі, але ўжо дома, складаліся і запісваліся ў сшытак вершы. Карпеў я над імі позна вечарамі, звычайна пасля таго, як у хаце ўжо ўлягуцца спаць; «рабочым» месцам быў не стол (за сталом ад вокнаў цягнула холадам), а печ, на якой я ў тую зіму і спаў; я садзіўся каля коміна, ногі спускаў на пяколак, газнічку-смаркачык ставіў побач на прымурку, сшытак клаў на калені — і пайшло баруканне са словам, якое трэба падпарадкаваць сваёй волі, прымусіць яго стаць у радок так, каб ад гэтага было табе ўцешна і радасна, як ад перамогі.

Пасля таго, як восенню я быў паслаў адзін верш у «Звязду», прайшло некалькі месяцаў. Больш пісаць у гэту вялікую, дарослую газету жадання не ўзнікла. Выпадкова ўбачыў у рускамоўнай піянерскай газеце «Зорька» куточак з вершамі — пад рубрыкай «Творчасць нашых чытачоў». Пад вершамі подпіс: імя, прозвішча і ўдакладненне — вучань шостага класа. Выдатна! Я таксама вучань шостага класа. Раз такіх друкуюць,— пашлю і я ў гэту рэдакцыю свае вершы. Сказана — зроблена. Не затрымаліся ў рэдакцыі з адказам. Ён быў напісаны ад рукі на кавалачку шэрай рыхлай паперы, на якой расплывалася чарніла. (Відаць, і ў рэдакцыях з паперай было туга.) З хваляваннем прабягаю па радках вачыма: «Мы атрымалі твае вершы, але надрукаваць іх не можам. Таму што яны напісаны на беларускай мове, а наша газета — на рускай мове. Я твае вершы перадала ў рэдакцыю беларускай газеты «Піянер Беларусі». Адрас яе: Мінск, Пушкіна, 55. Пішы што-небудзь і нам. Пішы заметкі. У бліжэйшы час ад цябе чакаем заметку на такую тэму: як вучні вашай школы памагаюць калгасу ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. Ці сабіраюць яны ўдабрэнне? Колькі сабралі? Другую заметку напішы аб тым, як ты рыхтуешся да іспытаў. Як рыхтуецца ваш клас. Вось табе невялікае заданне. Прысылай нам свае заметкі. Чакаем. З прывітаннем. Заг. аддзела пісем».

Расчараванне і прыкрасць: сапраўды, як гэта я не раскумекаў і паслаў свае беларускія вершы ў рускую газету? А пісаць заметкі... пра збор удабрэння? Дык яго ў нас ніхто не збірае. Пра сваю вучобу? А што пісаць? Ну, вучуся... У дзённіку амаль па ўсіх прадметах пяцёркі. Але... Але я ўвогуле не думаў ні пра якія заметкі! Я хачу, каб надрукавалі мае вершы. Мне надта падабаецца складаць вершы!.. Вядома, магу паслаць ім і якую-небудзь заметку, толькі гэта зусім не тое. Яшчэ раз уважліва, удумна прачытаў ліст з «Зорьки». Напісана, што перадала мае вершы ў «Піянер Беларусі». Можа, надрукуюць?.. Пачаў сачыць за гэтай піянерскай газетай. Але праходзілі тыдні — ні вершаў у друку, ні адказу з рэдакцыі няма.

Тым часам наступіла вясна, і прага вершаскладання апанавала мяне з новай сілай. І дзесьці ў канцы мая я паслаў па некалькі вершаў адразу ў дзве рэдакцыі — у «Піянер Беларусі» і ў «Бярозку». Першы адказ атрымаў з «Піянера» — вельмі кароткі, але досыць аптымістычны: «Твае вершы мы выкарыстаем для літаратурнай старонкі. Дасылай новыя, што ты напішаш. З прывітаннем. Заг. аддзела літаратуры Клешчанка. 20 чэрвеня 1946 года». На два дні пазней прыйшоў адказ і з «Бярозкі» — і ўжо не проста аптымістычны, а надзвычай радасны. І не толькі таму, што ў ім было канкрэтнае абяцанне, але і затое, што надта ж хораша ён быў напісаны, з вялікай добразычлівасцю і павагай да мяне, з каштоўнымі парадамі. Не ведаю, ці атрымліваюць зусім зялёныя пачаткоўцы такія адказы з рэдакцый сёння, і таму хачу падаць тут яго цалкам.

«Паважаны наш чытач Н. Гілевіч!

Рэдакцыя атрымала твой ліст і вершы, прысланыя ў часопіс «Бярозка».

Вядомая справа, яшчэ цяжка даваць якую-небудзь рэцэнзію на гэтыя вершы, таму мы абмяжуемся некалькімі заўвагамі.

Першае, што нам падабаецца, гэта — твая настойлівасць. Толькі пры цвёрдай настойлівасці і ўпартай працы можна дасягнуць у жыцці сваёй мэты.

Агульнае ўражанне вершы астаўляюць нядрэннае. У іх ёсць цеплыня і праўдзівасць, адчуваецца, што пісаліся яны ад душы. А гэта мае вельмі вялікае значэнне. Адно гэта можа пацвердзіць, што ў цябе ёсць нядрэнныя задаткі.

Праўда, як і заўсёды ў пачынаючых аўтараў, у вершах адчуваецца ўплыў некаторых любімых беларускіх паэтаў, сустракаюцца граматычныя памылкі, недакладнасці.

Што мы можам табе параіць:

1. Трэба многа і добра назіраць за прыродай і цікавае запісваць у блакноцік.

2. Запісваць розныя народныя казкі, пагаворкі, загадкі, цікавыя апавяданні дарослых.

3. Пабольш чытаць мастацкай літаратуры. З беларускіх паэтаў раім: Купалу, Коласа, Куляшова, Панчанку.

4. Пісаць толькі аб тым, што добра ведаеш, і імкнуцца пісаць вершы чым карацей. Самае цяжкае навучыцца выказваць сваю думку і пачуцці ў кароценькім вершы.

А галоўнае, гэта — вывучаць беларускую мову.

Адзін з тваіх вершаў «Яблынька» мы будзем змяшчаць у № 7 часопіса «Бярозка», які выйдзе ў канцы ліпеня.

Прысылай нам другія свае лепшыя вершы.

З прывітаннем!

22.VI.46 г. ЧВА рэдактара Турчыновіч».

Ліст напісаны ад рукі, на аркушы такой жа шэрай паперы, як і той, з «Зорькі». Але ў рэдакцыйным канверце апрача гэтага ліста аказалася яшчэ штосьці. Яшчэ два акуратна складзеныя аркушы і на іх — аддрукаваны на машынцы мой верш «Яблынька». Дагэтуль помню, як моцна мяне ўразіла — як палыхнула жарам, як гулка забілася сэрца, калі я ўбачыў машынапісны тэкст свайго верша. Упершыню ў жыцці бачыў я свае радкі, напісаныя не ад рукі, а тымі ж друкарскімі літарамі, што і ў кнігах, часопісах, газетах. І гэта было так незвычайна, так дзіўна, што, перш чым пачаць чытаць пісьмо, я, відаць, разы тры ўзапар прачытаў сваю аддрукаваную на машынцы «Яблыньку». Зрэшты, чаму і не здзівіцца было і не ўразіцца: у нашым баку пішучай машынкі тады яшчэ ніхто і ў вочы не бачыў, ні ў сельсавеце, ні ў школе яе і ў паміне не было.

Настрой у мяне тым летам быў проста выдатны — хаця голад даймаў, як, мабыць, ніколі раней. Чакалі маладой бульбы і зажынак як паратунку. Увесь ліпень, ледзь сцягваючы дух, я хадзіў на касавіцу; не толькі касіў, але і звозіў сена вазамі ў калгасную пуню,

і стажыў на поплаве стагі, чаму навучыўся настолькі спрытна, што нават менавіта мне давяралі завяршыць стог — апошні злазіў, дакладней — ссоўваўся па насілцы дадолу. І ўвесь ліпень я чакаў «Бярозку», у якой — о, божа прамілы як доўга цягнуцца гэтыя дні! — будзе мая «Яблынька».

А тым часам трохі пасунулася ўперад мая літаратурная адукацыя, якую я набываў тады ў поўным сэнсе слова па крупінцы, па дробачцы. Зайшоў аднойчы да свайго крыху старэйшага сябра Толі Давідовіча, а ён, ужо знаючы пра маё захапленне паэзіяй, кажа:

— Зараз я табе нешта пакажу... Можа, ты і не чытаў гэткага.

Ён пацягнуў на сябе прыскрынак стала і дастаў з яго нейкі пакет, загорнуты ў вокладкі звычайнага вучнёўскага сшытка. У рухах сябра мой быў незвычайна марудны, флегма флегмай, таму ён паволі, асцярожна, акуратна разгарнуў вокладкі — і я ўбачыў складзеныя на чэцвера лісткі не то з якойсці старой кнігі, не то з даўняга часопіса, досыць ужо струхлелыя, з моцна паабціранымі краямі.

— Знайшоў,— кажа,— сярод розных даваенных квіткоў, якія тата хаваў пад бэлькай...

І ён падаў мне гэтыя лісткі, якія я, так жа асцярожна, каб не развaліліся, пачаў разгортваць на стале і прагавіта чытаць.

На першым, пад рубрыкай «Літаратурны дадатак», надрукавана: «У дапамогу маладому дэкляматару. Беларускія народныя песьняры». І ніжэй — дзве невялікія нататкі: «Беларускі народны паэта Янка Купала» і «Народны паэта Якуб Колас (Тарас Гушча)». У сярэдзіне кожнай нататкі — маленькі партрэцік песняра. Далей — вершы Купалы: «Будзь смелым!», «Арлянятам», «Гутарка аб кепскім гаспадару». Пад апошнім пазначана: Акопы. 5.VII.26 г.

Акопы!.. І ў галаву мне тады не магло прыйсці, што да гэтых Акопаў — рукой падаць, калі нацянькі — кілометраў дванаццаць, не болей, што гэта тут, на Лагойскай зямлі, і не проста на Лагойшчыне, а менавіта ў нашым баку...

Тры лісткі былі, бачна, з аднаго выдання — падобна, з нейкага часопіса ці, можа, нават з якога-небудзь сельскагаспадарчага календара (мяркуючы па рубрыцы — «Літаратурны дадатак»). Чацверты лісток — выразка з якойсьці газеты, захаваная, несумненна, дзеля

досыць вялікага верша «Як трэба жыць, каб здаровым быць». Напэўна, Толеваму бацьку, слыннаму ў нас печніку, які, помніцца, наогул любіў чытаць, спадабаліся чыесьці дасціпна зарыфмаваныя, лёгка запамінальныя правілы асабістай сангігіены:

Май ты гэта за закон —
Ня сьлінь пальцы языком:
Рот на тое, каб ім есьці,
Не заразу ў яго несьці.
Кракадзіл і то ён часам,
Як паласуецца мясам,
Рот свой птушкам разяўляе —
Зубы чысціць дазваляе.
Ну, а ты, мой браце любы,
Сам павінен чысціць зубы.

Прызнаюся, што гэтыя санітарныя парады ў куплетах (а ўсяго іх было там каля пятнаццаці) вельмі спадабаліся і мне: у той жа дзень я іх усе ведаў на памяць.

На тым кавалачку газеты маю ўвагу затрымала кароткае паведамленне пад назвай «Новая літаратурная арганізацыя», у якім значылася: «Адышоўшая ад «Маладняка» група пісьменнікаў утварыла новую — Пралетарска-сялянскую Беларускую літаратурную суполку — «Пробліск». Засноўцамі арганізацыі з'яўляюцца наступныя таварышы: Янка Бобрык, Алесь Гурло, Алесь Звонак, Тодар Кляшторны, Ізраіль Плаўнік, Янка Туміловіч, М. Хведаровіч і Н. Чарнушэвіч. У апошнія часы група распачала працу і ў 1927—28 годзе будзе выдаваць альманахі і зборнікі твораў сваіх сяброў».

Паведамленне гэта выклікала ў мяне безліч пытанняў. У той час я ўважліва чытаў усе беларускія літаратурныя выданні — часопісы «Полымя», «Беларусь», «Вожык», «Бярозку», газету «Літаратура і мастацтва». Чытаў што называецца ад дошкі да дошкі — у тым ліку і ўсе крытычныя артыкулы і інфармацыі з літаратурнага жыцця рэспублікі. І ніводнага з пералічаных у нататцы прозвішчаў — апрача Алеся Гурло — не чуў. Дзе ж падзеліся ўсе гэтыя астатнія паэты і пісьменнікі? І што стала з самою суполкай «Пробліск»? І што гэта быў за «Маладняк», ад якога адкалоўся цэлы гурт пісьменнікаў?..

Цікавасць мая была распалена яшчэ больш, калі на адным з лісткоў я прачытаў невялікі лірычны верш, аўтарам якога значыўся названы ў пераліку паэт То-

дар Кляшторны. Верш мне здаўся надзіва прыгожым, маляўнічым, урачыста светлым і ў той жа час журботным:

Белыя паляны, белыя гаі...
Пчолы ледзяныя кружацца ў галлі.

Кружацца раямі, сыплюцца на дол,
Апушылі хвоек срэбраны прыпол...

І яшчэ адно новае імя паэта: Цішка Гартны. Ніколі не чуў. Можа, перастаў пісаць? Пачаў — ды і кінуў? Бывае ж такое... А верш цікавы, асабліва — рытмікай і кампазіцыяй радкоў. Называецца — «Чырвонаармейцы».

На адным лістку ўверсе вялікімі літарамі надрукаваны заклік: «Сьпявайце новыя песьні». Уся старонка адведзена пад песні. Першая па-парадку — «Беларускі гімн». Беларускі гімн?.. Зноў — здзіўленне і пытанні. Аказваецца, у Беларусі быў свой гімн? Калі?.. Мяркуючы па датах, на якіх абрываюцца біяграфічныя нататкі пра Купалу і Коласа, усе гэтыя лісткі адносяцца да другой палавіны 20-х гадоў. Значыць, тады і існаваў гэты гімн? «Адвеку мы спалі і нас разбудзілі, мы знаем, што трэба рабіць...»

Чытаю радкі і, прызнацца, расчароўваюся: надта ж нейкі не сучасны, яшчэ дарэвалюцыйны змест! Відаць, ён і быў складзены яшчэ да Кастрычніка?..

Далей за «Беларускім гімнам» ішла ўжо вядомая мне песня «Расстрэл камунараў» — яе часта спявалі нашы слабодскія мужчыны. Праўда — ізноў пытанне: мужчыны спявалі яе па-руску, а тут яна пададзена як беларуская. І пры гэтым некаторыя словы ў нязвыклым, дзіўнаватым напісанні: «генэрал», «і ўсіх комуністых» (гэта значыць — камуністаў). Тут жа змешчаны тры цудоўныя народныя песні: «А ў бары, бары...», «У печы палю» і «Лявоніха». Апошнюю я добра ведаў,— як і скрозь на Беларусі, яна была ў нас вельмі папулярная, а дзве іншыя я прачытаў упершыню, і, здаецца, упершыню зрабіў для сябе якіясь творчыя ўрокі ад знаёмства з фальклорам. Народных — беларускіх і рускіх — песень я ведаў шмат, любіў слухаць, як іх спяваюць іншыя, і любіў спяваць сам, але ні над іх зместам, ні — тым больш — над сакрэтам іх паэтычнага хараства ніколі не задумваўся. А тут чамусьці быў так уражаны,— што доўгі час вяртаўся да іх у думках. Асабліва да песні «А ў бары, бары» — відаць,

ашаламіла гранічная прастата, праўдзівасць і сцісласць.

А ў бары, бары — тры дарожанькі,
Тудою ішлі тры салдацікі.
Што к матцы ідзе — песеньку пяе.
Што к тату ідзе — ў скрыпачку грае.
К мачысе ідзе — сільненька плача.

Як я неаднойчы пераконваўся, іншы раз, каб нешта вельмі важнае зразумець, не трэба чытаць шмат, дзесяткі або сотні кніг, дастаткова прачытаць адзін невялікі твор, можа, нават адзін кароценькі верш ці пачуць адну песню. Усё залежыць, калі і дзе — у якім настроі, у якіх абставінах — ты яго прачытаў і спасціг яго сутнасць. Вядома, гэты твор павінен быць не абы-які, а глыбокі, змястоўны, мастацка дасканалы. Так увайшла мне тады ў душу важкім паэтычным багажом народная песня.

Але ўсё, што я дагэтуль сказаў пра знойдзеныя сябрам старыя лісткі з беларускімі вершамі і песнямі, гэта ўсё яшчэ, як-то кажуць, прыказка, а казка нaперадзе. Дакладней, не зусім казка, а байка. Яшчэ дакладней — не адна, а дзве. І ўжо зусім дакладна — дык і не байкі, а два сатырычныя вершы, хаця надрукаваны яны пад тытулам «Байкі». Гэта былі два знакамітыя, але тады для мяне яшчэ зусім не вядомыя, вершы Кандрата Крапівы: «Будуйце лазні» і «Вясковае ігрышча».

Імя Крапівы мне было ўжо добра знаёма па хрэстаматыйнай п'есе «Партызаны», па камедыі «Мілы чалавек», якую яшчэ год назад я прачытаў у часопісе «Полымя», і па тых байках, што былі ў школьных падручніках і вывучаліся па абавязковай праграме. Апрача таго, імя знакамітага сатырыка стаяла на кожным нумары «Вожыка», які я чытаў рэгулярна. Аднак тое, што я адкрыў для сябе ў творчасці Крапівы цяпер — на гэтых струхлелых лістках,— абудзіла ўва мне бязмежнае захапленне. Дык вось як, аказваецца, можна пісаць пра наша вясковае жыццё — як праўдзіва, як трапна, як дасціпна, не баючыся ні пэўных намёкаў, ні пэўных слоў! Мне гэтыя два вершы Крапівы здаліся верхам дасціпнасці, сатырычнага і гумарыстычнага смеху, я завучыў іх у той жа дзень на памяць, але гэтага было мала — лісткі з імі павінны былі, рашыў я адразу ж, любою цаной перайсці ў маё валоданне, стаць маёй неацэннай і бясконца дарагой мне

асабістай уласнасцю. Зрэшты, ніякай асаблівай цаны ўстанаўліваць не давялося: сябар спачатку даў мне лісткі для перапісання, а потым, калі я падарыў яму рукапіс свайго верша пра наша слабодскае ігрышча,— ён і зусім сказаў: «Хай застаюцца ў цябе!» Мая «Вечарынка ў Слабадзе» была яму, відочна, бліжэй і па тэме, і па «героях», і па канкрэтных мастацкіх рэаліях, бо помніць ён яе і да гэтага часу — нядаўна пры сустрэчы дэкламаваў, па-мойму, беспамылкова.

Чытач, знаёмы з папулярным вершам Крапівы, зусім лёгка пазнае ў маім «ігрышчы» першакрыніцу — перайманне відочнае Але рэч маім аднавяскоўцам, асабліва равеснікам, вельмі спадабалася і стала вядомай на ўсю вёску імгненна.

Свет прайдзіце без замінкі —
Вы не ўбачыце нідзе
Гэткай хвацкай вечарынкі,
Як у нас у Слабадзе.

Люба Кацю як падхваце,
Ды як пусцяцца кружыць
Польку босую па хаце —
Хата стогне і дрыжыць.

Вунь і ў Толі ўжо на майцы
Ажно выступіла соль,
А ў Матвеіча на пальцы —
Ад гармоніка мазоль!

У закутку ж лямант нейкі:
Мішка Сцёпкаў ледзь жывы
Ушчаміўся ў дзве скамейкі
І не выне галавы!..

Усё тут было схоплена з натуры: нейкая смешная прыгода з падлеткам Мішкам, і Толя, які прыйшоў на вечарынку без сарочкі — у той жа бруднай майцы, у якой цэлы дзень касіў, і босыя Люба з Кацяй — дзве трыццацігадовыя ўдавы-салдаткі, якія сапраўды прыходзілі на вечарынку і пускаліся ў танец басанож — па простай прычыне, што абуць не было чаго.

А здарылася так, што гэтым летам у нашай вёсцы тыдні два, калі не тры, стаяла невялікая каманда салдат — прыехалі, па дамоўленасці [redacted] кіраўніцтвам раёна, нарыхтаваць на нашым Доўгім балоце сена. Пакуль яны там яго касілі ды сушылі, зносілі да дарогі ды складалі ў копы, жылі ў палатках на ўскраіне таго ж балота, а вечарамі прападалі ў Слабадзе. Трапілі, вядома, і на вечарынку, якую мы наладжвалі кожны ня-

дзельны вечар. Стары сляпы гарманіст дзядзька Матвеіч граў нам за недарагую плату: за вячэру з бульбы і кіслага малака. У вёсцы амаль усе жылі ўпрогаладзь, таму збіралі з кожнага танцора па дзве-тры сырыя бульбіны, з танцорак — па шклянцы малака (у каго была карова), варылі тую бульбу ў ладным чыгуне, і ён, шыракаплечы, масіўны, грузны, з'ядаў яе з малаком усю за раз. На вечарынцы і ўбачылі салдаты, што нашы жанчыны танцуюць босыя, і кагосьці з іх гэта моцна здзівіла, і пра гэта здзіўленне стала вядома аўтару «Вечарынкі ў Слабадзе». А раз вядома, то трапіла і ў верш, які менавіта гэтым момантам і завяршаўся.

І татарын, і калмык
Гэта бачыць не прывык,
І глядзелі спадылба,
Як танцуе Слабада.

Хаця ў радках зусім не было нічога крыўднага для прадстаўнікоў згаданых нацыянальнасцей, аднак жа... Іду вечарам, ужо на добрым змярканні, па вуліцы, з дому ў канец сяла, дзе мы, хлопцы-равеснікі, звычайна па вячэры збіраліся. Бачу зводдаль: каля Ваўчковых, пад расахатай вярбою, сядзяць на лаўцы дзяўчаты, а перад імі — гуртом кавалеры ў ваенным. Звычайная рэч! Хоць, праўда, дзяўчаты яшчэ зеленаватыя — мае равесніцы. Чую іх галасы — і дзявочыя, і хлапечыя, і вясёлы смех, а на падыходзе — мне трэба прайсці міма — чую і словы адной са шчабятух, якую я нават трохі вылучаў з усяе гурмы за вясёлы характар.

— А во ён і сам ідзе!..

Я зразумеў, што гэта сказана пра мяне: больш ніхто па вуліцы не ішоў. Праз момант з гурмы постацей пад вярбою імкліва ступіў на дарогу мне наперарэз салдат.

— Стой!

Я спыніўся. Глянуў на яго. Невысокі, але, бачна, хлопец здаровы, з кароткай і тоўстай шыяй. Нават упрыцемку было прыкметна: смуглатвары і з вузкімі азіяцкімі вачыма. Што яму ад мяне трэба?

— Ты пісал?

— Што я пісаў?

— Сціхі пра міня пісал?

Гляджу — а выраз твару злосны. Не жартуе.

— Якія сціхі? Я не пішу ніякіх сціхоў!

— Мне сказалі: ты! І міня обсміял!

Я ўжо здагадаўся — хто ён і што яму трэба. Відаць, дзяўчаты дэкламавалі маё «ігрышча» і смяяліся, і ўсё, што ён зразумеў — гэта словы «татарын і калмык», і смех прыняў на свой рахунак.

Адчуваю, што могуць быць непярэліўкі. Вось-вось — і ён пусціць у ход кулакі. Мне з ім не справіцца, тым больш што побач — яго таварышы.

— Ды не пісаў я ніякіх сціхоў! Гэта выдумалі!

— Не пісал?

— Я ж кажу, гэта выдумалі! Я нічога ні пра якія сціхі не ведаю!

Пад вярбой сцішыліся і замаўчалі.

— Сматры! Я узнаю. Пісал — будзет плоха. Секірбашка будзет!..

Крутануўся і так жа імкліва, як выйшаў, падаўся пад навісь вярбы. А я, рашуча прыбавіўшы кроку, пайшоў далей. Прыслухоўваючыся, ці не даганяе. Равесніцы мае, асабліва адна з іх, страцілі ў маіх вачах многа. От-бо ляпёхі пусталобыя! Нашлі чым жартаваць. Ён жа мовы нашай не разумее — і чорт ведае, што мог падумаць!.. Ну, заўтра я з вамі пагавару, галубачкі!..

Але назаўтра пагаварыць не ўдалося. Апаўдні я пайшоў на пошту — якраз прывезлі. Начальнік развязаў мяшок і вывернуў з яго на стол газеты, часопісы, пісьмы. Сярод часопісаў — і ліпнёвы нумар «Бярозкі». З амаль непрыстойнай паспешлівасцю я схапіў яго і, заміраючы сэрцам, пачаў гартаць. Вось! «Яблынька»! Ледзь не на ўсю старонку. З малюнкам воіна-садоўніка.

І на здрадніц-дзяўчат, і на злога салдата, і на сваю «Вечарынку» я забыўся адразу і надоўга. Здарылася штось такое незвычайнае, такое вялікае, што для іншых клопатаў месца ў душы не засталося.

# МАРМЕЛАДНАЯ ЎЗНАГАРОДА

Адразу ж пасля вызвалення старшынёй калгаса ў Слабадзе стаў наш родзіч, мамін стрыечны брат і мой «хросны бацька» Ліксандар Давідовіч, па-вясковаму — Банук. Ну, прозвішча ў нас рэдка было ў хаду, так рэдка, што дзеці дык не ўсе і ведалі і, ва ўсякім разе,— не адразу маглі яго ўспомніць. Пры сустрэчы, у вочы, звалі Ліксандрам ці дзядзькам Ліксандрам, а за вочы — Банук і толькі Банук. Праўда, быў жывы яшчэ і Ліксандраў бацька, стары Мікалай Банук, дык у такім разе, каб адрозніваць, так і гаварылі: стары Банук.

Ліксандар старшыняваў некалькі — самых цяжкіх, першых пасляваенных — гадоў, і менавіта ад яго мы, тадышнія вясковыя хлапчукі-падлеткі, шмат чаму па гаспадарча-земляробчай часці навучыліся. І як каня запрэгчы, і як снапы ў воз класці, і як за плугам ці за баранай хадзіць, і як касу накляпаць, і як яе мянташыць, і як стог стагаваць, і як дрэва ў лесе валіць, і як яго на калёсы-разводкі ўскладаць,— якую толькі навуку мы ў яго не праходзілі! Вядома, не ў аднаго Банука, але ў яго найболей, бо, па-першае, дарослых мужыкоў, ад якіх дзеці вучацца мужчынскай рабоце, было тады ў вёсцы наогул вельмі мала, а па-другое, ён быў старшыня, сам непасрэдна далучаў нас, «падшыванцаў», да калгаснай працы, сутыкаўся з намі штодзённа, быў зацікаўлены — на тым бязлюддзі, дакладней, безмужчынні — у нашай дапамозе і таму на кожным кроку вучыў нас.

Асабіста я быў яшчэ ўдзячны дзядзьку Ліксандру і за іншую навуку, пра якую ён, можа, і не здагадваўся. Ён вельмі хораша спяваў! У яго быў надзвычай прыгожы голас, моцны, яркі барытон, і песень ён ведаў безліч. Увогуле ў нашай вёсцы песні былі ў вялікай пашане — і чыста фальклорныя, старыя (іх спявалі пераважна жанчыны), і гарадскога паходжання, і новыя, рэвалюцыйныя (гэтых дзвюх катэгорый песні бы-

лі ў рэпертуары перш за ўсё мужчын, асабліва тых, што прайшлі службу ў Чырвонай Арміі або наогул пабылі дзесь на людзях, ездзілі часта ў Мінск, пацёрліся каля гарадской культуры). Прыгожа спявалі дваюрадныя браты Валодзя і Мікалай Маславы. З тых, каго пасля вайны ў Слабадзе ўжо не стала, незвычайна прыгожыя галасы, помніцца, мелі Алежка Тромпель і Жэнька Рулькевіч, а таксама іх равеснік, мой дваюрадны брат, гарбаты з малалецтва Алёшка Гілевіч. Як гайнуць яны, бывала, на вуліцы вечарам, сабраўшыся каля чыёй-небудзь хаты:

Пад частым разрывам грымучых гранат
Атрад камунараў сражаўся.
Пад націскам белых наёмных салдат
Ў жэстоку расправу папаўся! —

мурашкі ішлі ў мяне па спіне, сэрца замірала, і ўсё іншае на свеце траціла для мяне ў гэты час сваё значэнне і вартасць.

Многія прыгожа спявалі, але роўных у гэтай здольнасці Ліксандру Бануку, мабыць, ва ўсёй наваколіцы не было. Гэта быў талент сапраўдны, як я цяпер разумею — рэдкі, з тых, што пры пэўных умовах (дай яму прафесіянальную вывучку!) мог бы стаць знакамітым народным артыстам, гаворачы словамі этнографа Сержпутоўскага, «стаць нашай нацыянальнай гордасцю». Упершыню ён уразіў мяне сваім пяяннем у нашай жа хаце, на хрэсьбінах, яшчэ да вайны. Помню, як па нейчай камандзе: «Ціха! Ліксандр пець будзе!» — унялося шумнае і вялікае — на ўсю хату — застолле і як загучаў яго магутны густы барытон — папулярная ў нашым баку руская песня ў такой характэрнай беларускай аздобе:

Спа-ацірала я кале-эчка,
Спа-а-а-цірала я любоў, я любо-о-оў,
Наверна, спацірала я любо-о-оў!

Я й па гэтаму кале-эчку
Буду плакаць дзень і ноч, дзень і но-о-оч,
Наверна, буду плакаць дзень і но-о-оч!..

Вось ён запыніўся і кіўнуў жанчынам:

— Бабы! Што ж вы не памагаеце мне?

— Ай, Ліксандрачка, дык хочацца ж цябе паслухаць! — адказвае хтосьці з жанок.

Тым не менш песню падхопліваюць і бабы.

...Гадоў праз дваццаць пасля вайны прывёз я аднойчы ў Слабаду, да мамы ў госці, вядомага балгарскага паэта і майго добрага сябра Найдзена Вылчава,— ён вельмі хацеў паглядзець старую, не турыстычна-паказальную беларускую вёску, тыповую вясковую сядзібу і хату. Вечарам мама сабрала з гэткай незвычайнай нагоды невялікае застолле, у якое быў, натуральна, запрошаны і мой «хросны бацька» Ліксандар Банук. Было ўжо яму тады пад шэсцьдзесят, але голас яго ні сілы-моцы, ні прыгажосці сваёй яшчэ не страціў. Пасля аднае-другое чаркі Ліксандар запеў сваю любімую з партызанскіх часоў песню:

На нас напали злые немцы,
Село родное подожгли.

Горит, горит село родное,
Горит вся родина моя!..

І голасам і песняй самой ён так уразіў госця, што той, вярнуўшыся ў Балгарыю, напісаў верш пад назвай «Беларуская партызанская песня» і кожны раз пры сустрэчы пытаўся ў мяне: «Ці жыве гэны твой чычка (дзядзька) Банук?..»

Але вярнуся ў лета сорак шостага, калі Ліксандар быў у Слабадзе старшынёй калгаса. Быў мой «хросны» чалавек па натуры добры, да людзей спагадлівы, не злапомны, стараўся нікога не крыўдзіць і, па-вясковаму хітраваты, сябе не крыўдзіў таксама. Тое лета было самае цяжкое, самае галоднае з усіх пасляваенных, і таму вяскоўцаў моцна ўзбударажыла чутка, што ў нашу слабодскую сельпоўскую краму прывезлі і будуць дзяліць «юнраўскія» гасцінцы — дзвесце трохсотграмовых бляшаначак амерыканскага, з сухафруктаў, мармеладу. Наедак, вядома, ніякі, хутчэй — пацеха малым, аднак жа! Ды і хто яго калі еў, той амерыканскі мармелад! Цікава ж і пакаштаваць, папрабаваць!.. Ва ўсякім разе, каля крамы, якая тады мясцілася ў другой — цераз сенячкі — палавіне хаты Ваўчковай Веркі, у абедзенную пару тоўпіліся людзі. Чакалі крамніцу Люду Занямонец, якая пайшла ў калгасную кантору і там разам са старшынёй Бануком і рахункаводам Косцікам Сандалікам размяркоўвае пасямейна той нечаканы заморскі гасцінец.

У кантору пабочныя людзі без патрэбы не заходзілі, але я скарыстаў сваё права паштальёна і — з газетамі і нейкімі афіцыйнымі паперкамі ў руках — зайшоў.

Ды там і прызастаўся, пакуль ішла дзяльба. Вельмі карціла даведацца, колькі тых бляшаначак дастанецца нам, на нашу вялікую сям'іску. Банук, Сандалік, Люда і яшчэ хтосьці з мужчын, членаў праўлення, сядзелі наўкола стала і ўголас, досыць засяроджана, вялі бухгалтэрыю.

— Маньцы, відаць, трэба бляшаначку накінуць,— кажа Банук. Рэй вёў ён, старшыня; тыя толькі паддаквалі і, як я скора заўважыў, вытаргоўвалі адпаведна лішнюю бляшаначку для каго-небудзь са сваякоў ці суседзяў.

— Давайце накінем,— ціха пагаджаецца Люда.

— Давайце тады і Верцы Юлікавай адну дабавім,— ушчамляе сваё слова Сандалік.— А то дзяцей чацвёра, а бляшаначкі тры, не падзеляць і паб'юцца між сабой.

— Ну што ж, можна і Верцы адну накінуць,— зацягваючыся цыгаркай, гудзе Банук і выпраўляе на лісце паперы лічбу.— Яна і на рабоце стараецца...

«Дык гэта ж калі па дзецях, то нам павінна быць аж восем бляшанак! — прыкідваю я імгненна ў галаве.— Не, на Ліну, відаць, не дадуць, яна ўжо дарослая... Ну, дык тады — сем! Цікава, колькі ж яны запісалі нам?..»

Неўпрыкмет я пасунуўся на ўслоне яшчэ бліжэй да стала, так што ўжо і некаторыя лічбы мог адрозніваць на лісце, які круціў перад сабою Банук. Бачачы, што на маю прысутнасць не звяртаюць увагі, я скорчыў посную міну, як быццам мне ані гадкі — ці тут што дзеліцца, ці проста так людзі сваім займаюцца, і падаўся яшчэ на нейкую пядзю бліжэй, і цяпер ужо з-за пляча Сандаліка добра бачыў усю бухгалтэрыю.

— Ну, што, таварышы, здаецца, будзем падбіваць бабкі.— «Таварышы» было ў Банука самае пахватнае слова — ён нават і да нас, падлеткаў, іншы раз гэтак звяртаўся.

— Ну, дык ужо ж усё, падзялілі,— уздыхае з аблягчэннем Люда.

— Давайце ўсё перапішу начыста,— прапаноўвае рахункавод Сандалік.

Банук скасавурыў на яго вока — і нешта накшталт хітрай ухмылкі прамільгнула на яго губах. Відаць, падумаў: «Ведаю я, шэльма, як ты перапішаш, якія «памылачкі» зробіш, а пасля будзеш ойкаць, што радкі пабльгталіся!»

— А што яго перапісваць! Што тут разводзіць лішнія паперы! Падпішу гэту, і няхай Люда ідзе — раздае людзям.— Банук яшчэ раз прайшоўся вачыма зверху ўніз па лістку, прымаўляючы «так-так, так-так», як бы пераконваючыся, што падзелена ўсё правільна, справядліва, і нарэшце прыстукнуў далонню па стальніцы.— Усё, таварышы! Цюцелька ў цюцельку!

— А астатнія... каму? — пачуўся нясмелы, прыдаўлены голас.

Нясмелы і прыдаўлены, але яго пачулі ўсе і павярнулі на голас галовы.

Зразумеўшы імгненна, што я зрабіў гэтым сваім недарэчным пытаннем — у якую сітуацыю іх паставіў, і прадчуваючы, як яны зараз зрэагуюць, я апусціў вочы і ўпёр пагляд у абшарпаную ножку стала. Хай бы я лепш прамаўчаў, нашто я выткнуўся! Ну, вядома ж, захацелі змахляваць, для сябе пакінулі. Ну, і чорт з імі, ну, і няхай бы!.. Але слова сказалася і адступаць было позна.

— Якія астатнія? — рэзка перапытаў Банук.

— Дык жа яшчэ сорак восем засталося,— выдавіў я праз сілу, густа чырванеючы і ўсё так жа не падымаючы вачэй.

— Яшчэ сорак восем? Ты што гэта выдумляеш? Што ты ерунду гародзіш? — злосна накінуўся на мяне Банук.

— Ну, як жа,— заварушыўся я на ўслоне, пераводзячы позірк на «мармеладны» ліст.— Усяго дзвесце, а размеркавалі — сто пяцьдзесят дзве...

— Ты глядзі, які грамацей знайшоўся, га! Мы тут цэлую гадзіну лічылі, афтарыцетная камісія, панімаеш, а ён, бач,— на́ табе! — падлічыў лепей!

Сказаў гэта Банук са злосцю, але ў шэрых вачах яго я ўбачыў вясёлыя хітраватыя іскрынкі, якія гаварылі прыкладна так: «Эйш ты, шэльма! З ходу падсек нашу бухгалтэрыю!..»

— Можа, мы дзе трохі сапраўды збіліся? — уважліва, запытальна паглядзела на старшыню крамніца.

— Таварышы! Мінутачку! Давайце афтарыцетна! Раз тут паступіла такая заява — прагонім яшчэ раз увесь спісак.— Банук узяў ліст і пачаў чытаць: — Барэйка Уліма — тры, Барэйка Васіль — пяць, Барэйка Вера — чатыры. Гілевіч Кацярына — пяць... Слухайце, таварышы! Тут мы, па-мойму, памыліліся: трэба Ка-

цырыне дабавіць, восем жа дзяцей у хаце! Давайце тры бляшаначкі накінем, га?

Ніхто не запярэчыў.

Не запярэчыў і я: не хапіла духу. Хаця да маёй свядомасці нешта дайшло — нешта непрыемнае, прыкрае. Радасці ад перамогі я не адчуў. І ад узнагароды за смеласць — тры дадатковыя бляшанкі! — таксама. У галаве ўсё больш выразна акрэслівалася: «Не за смеласць гэта, а за маўчанне. Каб трымаў язык за зубамі. Каб не плявузгаў дзе-небудзь».

Я моўчкі падняўся з услона і, як аблюманы пазаллем, пайшоў прэч, на вуліцу. І, канечне ж, нікому пра ўзнагароду не сказаў. Нават маме. Ганьба можа прыгаварыць да маўчання страшней, чым любая іншая сіла.

# КНІГА З КАМАРОЎСКАГА БАЗАРУ

Да чаго ж нямілая, непрыемная гэта справа — прадаваць на базары вішні! Асабліва калі табе няпоўных пятнаццаць, і ты любіш песні, музыку і паэзію, і сам складаеш вершы, і повен мар пра нешта вялікае, прыгожае, незвычайнае, і табе хочацца як найчасцей у свеце гэтых мар апынацца...

Але мушу прадаваць. Па-першае, дома вельмі патрэбны грошы: шэсцера дзяцей — вучацца, патрэбен адзетак, абутак, патрэбны падручнікі, сшыткі, алоўкі... Па-другое, гэта адзіная для мяне магчымасць пабываць у Мінску і за частку выручкі — з мамінай згоды — купіць хоць адну кніжку з вершамі, а яшчэ — які-небудзь блакноцік для сваіх зарыфмаваных летуценняў... Таму і бяру цяжэзныя — аж адрываюць рукі — кашы, абвязаныя поверху чыстым кавалкам зрэбнага палатна, каб у дарозе вішні не запыліліся, і выходжу з імі на дарогу. Жанкі, дзяўчаты нясуць свае кашы на карамыслах — лягчэй намнога, а я — так, у руках; пальцы млеюць імгненна, і я штохвіліны прыпыняюся, каб не выпусціць кашы з рук. Пра рэйсавы аўтобус мы тады яшчэ і марыць не маглі — ездзілі ў горад на спадарожных грузавіках. Шафёры, праўда што, бралі ахвотна — за трыццатку з носа.

Саромеўся я, прызнацца, сядзець з кашамі на тлумным базары і адмерваць шклянкаю вішні. Насыпаць у шклянку трэба з каптурком, са стрэшкай, і падтрымліваць даланёй, каб той каптурок не асыпаўся. З каптурком — абавязкова, бо іначай пакупнік зробіць заўвагу, а гэта для мяне і зусім нясцерпна.

— Как жа ты насыпаеш? — пачуў я аднойчы ад нейкай гладкай, падбародзістай, інтэлігентна апранутай гараджанкі.— Ты не скупісь, сып как палoжана! Дзенюшкі вон какія бярош: па пяць капеек за бубку!..

Помню, мяне ўразіла гэта дакладнасць: пачом бубка. Няўжо сапраўды па пяць? Ніколі не прыходзіла ў галаву прыкінуць, колькі гэтых бубак лезе ў шклянку.

Шклянка — рубель, значыць, калі па пяць, то ў ёй павінна ўмясціцца ўсяго дваццаць бубак. Так мала?.. Ад такой арыфметыкі яшчэ горш на душы стала. Халера б іх узяла, гэтыя вішні! Што ні кажыце, а нямілы, нямілы ўсё-такі клопат — прадаваць іх шкляначкамі на базары!...

Аднак жа два кашы за нейкую гадзіну раскуплены, выручка — ва ўнутранай кішэні майго падношанага картовага пінжачка, можна ісці на камароўскі развілак лавіць спадарожны грузавік і дабірацца дадому. Так, можна ехаць дамоў... Але базар — славуты Камароўскі базар у Мінску — повен народу, прадаўцоў і пакупнікоў, повен характэрнага нязмоўчнага шуму-гулу, галасоў-перамоваў, і мне хочацца яго абысці, паглядзець хоць трошку,— гэта ўсё-такі вельмі цікава.

З краю рассцеленай на зямлі невялікай дзяругі сядзіць на нізкай табурэтачцы паўнатвары, з падзакручанымі сівымі вусамі, стары ў капелюшы — мабыць, ад сонца, каб не паліла галаву,— а перад ім — кнігі. Дзесяткі два-тры невялікіх, тонкіх і зусім тоненькіх, а адна — вось гэта кніжышча! І бачыць такой не даводзілася! Вялізнага фармату і незвычайна тоўстая,— на паўпядзі, не менш. «Біблія, напэўна»,— падумаў. Прыгледзеўся — на досыць такі абтрэпанай, вышмальцаванай і выблеклай картоннай вокладцы ледзь чытэльныя літары, і яны склаліся ў слова: Пушкін. Пушкін?! Дык гэта... няўжо гэта... такі вялізны том Пушкіна?.. Замільгацелі ў галаве радкі з таго, што чыталі ў класе, у школе — па адзінаму падручніку і адзінай хрэстаматыі,— яны былі толькі ў нашай «русалкі» Марыі Пракопаўны, у нас жа, вучняў, ніякіх ні падручнікаў, ні кніг не было. І бібліятэкі пры нашай вясковай сямігодцы яшчэ не існавала.

І вось — Пушкін. Вялізны-велічэзны том. Я паставіў на дол кашы, прысеў на кукішкі перад Кнігай і, набраўшыся духу, не зусім вымоўна ад перахопленага дыхання, спытаў:

— Можна... паглядзець?

— Паглядзі...— не вельмі ласкава адказаў стары; глянуўшы на мае кашы, ён ужо не сумняваўся, што цікавасць мая да Кнігі, канечне ж, пустая.

Я далікатна, беражна ўзяў у рукі вялізны цяжкі том і пачаў асцярожна перагортваць... Вершы! Паэмы! Проза! А вось і яно — тое, што вучылі на памяць і што

я тысячы разоў паўтараў сам сабе — і дома, і па дарозе ў школу — усюды:

Товарищ, верь: взойдет она,
Звезда пленительного счастья...

А вось яшчэ! Вось: таксама — вядомае да апошняга радка, яшчэ з даваенных чытанак:

Как ныне сбирается вещий Олег
Отмстить неразумным хазарам...

А вось гэта, во! — хацелася мне закрычаць ад радасці і захаплення,— вось яно, тое самае,— да слёз, да спазмаў у горле роднае і блізкае:

Зима! Крестьянин, торжествуя,
На дровнях обновляет путь.
Его лошадка, снег почуя,
Плетется рысью как-нибудь...

Стары, напэўна, заўважыў — і па выразу твару, і па дыханню майму, і па тым, як трапятліва і далікатна я перагортваў старонкі,— што творыцца ў мяне ў душы і што прысеў я каля яго кніжнага развалу невыпадкова.

— Бяры, хлопец, не пашкадуеш,— паважна вымавіў ён.

Гэтак жа задыхаючыся ад хвалявання, я спытаў, колькі ён за гэту Кнігу хоча.

— Увогуле-то гэтай кнізе цаны няма,— адказаў стары.— Гэта ж Пушкін! Увесь Пушкін у адным томе! Але табе я аддам яе за...— і ён назваў суму, ад якой на душы ў мяне стала адразу ж сумна і пуста. Сума амаль дакладна раўнялася маёй выручцы за два кашы вішань. Выручцы, якую гэтак чакаюць дома!..

Збянтэжаны і разгублены, прыдаўлены пачуццём крыўды і сораму за сваю беднасць, я моўчкі паклаў Кнігу і пачаў — машынальна, няўважліва — разглядаць кніжачкі, раскладзеныя побач з ёю. А ў сэрцы і ў думках стукала адно: «Як жа я вярнуся без грошай? Што я скажу маме? Не, гэтага я не зраблю ні завошта!..» Але ўслед, тут жа не прамаўляла, а крычала ўва мне — як ад жаху — другое: «Ты не купіш гэту Кнігу? Ты паедзеш дамоў без гэтай кнігі?..»

— Бяры, хлопец, бяры, не думай,— зноў загаварыў настойліва дзед.— Гэта ж на ўсё жыццё кніга! Да ста гадоў кожны дзень чытаць будзеш! Чым мець многа

розных, лепш адну такую. На ўсё жыццё хопіць, на ўсё жыццё,— паўтараў ён вымоўна, сур'ёзна, упэўнена.

І мая выручка за вішні перайшла да старога. А да сэрца я прыціснуў Кнігу.

Так паявіўся ў нашай хаце свой Пушкін. Амаль увесь у адной кнізе. І сапраўды, я чытаў яе кожны дзень. Я — і мае браты, сёстры. А потым, як гэта вялося тады ў вёсках нашых, Кніга пайшла па суседзях, па хатах. І аднойчы — мяне тады ўжо дома не было, я ўжо вучыўся ў Мінску ў педвучылішчы — аднойчы яна не вярнулася. Напэўна, пайшла ў суседнія вёскі, далей, да новых чытачоў, якія пакутавалі ад духоўнага голаду не менш, чым у тыя галодныя гады ад фізічнага. Адным словам, больш я яе не бачыў. Кніга пайшла. Можна сказаць — растварылася ў народзе. У самой прасветла-ўдзячнай душы народа.

* * *

За доўгія дзесяцігоддзі, што прайшлі [illegible] таго часу, я неаднойчы блукаў сцяжынкамі Міхайлаўскага, стаяў каля магілы паэта ў Святагорскім кляштары, заходзіў у яго апошнюю кватэру на Мойцы ў Ленінградзе, бываў і на месцы найвялікшай трагедыі ў гісторыі рускай літаратуры — за Чорнай рэчкай,— і кожны раз думаў, успамінаў і думаў: а яго ж Кніга на маёй роднай беларускай зямлі жыве! Напэўна, хтосьці дбайна падклеіў у ёй патрапаныя старонкі, магчыма, прыбраў яе ў новыя трывалыя вокладкі... І ходзіць яна па руках і сэрцах чалавечых, па руках і сэрцах адзінапляменнікаў маіх, і абуджае ў кожным новым чытачы «пачуцці добрыя», а перш за ўсё, бадай,— пачуццё нашай глыбокай роднасці і брацтва з народам, які даў яе, тую Кнігу, і нам, беларусам, і ўсяму свету.

Разам з усімі дагэтуль чытаю Кнігу несмяротнага паэта і я.

Мудры стары сядзеў каля свайго кніжнага развалу на Камароўскім базары — у апажараным, знявечаным, зруйнаваным Мінску! Праўду казаў: бяры, хлопец, гэтай Кнігі табе на ўсё жыццё чытаць хопіць! Што праўда, то праўда. Мне — на ўсё жыццё. А майму народу, як і ўсяму чалавецтву,— на вякі.

## ЯСЕНІНСКІ СШЫТАК СУСЕДА

На пачатку жніўня 1946 года вярнуўся дамоў па дэмабілізацыі наш сусед і сваяк па маці старшы сержант запаса Уладзімір Барэйка. Апошнія два гады, пасля кантузіі, ён служыў у нейкай часці пісарам, таму што меў вельмі прыгожы почырк і быў даволі граматны таварыш: да вайны закончыў дзевяць класаў. Мяне ён помніў зусім падшыванцам, нават яшчэ не піянерам, а застаў, па вяртанні, лічы, пятнаццацігадовым — па тых часах, амаль дарослым. Пачуўшы ад кагосьці, што на вясковых вячорках, дзе збіралася моладзь, я «расказваю» свае ўласныя «сцішкі», ён, відаць, заінтрыгаваўся гэтым, бо аднойчы, калі я выйшаў на вуліцу, паклікаў мяне к сабе на лаўку каля хаты і спытаў:

— Гэта праўда, што ты сам складаеш сцішкі?

— Ну, а хто ж мне іх... Сам,— адказаў я, збянтэжаны пытаннем чалавека не толькі нашмат старэйшага, але і бывалага.

— Дык ты што — паэт?

Збянтэжыўшыся яшчэ больш, няйначай выкрыты ў нейкім нядобрым учынку, я прамармытаў:

— Ды я проста так, дзеля смеху...

Сусед сплюнуў пад ногі акурак, прытаптаў ботам — быў яшчэ ў ваеннай форме — і сказаў:

— Дзеля смеху, брат, гэта дзела не гадзіцца. Дзеля смеху і Ванька Сяртук перад вайной складаў...

Я помніў сёе-тое з напісанага Іванам Бладыкам (Сяртук — гэта была яшчэ ці не дзедава мянушка). Цяпер ён, казалі, працуе дзесьці на шахтах і на яго «сцішкі» ў вёсцы забыліся. А тады, перад вайной, яны нават змяшчаліся ў калгаснай насценнай газеце і, шчыра кажучы, мне падабаліся. Асабліва сатырычныя, ці, як у нас гаварылі, «смешныя», накшталт: «Толькі бедны брыгадзір на куце маўчаў адзін і ў гонар старшыні не ляпаў, бо той яму мачаннем морду абхляпаў...»

На імгненне я прыгадаў гэтыя радкі і сам сабе ўсміхнуўся.

— А ты знаеш такога паэта — Сяргея Ясеніна? — касавурачыся на мяне і без таго вельмі касым вокам, спытаў Барэйка.

— Ясеніна?..Не, не знаю,— пакруціў я галавою.

— І не чуў нават?

Я пацісну плячыма:

— Мусіць, не чуў... Не помню такога.

— Эх ты, сачыніцель! — кпліва выдыхнуў сусед.— Таму і складаеш дзеля смеху... Ды гэта ж лепшы ў свеце паэт! Зямлю прайдзі — такога другога не знойдзеш!..

Памаўчаўшы з паўхвіліны, дадаў:

— Пачакай мяне тут, я схаджу ў хату і зараз табе нешта пакажу.

Я сядзеў на лаўцы і ўспамінаў вядомыя мне паэтычныя імёны. І тыя, што ў падручніках, і тыя, што траплялiся ў газетах. Сяргей Ясенін? Не, такога нідзе не сустрэлася.

Сусед вярнуўся з перагнутым удоўж тонкім сшыткам у руцэ. Усеўся зноў побач і разгарнуў яго.

— Вот паслухай сюды. Я іх перапісаў з кнігі Ясеніна. У нашага начальніка штаба была — такі тоўсты томік. Вось гэта, напрыклад. «Письмо матери».

Ты жива еще, моя старушка?
Жив и я. Привет тебе, привет!
Пусть струится над твоей избушкой
Тот вечерний несказанный свет.

Я слухаў анямеўшы. Сіла счэпленых у радкі слоў здавалася мне неверагоднай, і радаснаму здзіўленню майму не было мяжы. Пасля «Письма...» ён прачытаў «Женщине», «Не жалею, не зову, не плачу», «Отговорила роща золотая...» і яшчэ некалькі — як стала для мяне відочна пазней — самых лепшых вершаў паэта. Чым далей я слухаў, тым мацней ахоплівала душу пачуццё якойсьці дзіўнай збянтэжанасці, ледзь не поўнай разгубленасці. Дагэтуль я чытаў вершы многіх-многіх паэтаў, асабліва тыя, што друкаваліся ў газетах і часопісах, чытаў і артыкулы пра паэзію, перш за ўсё ў нашых беларускіх выданнях, і меў досыць пэўнае ўяўленне пра гэты род літаратуры. Тое, што я чуў цяпер — нават у бязбожна абеларушанай падачы майго суседа,— здалося мне зусім інакшым, не падобным на ўсё, што чытаў раней. «Як жа гэта? — не мог я сабрацца з дум-

камі.— Гэта ж ён... усё пра сябе самога! Пра сваё асабістае! Ён жа... усю душу навыварат! Пра ўсе свае перажыванні, пра такія свае пачуцці, што... І не саромеецца, і не баіцца, што падумаюць... А якою мовай, якімі вобразамі ўсё гэта!..»

Мне не даваліся словы, каб аформіць думкі, каб авалодаць гэтым першым уражаннем, разабрацца ў ім. Але галоўнае рабілася зразумелым: вось як шчыра можна пісаць у вершах пра сябе! Не пра кагосьці там іншага, староннягa, а — пра самога сябе!

У той жа дзень, з дазволу гаспадара сшытка, я перапісаў вершы Ясеніна ў свой маленькі самаробны блакноцік. Пазней ён недзе згубіўся, хутчэй за ўсё, хтосьці з аднакласнікаў пазычыў яго, але бяды не было; я ведаў ужо тыя вершы на памяць. Папраўдзе кажучы: пакуль перапісваў — запомніў іх.

* * *

З таго часу мінула больш сарака гадоў.

Успамінаю — і дзякую лёсу, што так своечасова ён звёў мяне з геніяльнай лірыкай аднаго з самых вялікіх паэтаў свету і адкрыў для мяне найкаштоўную якасць паэзіі, якую я вызначаю цяпер як мужнасць лірычнай споведзі. Адчуванне гэтай якасці, гэтай яе загадкавай красы і сілы, веру маю ў бясспрэчнасць іменна такога шляху да сэрца чытача потым доўга і настойліва забівалі ўва мне таўстаскурыя крытыкі. Але хіба гэта можна ў душы вынішчыць, выкараніць?

Успамінаю — і дзякую незнаёмаму мне франтавому афіцэру, што прайшоў з томікам Ясеніна праз усю вайну і для якога мужнасць споведзі паэта пераклікалася ў тыя суровыя дні з мужнасцю воінаў, з мужнасцю народа.

Паклон светлай памяці франтавіка-суседа, чыё залатое салдацкае сэрца, згаладнелае па цяплу і ласцы, па пяшчотных, душэўных словах, не памылілася ў выбары, не ашукалася.

Зрэшты, іначай і быць не магло. Хіба ў рускай паэзіі кім-небудзь вымаўлялася слова болей пяшчотнае?

## ШЧАСЛІВЫ АБДЗІРТУС

Мабыць, нічога мне ў мае падлеткавыя гады так не хацелася, як навучыцца граць на гармоніку і набыць гэты музычны інструмент сабе ва ўласнасць, каб мог у любую хвіліну ўзяць у рукі і «адвесці душу», як-то кажуць.

Як помню, гранне вясковых музыкаў з самых ранніх гадоў маленства хвалявала мяне незвычайна. Абы пачуецца на вуліцы спеў гармоніка — я вопрамеццю вылятаў з хаты і ішоў туды, куды ішла музыка, і стаяў або сядзеў там, дзе гучаў — нярэдка на пару са скрыпкай ці з бубнам — гармонік. Дзеля гэтага вечна тырчэў — дзе-небудзь каля печы, у качарэжніку — на вечарынках, і не так глядзеў на танцораў (што рабілі ўсе іншыя гледачы), як на музыку і на звонкі, галасісты інструмент у яго руках. Асоба музыкі была для мяне, бадай, ці не самай аўтарытэтнай, і загадкавай, і прывабнай. Да чаго ж мне падабалася, як ён раптам урэжа польку ды так, што гэты гармонік ажно з рук у яго вырываецца, а ён то заверне галаву на адзін бок, то на другі, то прыкладзе вуха да самых мяхоў, а то закінезадзярэ нос высока ў столь і, прыжмурыўшы вочы, пачне «выдаваць» у такт з музыкай вясёлыя, дасціпныя прыпеўкі.

Першая ў маім жыцці спроба раздабыць свой гармонік адбылася летам сорак чацвертага. Спроба гэта, трэба прызнацца, хоць і не мела яўна злачыннага характару, але і да высакародных залічыць яе таксама не выпадае. Тыдні праз два пасля вызвалення ў Слабаду заглянуў на кароткую пабыўку маёр медыцынскай службы Палуэктаў. Ён дазнаўся, што яго жонка Люба з дзецьмі — дачкой і сынам — жыве ў Слабадзе, у бацькі Юстына Рулькевіча, куды, не паспеўшы эвакуіравацца, перабралася яшчэ на пачатку вайны. Дык вось Палуэктаў у падарунак свайму пяцігадоваму сыну Эдзіку прывёз нямецкі губны гармонік, трафейны, вядома. Слаўны, прыгожы гармонічак — у бліскучай металёвай

абкладцы і з музыкай на два бакі. Такой дзівоснай цацкі-падарунка ні ў кога з вясковых хлапчукоў не было зроду, і таму за Эдзікам хадзілі следам — цэлым гуртом — ці не ўсе слабодскія дзеці, пачынаючы ад яго равеснікаў і канчаючы падлеткамі. Кожны лічыў за шчасце хоць на хвіліну прыкласці гэту цацку да губ і выдзьмуць з яе «музыку». Разы са два пабывала яна і ў маіх руках, і, на здзіўленне сабе самому, я амаль адразу ж вывеў нейкую просценькую мелодыю. «Добра было б на гэткую музыку і мне разжыцца»,— падумаў я тады.

І здарылася так, што аднойчы на адвячорку, калі дзеці сядзелі грамадой — з Эдзікам у цэнтры — на кучы бярвення, хтосьці выпусціў гармонічак з рук, і ён слізгануў паміж двух бярвён у шчыліну і прапаў, мабыць, праваліўся аж да зямлі. Я падышоў да гурту хлапчукоў якраз тады, калі адны з іх зазіралі ва ўсе шчыліны — ці не віднеецца дзе бліскучая прапажа, другія — сварыліся на недарэку, па віне якога гэта здарылася, а трэція — суцяшалі Эдзіка, які, канечне ж, хліпаў носам,— суцяшалі тым, што яго дзед Юстын з мужчынамі раскоціць бярвенні і дастане гармонічак. «Раскаціць іх, бадай што, і мне пад сілу,— падумаў я.— Гэта скаціць у кучу цяжка, а раскаціць — папхні добра, дык яно і пакоціцца...» Да вечара гэта думка ў маёй галаве выспела і ператварылася ў канкрэтны план-задуму: ноччу, калі ўсе будуць спаць, бярвенні раскаціць і гармонічак узяць сабе. Дзе і як пасля граць на ім, каб людзі не пачулі? А хоць бы сабе дзе далёка ў лесе. Або ціхенька дома, калі ўсе разыдуцца з хаты. Галоўнае — завалодаць ім, а такая магчымасць ёсць.

Спаў я тады з братам у пуні на сене, таму выйсці мне ноччу на вуліцу было справай простай. Калі, па маіх разліках, час падбіраўся к апаўночы, я асцярожна, каб не скрыпнуць дзвярыма, выйшаў з пуні і праз колькі хвілін ужо быў на запаветным месцы. Пастаяў хвіліну, паглядзеў у абодва канцы вуліцы, паслухаў — нідзе ні душы і ні гуку. Давай! За работу! Бярвенні былі з калісь разабранай будыніны, а не сырыя, прывезеныя з лесу круглякі, таму, ведаў я, асабліва цяжкімі яны быць не павінны. Упершыся плячом і рукамі ў канец самага верхняга бервяна, я паднапружыўся штосілы — і скрануў яго з месца. І яно пакацілася. Але — божа мой! — з якім гулкім грымотным грукатам! Аж жудкавата стала, і я зноў замёр, каб прыслухацца да

цішыні ночы. І ў гэта імгненне зусім непадалёк чую знаёмы мужчынскі голас:

— Хто гэта тут што робіць?

Сэрца ёкнула і абарвалася ад страху. Стары Мароз! Чаго добрага са стрэльбай ды яшчэ і п'яны. Разганяў жа нядаўна вечарам людзей з вуліцы. Раздумваць не было калі, і выйсце ўявілася толькі адно: не вуліцай уцякаць, дзе ён убачыць і можа пазнаць мяне, а кінуцца ў чужы двор, вылецець за гумно, а там паўз сады-агароды да сваёй пуні. Так і зрабіў: перамахнуў праз зачыненыя вароты ў двор і панёсся.

— Стой, страляць буду! — закрычаў наўздагон Мароз.— Стой, кажу табе!

«Страляй! Скулу ты мяне з вуліцы бачыш!..» Да пуні дабраўся па пояс мокры — ліпеньскія росы густыя і шчодрыя. Хутка супакоіўся, што так шчасліва ўсё абышлося, прашаптаў сабе: «Чорт з ім, з тым гармонічкам!», сагрэўся ў духмяным сене і заснуў.

* * *

Музыкам-гарманістам у нашай вёсцы быў інвалід імперыялістычнай вайны Аляксей Мацвеевіч Давідовіч, або проста Матвеіч — для дарослых, ці — для дзяцей — дзядзька Матвеіч. Ад кантузіі ў галаву яму моцна пашкодзіла зрок — і ён, хаця і насіў таўшчэзныя акуляры, зусім кепска бачыў: глядзеў на свет, як праз густы туман. Жыў ён пры старэйшай сястры Алене, нічога асаблівага, апрача як плесці лазовыя кашы ды віць грубыя вяроўкі, рабіць не мог, можа, таму рашыў навучыцца граць на гармоніку — нярэдкі сярод людзей падобнага лёсу занятак. Здольнасці да музыкі былі ў яго, калі шчыра сказаць, зусім невялікія, і граў ён досыць прымітыўна. Многія гэта адчувалі, разумелі, і нават часам іранічна зазначалі: «Ну, Матвеіч ужо завёў сваё «туварва»!» І на матыў вальса пра залатыя горы перакрыўлялі: «Ту-вар-ва, ту-вар-ва, ту-вар-ва, ту-вар-ва...» Але паколькі лепшага ў вёсцы музыкі не было, на вечарынках заўсёды граў Матвеіч. Рэпертуар яго, а значыць і танцораў, не пашыраўся: танцавалі вальс, польку, караковік (так у нас называлі кракавяк), ойру, «лысага», «рэчаньку», падыспань, а таксама, «сербіянку» і «барыню». Песень ён граў мала, відаць, іх мелодыі даваліся яму цяжка, але затое адну з іх выконваў вельмі часта — і не толькі граў, але і спяваў. Упершыню

я пачуў ад яго гэту песню на зазімку сорак чацвертага, калі да яго ў хату падсялілася сям'я майго сябра Лёніка Кулакоўскага і я стаў амаль кожны дзень там бываць. К гэтаму часу Матвеіч застаўся адзін — сястра памерла, пляменніца некуды з'ехала, і даглядаць старога ўзялася Лёнікава маці, тым больш што свайго кутка-прытулку ў іх не было.

Аднойчы я пайшоў да сябра на прыцемку і яшчэ ў сенцах пачуў, што Матвеіч грае. Я ціха зайшоў у хату і ўбачыў, што дома ён адзін. Перабіваць гранне я не адважыўся, таму прыпёрся плячыма да сцяны, стаяў і слухаў. Мелодыя была мне не знаёмая і вельмі прыгожая. Я ажно здрыгануўся, калі раптам Матвеіч пад гэту мелодыю заспяваў — густым прыемным барытонам:

Шумел, горел пожар московский,
Дым расстилался по реке.
А на стене вдали кремлевской
Стоял он ■ сером сюртуке.

Он видел огненное море,
Он видел гибель впереди,
И призадумался великий,
Скрестивши руки на груди.

«Зачем я шел к тебе, Расея,
Европу всю держа ■ руках?
Теперь с поникшей головою
Стою на крепостных стенах.

Войска все, собранные мною,
Погибнут здесь среди снегов.
В полях истлеют наши кости
Без погребенья и крестов.

Судьба играет человеком,
Она изменчива всегда:
То вознесет его высоко,
То бросит в бездну без следа...»

Божа, колькі душы ён уклаў у гэтую песню, як яна, відаць, яму падабалася! Але гэтак жа моцна яна спадабалася і мне! І пазней, калі паміж намі скла́ліся досыць прыязныя адносіны, я звяртаўся да яго іншы раз з просьбай: «Дзядзька Матвеіч, сыграйце пра пажар маскоўскі!..» Хто такі Ён, вялікі, што стаяў з паніклай галавою, я ведаў, але песня ўспрымалася і па-сучаснаму, яе змест і вобразы так нязмушана дастасоўваліся да той вайны, якая толькі што схлынула з нашай апажаранай зямлі і яшчэ бушавала недзе далёка. Можа, гэтай

сугучнасцю, пераклічкай часоў яна імпанавала і Матвеічу? Не ведаю. Але яна была ў яго — у простага вясковага чалавека, у каго вайна адабрала яшчэ ў маладосці ўсе найбольшыя радасці жыцця,— бадай, ці не самай любімай.

Вясною, дзесь на прыканцы мая, калі я прывёз Матвеічу на ручной цялежцы сухога валежніку з лесу і ён быў вельмі ўзрадаваны гэтым і ўдзячны мне, я набраўся смеласці і папрасіў:

— Дзядзька Матвеіч, можа б, вы далі мне трохі пайграць на вашым гармоніку?

Разлік быў досыць дакладны: у гэтай сітуацыі адмовіць мне было цяжка, і Матвеіч, хоць, як то кажуць, і без асаблівай радасці, дазволіў.

— Вазьмі. Толькі памалу расцягвай, бо ён ужо чуць ліпіць...

Так, Матвеіч не любіў даваць у чужыя рукі сваю старэнькую «хромку», і яго можна было зразумець: яна, сапраўды, ужо ледзь трымалася, цяжка сапла і дыхала дзіравымі мяхамі, а падрамантаваць яе належным чынам магчымасці не прадбачылася: стары бабыль-інвалід быў гол як сакол і жыў, можна сказаць, з людскоe ласкі.

І аднак жа яго «туварва» ў мяне на каленях. Я паціху расцягваю мяхі і націскаю на «гузікі» — спрабую падабраць мелодыю яго безыменнага вальса, які на вечарынках кожны раз даставаў мне душу сваім сумнабалючым мінорным ладам. Падбіраю толькі па галасах, вядома, басоў не чапаю і моцна хвалююся і перажываю, што збіваюся і бяру не той гук, і думаю: от калі б не было побач дзядзькі Матвеіча, у мяне б выходзіла лепш. І дзядзька, няйначай, пачуў маё жаданне: пераканаўшыся, што з інструментам я абыходжуся далікатна, ён выйшаў з хаты. Я пачуўся вальней і памалу-патроху асвоіў мелодыю, нават паспрабаваў спалучаць галасы з басамі. Захапіўся-загарэўся я гэтым незвычайна, і было бясконца шкада, калі, вярнуўшыся з двара і паслухаўшы з хвіліну маё рыпанне, Матвеіч сказаў:

— Мусіць, хлапец, ужо хопіць, паіграў. Ты скажы бацьку, хай купляе табе гармонік, раз маеш хэнць да музыкі...

Лёгка сказаць — хай купляе! Я і пары з зубоў не пасмею пусціць наконт гэтага...

Зрабіўшы першую спробу прыручыць да сябе дзядзькава «туварва», спыніцца я ўжо не мог і шукаў роз-

ныя спосабы, каб задобрыць Матвеіча і атрымаць дазвол на чарговы ўрок музыкі. Спосабы гэтыя найчасцей зводзіліся да таго, што я прыносіў яму што-небудзь з яды: ці кавалак праснака, ці два-тры шайморавыя «галдыбікі», ці некалькі вараных бульбін. Усе мы жылі тады бедна, але адзінокі сляпы чалавек, відаць, бядней за ўсіх. На пачатку лета сорак шостага голад так прыціснуў і нашу сям'ю, што падтрымліваць Матвеіча чым-небудзь з яды стала для мяне амаль немагчымым. Але нават і ў гэткіх умовах цяга да музыкі перамагала. Помню: мама налівае ў вялікую місу варанае бацвінне, прыбельвае малаком (вось дзе быў паратунак — карова!) і кожнаму з нас кладзе па дзве бульбіны: малым — меншыя, нам, бальшунам,— трохі большыя. Усім — па дзве! Некалі звычайна бульба высыпалася з гаршка на настольнік, яе было многа, цэлая гара, і кожны еў у адвал — колькі хацелася. Цяпер давялося перайсці на дзяльбу, бо спрыт і апетыт за сталом няроўныя, і сёй-той можа аказацца пакрыўджаным. Вось і ў мяне пад рукою дзве невялікія ў мундзірах бульбіны. Божа, ды я з'еў бы з гэтым бацвіннем дзесяць такіх! Але з'ядаю толькі адну. А другую — неўпрыкмет, каб ніхто не заўважыў — соваю ў кішэнь. Другая — для дзядзькі Матвеіча. Гэта — усё, чым я магу цяпер з ім падзяліцца.

* * *

У першыя дні новага, сорак сёмага года на зімовых канікулах я паехаў у Мінск з цвёрдым заданнем — купіць сабе на базары больш-менш людскія штаны, шапку-вушанку і чаравікі. Патрэба ў гэтых рэчах была крайне пільная: штаны, у якіх я хадзіў у школу (а ўжо ж сямікласнік усё-такі!), былі латаныя-пералатаныя, старэнькая аблавушка на галаве, з салдацкага шлема калісьці пераробленая,— сорамна глядзець, чаравікаў жа наогул не было ніякіх. На гэтыя пакупкі мама дала мне пяцьсот рублёў (як іх наскрэбла — не ведаю) і строга наказала:

— На дарагое не разганяйся. Хай лепей трохі грошай застанецца, дома спатрэбяцца.

У Мінск я прыехаў пад вечар, пераначаваў у знаёмых і назаўтра, як толькі развіднела, ужо быў на Камароўцы. Дзень выдаўся марозны, да таго ж і ветраны, але людзей на базары — процьма. Прадаюць і купля-

юць усякую ўсячыну, але пераважна — рознае адзенне і абутак. Ёсць і тое, што мне трэба, але хапаць я не спяшаюся — прыглядваюся, прымерваюся, ці не задарага. Цану рублёўцы я, дзякаваць богу, ведаю, выкідваць на вецер не стану. Хаджу, абыходжу па крузе, перасякаю наўскасяк, прыслухоўваюся да галасоў, да запрашэнняў, да ўсяго, чым гудзе-гамоніць базар. І пачуў! Музыку пачуў! Хтосьці грае — і надта прыгожа. Але падобна, што не на гармоніку. Міжволі, уподбег, падаюся туды — на музыку. У невялічкім коле выпадковых слухачоў, а можа і пакупнікоў, чалавек сярэдніх гадоў, гараджанін з выгляду, грае на невялічкім срэбна-белым акардэоне.

— Гэта што — адна чацвертая ад поўнага? — спытаў хтосьці, калі музыка сціснуў мяхі і захукаў у пальцы.

— Ты ж бачыш, калі разбіраешся,— адказаў той.

— І колькі ты за яго хочаш?

— За шэсцьсот аддам.

У колцы людзей — маўчанне. Відаць, нікому з іх музыка не патрэбна і таргавацца яны не збіраюцца.

Я гляджу на цуд у руках мужчыны і не магу адвесці вачэй. Да чаго ж прыгожы, божа мілы! Увесь у перламутры! А як адсвечваюць, няйначай касцяныя, белыя клавішы! А як пабліскваюць чорныя! Ай-я-яй, які красунец! А гучыць як! Голас які незвычайны! Гэта не тое што дзядзькава «туварва». Во каб займець такую рэч у свае рукі!.. Ад гэтай думкі-мары ажно дыханне ў грудзях перахапіла. Шэсцьсот просіць? А ў мяне — пяцьсот. Але пры чым тут шэсцьсот ці пяцьсот? Хоць бы сабе і чатырыста — усё адно ты не купіш. Ты ж ведаеш, па што ты прыехаў, на што табе дадзены дома грошы.

Чалавек з акардэонам, мабыць, прачытаў на маім твары ўсё тое, што рабілася ў душы.

— Купляй, хлопча,— сказаў з націскам, з акцэнтам.— Не пашкадуеш. Новенькі, найлепшай нямецкай маркі: «Вельтмайстар»!

Толькі цяпер я агледзеўся, што колца слухачоў разышлося і я застаўся каля яго адзін.

— У мяне столькі грошай няма,— адказаў я так, як быццам уся справа была іменна ў недахопу сумы, а не ў тым, што я наогул купляць яго не маю права.

— А колькі ў цябе?

— Усяго пяцьсот,— прызнаюся сумленна.

— Э, не, за пяцьсот нічога не выйдзе!..

Чалавек павесіў акардэон на плячо і паволі, як усе на базары, пайшоў у адзін бок, а я ў другі.

Я ішоў і спрабаваў прыглядацца да адзетку, да абутку, нават спыняўся і глядзеў некаторыя рэчы, але адчуваў, што яны ўжо мяне мала цікавяць, што я думаю пра акардэон і ў думках ужо таргуюся з тым чалавекам. «А што, калі папрасіць яго харашэнька, каб уступіў сотню? Не, сотні не ўступіць. Многа. Паўсотні — можа б, і скінуў... А можа, хто-небудзь ужо купіў? Трэба пайсці пашукаць яго...» І я міжволі пачынаю, задраўшы галаву, глядзець ва ўсе бакі. Засяшаўся па кругавой, па якой тут і ходзяць усе, хто хоча хутчэй знайсці для свайго тавару пакупніка. Ага, вось ён! Не прадаў, трымае на плячы, а сам хукае ў далоні — без пальчатак, відаць, прыйшоў. Мы спаткаліся вочы ў вочы, і я не паспеў адвесці позірк, як ён запытаўся:

— Ну, што — не надумаўся? Будзеш купляць?

— Дык я ж сказаў вам... У мяне няма столькі.

— Ладна,— крактануў чалавек,— бяры за пяцьсот пяцьдзесят і будзь здароў. Зраблю табе скідку.

— Каб жа ў мяне было столькі... У мяне роўна пяцьсот...

— Э, не,— сказаў чалавек,— гэта ужо не тое. Паўсотні — яшчэ б уступіў, а сто — не магу.

І зноў ён пайшоў у адзін бок, а я ў другі. Глядзець мне ўжо нічога не хацелася. Думкі мае былі цалкам заняты акардэонам. «А вот жа не прадаў яшчэ! Ужо, лічы, гадзіну ходзіць, а ніхто не купляе». І ад таго, што «яшчэ не прадаў», мне трохі ўцешней робіцца на душы і я шпарка чашу па кругавой, каб спаткацца зноў і пераканацца, што акардэон яшчэ не прададзены. Хвілін праз дзесяць мы спаткаліся зноў і — размінуліся моўчкі. Чалавек як бы і не заўважыў мяне, хаця я бачыў, што заўважыў. І яшчэ раз праз нейкі час спаткаліся — і таксама размінуліся моўчкі. Але я тут жа завярнуўся і пайшоў за ім назіркам следам. І адлегласць паміж намі ўсё скарачалася, бо я прыбаўляў кроку — бо мне хацелася быць бліжэй да таго бліскучага перламутравага цуда, каб у выпадку чаго крыкнуць: «Не прадавайце! Заклінаю вас! Не прадавайце яму! Мне прадайце! Мне! Хай сабе ў мяне і меней грошай, затое...» Што — затое? Што?..

Чалавек раптам запыніўся, абярнуўся назад і ўбачыў перад сабою... мяне. За паўкрока.

— А-а, ты тут, аказваецца,— сказаў ён як быццам нават трохі ўзрадавана.— Ну дык што будзем рабіць?

— Не ведаю... Я сказаў, колькі ў мяне ёсць. Калі б у мяне было болей, ці ж бы я з вамі таргаваўся!..

Чалавек памаўчаў, паглядзеў на мяне і раптам кажа:

— Пакажы-тка сюды свае рукавіцы!

Я не адразу ўцяміў, нашто яму мае рукавіцы, але імгненна сцягнуў іх з рук і падаў яму. Рукавіцы былі адмысловыя, з чыстай белай воўны і яшчэ зусім не ношаныя — мама звязала іх перад самым Новым годам. Першы раз у гэту дарогу надзеў іх.

— Ну, вот што,— сказаў чалавек, не здымаючы мае рукавіцы з рук.— Давай да гэтых рукавіц свае пяцьсот рублёў і забірай акардэон. Апрыкрала мне ўжо з табой таргавацца...

Яшчэ не верачы ў шчасце, якое да мяне прываліла, я выцягнуў з-за пазухі і падаў чалавеку ў маіх рукавіцах грошы. Ён спрытна пералічыў іх і таксама сунуў запазуху. А невялічкі бліскучы перламутравы «Вельтмайстар» апынуўся на маім плячы...

У адкрытым кузаве грузавіка, які вёз мяне да Лагойска, я вельмі хутка зразумеў, што не такая і малая даплата да паўтысячы — мае рукавіцы. Трэба затуляць ад пранізлівага, пякучага ветру шчокі, нос, а голыя рукі мерзнуць і карчанеюць. Схаваю іх у рукавы — чую, што пачалі заходзіцца шчокі і што трэба неадкладна церці нос. А стукаць увесь час нага аб нагу — гэта само сабою: буркі ў гумавых чунях — не валёнкі, мароз да пальцаў дастае. Ісці ў іх цёпла, а калі сядзіш нерухома,— прабірае. Так і еду: то тру нос і шчокі, то засоўваю далоні ў рукавы,— чаргую гэтыя прыёмы праз кожныя дзве-тры хвіліны. І аднак жа настрой невыказна святочны, у грудзях — цёпла. Цёпла ад той радасці, што ляжала, закручаная ў тонкую кужэльную прасцінку, у мяне на каленях. Прасцінку мама дала мне з сабой замест торбы, каб загарнуў у яе хатулёк з пакупкамі (куфэрка дарожнага ў нашай хаце тады яшчэ не было).

У Лагойску я мог бы зайсці да роднага дзядзькі Валодзі абагрэцца, але мне так карціла скарэй апынуцца дома і ўзяць у рукі перламутравы цуд, што, злезшы з машыны, я адразу ж памахаў пяшком на Гайну. Хатулёк я асцярожна заклаў за плечы і канцы прасцінкі звязаў на грудзях вузлом, каб вызваліць рукі і было

льга іх грэць у рукавах. Амаль усю дарогу я ішоў подбегам, а то і бягом бег, загадзя рыхтуючы сябе к таму, што скандал будзе дома страшэнны. Хваляваўся, але і супакойваў сябе: «Ну, не заб'юць жа насмерць за гэта! Ну, пакрычыць мама, канечне, пасварыцца, пазлуецца... Але ж затое якая рэч у руках будзе!..»

Напачатку мне пашанцавала: дома я зусім нікога не застаў. Мама была дзесь у суседзяў, а дзеці яшчэ не вярнуліся са школы. Я скінуў з сябе ватоўку, разуўся, шмыгануў на печ і сунуў пад гарачую коўдру рукі. Адагрэўшыся трохі, сеў на краю чарэні, нагамі на пяколак, і заклаў рамяні акардэона за плечы. Гэй, мілыя-любыя родныя мае, гэй, дарагія людзі ўсяго свету! Ці хочаце вы пабачыць самага шчаслівага чалавека на зямлі? Хочаце? То паглядзіце, калі ласка, на мяне! Вось яна — здзейсненая запаветная мара! Вось!..

І ў гэты самы момант бразнулі клямкай дзверы. Зайшла мама. Убачыла маю галаву за комінам.

— Ты ўжо дома? — здзівілася.— А ці даўно?

— Толькі што... Хвілін пяць, як раздзеўся.

— Моцна змерз?

— Не надта. Так, трохі...

— А гэта што? — убачыўшы на грудзях у мяне акардэон, кіўнула галавою.

— Купіў,—кажу. А сам усміхаюся так, што можна падумаць,— жартую.

— Як... купіў? — па твары ў мамы прабег цень трывогі.

— Звычайна,— працягваю я вінавата і блазнавата ўсміхацца.— На базары, у аднаго чалавека...

— А... за што ты купіў? — спытала мама, і я адчуў, што яе абымае жах здагадкі. Усмешка з маёй шчаслівай фізіяноміі сыходзіць, я звешваю над акардэонам галаву, тру без патрэбы нос, нейкую долю хвіліны маўчу, а затым адказваю:

— За грошы... Яшчэ і рукавіцы прыйшлося аддаць у прыдачу...

І мама зразумела, што я зусім не жартую.

— Ды ты звар'яцеў, відаць? — прамовіла яна амаль у роспачы. А потым: — А-ай, людцы мае! Што ён нарабіў! Што ён нарабіў, негадзяй няшчасны!

На шастку каля печы вісеў хвастач — доўгі льняны ручнік, якім звычайна выціраюць посуд. Мама схапіла гэты хвастач і пачала мяне штосілы шлёгаць ім па нагах, па руках, па чым папала. Стамілася, кінула хвас-

тач на ложак, адышлася да стала, села на ўслон каля акна і заплакала. Ад крыўды і бяссілля. Ад таго, што гэткае неразумнае дзіця ў яе вырасла. Дала яму грошы на адзетак-абутак, а ён во што прывёз з базару: туварва!...

Убеглі малыя ў хату. Убачыўшы маму ў слязах — спужаліся. Глядзяць на мяне, а я ім усміхаюся і падміргваю.

— Мама, чаго ты? — нясмела пытаецца Света.

— Вунь, паглядзіце на гэнага негадзяя. Яшчэ і выскаляецца да самых вушэй, абдзіртус няшчасны! Ну, пачакай, рыштант! Будзеш ты цяпер свяціць голым задам цэлы год! І ў школе і на вуліцы. Пагляджу, як ты тады павыскаляешся!..

Мама выцерла далонёю вочы, паднялася з услона і праз хвіліну ўжо загрымела засланкай: трэба даваць дзецям палуднаваць.

І я зразумеў, што галоўная бура пранеслася. Ну, а што пахаджу яшчэ колькі часу абдзіртусам, нічога страшнага. Пацярплю. Дзеля здзяйснення мары і не на такія страты пайсці можна!..

# ВЯСЕЛЬНЫ ПІНЖАЧОК

У Слабадзе навіна: Ванька Маўчан жэніцца. Бярэ нейкую Надзю з Жыліч.

Жылічы — невялікая вёсачка, кілометры за чатыры ад нашай Слабады, там, дзе града пагоркаў асабліва высокая і дзе шмат равоў і крутаяраў.

Жэніцца дык жэніцца — падзея не бог ведае якая. Але мне яна прынесла, зусім нечакана, нямала хвалявання.

Вяртаюся я апаўдні са школы, з Гайны, а мама і кажа:

— Прыходзіў Ванька Маўчан, цябе хацеў бачыць.

— Не сказаў нашто?

— Сказаў. Хоча ў цябе пінжачка пазычыць на веселле.

— Пінжачка? — перапытаў я здзіўлена, і голас мой выдаў расчараванне.— І што ты яму сказала?

— Сказала, каб прыходзіў, як будзеш ты дома. Я ўжо без цябе распараджацца не стала. Вечарам зойдзе ізноў.

Радасці ад візіта суседа-жаніха я не чакаў ніякай. Шчыра кажучы, пазычаць каму б то ні было пінжачок мне не хацелася. Пінжачок быў у мяне на асобным рахунку, быў не проста святочным адзеннем, а прадметам надзвычайнай любасці і пашаноты. Паходжаннем ён быў юнраўскі — гэта значыць, з тых падарункаў, якія паступалі ў Савецкі Саюз, пацярпелым ад вайны людзям, з Амерыкі і некаторых краін Заходняй Еўропы. Разам з іншымі трантамі, якія дасталіся нашай сям'і— мнагадзетнай і партызанскай,— аказаўся і гэты пінжачок. Яшчэ зусім мала ношаны, чорны, шаўётавы пінжачок! І падышоў ён не старэйшаму брату Леўку, у якога, можна сказаць, кавалера, было на гэтакую рэч больш правоў, а мне. На мне ён сядзеў — як уліты! Я апупеў ад радасці і шчасця. Прахадзіўшы два гады па вызваленні абдзіртусам і галадранцам — раптам разжыцца на такі пінжачок! Натуральна, што надзяваў

я на сябе гэты юнраўскі падарунaчак толькі па святах ды на вечарынкі. Якраз у гэту пару я спрабаваў авалодаць першай ступенню ўсеагульнай самадзейнай школы танца: застаўшыся сам-насам з сабою дома, я вытылінгаваў пад язык вальса ці польку і, куляючыся праз нагу, «танчыў». Неўзабаве адважыўся выйсці пад музыку на круг і пры людзях. Ці трэба дабаўляць, што і пра дзяўчат пачаў думаць больш, чым яшчэ год назад! А калі так, дык у зграбным замежным пінжачку заявіцца на вочы маіх вясковых равесніц — гэта ўжо сёе-тое значыць! Вось чаму і захваляваўся я. Не пазычыць пінжачка — няёмка, непрыгожа. Сусед жа ўсё-такі, да таго ж нядаўні франтавік і да мяне ставіўся, можна сказаць, з павагай, вылучаў сярод усіх пашавэлкаў. Але і пазычыць — страшнавата: вяселле ёсць вяселле, там і п'юць, і ліюць, і, не дай бог, аблюмаюць і сапсуюць такую рэч!..

Думай і рашай як хочаш, а тым часам, на прыцемку, Ванька Маўчан зайшоў. Будучы ўпэўненым, што мама ўжо мне пра яго папярэдні візіт сказала, ён адразу ж звярнуўся да мяне:

— Дык вот прыйшоў, дарагі мой суседзе, біць табе чалом: прасіць на два вечары пінжачка. Ты ж ужо, канечне, чуў: жанюся я, брат, вяселле ў нядзелю спраўляю. Якое там, шчыра кажучы, вяселле, адно дзеля прыліку, ну, але ж сёй-той з радні прыйдзе і вечарынка будзе, Касёк равячынскі паабяцаў парыпаць... Скажу табе праўду, што я не прыйшоў бы з гэтай просьбай, абышлося б і так, усё адно ўсе ведаюць, які я багатыр, але пляменніца мая, Зіна Гіленіна, такую, брат, адпаліла штуку, што мне ўжо няма куды дзявацца. Узяла, брат, ды запрасіла на вяселле нейкага пісьменніка!

— Пісьменніка? — перабіў я міжволі.

— Ну да! Самага сапраўднага пісьменніка! Казала, і кніжкі ёсць, і ў газетах часта піша, вот толькі не магу прозвішча ўспомніць... Зіна з яго жонкай дружыць, нават трохі жыла ў іх на кватэры, і кажа — захацеў пабыць у вёсцы на вяселлі. Вот, брат, якую дыверсію мне ўстроіла. З аднаго боку, дык і гонар вялікі: знакаміты чалавек у маёй хаце ў застоллі будзе, а як з другога, дык сам, брат, разумееш: вот, усё што бачыш на мне, гэта неданошаная салдацкая пара — увесь мой адзетак: і на будні, і на свята, і на зіму, і на лета, другога няма; ну і перад культурным чалавекам з горада,

перад пісьменнікам, сорамна будзе свяціць гэтымі латамі...

Сусед па чарзе паказаў мне абодва локці, на якіх красаваліся вялікія, такія ж выцвілыя, як і ўся гімнасцёрка, латы. Затым павярнуўся да мяне спіною:

— Вот, можаш і на плечы зірнуць — таксама палезла ўжо, мама ўчора залатала... Дык вот, брат, пад пінжачком гэта ўсё не відаць было б...

Аргумент быў настолькі важкі, што я без слоў пайшоў на другую палавіну хаты і вынес яму свой юнраўскі пінжачок. Я ўжо зусім не думаў, што з ім можа стацца за два дні вяселля,— уся мая істота была запоўнена толькі адным: у нашу вёску прыязджае сапраўдны пісьменнік, на вяселлі будзе нейкі знакаміты беларускі пісьменнік! І ўсё, што я змог сказаць, уручаючы пінжачок, гэта:

— Цікава, як жа яго прозвішча, які пісьменнік?..

— Я абавязкова спытаю ў Зіны і пасля табе скажу. Яна і гаварыла мне, ды вот — забыўся!..

Ванька акуратна перавесіў пінжачок на сагнутай руцэ і, шчаслівы, падаўся дадому.

У нядзелю вечарам я, канешне ж, не выцерпеў і, ведаючы, што цяпер на вяселлі ў Ванькавай хаце шмат гледачоў, перш за ўсё жанчын, якія прыходзяць па адвечнай завядзёнцы паспяваць вясельныя песні, наважыў заглянуць туды хоць на хвілінку таксама. Трэба ж пабачыць жывога пісьменніка! Першы раз у жыцці! Было, вядома, досыць няёмка ісці нязванаму ў хату, але цікаўнасць перамагла. Праз галовы жанок, што стаялі ў парозе і пелі, я акінуў позіркам застолле і адразу ж распазнаў пісьменніка — пытацца ў каго-небудзь знарок не было патрэбы. Адкрыты і просты твар, ледзь-ледзь выпуклыя вочы, высокі і роўны лоб з відочнымі залысінамі, шыкоўныя кучаравістыя валасы. А сам у афіцэрскім кіцелі, зашпіленым пад самы падбародак. Безумоўна, гэта і ёсць ён, пісьменнік. Таму што амаль усіх астатніх я ведаў асабіста, а каго не ведаў — з радні маладой, з прыезджых, дык іх лёгка выдавала занэндзанае вясковае аблічча.

Аб тым, каб мне спаткацца і пазнаёміцца з сапраўдным пісьменнікам, не магло быць і гаворкі. Хіба што каб яму нехта сказаў, што я пішу і друкую вершы ды каб ён зачапіў мяне сам! А так — па сваёй ініцыятыве — нізашто! Ні ў якім разе! Вытыркацца са сваімі сціпкамі перад незнаёмым чалавекам? Ды яшчэ перад

тым, хто сам піша кніжкі? На гэта я не буду здольны ні праз дзесяць, ні праз дваццаць, ні праз трыццаць гадоў. Амаль усё жыццё мне неяк удавалася абыходзіцца без такога вытыркання, і калі часам трэба было знаёміцца і ў мяне пыталіся, дзе я што раблю, з чаго ем свой хлеб недармовы,— я спакойна адказваў: «Працую ва універсітэце, вучу студэнтаў...» І гэта была праўда.

Праз дзень па вяселлі сусед аднёс мне пінжачок — у поўным парадку, і не парваны, і не аблюманы. Але прозвішча свайго госця-пісьменніка назваць мне так і не змог. Забыўся спытаць у пляменніцы!

— Ай, брат! — вінавата заайкаў ён, пераступіўшы парог хаты.— Гэта ж я абяцаў табе даведацца — і на́ табе! Вот галава-рэшата! Даруй, браток, прыедзе ў наступны раз Зіна, абавязкова спытаю!..

Месяцаў праз пяць-шэсць у ліпені таго ж сорак сёмага года на першай рэспубліканскай нарадзе маладых літаратараў у Мінску я лёгка пазнаў свайго першага «жывога пісьменніка». Спытаў у кагосьці: «Хто гэта, не знаеце?» І мне адказалі: «Іван Грамовіч, празаік...»

Яшчэ гадоў праз пяць-шэсць мы пазнаёміліся нарэшце асабіста. Вяселле ў Слабадзе ён добра помніў, неаднойчы згадваў пры нагодзе і расказваў аб ім у вясёлым гумарыстычным тоне.

## ТАК І НЕ ПАВЕРЫЛІ

Чамусьці так атрымлівалася, што ў школу я ніколі не прыходзіў задоўга да пачатку першага ўрока. Часцей за ўсё — перад самым званком, а то і са званком разам. Іншы раз і спазняўся на мінуту-другую, што, хаця і не падабалася настаўнікам, лёгка даравалася: усё ж такі [redacted] суседняй вёскі, кілометры тры трэба пратэпаць, часам зімою, як намяце за ноч, дык і па цаліку, па калена ў снезе.

Як звычайна, якраз са званком, прыйшоў я і ў той сонечны лютаўскі дзень, які дагэтуль мне помніцца як самы змрочны і горкі за ўсе тры гады вучобы ў Гаенскай сямігодцы. Вучыліся мы тады, вучні старэйшых класаў, у былым доміку для ксяндзоўскіх памочнікаў, ці абслугі, за руінамі колішняга старажытнага касцёла — аднаго з першых шасці касцёлаў на Беларусі. У гэтым жа доміку, у маленькім пакоі [redacted] другога ўваходу, была і настаўніцкая. У цесным калідорчыку, дзе стаяў бляшаны бачок з вадою, вісела дошка для аб'яў і школьная насценгазета, тоўпіліся вучні і чагось рагаталі. Я падышоў бліжэй і ўбачыў на дошцы доўгі, густа спісаны зверху да нізу, аркуш паперы.

— Што тут такое? Чаго вы рагочаце? — спытаў я ў кагосьці з нашых.

— Сціпюк пра настаўнікаў, такі смешны-смешны!..

Я ўціснуўся ў гурт і таксама пачаў чытаць, але не паспеў адолець і адной трэці, як паявілася піянерважатая, рашуча расштурхала дзяцей у бакі, садрала з дошкі аркуш і шпарка пайшла з ім у настаўніцкую.

Сціпюк пра настаўнікаў?.. Помню, што гэта ўразіла мяне непрыемна. У мяне адносіны да настаўнікаў, яшчэ з даваеннага часу, з першых дзён у школе, былі глыбока пашаноўныя і пачцівыя. Хоць часам і даводзілася пра сяго-таго з іх пачуць markdown рознае, і не надта добрае, але я ўспрымаў такія размовы не толькі без зларадпасці, а нават як штосьці прыкрае,— нібыта публічна адкрывалася таямніца, якую адкрываць нельга, непрыстойна.

Каб вучні ды склалі смешны, значыць, сатырычны, верш пра настаўнікаў? Гэта — нядобра. Гэта — непрыгожа. Усёй істотай я адчуў, што зробленая некім рэч неразумная і брыдкая.

— А хто напісаў? — наіўна запытаў я суседа па парце Франца Думанскага, мабыць, яшчэ не ведаючы, што ёсць і такі эпісталярны жанр, як ананімка.

— Не знаю... Там не падпісана. Хто ж гэта пад такім падпішацца! Яго б адразу са школы выключылі!..

Відаць, у настаўніцкай чыталі ананімны насценны фельетон, бо прайшло хвілін пяць, а выкладчык у наш клас не ішоў, урок не пачынаўся. Тыя з нашых, з сямікласнікаў, што паспелі прачытаць «сціпюк», узбуджаныя і вясёлыя, пачалі наперабой цытаваць яго — па два-тры радкі, хто што запомніў. Нават па гэтых радках было бачна, што напісаны фельетон вельмі бездапаможным, нязграбным, каструбаватым вершам, які, уласна, і вершам назваць нельга. Той, хто пісаў, быў зусім не ў ладах з рытмічнай арганізацыяй мовы, усё ішло на нейкай кульгавай — цераз пень-калоду — дапатопнай сілабіцы (на той час у элементарнай сістэме вершаскладання я ўжо досыць добра разбіраўся).

Але вось зайшоў і настаўнік — выкладчык алгебры і геаметрыі Уладзімір Антонавіч Рыбчык. Ён любіў і добра ведаў свой прадмет, заўсёды талкова, даступна і пераканаўча тлумачыў, быў адным з найбольш паважаных і аўтарытэтных у вачах старшакласнікаў і ў маіх таксама. Замест звычайнага заўсёднага «хто сёння адсутнічае?» ён стрэліў сярдзітым позіркам у мой бок і глуха прабасіў:

— Гілевіч, да дырэктара!..

У мяне нядобра ёкнула сэрца. Мне — ісці да дырэктара? Навошта я яму? Што здарылася? Я недаўменна паглядзеў на Уладзіміра Антонавіча і выйшаў з-за парты.

— Папаўся! — ціха сказаў хтосьці мне ў спіну.

«Чаго ён выклікае? Ды яшчэ з самай раніцы? Нашто я спатрэбіўся?» — трывожна пульсавала думка, пакуль я ішоў да настаўніцкай. Дырэктар у нас, Іосіф Іосіфавіч Жардэцкі, быў строгі, немнагаслоўны, няўсмешлівы, і мы, прызнацца, трохі яго пабойваліся. Было яму тады, відаць, гадоў трыццаць, але яго густая, чорная, заўсёды акуратна прычэсаная шавялюра была спрэс пабіта сівізною, за што вучні і называлі яго за вочы «сівым». Да таго ж ён вельмі часта, раз-пораз,

моргаў вейкамі, і гэта як бы дабаўляла яго пагляду суровасці.

Дырэктар стаяў за сталом і на мой «добры дзень!» не адказаў, ад чаго ў мяне яшчэ больш трывожна заныла ў грудзях. Было бачна, што нічога добрага мяне не чакае. Ён доўга глядзеў мне ў вочы, моргаў вейкамі і маўчаў, і чым даўжэй цягнулася яго маўчанне, тым больш мне рабілася не па сабе.

— Твая работа? — кіўнуў ён нарэшце на доўгі аркуш паперы, які ляжаў перад ім на стале.

— Якая работа? — перапытаў я, адчуваючы, як мне робіцца горача, як млеюць і падкошваюцца ногі: толькі цяпер, раптоўна, я зразумеў, што ён лічыць мяне аўтарам таго «смешнага сцішка» і менавіта дзеля гэтага паклікаў да сябе ў настаўніцкую.

— Ты напісаў... гэта паскудства?

— Я нічога не пісаў! Я нават не паспеў прачытаць яго. Я толькі пачаў чытаць, як піянерважатая яго садрала! Спытайце вучняў, яны бачылі...

— Дык а хто ж тады, калі не ты?

— Не ведаю. Адкуль жа мне ведаць! Я прыйшоў у школу, калі звінеў званок, а ліст ужо вісеў, ужо яго чыталі,— пачынаю я паўтараць нібыта пераканаўчы доказ маёй невінаватасці.

— Павесіць мог хто-небудзь і іншы, які-небудзь твой сябар,— падсек дырэктар.

— Дык не пісаў жа я!..

— Ну а хто ж у нас яшчэ піша вершы? Ты пішаш. У «Бярозцы» ж твае вершы надрукаваны...

Тое, што я складаю і нават друкую «сцішкі», ведалі ў школе ўсе. Але няўжо дырэктар і настаўнікі не бачаць розніцы? Хіба мае вершы падобны на гэты нязграбны, разлезлы «сцішок», напісаны зусім нявопытнай, бездапаможнай рукой? Няўжо яны не бачаць розніцы?

— Мае вершы не такія,— з годнасцю прамовіў я, колькі секунд памаўчаўшы.— Гэта нават ніякі не верш. У ім нічога складнага. Абы-як і абы-што наплецена...

— Адкуль жа ты ведаеш, што ў ім наплецена? Ты ж яго не прачытаў! — падлавіў мяне дырэктар.— Вось бачыш: вот ты і прагаварыўся. Значыць, ты напісаў усё-такі!

— Я не пісаў! Чэснае камсамольскае — не пісаў!— горача запярэчыў я, адчуўшы, што ён мяне наўмысна заблытвае. Нервы не вытрымалі, затурзаліся ў горле

спазмы, на вочы набеглі слёзы. Але я не выціраў іх. Стаяў там жа, каля дзвярэй, і скрозь цёплую імглу глядзеў у падлогу.

— Вось бачыш,— сказаў ужо спакайней дырэктар.— Хлусіш, а яшчэ і чэснае камсамольскае даеш... Ідзі! — дадаў, крыху памаўчаўшы.

Я выйшаў на школьны двор, пастаяў хвілінку, выцер вочы, каб не заўважылі, што разрумзаўся, трохі супакоіўся і пайшоў у клас. Настрой быў страшэнны. Крыўда перапаўняла мяне ўсяго і проста душыла. Як яны маглі дадумацца, што гэта зрабіў я? Як яны маглі прыпісаць мне гэты нязграбны і паскудны «сцішок»? Я і пра самыя факты, што ў ім пададзены, нічога не ведаю! (Факты датычылі бытавых і інтымных узаемаадносін некаторых настаўнікаў. Ведаць пра іх, хутчэй за ўсё, маглі вучні з самое Гайны.)

Я вярнуўся ў клас, сеў на сваё месца, але апомніцца, адкаснуцца ад цяжкіх думак, якія глушылі свядомасць, не мог. Таму аж уздрыгнуў, калі настаўнік назваў маё прозвішча і сказаў тлумачыць апошнюю з дамашняга задання тэарэму. Я ўстаў і, не падымаючы вачэй, схлусіў:

— Я не зрабіў дамашняга задання...

Такое і ён і вучні пачулі ад мяне ўпершыню.

— Чаму не зрабіў?

Я прамаўчаў. Зноў па-здрадніцку падступілі да вачэй слёзы.

— Сядай, раз не зрабіў. Стаўлю табе законную двойку. Давай сюды дзённік...

На наступным уроку настаўніца беларускай мовы і літаратуры Ядвіга Іосіфаўна Лайкоўская нават не стала правяраць прысутнасць у класе — адразу ж пасля «дабрыдзеня» сказала мне чытаць дамашняе заданне па граматыцы. Схлусіўшы адзін раз, можна схлусіць і другі.

— Я не выканаў,— кажу.— Не зрабіў...

— Ну, вядома! — усклікнула, як бы іменна гэтага адказу і чакала ад мяне, Ядвіга Іосіфаўна.— Не меў жа часу на гэта! Трэба ж было пісаць тое паскудства!..

Пазней я даведаўся, што ў тым бессаромным пасквілі ёй дасталося ці не больш, чым іншым. Я прамаўчаў і сеў. У дзённіку паявілася яшчэ адна двойка.

Трэці ўрок у той дзень быў па геаграфіі. Выкладала гэты прадмет мая дваюрадная сястра Зінаіда Пятроўна. Голас, якім яна павіталася з класам і спытала «каго

няма?», прагучаў неяк не натуральна, узбуджана, і выраз твару быў, помніцца, якісьці спуджаны, разгублены.

— Та-ак, першым сёння пойдзе адказваць урок...— тут яна зрабіла кароценькую паўзу,— Гілевіч!

І ў трэці раз я падняўся з месца і сказаў:

— Я не ведаю сёння ўрока, не вывучыў...

— Сядай! Двойка! — адразу ж, ледзь я дагаварыў, і неяк радасна-пераможна, як быццам гэтага і чакала, і ведала, што так будзе, аб'явіла Зінаіда Пятроўна.— У наступны раз будзеш займацца ўрокамі, а не рыфмаваць усялякія брудныя плёткі!..

Што і сястра паставіць мне двойку,— гэтага то я ўжо напэўна не чакаў. Спанурыўшыся, даседзеў да канца ўрока, ускінуў на плячо сваю брызентавую сумку і, нічога нікому не сказаўшы, пайшоў дадому. Усю дарогу думаў толькі пра адно: «Як яны маглі прыпісаць мне гэны брудны пасквіль? І чаму яны мне не паверылі? Я ж даў ім чэснае слова!.. І што цяпер будзе? У злосці будуць помсціць мне, зусім не вінаватаму, і далей?..»

Дырэктар тым часам, відаць, пазваніў майму бацьку ў сельсавет, старшынёй якога ён незадоўга перад гэтым стаў. Бо за полуднем бацька, які ўвогуле мала цікавіўся школьнымі справамі сваіх дзяцей, раздражнёна запытаўся:

— Што ты там сёння натварыў у школе?

— Нічога я не натварыў! Прыдумалі на мяне.

— Як жа нічога! Жардэцкі сказаў, што нешта паскуднае напісаў там.

— Ды не я гэта! Чэснае слова — не я! Гэта нехта іншы... Я не ведаю, хто... А ўсклалі на мяне.

— Ну, раз даеш чэснае слова,— я веру.

На душы стала лягчэй: дома паверылі, што я невінаваты. А з цягам часу павераць і настаўнікі. Не можа быць, каб не паверылі! Па-першае, сапраўдны віноўнік, аўтар гэнага «сцішка», рана ці позна адкрыецца. Хтосьці ж ведае і прагаворыцца, скажа... А па-другое... Па-другое — проста так павераць! Паглядзяць, параўнаюць гэнае нязграбнае кілзанне з маімі вершамі — і павераць! Убачаць, што не я напісаў, не я!.. Між іншым, мне і крыўдна было не толькі за тое, што прыпісалі мне здольнасць так груба абражаць настаўнікаў, што цярплю такую брыдкую напрасліну, але і за прыніжэн-

не майго «прафесіянальнага» гонару, за тое, што аб'явілі мяне аўтарам такіх бездапаможных крэмзалаў і тым самым ураўнялі [redacted] нейкім нікчэмным пісакам.

Праходзілі, аднак, дні, падзея патроху забывалася, пра яе перасталі і гаварыць, а аўтар пасквіля не аб'яўляўся. Настаўнікі мне аб ім не напаміналі, адносіны іх да мяне сталі ранейшымі, ва ўсякім разе, на ацэнках ведаў маіх не адбіліся, і я пачаў думаць, што яны ўжо напэўна ведаюць сапраўднага аўтара «сцішка» і таму наконт мяне супакоіліся. Самому ўсчынаць аб гэтым гаворку — варушыць непрыемнае — мне было няёмка, хаця і надта хацелася ведаць, што ўсё іменна так — што я ў іх вачах больш не вінаваты, каб нават сказаць ім: «Вось бачыце, а вы мне былі не паверылі!..» Так я закончыў сямігодку і развітаўся з настаўнікамі, не маючы пэўнасці, ці яны ведаюць, што ў гэнай прыкрай гісторыі я ніяк не замешаны, ці проста даравалі мне як блазенскую выхадку, як вучнёўскае хуліганства.

Я пайшоў вучыцца ў Мінск, доўга не бачыў нікога з аднакласнікаў, і з настаўнікамі таксама сустрэцца не выпадала, людзей, душэўна мне блізкіх сярод іх, аб чым я шкадую ўсё жыццё, не было. Такіх, да каго цягнулася б душа маладога вершатворцы — хто змог убачыць, зразумець і падтрымаць мае самыя запаветныя мары, далучыцца да маёй самай вялікай тагачаснай таямніцы. Нават пасля таго, як я пачаў, можна сказаць, рэгулярна друкавацца ў «Бярозцы», ніхто з іх асаблівай цікавасці да маіх першых літаратурных спроб не праявіў. Адно настаўнік заалогіі, Павел Купрыянавіч Герман, неяк загаварыў пра гэта, нават прапанаваў паслугу — даць мне рэкамендацыйнае пісьмо да свайго добрага знаёмага, пісьменніка Алеся Якімовіча, але, па-першае, ён зрабіў памылку, загаварыўшы пра гэта на ўроку, пры вучнях, што мяне страшэнна збянтэжыла: я саромеўся — і тады, і доўга пасля — публічнай гаворкі пра мае вершы; а па-другое, Павел Купрыянавіч вымушаны быў, як я цяпер разумею, стрымліваць сваю цікавасць да маладога беларускага вершатворцы — у маіх жа інтарэсах: у школу да нас ён быў накіраваны пасля Калымы, дзе адбыў дзесяць гадоў лагернай катаргі за «ўдзел» у неіснуючай буржуазна-нацыяналістычнай арганізацыі і працягваў знаходзіцца на падазрэнні. (У сорак дзевятым яго забралі зноў, пасля XX з'езда КПСС рэабілітавалі, але ў Гайну ён ужо не вярнуўся.)

Дзве мае аднакласніцы, закончыўшы гандлёвы тэхнікум, працавалі ў мінскім ГУМе. Аднойчы, на пачатку пяцідзесятых, мы разгаварыліся, пачалі ўспамінаць свае школьныя гады, і пакольні ў памяці маёй тая даўняя крыўда ўсё шчэ тлела, рана да канца не зарубцавалася, я спытаў у дзяўчат:

— А хто ўсё-такі напісаў тады гэны пасквіль пра настаўнікаў? Прызнайцеся хоць цяпер, калі ведаеце!

Дзяўчаты заўсміхаліся.

— Мы і тады знялі, што не ты. Імя сказаць табе не можам, не крыўдуй, але зрабіла гэта адна дзяўчына з Гайны, наша аднакласніца...

Помню, я быў неймаверна здзіўлены, што гэта зрабіла... дзяўчына.

Недзе прыкладна ў тыя ж гады ехаў я аднойчы зімовым вечарам у сцюдзёным паршывым аўтобусіку-драндулеце з Мінска дадому — праведаць маму. Рады за два ад мяне сядзеў і мой былы настаўнік, аўтар першай двойкі ў той няшчасны для мяне дзень, Уладзімір Антонавіч Рыбчык. Ён ужо працаваў тым часам дырэктарам сярэдняй школы ў Янушкавічах — ад Гайны кіламетраў за сем на захад. Значыць, з райцэнтра нам па дарозе, будзем далей дабірацца разам. У Лагойску Уладзімір Антонавіч прапанаваў зайсці ў чайную, каб з'есці чаго гарачага і пагрэцца: пракалелі мы ў гэтым драндулеце здорава. Я не збіраўся затрымлівацца, бо і так вечар на дварэ, а ісці далёка, але адмовіцца ад прапановы не змог — настаўнік застаецца для вучня настаўнікам, колькі б гадоў ні прайшло. За нядоўгай вячэрай я зразумеў, які наш былы выкладчык матэматыкі маўчун, які ён негаваркі таварыш! Ну, ніякага табе пытання і ніякай размовы! Прагудзе якое слоўца ў адказ — і маўчыць. Гэтак жа моўчкі чэпалі мы і па заснежанай дарозе, па вострым, калючым сіверы. Яшчэ ў чайной мяне падмывала напомніць яму пра тое прыкрае здарэнне ў школе, каб пераканацца нарэшце, што ён ведае праўду, ведае, што я невінаваты, і можа, нават пачуць ад яго імя гэтай гаенскай дзяўчыны — аўтаркі пасквіля. Але за сталом пачаць гэту гаворку я не адважыўся. Можа, каб не псаваць яму настрою за вячэрай? Згадка ўсё ж такі непрыемная. Цяпер, па дарозе, рашыў зручнай магчымасці не ўпускаць.

— Уладзімір Антонавіч, ці помніце вы той выпадак у школе, калі нехта павесіў на дошцы нядобры «спісок» пра настаўнікаў?

— Ну, помню.

— Можа, вы ўжо цяпер ведаеце, хто яго напісаў?

— Ну, ты напісаў!

У мяне і сківаца адвісла: значыць, віна і дагэтуль на мне?

— Не, Уладзімір Антонавіч, вы памыляецеся, не я яго напісаў, не я!

— Як гэта не ты?

— А так, што не я! Няўжо вы і ўсе гэтыя гады думалі, што я?

— Ну, думаў.

— Не, Уладзімір Антонавіч, не я. Чэснае камсамольскае — не я! Калі не верыце,— магу паклясціся самай страшнай клятвай.

— Дык а хто?

— Не ведаю. Мне гаварылі, што адна гаенская дзяўчына з нашага класа. Але хто,— не сказалі. А іх з Гайны некалькі...

— Можа быць! — неяк абыякава буркнуў Уладзімір Антонавіч.

Колькі хвілін я яшчэ досыць запальчыва пераконваў свайго былога настаўніка, што да гэнага пасквіля не маю ніякага дачынення, але ён нічога ў адказ не гаварыў, ішоў побач і маўчаў, як бы і не чуў майго тараторання, ад чаго я, нарэшце, збянтэжыўся і замаўчаў таксама. Даказаў я сваю невінаватасць яму ці не,— так і не ведаю.

Яшчэ гадоў праз дзесяць давялося мне быць на свяце Вясны і Працы ў нашым Баранаўскім лесе. Сабраліся людзі з усіх навакольных вёсак — народу на паляне безліч. Там я нечакана сустрэў Ядвігу Іосіфаўну Лайкоўскую — таксама некалі абражаную невядомым аўтарам «сцішка». Высветлілася, што сёлета яна паступае на завочны факультэт універсітэта, будзе слухаць мае лекцыі па фальклору і здаваць мне экзамен. «Вучыць сваю былую настаўніцу?» Гэта мяне ўразіла. І тым больш захацелася праясніць і ліквідаваць даўняе непаразуменне.

— Ядвіга Іосіфаўна, хто ўсё ж напісаў тады ў школе — помніце? — той паскудны «сцішок» пра настаўнікаў? Скажыце, калі ведаеце.

— Ну, мусіць жа сам! — адказала, пачырванеўшы, настаўніца.

— І вы дагэтуль лічыце, што тую брыдоту зрабіў я?

— Не ведаю,— пацiснула яна плячыма.— Але думала так...

— Божа ты мой прасветлы! — адно ўздыхнуў я цяжка i пахiтаў з боку на бок галавой.— Усё жыццё нясу на сабе чужы крыж!..

Толькi гэта i сказаў. Што-небудзь даказваць не паявiлася нiякага жадання. Ды i хiба цяпер усiм дакажаш? Усiм былым настаўнiкам i вучням той, маёй, сямiгодкi? Можа, хто ўжо i ў магiлу сышоў з перакананнем, што... Даказваць трэба было тады ж, адразу. А ты гэтага не зрабiў. Па-першае, не ведаў, як зрабiць, а падругое, быў невiнаваты, сумленне было чыстае, думаў,— само зробiцца. Невiнаватыя часта бываюць вялiкiмi наiўнымi дзiвакамi.

## НАРАДА

Сямігодка закончана. Атрымана пасведчанне і пахвальная грамата. Пасведчанне з указаннем, што імярэк закончыў школу на «выдатна». Значыць, калі падавацца далей на вучобу ў які-небудзь тэхнікум, то ўступныя экзамены здаваць не трэба. Урачыстага ўручэння дакументаў не было. Я атрымліваў іх пазней і адзін — відаць, таму, што пасведчанне выдатніка зацвярджалася дзесьці ў раёне. І ўручыў мне мой першы дакумент аб адукацыі дырэктар школы таксама сам-насам — ніводзін настаўнік не прысутнічаў. Былі ўжо летнія канікулы, і ў кожнага хапала сваіх, больш важных клопатаў.

Сумненняў наконт таго, куды падавацца на вучобу, не было. Гэта было вырашана, можа, яшчэ і год назад. Мінскае педагагічнае вучылішча. Колішні Белпедтэхнікум. У маім уяўленні — сапраўдны літаратурны ліцэй. Ну, як жа! Якія дарагія мне імёны ўславілі гэту няхай і не галоўную кузню нацыянальнай паэзіі, літаратуры, культуры! Колькі знакамітых паэтаў і пісьменнікаў выйшлі з-пад яе высокага даху ў 20-я гады! Ды гэта ж той, той, што быў студэнтам педтэхнікума — слаўны і бясконца любы мне Паўлюк Трус напісаў незвычайнай чароўнай сілы — душа нямее! — радкі: «Падаюць сняжынкі, дыяменты-росы, падаюць бялюткі за маім акном...» Або: «Бывай! Гадзіннік адзінока прабіў чатыры на сцяне. А ўсё ж шкада, што мы далёка: я — ад цябе, ты — ад мяне!..» У тыя школьныя гады — ды і пазней, у педвучылішчы — Паўлюк Трус быў адным з самых высокіх і святых маіх куміраў. Зрэшты, як і для тысяч — упэўнены — маіх тагачасных равеснікаў, не раўнадушных да паэзіі, да роднага слова. А Пятро Глебка! І ён жа вучыўся разам з Трусам у педтэхнікуме, і многае з яго творчасці я таксама ведаў на памяць. Асабліва даспадобы мне была яго лірыка ваенных гадоў. А Якімовіч Алесь! Як я любіў у дзяцінстве яго паэму-казку «Каваль-Вярнідуб»!

ды і аповесцю «Незвычайны мядзведзь» зачытваўся. Ну, а той факт, што настаўнікам, выкладчыкам методыкі роднай мовы ў гэтай педагагічнай установе быў Якуб Колас? Сам Якуб Колас! Вялікі народны паэт і пісьменнік! Слава і гордасць айчыннай літаратуры!..

Адным словам, куды мне ісці пасля сямігодкі вучыцца — яснасць была поўная. Я ведаў, каго педвучылішча рыхтуе: настаўнікаў пачатковай школы. Ці надта я прагнуў стаць такім «народным», вясковым настаўнікам? Не думаю. Хаця нейкай лепшай, больш цікавай прафесіі для сябе — не бачыў. Вядома, я марыў, перш за ўсё, пра паэзію, пра сваю сцяжынку-дарожку ў яе краіну — такую прывабную, такую загадкавую, такую неабсяжную. Але, здаецца, хапала і цвярозага, мужыцка-сялянскага, разумення, што ў гэту самую незвычайную краіну трапляюць нямногія, і таму пры ўсіх сваіх ружовых марах думай, брат, пра хлеб рэальны, надзённы і, вядома ж, сумленна запрацаваны. Настаўніцкі хлеб уяўляўся мне менавіта такім — рэальным і нелайдацкім, чэсным.

Рашыў, што дакументы ў педвучылішча павязу недзе прыкладна 20 ліпеня, а пакуль — ваўсю працую ў калгасе на касавіцы. Пры гэтым ухітраюся — хоць урыўкамі, хоць у час полудня ці ўвечары — адкрыць сшытак і запісаць у яго новыя радкі. Увогуле сёлетні год у плане маіх «творчых» спраў і клопатаў пачаўся і працягваецца проста выдатна. «Піянер Беларусі» ў сваім першым, навагоднім нумары надрукаваў верш «Снег». «Бярозка» ў студзеньскім нумары змясціла верш «Зімовы вечар», у красавіцкім — «Паўднёвыя вятры», у ліпеньскім — «Новая кніга». А колькі за гэты час — ад зімы да лета — напісана! У тым ліку і такога, што пасля будзе надрукавана, нават у кніжках, хаця цяпер — вернута з рэдакцый «Піянера» і «Бярозкі» мне назад на дапрацоўку. Дзесяткі, дзесяткі, дзесяткі вершаў і нават досыць ладная аб'ёмам (дзесяць раздзелаў) паэма «Таварыш», у аснове якой — адзін сапраўдны, непрыдуманы эпізод з партызанскай барацьбы, гераічны ўчынак нашага аднавяскоўца, камсамольца Габруся Давідовіча, здзейснены ім у час прарыву фашысцкай блакады на Паліку.

Як сведчаць многія тагачасныя радкі, пытанне аб тым, збудзецца ці не збудзецца мая запаветная марз, мой жыццёвы лёс,— хвалявала мяне тады надзвычайна, займала ўсю маю істоту цалкам. «Не даюць мне

спакою Дзіўных песень акорды Аб вялікім народзе, Аб цудоўнай краіне... Толькі маю надзею, і яе не пакіну: Боль і смутак уніме Мая ўласная песня...» Або: «Ноч, а мне не да сну — Гулка стукае сэрца: Чым спаткаеш вясну? Надыходзіць, здаецца...» Або: «Каб быў я паэтам — у лепшых бы песнях, Што несліся б з струн паэтычнае ліры, Як сонца, як мару, спяваў бы і песціў Руплівую працу калгаснікаў шчырых...» Як стала мне зразумела нашмат пазней, гэтыя і многія іншыя падобныя да іх вершы трэба было пасылаць, канечне ж, не ў піянерскія выданні, а ў дарослыя, ну, хоць бы ў тую ж «Чырвоную змену». Хай сабе і зусім зялёная, кволая, пераймальная, усё ж такі гэта была лірыка. Такой яна і павінна была разглядацца, а не як вершы для дзяцей. А я гэта ўсё — у «Бярозку» і ў «Бярозку»,— па ўжо знаёмай, самім пратоптанай сцяжыне, як бы з удзячнасці за першыя публікацыі, за першую радасць, за аказаны давер і падтрымку.

Аднойчы вечарам прыходзіць з сельсавета бацька і падае мне шматок паперы, спісанай знаёмымі каракулямі начальніка нашай слабодскай пошты.

— Тэлефанаграма табе, у Мінск выклікаюць, на нараду...

«Мяне — у Мінск? На нараду? На якую нараду? Відаць, памылка нейкая...» — паспела мільгнуць думка. Але бяру той шматок і чытаю: «З Мінска. № 02/58. 21 слова. 17.7.47. Мінская вобл., Лагойскі р-н, Слабодскі с/с, в. Слабада, Гілевічу Н. С. Выязджайце на рэспубліканскую нараду маладых пісьменнікаў 21 ліпеня 47 года пяць дзён Мінск. Подпіс Казлоў. Перадаў Давідовіч. 17.7.47. 20.00».

Усхваляваўся я ад гэтай нечаканай тэлеграмы незвычайна. Нават страшнавата стала. Ехаць у Мінск на нараду маладых пісьменнікаў? Значыць, яны прызнаюць, яны лічаць, што я... варты таго, каб удзельнічаць у нарадзе? Гэта ўжо штосьці зусім сур'ёзнае! Гэта ж значыць, што там будуць сапраўдныя пісьменнікі — кіраўнікі нарады, і мне трэба будзе паказаць, можа, нават уголас прачытаць перад імі свае вершы. А калі гэта будзе Куляшоў? Ці Панчанка?.. А калі — сам Колас?.. О-ё-ё-ёй, што мяне чакае! Перад такімі паэтамі чытаць свае вершы?.. Дык што, можа, лепей не ехаць зусім, каб сораму не набрацца? Гэта ж не загад, што — абавязкова, а запрашэнне... Хаця... чаму не загад? Напісана ж: «Прыязджайце...» Ды і як гэта адмовіцца

ад... такога гонару! Трэба ехаць. Можа, не так і страшна?

Ноч, можна сказаць, прайшла без сну. Раніцай, першае, што я зрабіў, пабег на пошту, да свайго ж начальніка Мікалая Давідовіча, каб спытацца: ці ўсё ён правільна запісаў? Можа, яшчэ што было яму сказана, а ён забыўся? А можа, гэта наогул... жарт? Можа, гэта ён сам усё і падстроіў?

— Я ўсё запісаў дакладна, ад кропкі да кропкі,— сур'ёзна, без ценю падазронай усмешкі, адказаў Давідовіч.— Так што едзь, брат... Пісьменнікам станеш. Будзеш кніжкі пісаць... А мы чытаць будзем...

— Страшнавата,— прызнаюся яму шчыра.

— Чаго страшнавата? Не красці ж паедзеш! — элементарна проста адрэзаў мой начальнік.

І ад гэтага яго простага адказу, ад яго ўпэўненасці мне стала раптам спакойней. Сапраўды, чаго ўжо так перажываць і баяцца? Трэба ехаць, ды і толькі!..

Перажыванні паявіліся, калі мы з мамай сталі прыкідваць, у чым, у якой апратцы я паеду. Гэта ж не на Камароўскі базар з вішнямі, а на пісьменніцкую нараду! Ну, пінжачок, дзякаваць богу, ёсць — той самы юнраўскі, «вясельны». Праўда, за паўгода я ўжо трохі вырас з яго, але гэта не бяда — пінжачок яшчэ досыць спраўны. А з чым сапраўдная бяда, дык гэта са штанамі і з чаравікамі. Пра тое, каб ехаць у штанах, што на мне,— і гаворкі не можа быць. Мама памаўчала, падумала ў заклапочанасці, а тады і кажа:

— Можа, прымер тэныя амерыканскія, бацька ж сказаў, што ўсё роўна адзяваць іх не будзе, нават каля дому. Не спадабаліся яму. Я ўжо хацела іх распароць ды пашыць Ліне сукенку...

Тыя амерыканскія, гэта значыць, юнраўскія, штаны я ведаў — помніў, як іх прымяраў бацька. Нават на ім яны сядзелі так, што мы ўсе ў хаце засмяяліся. Па-першае, яны, да адпраўкі за мора, належалі, відочна, мала таго, што якомусці веліканістаму здаравякубамбізу, дык яшчэ і брухмялю пры гэтым: у паясніцы такія шырокія, што хапіла б на гэтакіх дваіх, як бацька. Па-другое, яны былі пашыты з нейкага вельмі тонкага, шаўкавістага, як з парашута, палатна, складкі-канты на якіх не адпрасуеш: зусім не трымаюцца. Несумненна, гэта былі дамашнія піжамныя панталоны, пра назначэнне і адпаведны крой якіх мы ў вёсцы проста не мелі ніякага ўяўлення, і таму нямала дзівіліся:

што гэта за гэтакія дзіўныя штаны? Хто і дзе, які буржуіна, іх там, у Амерыцы, носіць? Па-трэцяе, і гэта ўжо было ў нашых вачах зусім незразумелай недарэчнасцю, у штанах — перапрашаючы шаноўнага чытача — не было прарэхі! У дадатак да ўсяго яшчэ і колеру яны былі нейкага «не штаннога» — якіясь палавыя [redacted] ружаватым адценнем.

І вось цяпер дастае мама з ніжняй шуфляды шафы гэтыя дзівосныя амерыканскія буржуінавы штаны. Сітуацыя настолькі нявыкрутная, што я мушу прымерыць іх, прадчуваючы, што надзея на гэтае заморскае цуда тут жа праваліцца. Каб не даць мне маральна адразу ж упасці ў роспач, мама, пакуль я ўлажу нагамі ў шырачэзныя штаніны, зазначае:

— Можа, у поясе трохі павузім, дык і сыйдуць...

Усунуўся я ў гэтыя шыкоўныя панталоны, трымаю іх на жываце,— дакладней, на грудзях, бо яны ледзь не пад пахі мне,— рукамі, гляджу на маму і бачу, што ёй хочацца засмяяцца,— тым больш што меншыя мае браты і сёстры паднялі мяне на смех адразу. «Пудзіла! — закрычалі.— Пудзіла! Толькі на агарод за пудзіла!» Але мама, сувярнуўшыся на іх вокрыкам, сказала:

— А ты знаеш, не так і страшна... Канешне, у пасніцы шыракаватыя і калашыны прыйдзецца трохі падрэзаць, але ж затое — новыя, амаль не ношаныя...

На сцяне ў нас вісела яшчэ даваеннае, трэснутае наўскасяк люстра. Я падышоў да яго і паглядзеўся.

— Як у Пепе,— кажу, прыгадаўшы знакамітыя штаны хлопчыка Пепе, героя адной [redacted] горкаўскіх «Казак аб Італіі», прачытанай яшчэ ў даваеннай чытанцы.

— У якога Пепе? — не зразумела мама.

— Быў такі, у кніжцы... Толькі ён яшчэ і рукі ў прарэзы для кішэнь прасоўваў, дык сыходзіла адразу і за штаны і за рубашку...

Пакруціўшыся трохі перад люстрам, раблю вывад:

— Не, мама, нічога не выйдзе, людзі ж смяяцца будуць...

— Ну, тады сядзі, сын, дома. Я табе давала зімой грошы, каб ты купіў сабе добрыя штаны. А ты купіў акардзівон. Дык вось — сядзі цяпер і іграй. Дзе ж я табе вазьму такія, як ты хочаш?..

Аспрэчыць мамін папрок не было чым: што праўда, тое праўда. Замест штаноў і чаравікаў, на якія мне

былі дадзены грошы, я прывёз гэтай зімою з Мінска «музыку».

— Давай сюды, паспрабую што-небудзь зрабіць,— сказала мама.— Яшчэ ў нас тры дні часу з сягоннящнім...

Праз дзень я прымяраў свае «Пепевы» штаны зноў. Калашыны мама трохі падкараціла, а паясніцу чапаць не стала. «Такі далікатны, кажа, матэрыял, і так акуратна ўсё тут зроблена, што нельга чапаць, бо можна ўсё сапсаваць наогул... Загні на жываце тое, што лішняе, падпяражыся харашэнька, прыцісні загнутае дзяжкай, а пад пінжаком ніхто не ўбачыць. Ты ж на людзях у адной рубашцы хадзіць не будзеш...»

Прыйшлося зміры́цца. Не адмаўляцца ж з-за гэтага ад паездкі ў Мінск на пісьменніцкую нараду!..

Не меней, бадай, клопатаў было і з чаравікамі. Цэлых, гатовых да ўжытку, наогул у хаце не аказалася. Нейкую стаптаную пару, у якой з абодвух бакоў паадставалі падэшвы, мама занесла да Юліка Давідовіча на тэрміновы рамонт. Былі гэтыя даваенныя бацькавы чаравікі мне відочна завялікія, нумары на два, напэўна; да таго ж у іх так паперагіналіся, пазадзіраліся ўгору насы, што ні размочка, ні змазка тлушчам нічога не памагла — хіба што толькі пасля доўгай носкі адыйдуць. А покуль што — самы раз у цырк клоуну — той (бачыў я на малюнках) у гэткіх загнутых ходзіць.

Дваццатага адвячоркам я выбраўся ў дарогу — з разлікам, каб нанач заехаць у Мінск, там пераначаваць і раніцай пайсці на нараду. Выбраўся не адзін, а разам са сваім айнараўскім сябрам і аднакласнікам Францам Думанскім. Яшчэ раней мы з ім дамаўляліся, што паедзем разам у Мінск падаваць дакументы на вучобу: ён — у гандлёвы тэхнікум, я — у педагагічны. У дарогу я ўзяў з сабой стары, абшэрпаны (бацькаў даваенны) партфель, у які мама паклала некалькі маленькіх аладак-піражкоў з бульбы, свежы клінок тварожнага сыру і некалькі звараных укрутую яек, а я — сшытачак са сваімі новымі вершамі.

На захадзе сонца мы былі ўжо ў Мінску. Начаваў я разам з Францам у яго сваякоў, у нейкім хлеўчуку на сене, дзесь у раёне Цнянскай вуліцы. А раніцой, памыўшыся і падзакусіўшы, пайшоў на нараду. Дзе дакладна яна павінна быць, я не ведаў, але не сумняваўся, што дзесь у Доме друку, на вуліцы Пушкіна, 55:

там рэдакцыі ўсіх часопісаў і газет, там друкуюцца ўсе беларускія кнігі, значыць, там і Саюз пісьменнікаў, там і нарада. Не пазней як а палове дзевятай я ўжо быў каля вялікага чатырохпавярховага будынка — знакамітага Дома друку. Заходзіць яшчэ, вядома, рана, і таму я пачаў туды-сюды тупаць каля параднага пад'езда. Насупроць Дома — трамвайны прыпынак. Слухаю, як бразгае і звініць трамвай. Прыглядаюся да шпаркіх, мітуслівых гараджан і гараджанак: усё ўподбег і ўподбег, усё некуды спяшаючыся. Пачалі заходзіць людзі і ў Дом друку. Можа, хто з іх, як і я, на нараду маладых пісьменнікаў? Але, па-першае, ніводнага сярод іх у маім узросце, ці хай бы сабе трохі старэйшага, але маладога; а па-другое — ніводнага з рэчамі, з партфелем ці з куфэркам; не маглі ж яны прыехаць на нараду без нічога. Добра было б, каб хто паявіўся каля Дома гэткі ж, як я,— каб было бачна, што ён прыезджы і што гэтак жа, як я, заклапочаны, гэтак жа прыглядаецца да кожнага, хто заходзіць у запаветны пад'езд.

Хваляванне ўва мне нарастае, у колькі гадзін пачынаецца нарада — я не ведаю, і таму таксама, адолеўшы страх і нясмеласць, заходжу ў Дом друку. На першым паверсе налева ходу няма — толькі па прапусках. Падымаюся па лесвіцы і пачынаю хадзіць доўгімі цемнаватымі калідорамі па ўсіх паверхах — а вось убачу шыльду «Саюз пісьменнікаў Беларусі», а вось убачу ці пачую нешта такое, што мне падкажа: тут! Перачытаў дзесяткі шыльдаў з надпісамі на дзвярах кабінетаў, правёў занепакоена-сумным позіркам дзесяткі постацей, што заходзілі або выходзілі з гэтых кабінетаў — нічога падобнага на нараду, на вялікае зборышча людзей — не ўбачыў. Трэба ў кагосьці пытацца, а то час ідзе — можна і спазніцца. Канешне, як бы добра было, каб хто-небудзь сам запытаўся: «Скажыце, вы не на нараду прыехалі?» Але ніхто, абсалютна ніхто мною не цікавіцца і нічога ў мяне не пытае. Нікому няма тут справы, чаго я сноўдаю па калідорах, прыпыняюся, мінаючы прахожым, каля дзвярэй, стаю каля адзінага акна ў канцы калідора або проста каля сцяны, спускаюся і зноў падымаюся па лесвіцы. Ніхто не звяртае на мяне ну аніякай увагі!.. Трэба пытацца! Трэба пытацца — хаця і гэта зрабіць мне ой як нялёгка! Праклятая прыродная вясковая сарамлівасць! Не ў літаратуру гэткаму ісці, а ў пастухі. Нават не адважышся спытацца, дзе ж тая нарада!

Нарэшце набіраюся смеласці і запыняю аднаго, як мне здалося, нязлоснага, сімпатычнага з твару мужчыну, які, з паперамі ў руках, шпарка вынырнуў з дзвярэй бліжэйшага кабінета.

— Прабачце, калі ласка,— пракаўтнуў я застрэлую ў горле сухасць,— вы не знаеце, дзе тут будзе праходзіць нарада маладых пісьменнікаў?

— Паняція не імею! — паціснуў плячыма, амаль не прыпыняючыся, чалавек і гэтак жа шпарка, як вынырнуў з тых, нырнуў у суседнія дзверы.

Але смеласці пасля гэтага ў мяне рашуча прыбавілася. Запыняю праз хвіліну другога чалавека — ужо на іншым паверсе і з іншых дзвярэй — тым самым пытаннем.

— Я, на жаль, гэтага сказаць вам не магу, але знаеце што: зайдзіце ў рэдакцыю «Чырвонай змены» — там вам напэўна скажуць дакладна. Раз гэта нарада маладых, то ў камсамольскай газеце абавязкова ведаюць...

Яшчэ праз хвіліну стукаю ў дзверы з шыльдай «Чырвоная змена». У пакоі шмат сталоў — і за кожным па чалавеку. На мой «добры дзень» выразней, гучней за іншых адказаў з кутняга стала маладжавы, з простым вясковым тварам, мужчына і запытальна спыніў на мне позірк.

— Прабачце, калі ласка, дзе будзе праходзіць нарада маладых пісьменнікаў?

— Вы прыехалі на нараду? — перапытаў мужчына.— Дык гэта ж не тут, гэта ў Саюзе пісьменнікаў, у Доме ўрада.— Заўважыўшы, мабыць, што я зусім зеляпуха, падлетак, перайшоў на ты і лагодна патлумачыў: — Садзіся, хлопча, на трамвай і едзь аж у самы канец Савецкай вуліцы, да Дома ўрада; абыйдзі яго левае крыло і там з двара, з тылу, убачыш шыльду «Саюз пісьменнікаў».

Я падзякаваў і вопрамеццю панёсся па лесвіцы ўніз і на вуліцу. Трамвая яшчэ не было. На прыпынку я звярнуў увагу на аднаго вельмі інтэлігентна апранутага чалавека, твар якога мне здаўся знаёмым. Дзе я мог яго бачыць? Вядома ж, толькі ў газетах або ў часопісах, на фотаздымках. Акуратна зачэсаныя, амаль без сівізны, цёмныя валасы, гладкі, чыста паголены твар, адметны разрэз вачэй і асабліва — гэты клінок-смычок бародкі пад губою. «Дык гэта ж Віталій Вольскі!» — ледзь не выгукнуў я ўголас, ад радасці, што пазнаў яго па тых фотаздымках, якія бачыў у друку. «Ну, канеш-

не, Вольскі! І, напэўна, ён таксама паедзе ў Саюз пісьменнікаў».

У трамвай я зайшоў услед за Вольскім і ў вагоне ўвесь час назіраў за ім, ці не сыходзіць. У дагадках сваіх я не памыліўся: Вольскі сышоў у канцы Савецкай, бліз Чырвонага касцёла, і пакрочыў да Дома ўрада. Назіркам, як шпік, ішоў следам за ім і я. Гэтак следам зайшоў і ў сам будынак — сапраўды, з тылу, з двара, як патлумачыў мне гэны чырвоназменавец. Следам падаўся і на другі паверх. Але далей... ён спакойна знік за дзвярыма з шыльдай «Саюз пісьменнікаў Беларусі», а я застаўся перад дзвярыма. Адразу заваліцца туды і мне — духу не хапіла. Пастаяў, прычасаўся, паглядзеў на свае клоунскія чаравікі, на свае «Пепевы» штаны, і — з богам!

У першым, досыць ладным, пакоі шмат людзей, разнагалосай гаманы і яшчэ больш папяроснага дыму. Даўшы «дзень добры» ўсім і нікому, бо ніхто не пачуў і не адказаў, я спыніўся каля дзвярэй, трымаючы свой абшэрпаны партфель абедзвюма рукамі ззаду, за сабою. Але вось, выйшаўшы з суседняга пакоя, кінуў на мяне позірк высокі, з прыветлівым, пабітым воспаю тварам чалавек — у чорным касцюме і белай, без гальштука, і не зашпіленай на верхні гузічак, рубашцы. Ён тут жа ступіў да мяне і спытаў:

— На нараду?

— Ага,— кіўнуў я галавою.

— Хто і адкуль?

— Гілевіч. З Лагойскага раёна.

— А-а, Гілевіч! — амаль радасна выгукнуў, заўсміхаўшыся, чалавек.— Добры дзень! А я — Уладзімір Агіевіч.— І ён моцна, па-сяброўску, пацісн уў мне руку.— Чуць не аднафамільцы. А я ўжо думаў, што не прыедзеш. Бо вось-вось пачынаем, праз колькі хвілін... Хадзем хуценька ў бухгалтэрыю.

Ён правёў мяне ў пакойчык, дзе сядзелі дзве жанчыны і дзе мне выдалі дакументы: пасведчанне ўдзельніка нарады, пропуск у інтэрнат мединстытута, дзе я буду жыць,— з указаннем пакоя, і пропуск на фабрыку-кухню, куды я, калі хачу, магу хадзіць абедаць — за ўласны кошт, вядома. Апрача таго, далі надта шмат, як мне здалося, грошай. Асабліва — дарожных. Жанчына, якая непасрэдна афармляла разлік са мною, спытала:

— Вы ехалі поездам ці аўтобусам? У вас ёсць білет?

— Не,— кажу,— да Лагойска я ішоў пяшком, а з Лагойска да Мінска — на папутнай.

— І колькі вы заплацілі за праезд?

— Гэты раз прыехаў за дваццаць пяць. А бывае — спаганяюць трыццаць.

Умяшалася другая жанчына — з-за другога стала:

— Пішыце яму і сюды і назад па пяцьдзесят, ды і толькі. Яму ж яшчэ з Лагойска колькі дабірацца...

І мне выдалі ажно сто рублёў дарожных. Ай, якія добрыя, якія спагадлівыя людзі! Удзячнасці ім маёй проста не было мяжы!

Тым часам зазвінеў званок, і я, следам за іншымі ўдзельнікамі нарады і за пісьменнікамі, некаторых з якіх адразу ж, як і Вольскага, пазнаваў па фотаздымках у памяці, зайшоў у невялікую залу з накрытымі чырвоным пакрывалам сталамі для прэзідыума і з крэсламі ўздоўж усіх сцен. Усе крэслы ўжо былі пазайманы, і мне дасталося ледзь не самае крайняе ад прэзідыума.

Прыглядаюся да народу. І расчараванне, і нават пэўная збянтэжанасць: каб хоць адзін чалавек майго ці блізкага да майго ўзросту! Усе — з пакалення франтавікоў і партызанаў. У некаторых нават і ордэнскія калодачкі на грудзях начэплены. Вось гэтага я не чакаў. З равеснікамі было б лягчэй і пазнаёміцца, і разгаварыцца, зрэшты, і пасябраваць на будучыню. А з гэтымі — зусім сталымі мужчынамі?..

Але вось прысутныя запляскалі ў далоні — за сталом прэзідыума паявіліся вядомыя і знакамітыя пісьменнікі. Па партрэтах у школьных падручніках і здымках у газетах пазнаю Броўку і Глебку — абое ў белых, вышытых беларускім арнаментам кашулях. Пазнаю і Янку Маўра — астаткі валасоў у яго абапал вялікага лба не проста сівыя, а снежна-белыя. Ён таксама ў бялюткай сарочцы, але без вышыўкі, і з шырока расхлістаным на грудзях каўнерыкам. Іншых не ведаю і пытаюся пра іх — шэптам — у суседа (як аказалася — паэта і журналіста Антона Яблонскага).

— Вось той увесь лысы, хударлявы, з рубцом на шыі — Міхась Клімковіч; а той — у шэрым пінжаку і клятчатым гальштуку — Максім Лужанін; а вунь той, у светла-шэрым гарнітуры і без гальштука, з па-

пяроскай у пальцах, каторы ўсміхаецца — гэта Пімен Панчанка...

Панчанка?! Ну, так! Успамінаю і яго на фотаздымках у газеце «Літаратура і мастацтва». З нейкага часу ён адзін з самых любімых маіх паэтаў. Гляджу на яго прыгожы, усмешлівы твар, і самі сабой успlываюць у памяці радкі з яго многіх-многіх цудоўных вершаў.

Пачаліся даклады. Першае слова — аб задачах па выхаванню літаратурнай моладзі — Петруся Броўкі. Затым — Васіля Барысенкі, Уладзіміра Агіевіча, Піліпа Пестрака, Міколы Садковіча... Але слухаю я іх няўважліва, нітку-думку ўвесь час губляю. Па-першае, не ўсё, на маё разуменне, гаворыцца цікава. А па-другое, я ўвесь засяроджваюся ўвагай на абліччах знакамітых паэтаў, успамінаю, што ведаю з іх жыцця і творчасці, і забываюся на дакладчыкаў...

Першы дзень нарады закончыўся дакладамі крыху пазней палудня, пасля чаго я паехаў уладкоўвацца ў інтэрнат, які быў на ўжо добра знаёмай мне вуліцы Пушкіна, недалёка ад Дома друку. У пакоі быў толькі адзін чалавек, ён паказаў мне на акуратна засланы ложак і сказаў:

— Вось гэта, відаць, і будзе твой, бо адзін не заняты застаўся. Так што можаш уладкоўвацца і адпачываць...

Я паставіў на тумбачку партфель, сеў на край ложка і запытаўся:

— А хто мае суседзі — не ведаеце?

— Справа, па-мойму, Паўлюк Прануза заняў, а во гэты, злева — Івана Шамякіна. Ён нядаўна заходзіў, вунь і хлеб на акне пакінуў. Рэж, калі галодны...

Толькі цяпер я ўбачыў на падаконніку амаль не цэлую фармавую буханку хлеба. А я ўжо і ўспомніць не магу, калі я ў апошні раз еў гэтакі гарадскі магазінны хлеб! Я павярнуўся да акна, пацягнуў носам — і божа мілы! — як жа мне захацелася зноў пакаштаваць гэтага хлеба! Добра кажа: «Рэж, калі галодны!..» Як гэта — рэж? Калі б гэта сам гаспадар буханкі адрэзаў ды прапанаваў мне хоць лустачку, хоць маленькую лустачку!.. Не толькі не адмовіўся б, а узяў бы з вялікай удзячнасцю.

З гэткімі думкамі я сядзеў на ложку і раз-пораз зіркаў на буханку. Есці хацелася, але адчыняць парт-

фель, дзе яшчэ ляжала некалькі «галдыбікаў» і астатак тварагу, я не спяшаўся...

Тым часам чалавек, які паказаў мне мой ложак, апрануў пінжак і пайшоў з пакоя, папярэдзіўшы: «Ключ у дзвярах, калі пойдзеш таксама, замкні і аддай ключ унізе дзяжурнай». Ледзь паспелі за ім зачыніцца дзверы, як мне зноў прагучала ўвушшу яго благаславенне: «Рэж, калі галодны!..» — сказанае і ўсур'ёз, і так натуральна, без падкалупкі. А што, калі і сапраўды адрэзаць?

Пасля нядоўгіх пакутных думак і хістанняў я выняў з кішэні сцізорык і адкроіў сабе ад буханкі лусту — сціпла, пальцы на паўтары таўшчынёй. Есці яе тут жа не адважыўся: будзе вельмі сорамна, калі зараз зойдзе гаспадар буханкі і застукае мяне на месцы злачынства. Таму я хуценька разламаў лусту напалам, сунуў кавалкі ў кішэні пінжачка і — куляй з пакоя, на вуліцу. Апынуўшыся дзесь за Домам друку, на ціхіх вулачках Пушкінскага пасёлка, я пачаў адшчыкваць у кішэні па кусманіку і есці неймаверна смачны, духмяны, сапраўдны куплёны хлеб. Але пасля таго, як луста была апрыходавана, пачаў разбіраць — і ўсё мацней — сорам, а нарэшце, і шкадаванне: нашто я гэта без дазволу гаспадара зрабіў?

У інтэрнат вярнуўся, калі ўжо звечарэла, зусім падрыхтаваўся псіхалагічна — прызнацца і аддаць грашыма за тую лусту. У пакоі ўжо былі амаль усе жыхары, але не было Шамякіна і не было на падаконніку хлеба. Гэта мяне крыху здзівіла і азадачыла. Пытаюся ціха ў Пранузы — ложкі нашы былі зусім упрытык, побач:

— А Шамякін не прыходзіў?

— Прыходзіў, але забраў свой партфель і пайшоў. Сказаў, што ён тут жыць не будзе. На кватэру пайшоў да сябра...

Як гара ў мяне з плеч звалілася! Калі так — то не давядзецца, відаць, ні прасіць прабачэння, ні апраўдвацца і тлумачыць...

На другі дзень, 22 ліпеня, адбыўся агульны рэспубліканскі сход пісьменнікаў — у прыгожым белым доміку пад гарою, па вуліцы Савецкай, які цяпер называецца Домам мастацтваў. Туды я дабраўся задоўга да пачатку. Ранак быў вельмі прыгожы, сонечны, хаця і трохі спякотны. Я прагульваўся перад будынкам і раптам бачу: ідзе... Якуб Колас! Ну, так, канеш-

не ён! Хто ж гэта не пазнáе Коласа! Ён ідзе сюды, на пісьменніцкі сход. Божа, якая нечаканая радасць! Я замёр і не зводжу з яго вачэй. Колас у цёмна-шэрым гарнітуры і з яшчэ больш цёмным, чуць-чуць скрыўленым набок гальштукам. На галаве — звычайная шэрая кепка. Вось ён прыпыніўся, зняў кепку і выцер хусцінкай лоб... У гэты момант я і адважыўся з ім павітацца:

— Добры дзень, Канстанцін Міхайлавіч!

— Добры дзень! — адказаў, ледзь кіўнуўшы галавою, Колас.

Ці шмат трэба зялёнаму вершатворцу-пачаткоўцу для радасці? Для таго, каб кароценькае імгненне часу напоўнілася вялікім сэнсам і запомнілася на ўсё жыццё? Зусім няшмат. Для гэтага яму дастаткова спаткаць уранку і прывітаць «добрым днём» вялікага народнага песняра. Толькі і ўсяго! Нечаканая сустрэча з Якубам Коласам была ўспрынята мной як шчаслівая падзея і як вельмі добры, светлы, можа, нават сімвалічны знак. Вядома, я не выказаў гэтым сваім павітаннем і тысячнай долі таго, што хацеў бы сказаць яму, але ўсё ж такі, усё ж такі... Ва ўсякім разе, я ў гэты шчаслівы момант сказаў — бязмоўна, нячутна — сам сабе, што буду ва ўсім і заўсёды, да самага скону верны ягонай, Коласавай, справе, той мэце, якой ён прысвяціў сваё жыццё. А гэтакая прысяга-клятва для маладога чалавека што-небудзь ды значыць!..

У прэзідыуме рэспубліканскага сходу пісьменнікаў сядзелі Якуб Колас, Броўка, Глебка, Маўр, Панчанка, Пястрак і іншыя слынныя і вядомыя нашы літаратары. Тады я ўпершыню пабачыў і паслухаў — ён выступаў са словам — Івана Мележа. Выступаў і Максім Лужанін. Доўгі даклад прачытаў прафесар І. В. Гутараў. Слухаў яго і адчуваў: як шмат чаго, што датычыць тэорыі і гісторыі літаратуры, я не разумею. Як мне патрэбна вучыцца! Калі паступлю ў педвучылішча, а думаю, што паступлю абавязкова! — то перш за ўсё вазьмуся за вучобу, засяду за кнігі!..

На трэці дзень нарады пачалося абмеркаванне творчасці яе ўдзельнікаў па жанравых секцыях. Мне ніхто не сказаў, што як аўтар «Бярозкі» я залічаны да секцыі літаратуры для дзяцей. Я прыехаў з вершамі зусім не дзіцячымі і быў упэўнены, што мне трэба быць там, дзе абмяркоўваецца паэзія. Шчыра кажучы, пра асобную дзіцячую секцыю я нават і не чуў. Таму

я заняў зручнае месца ў той зале, дзе сабраліся паэты (там жа было і адкрыццё нарады). Першае пасяджэнне — дзве гадзіны — прысутнічаў на абмеркаванні паэзіі, якое мне здалося вельмі цікавым, але і надта строгім, і ўва мне пачаў нарастаць страх: што будзе, як чарга дойдзе да мяне? На перапынку, аднак, не паспеў я падняцца з крэсла, як да мяне падышоў Агіевіч (я ўжо даведаўся, што ён сакратар камісіі па рабоце з маладымі ў Саюзе пісьменнікаў) і такім ушчувальным тонам кажа:

— Што ж ты, брат, тут усеўся? Табе трэба быць на дзіцячай секцыі, цябе будуць там абмяркоўваць. Хадзем, я пакажу, у якім пакоі...

Засмуціла мяне гэта распараджэнне, дый нямала — шкада было пакідаць залу, дзе ішлі такія гарачыя спрэчкі.

У пакоіку дзіцячай секцыі мне дасталося месца на вялікім чорным дыване з тоўстымі круглякамі-падлакотнікамі. Сядзець было няёмка, бо я праваліўся ў яго, як у яму. Кіраваў пасяджэннем секцыі Алесь Якімовіч. Прысутнічалі — з тых, каго я запомніў — Янка Маўр, Павел Кавалёў, Эдзі Агняцвет. Зайшоў, але ненадоўга, Пятро Глебка. Побач са мною, але на кругляку, дык выйшла — высока нада мною, прысеў нейкі незнаёмы, кашчавы, брытагаловы чалавек у камсастаўскім — без пагонаў — абмундзіраванні і ў ботах. Уражанне ён зрабіў на мяне непрыемнае якімсьці досыць драпежным выразам твару. Да таго ж, седзячы побач на кругляку, ён замінаў мне сесці зручней, ён як бы трохі прыціскаў мяне, і так уціснутага ў мяккі дыван.

Запомнілася абмеркаванне апавядання «Піянер» журналіста з Палесся Аляксея Каўко. Усе досыць дружна хвалілі (праз год-два я з прыемнасцю ўбачыў гэта апавяданне ў школьнай чытанцы). Добра гаварылі і пра вершы якойсьці Марыі Дзідзінай. Асабліва хвалілі яе верш «Трусікі»: «Беленькія трусікі, у мяне іх шэсць: беленькія вусікі, беленькая шэрсць...»

Маё прозвішча назвалі якраз тады, калі мяне, на бяду маю, пачало хіліць у сон. Таму я падхапіўся, як бы трохі спалоханы і чырванеючы ад сораму: ці не ўбачылі яны, што я драмлю! Пасля таго, як Алесь Якімовіч сказаў пра мяне некалькі слоў (адкуль і хто, друкуецца ў «Бярозцы»), мне прапанавалі прачытаць некалькі сваіх вершаў. Трэба сказаць, што з адборам

вершаў на абмеркаванне я зрабіў моцную прамашку. Па нейкай наіўнай логіцы я зразумеў, што на нараду трэба везці толькі самыя новыя вершы, а не тыя, што былі апублікаваны: тыя, маўляў, і так вядомы, яны ж былі ў друку. І я прывёз з сабою ў Мінск толькі новыя — у тым ліку і наспех, у апошнія дні, калі ўжо збіраўся ў дарогу, напісаныя. Якія гэта былі ў большасці сваёй вершы, можна меркаваць па наступных радках з верша «Браты і сёстры»:

Нас мільёны — братоў і сясцёр.
З гор да мораў і з мораў да гор
Засяляем адзінай сям'ёй
Мы вялікай Радзімы прастор.

. . . . . . . . . . . . . .

І пакуль на зямлі буду жыць —
Не прысудзіць мне лёс заслужыць,
Каб мільёны братоў і сясцёр
Мне сказалі: «Ты стаў нам чужы!»

Як-то кажуць, усё па ідэі правільна, але паэзіі — паэзіі было ў вершах малавата. Становішча ўзяўся ратаваць старшынюючы Алесь Якімовіч.

— Шкада, што Гілевіч не прачытаў тых вершаў, якія друкаваліся ў «Бярозцы» — там былі лепшыя, мацнейшыя за гэтыя. Адзін з іх я вам прачытаю сам — вось толькі што выйшаў ліпеньскі нумар часопіса, і тут ёсць яго верш «Новая кніга».

Якімовіч прачытаў гэты верш, які мне не здаўся лепшым за тыя, што прачытаў я. Мяне непрыемна ўразіла, што верш апублікаваны ў вельмі скарочаным, куцым варыянце. Мне здалося, самае цікавае ў вершы ішло далей, у тых строфах, якія чамусьці адсеклі.

Пачалося абмеркаванне — і яно было вельмі добразычлівым. Гаварылі і пісьменнікі — настаўнікі, і самі ўдзельнікі нарады. Запомнілася, што нягучна і лагодна прагудзеў Янка Маўр:

— Яшчэ цяжка што-небудзь пэўнае сказаць, але ж хлопец — зусім маладзенькі, толькі закончыў сямігодку. Можа, сённяшнія славутыя пачыналі горш. Таму давайце яму пажадаем вялікай дарогі: хай вучыцца, хай расце і дужэе... Вось і ўсё!..

І тут здарылася нечаканае. Слова ўзяў кашчавы брытагаловы мой сусед і рэзка прысарамаціў усіх, хто выступіў, за тое, што яны робяць вельмі кепска, заўчасна выдаючы мне аванс. «Трэба шчыра сказаць маладому таварышу,— скрыпеў яго злы, ядавіты го-

лас,— што ў яго вершах нічога няма, і не трэба яго ўводзіць у зман, хай ён выбірае сабе дарогу ў жыцці па прызванню, а вы яго ашукваеце, хлусіце яму!..»

Гэта быў як гром з яснага неба. Ад сораму-ганьбы я быў бы рад праваліцца скрозь зямлю. Мне стала і страшна, і горка, і роспачна ад думкі: а што, калі гэты ў зашчытна-камсастаўскіх галіфэ і гімнасцёрцы суровы чалавек сказаў праўду? Хацелася выскачыць з пакоя і бегчы куды вочы глядзяць. Але слова тут жа ўзяў Павел Кавалёў. Ён сядзеў за асобным пісьмовым сталом у куце і дасюль не выступаў, а цяпер падняўся і, прыкметна картавячы, даў гарачы адпор брытагаловаму:

— Я рашуча не згодзен з папярэднім прамоўцам. І вам павінна быць сорамна, таварыш Бэндэ, за такое сваё выступленне. Вы абрынуліся, не паглядзеўшы, што гэта яшчэ зусім малады паэт, пачатковец, які робіць у паэзіі толькі першыя крокі. Так нельга, таварыш Бэндэ, нельга так!.. І няпраўда, што ў яго вершах нічога няма. Мне, напрыклад, спадабаўся і запомніўся верш пра касьбу ў звечарэлым лузе, я нават запісаў яго апошнія радкі, паслухайце:

І хоць стынуць, гуснуць росы
На кустах і на траве —
Ды звіняць, гамоняць косы,
І мая — мой верш пяе!..

Тут ёсць асабістыя адносіны да тэмы, ёсць шчырае пачуццё і вобраз. Гэта, на маю думку, добрыя радкі, якія сведчаць пра здольнасці аўтара. А здольных мы абавязаны падтрымліваць, а не біць!..

Жыццё вярнулася! Хоць я па-ранейшаму сядзеў, пахіліўшы ўніз галаву і не варушачыся, але дыхаць стала лягчэй. Абмеркаванне як бы пайшло па другому кругу: пачуліся галасы-рэплікі ў маю абарону. Зноў прагудзеў і Янка Маўр:

— Пасля такой цяжкой артылерыі не толькі зялёны, неабстрэлены, але і загартаваны баец можа не падняцца...

Хоць і быў я бясконца ўдзячны маім заступнікам і абаронцам, але ўвогуле свята было для мяне сапсавана. Настрой, якім я жыў усе гэтыя дні, апаў. Мучыла пачуццё віны і перад тымі, хто запрасіў мяне на гэтую нараду, і перад тымі, хто быў вымушаны за мяне заступацца.

Бэндэ! Гэтае прозвішча, пачутае тады ўпершыню, я запомніў добра. Так запомніў, што, калі пасля сустракаў у друку, кожны раз скаланаўся ад утрапення. Гадоў праз дзесяць, пасля XX з'езда партыі, калі нам шмат чаго адкрылася ў нядаўняй гісторыі нашай літаратуры, даведаўся я, і хто такі Бэндэ. Якім чорным ценем вісла гэтая злавесная постаць над нашай літаратурай у канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў! Якую страшную ролю адыграў ён у жыццёвым і творчым лёсе Янкі Купалы, Якуба Коласа і многіх-многіх выдатных дзеячаў беларускай нацыянальнай культуры і навукі, літаратуры і мастацтва! Іначай, як крывавым разбоем, яго «навукова-літаратурную» дзейнасць і не назавеш. Падумаць толькі, што ягонай забойча-скарпіёнскай злосці хапіла яшчэ і на маю долю! На долю сапраўды зусім зялёнага, неаперанага пачаткоўца, падлетка, якому яшчэ не споўнілася і шаснаццаці.

У апошні дзень нарады адбылося пасяджэнне праўлення Саюза пісьменнікаў, на якім у прысутнасці ўсіх нас, маладых, былі падведзены вынікі абмеркавання. Зноў я падоўгу не зводжу вачэй з Якуба Коласа. Вось ён вымае з каробкі «Казбеку», што перад ім, папяросу, пакручвае яе ў пальцах і збіраецца запаліць. Але раптам заўважае, што на попельніцы ляжыць недакураная, пагаслая, другая, якую ён незадоўга перад гэтым смыкаў. Канстанцін Міхайлавіч кладзе незапаленую папяросу назад у каробку, бярэ і прыпальвае тую недакураную... Бачу ўсё гэта, аказваецца, не толькі я адзін. Штурхнуўшы лёгка мяне локцем, шэпча сусед Яблонскі:

— Глядзі, які дзядзька Якуб ашчадны: недакурак запальвае, а новую папяросу назад паклаў...

Я, што праўда, нічога дзіўнага ў гэтым не ўгледзеў. А чаму трэба пакідаць, каб марнавалася, такую дарагую папяросу? Асабліва калі ўспомніць, у якой цане была ў нашых вясковых мужыкоў у гады акупацыі, ды і пасля вызвалення, нават адна зацяжка.

На пасяджэнні ў члены Саюза пісьменнікаў прынялі шасцярых удзельнікаў нарады: Івана Шамякіна, Міколу Аўрамчыка, Алену Васілевіч, Аляксея Бурдзеля (Русецкага), Алеся Астапенку, Мікалая Гарулёва. Пры абмеркаванні кандыдатур кожнага з іх прасілі сказаць што-небудзь пра сябе. Помню, як моцна ўразіў мяне расказ Аўрамчыка — пра Волхаўскі фронт, пра камандарма 2-й ударнай, здрадніка Радзімы ге-

нерала Уласава, пра палон і фашысцкую катаргу ў шахтах Рура...

На развітанне перад удзельнікамі нарады выступіў Якуб Колас. Гаварыў ён нядоўга. Трохі расказаў аб тым, як ён у мінскай турме пачаў пісаць паэму «Новая зямля» і як узніклі задумы іншых яго паэм і аповесцей. Затым народны пясняр пажадаў усім нам пільней прыглядацца да жыцця, дбаць пра ўдасканаленне майстэрства і асабліва пра мову твораў...

...Запомнілася, як я вяртаўся з нарады дадому. У Лагойск прыехаў на нейкім грузавічку, ужо было зусім страціўшы надзеі, пасля дванаццаці ночы. Спадарожніка далей у такую познюю пару не аказалася, і я, скінуўшы з ног апрыкрыя чаравікі, памахаў праз пагоркі і лагчыны бялёсаю стужкаю дарогі адзін. Слабаду ўбачыў у шызым мораку цёплай ліпнёвае ночы ўжо амаль на світанні. А ў жыце перад вёскаю так звонка свісталі-перасвістваліся перапёлкі, што я міжволі запыніўся, доўга стаяў адзін сярод поля, сярод бязмежжа сцішанай пад вечным небам зямлі, і слухаў. Слухаў перапёлак, слухаў ноч, слухаў сваё сэрца.

# «ПАДРАЖНІЎСЯ»

У інтэрнаце педвучылішча на ўсіх хлопцаў з усіх трох курсаў быў адведзены адзін вялізны, як казарма, пакой. На семдзесят з гакам душ. Спалі або па двое на ложку, або на двух ссунутых цесна ложках — утрох.

Я аказаўся трэцім на такім васьміногім тапчане з двума матрацамі, але з трыма, набітымі саломай, падушкамі, і з трыма коўдрамі, каб кожнаму асобная. Пазнаёміўся з суседзямі па тапчану: Сашка Зудзін, аднакурснік, з Заслаўскага раёна, заўсёды вясёлы, моцна збіты, камлюкаваты хлопец, і другакурснік Алесь Ставер, таксама невысокі і таксама вельмі рухавы, родам з Бягомльшчыны.

Можна ўявіць, што тварылася ў пакоі вечарамі, калі ўсе збіраліся да месца, якія ішлі размовы, спрэчкі, дыскусіі, якія ўзнікалі сваркі і лаянкі. Мацюкоў было хоць адбаўляй, здаралася — пускаліся ў ход і кулакі. Адным словам, сёе-тое ад бурсы і бурсацкага быту было. Зрэшты, як і ва ўсякім хлапцоўскім інтэрнаце.

Звычайна гамонка, смех, рогат доўга чуліся і пасля таго, калі святло выключалі. Іншы раз менавіта пасля таго самае цікавае і пачыналася: усякія «цёмныя» жарты і фокусы. Хлопцы, сталейшыя гадамі (а былі між нас нават і ўдзельнікі Вялікай Айчыннай) ці больш культурна выхаваныя ў сям'і, патрабавалі цішыні і спакою, але хто іх хацеў слухаць, тым больш — упоцемку.

У адзін з такіх вечароў, яшчэ ў пачатку верасня, калі я зусім мала каго ведаў па імені і хто з якога курса, «цёмны» рогат у пакоі быў што называецца літаратурнага паходжання. Адразу ж пасля адбою хтосьці, відаць, не зусім раўнадушны да паэзіі, заявіў:

— А я, браткі, сёння Петруся Броўку бачыў!

— Дзе гэта ты яго бачыў? — сыпанулася з розных бакоў «казармы» некалькі галасоў адразу. Няйначай,

як многія ўжо чакалі якога-небудзь такога інспірацыйнага пытання.

— Каля Дома друку, на трамвайным прыпынку.

— Адкуль ты ведаеш, што гэта быў Броўка? Што, ты з ім знаёмы?

— Досыць, што я з гэткім дурнем, як ты, знаёмы,— падкалупнуў таго, хто засумняваўся, інфарматар.

У «казарме» рагатнулі.

— Хай сабе я і дурань, але ўсё-такі?

— Па-першае, я на свае вушы чуў, як нейкая інтэлігентная жанчына сказала: «Здароў, Пятрусь!» Па-другое, падобны з твару на той партрэт, што ў школьным падручніку.

На гэтым тэма, магчыма, была б і вычарпана, але я ўспомніў нядаўнюю нараду маладых пісьменнікаў і агульны пісьменніцкі сход, на якім з дакладам выступаў Броўка, выразна ўявіў яго постаць, і — чорт пацягнуў мяне за язык: насуперак майму рашэнню маўчаць і пра ўдзел у нарадзе, і наогул пра свае вершаробныя грахі, ненаўмысна вырвалася пытанне:

— А які ён сабою з выгляду?

— Такі высокі, танклявы, даўганогі...

— Не,— кажу,— гэта быў не Броўка. Броўка не надта высокі, хутчэй сярэдняга росту, і зусім не танклявы, а такі мажны і дзябёлы дзядзька...

— А што — ты бачыў і ведаеш Броўку?

На гэты раз пытанні сыпануліся ў мой бок. Відаць, уразіла такое дакладнае апісанне постаці паэта.

— Каб не бачыў і не ведаў, дык не гаварыў бы,— адказаў я спакойна, сур'ёзна і таму яшчэ больш інтрыгоўна.

— Хто гэта там і бачыў і ведае? — надаючы вагу свайму голасу, запытаў хтосьці з аўтарытэтных трэцякурснікаў.

— Шпінгалет адзін з першага курса выхваляецца! — адказаў аўтарытэтнаму нехта пісклявы з суседняга тапчана.

Прызнацца, я тады яшчэ не ведаў, што такое «шпінгалет» — у нас гэту рэч называлі проста засавачкай, але абзыванне мяне абразіла, і таму я тут жа адпарыраваў:

— Сам ты шпінгалет!

— Што, што?.. Памаліся, зеляпуха, богу, што лянюся ўставаць. А то растлумачыў бы табе, як трэба гаварыць са старэйшымі.

Мне стала прыкра на душы, і я замаўчаў. Але ж і злосць на гэтых недаверкаў узяла! Ці ж я хлушу і выдумляю? Я ж сапраўды бачыў блізка ў твар амаль усіх беларускіх паэтаў і пісьменнікаў!

— Гэй ты, зеляпуха! Дык, можа, ты і Глебку бачыў?

У тоне пытання выразна чулася яхідная нотка.

— І Глебку бачыў,— адказаў я спакойна, не звяртаючы ўвагі на іронію.

Той, хто пытаўся, рагатнуў. За ім — яшчэ некалькі чалавек падрагатнулі.

— А Глебка з выгляду які? — пытанне прагучала так, каб падрыхтаваць «казарму» да выкрыцця хлуса і да агульнага смеху.

— Глебка? Ну, росту бадай такога ж, як Броўка, і гэтакі ж мажны сабою, толькі ў рухах больш спакойны і ўсмешка болей мяккая...

— Ай-яй-яй-яй-яй! — першы заякатаў-зарагатаў той, што «яхідна».— Ці чулі, браткі? Во даёць зеляпуха! Во даёць, га?!

— Вот вам і шпінгалет!

— Вот гэта дык пан Брахуноўскі!

— Не падсяваючы хлусіць!

Насмешлівыя галасы і рогат сыпаліся з усіх бакоў.

— Ну, а Янку Маўра, канешне ж, бачыў таксама? — «яхідна», адчувалася, усё больш уваходзіў у азарт.

Адступаць не было куды. Буду гаварыць як ёсць. Вот абармоты: не верац!

— Канешне, бачыў,— адказваю.— І не толькі гэтых, што назваў, але і многіх іншых: і Пімена Панчанку, і Максіма Лужаніна, і Алеся Якімовіча, і Алеся Стаховіча, і Міхася Клімковіча...

Тут, відаць, не ў маю карысць аказалася яшчэ і гэта ненаўмысная рыфма на «овіча», бо нават не далі мне пералічаць далей — вясёлы жарабячы рогат пакаціўся па ўсёй «казарме».

— Ой-ёй-ёй-ёй-ёй, о-ой! — якатаў, заходзячыся, «яхідна».

— Ай, брахун! Несусветны!

— Ай, залівака!

— Ай, якога нам чмута падкінулі!..

Воклічы, уперамешку з мацюкамі, ляцелі амаль не з кожнага ложка. Смех пачаў разбіраць і мяне самога — трохі ад бяссілля, расслабляліся нервы, а тро-

хі ад таго, што гэта ўжо рабілася падобным на забаўную, вясёлую гульню. «Рагачыце, дурні, рагачыце! Вам і ў галаву не прыходзіць, што ўсё гэта праўда».

— Дык, можа, ты... можа, ты і самога Коласа бачыў? — ледзь стрымліваючы напор гатовага выбухнуць смеху, падкінуў мне новую міну «яхідна».

— І Коласа бачыў,— адказваю.— Нават на здымку ў яго за спіной стаю.

Што пачало тварыцца ў пакоі пасля гэтага, цяжка перадаць! Рогат, як бы канаюць! Свіст і крыкі аглушальныя. Мацюкі — самыя адборныя. Падкінутыя нагамі, узлятаюць над ложкамі коўдры. Садом і гамора — у поўным сэнсе!

— А-яй! А-яй! А-яй! — ужо не якатаў, а крычаў, просячы паратунку, «яхідна».— А браточкі! Ратуйце мяне! З Коласам з адной міскі еў! Ці чулі вы!.. Ён жа лічыць усіх нас дурнямі...

— Хлопцы! Давайце яму за гэта цёмную зробім!

— Правільна! Цёмную яму! Цёмную!..

— Гваздзюлёў яму навешаць! Каб брахаў, ды ў меру!..

Тут ужо чую, мой сусед Алесь, што з-пад Бягомля, злосна мне шэпча:

— Замаўчы ты, малец! А то яшчэ запраўды цёмную зробяць!.. Нашто ты дражніш іх, выдумляеш абы-што? Навошта гэта табе? — Памаўчаўшы, дадаў галоўнае, што яго турбавала: — А то накінуцца рабіць цёмную табе, а заадно і мяне тут змалоцяць!..

— Ціха! Ціха, кажу! — злосна прагучаў над усім вэрхалам ужо знаёмы мне голас аўтарытэтнага.— Гэй вы там, мелюзга, заткніцеся!

Вэрхал раптоўна сціх, як абарваўся ўсё адно. Усе чакалі, што скажа аўтарытэтны.

— Паслухай, сапля (і плюс пяць слоў нечытэльных). Калі ты не перастанеш вякаць (зноў пяць слоў нечытэльных), дык я табе такога Коласа пакажу (і яшчэ пяць слоў нечытэльных), што і мама родная не пазнае. Зразумеў?

Я не думаў, што на гэта пытанне трэба адказваць. Але яно паўтарылася:

— Зразумеў ці не, я пытаюся?

— Зразумеў,— паныла мармытнуў я ў адказ аўтарытэтнаму.

— Вось бачыш, малец,— зноў зашаптаў мне на вуха Алесь.— Каб трохі, дык бы цябе тут змяздрычы-

лі на порхаўку! І што гэта ты надумаў выдумляць такое? Дзе гэта ты мог на сваёй Лагойшчыне бачыць усіх пісьменнікаў? Ды яшчэ і самога Коласа! Яшчэ і на здымку з Коласам!.. Ой, які ты, малец! Такі на выгляд здыхля, не крыўдзіся, а гэткае выдумляць можаш!..

Я нічога не адказаў Алесю. Ляжаў дагары ўпоцемку і горка сам сабе ўсміхаўся. Здыхля? Ну, так, бадай што, і самы зялёны — шаснаццаці няма, і самы здохлы сярод першакурснікаў. І апрануты ці не горш за ўсіх. Няўклюдны, нягеглы, замухрыжаны вясковы пашавэлак! З нейкае задрыпанай Слабады на Лагойшчыне! Невыпадкова гарадскія хлапчукі, прабягаючы нашым дваром, ужо колькі разоў крычалі на мяне «дзяроўня!». І ты хацеў, каб табе паверылі, што ты бачыў амаль не ўсіх нашых паэтаў і пісьменнікаў? Дзівак, дый толькі!..

Назаўтра раніцой, калі мы разам засцілалі наш супольны «тапчан», Алесь неяк падазрона паглядзеў на мяне і запытаўся:

— Паслухай, малец... А можа, ты запраўды бачыў каго... з гэтых паэтаў?..

— Ды не, — кажу, — я прыдумаў, проста захацелася падражніцца...

# ВІЗІТ НА ФАБРЫКУ-КУХНЮ

Усё! Апошняе цярпенне на зыходзе!

Калі не перастане цьмякаць — я зараз удару яго! Дальбог, удару! Во свіння! Куркуль недабіты! Не бачыць, што ў мяне кружыцца галава і цямнее ў вачах. А пад лыжачкай ужо не проста смокча, а нястрымна падступае млоснасць.

«Свіння» — гэта мой сусед па ложку, невысокі, чарнявы, даўганосы хлопец, на курс за мяне старэйшы. Родам ён недзе з-пад Свіра, значыць — заходнік, або, завочна, вядома, куркуль. Так іх, нашых адзінакроўных братоў з былой Заходняй, называлі ў нас з нечае ласкі ў першыя пасляваенныя. Сімпатый да іх, прынамсі ў нас, вечна галодных дзяцей, было тады мала. Ад дарослых мы чулі і ведалі, што яны там яшчэ аднаасобнікі, у калгас не ўступаюць, не хочуць, і жывуць багата: ёсць і хлеб і да хлеба. Ды мы неаднойчы і бачылі іх — на гаенскай дарозе: яшчэ на сваіх уласных коніках, яшчэ ў сваіх уласных калёсах яны везлі аднекуль з-пад Іллі на лагойскі або нават на мінскі базар прадаваць збожжа. Чулі ад якога-небудзь п'янага слабодскага дзядзькі, былога партызана, і такое: «Трэба было б, ядрона вош, зрабіць на іх у лесе засаду, на куркулёў гэтых, ды рэквізіраваць усё, што на вазах, каб ведалі!..» Што каб ведалі,— было нам, праўда, не зусім зразумела, але мы здагадваліся прыкладна так: каб ведалі, што мы тут, у калгасах, жывём галодныя, бо ўсё сабранае з поля аддаём дзяржаве, і што гэта несправядліва, калі ў адных хлеба ў адвал, а ў другіх — ні крошкі... Трэба, каб ва ўсіх, каб і ў іх таксама... Ну, пачакайце, куркулі, загоняць вас у калгасы — тады пабачым, як вы папавозіце гэтыя мяхі з жытам!..

Ды вось гэткі «куркуль-аднаасобнік» сядзеў цяпер насупраць мяне, амаль калені ў калені, на сваім акуратна засланым ложку і еў хлеб з салам. Ды як еў! Як апетытна! Смакуючы, моцна — на ўвесь пакой —

цьмякаючы!.. Колькі хвілін назад празвінеў званок на апошнія сёння заняткі, але я ў аўдыторыю не пайшоў — пайшоў у пакой (мы і вучыліся і жылі ў адным корпусе). Трэба было шукаць нейкае выйсце: апошні раз еў учора гэткай параю, калі можна назваць ядой гэну талерку рэдзенькага поснага пярловага супу (дома ў нас яго называлі суп з груцай). Вечарам выпіў кубачак варголы, раніцой — таксама: толькі кубачак варголы, без цукру, без хлеба, без нічога... Чытач не ведае, што гэткае за пітво — варгола? Растлумачу: гэта — чысты кіпяток, у адрозненне ад чаю — без заваркі. Этымалогія самой назвы празрыстая: голы вар, вар голы, варгола... Не ведаю, калі гэта слова ўзнікла, але амаль упэўнены, што яго прыдумалі беларускія студэнты першых пасляваенных гадоў.

У пакоі я сеў на ложку, локці на калені, а кулакі ў падбародак, і задумаўся: што ж рабіць? Дзе што раздабыць паесці? У каго пазычыць грошай? Перапытаў усіх блізка знаёмых хлопцаў — а ні рублёўкі! Можа, у каго з выкладчыкаў папрасіць? Кажуць, вельмі добры чалавек Кляеўскі Андрэй Платонавіч,— у вучылішчы хадзіла легенда, што летась ён сам даў аднаму студэнту грошы на абутак. Выклікаў яго на сярэдзіну класа — чытаць на памяць урывак з «Яўгенія Анегіна». Толькі той пачаў дэкламаваць, чуе спалоханы голас Кляеўскага: «Мінутачку! Мінутачку! Па-мойму, вы... босы! Ну, так! Вы што — босы прыйшлі на заняткі?» «Босы, Андрэй Платонавіч. Няма чаго абуць. Бацінкі разваліліся ўшчэнт — нават падвязаць нельга...» Кляеўскі тут жа дастаў з кашалька грошы, даў іх студэнту і сказаў: «Ідзіце зараз жа купіце сабе бацінкі! Ідзіце, ідзіце! Пушкіна мне пасля прачытаеце!..» Калі б папрасіць, ён бы, напэўна, пазычыў, чалавек, відаць, душы спагадлівай... Але як адважыцца папрасіць? Дый дзе ён цяпер, той Андрэй Платонавіч? У настаўніцкай сёння яго не бачна. Можа, прыйдзе толькі заўтра ці паслязаўтра... Лепш за ўсё было б знайсці дзе ў горадзе які невялікі разавы падзаробак. Як на тым тыдні Вася Герасімовіч з Грышам Гляцэвічам. Ішлі надвячоркам з лазні, пераймае іх у завулку, каля веснічак свайго двара, незнаёмая кабеціна і кажа: «Хлопчыкі, парэжце вы і пакаліце мне дровы — я вам добра заплачу». Во як пашанцавала! Заплаціла яна, калі верыць хлопцам, не надта добра, скупа, пакарысталася з іх вясковай сціп-

ласці, але ж усё адно пашанцавала! О, гэта было б проста шчасце, каб мне хто прапанаваў такую рабоціну!.. Ці, можа, пайсці на таварную станцыю? Там часта патрэбна сіла, там падзарабіць можна. У кастрычніку мы грамадой разгрузілі там цэлы вагон бутэлек з «Нарзанам». Сталі ланцужком і — з рук у рукі — па дзве бутэлькі — ад вагона і да пляцоўкі, дзе іх акуратна складалі штабялямі. Спачатку работа здалася такой лёгкай — амаль дзіцячай забавай, а к канцу мы ўжо не чулі рук, і ў сяго-таго бутэлькі пачалі выслізгваць з пальцаў. Самае ж крыўднае тое, што калі разгрузка была скончана, прадстаўнікі фірмы нас ашукалі — заплацілі ў два разы менш, чым дамаўляліся. І нічога, аблізнуліся мы, і толькі: бо дамаўляліся ж вусна, на чэсным слове, без дакумента.

За гэтым роздумам і заспеў мяне мой сусед па ложку — «аднаасобнік і куркуль» з ваколіц Свіра. Аказваецца, ён таксама на апошні ўрок не пайшоў — меў нейкі іншы клопат, вядома ж, зусім не падобны на мой. Трэба сказаць, што антыпатыі да яго я адчуў у сабе ўжо даўно. Пачалося гэта яшчэ ў верасні, з першых дзён сёлетняга навучальнага года, калі нашы ложкі апынуліся побач — аддзяляла толькі карычневая драўляная тумбачка. Аднойчы вечарам, калі пасля адбою, упоцемку, у пакоі пачаліся ўсялякія размовы і разгарэлася нейкая спрэчка пра партызан, мой сусед таксама ўставіў свае тры грошы — не голасна, але так, што яго пачулі: «Абдзіралы начныя! Толькі і шасталі па хутарах, каб пацягнуць то авечку, то свінню, а то і карову, не кажучы ўжо пра хлеб, пра кажухі, пра валёнкі...» Ну, гэта мяне разанула-такі здорава! Я помніў, бачыў сам, што ў час партызаншчыны здаралася і бывала ўсякае. Нярэдка пад маскай лясных салдат, народных мсціўцаў, дзейнічалі самыя што ні ёсць бандыты-рабаўнікі. Зброі хапала, ехалі ноччу за вёрст дваццаць — трыццаць, туды, дзе іх не ведалі, і рабавалі: забіралі з хлявоў жывёлу, а з хат — абутак і вопратку. Былі такія начныя госці і ў нашай хаце. Мама плача, просіць: «Людцы мае, што вы робіце? Мой жа чалавек у лесе, у партызанах! Не забірайце, людцы мае!» І мы, дзеці, пасаскоквалі, перапалоханыя, з ложкаў, з палатак, з печы, таксама плачам і просім: «Не забірайце, дзядзечкі!» А адзін з іх, каторы быў за старшага, гаворыць маме: «Замоўч, баба! Мы не ведаем, дзе твой чалавек, у якім

лесе. Можа, ён не ў лесе, а ў паліцыі!..» І ўсё, што было больш-менш прыдатнае з вопраткі, а таксама прыгожыя, натканыя мамай капы, коўдры, пасцілкі — усё паўпіхалі ў мяшкі і павалаклі. Ды яшчэ і астаткі солі забралі, нелюдзі!.. Помню, як бацька, заявіўшыся праз колькі дзён дадому, сказаў: «Гэта не партызаны, дзеці, гэта бандыты і марадзёры, родныя браты фашыстаў!..» Я тады не ведаў, што дакладна азначае слова «марадзёры», але яно мне вельмі запомнілася, я зразумеў яго проста: тыя, што дзяруць, абдзіраюць. Трапляліся, вядома, розныя людзі і сярод партызан, і я помніў некаторыя здарэнні, што падалі ценем на вобраз народнага мсціўца. Але ніякі цень не мог азмрочыць таго вялікага, гераічнага, святлістага, што было маёй падлеткавай, маёй лясной, маёй партызанскай памяццю, што запоўніла на ўсё жыццё маю душу і сэрца. Дарослыя ў той суровай рэчаіснасці ваенных гадоў бачылі больш, чым падлеткі і дзеці, бачылі, напэўна, не толькі высокае, але і шмат чаго нізкага, бруднага, подлага. Мы, у адрозненне ад дарослых, бачылі перш за ўсё іменна высокае, гераічнае, легендарнае,— бачылі тое, што нам хацелася бачыць. Бачылі галоўнае: партызаны змагаюцца з ворагам, з нелюдзямі-фашыстамі. Паасобныя прыкрыя, і нават трагічныя здарэнні, хоць і рабілі на неакрэплую юную душу цяжкае ўражанне, не засланілі ў маёй свядомасці галоўнага. Таму і ўспыхнуў я, пачуўшы злосна вымаўленыя ў адрас партызан словы: «Абдзіралы начныя!..» Дыпламатычнай абачлівасцю і вытрымкай я не магу пахваліцца і сёння, ну а тады яе не было ўва мне і ў паміне. І я разануў яму ў адказ з усёй маладой гарачнасцю і задзірыстасцю нешта такое, пасля чаго адносіны паміж намі ўсталяваліся, можна сказаць, ніякія. Амаль не размаўлялі.

Цяпер ён пацягнуў трохі на сябе з-пад ложка свой самаробны, але зграбны, драўляны куфэрак, адамкнуў невялічкі вісячы замок, трохі прыадкрыў века і выняў з куфэрка здаравенны, на ўсю лапату, бохан вясковага хлеба, пачаты хіба што адным акрайцам. Я заўважыў, што бохан выпечаны на кляновым лісце, а зверху ўпрыгожаны сям-там узорамі грабеньчыка,— так калісь рабіла дома і мая мама,— даўно, праўда, яшчэ да вайны, бо пасля вайны такіх боханаў у нашай хаце я ўжо не помню — выпякаліся толькі скавароднікі-праснакі, ды і то напалавіну з бульбы. Ён пры-

ціснуў гэны бохан адным краем сабе да сэрца і ладным вастрадзюбым нажом-складанікам адваліў вялікую — наўкруга букаткі — лусту. Затым дастаў таўшчэзны — на ўсю даланю — брус ружаватага сала і тым жа нажом адпілаваў ладную скварчыну. Потым сеў насупраць мяне, амаль калені ў калені, і пачаў есці. Сала ён паклаў на лусту, надразаў яго — колькі трэба на адзін кусман — нажом і разам з хлебам адкусваў. О-о-о, як гэта смачна! — аж скрыгатнулі ў мяне моцна сцятыя сківіцы. Я ведаю, як гэта смачна! Некалі даводзілася гэтак есці і мне — духмяны вясковы хлеб з добра ўлежаным, у меру пасоленым салам. Не часта, але даводзілася, еў.

Чую, як пад грудзі падварочвае млоснасць.

Усё! Апошняе цярпенне на зыходзе.

Яшчэ хвіліна — і ўва мне выбухне, бо ўжо напоўніла да краёў, самая што ні на ёсць класавая нянавісць!

Ах ты, кулацкая морда! Куркуль задрыпаны! Смачна? Пакуль мы гібелі ў партызанскай дзічы, у балотах, вы гадавалі свіней і кабаноў, хавалі ад партызан хлеб і сала, дык яшчэ і цяпер во — на поўніцу трубіш! А ў калгас, каб жыць па-новаму, па-нашаму, не хочацца? А дзяржаве дапамагчы — дудкі?..

Наколькі несправядлівыя, настолькі і злыя думкі ломяць чэрап. Каб не сарвацца і не нарабіць бяды, падхопліваюся і вылятаю на калідор, не спыняючыся — з калідора ў двор. Пайду па вуліцах і завулках — авось і мне пашанцуе, як Васілю з Грышкам: хто-небудзь папросіць зрабіць якую рабоціну. А не, дык пайду на таварную. А калі і там нічога, тады не ведаю... Тады, відаць, на Камароўку і зайцам дадому. Лепш бы, канешне, пратрымацца і не ехаць — праз два дні стыпендыя. Вядома, лепш! Але як гэтыя два дні пражыць?

Як шкада, што зарашоцілі густой рашоткай тое акенца ў падвале нашага корпуса! Гэта ж мы бадай што два тыдні жылі і гора не знялі — варылі дармовую бульбу, елі гарачанькую ды адно пасмейваліся. Дармовую — не значыць, што нам яе нехта даваў. Дармовую — значыць, крадзеную. Дзесь у канцы верасня нейкі магазін выпрасіў у дырэкцыі педвучылішча пад часовую арэнду пакой у падвале — для бульбасховішча. Бульбу прывозілі на грузавіках і ссыпалі туды праз маленькае акенца, перакрыжаванае металёвымі прутамі. На другі дзень пасля загрузкі бульбасховішча

падыходзіць да мяне аднакурснік Лёнька Ушаў і, хітра падміргнуўшы, сказаў:

— Слыш! Ты, па-мойму, галадаеш гэтак жа, як і я. Калі хочаш, пойдзем сёння вечарам здабываць харч. Позна, калі ўсе ўлягуцца, пасля адзінаццаці. У цябе якая торбачка ёсць?

— Што за харч і дзе здабываць? — насцярожыўся я ад яго нечаканай прапановы.

— Хадзем пакажу.

Мы выйшлі ў двор, і ён правёў мяне міма падвальнага акенца, у якім была бачна бульба,— так блізка, што можна дастаць рукой.

— А як пападземся? — пытаюся.

— Дзівачына! Па-першае, не пападземся. А па-другое, што мы — мяшкамі бралі? За дзесяць — пятнаццаць бульбін — і слова не скажуць.

І мы пачалі цягаць з падвала бульбу. Трэцяга ў кампанію ўзялі Сашку Зудзіна — таксама амаль заўсёды галоднага. Ініцыятар «таемнай змовы» Лёнька Ушаў, рослы і шыракаплечы хлопец з Кармянскага раёна, што на Гомельшчыне, быў аднарукі — пасля вызвалення, як і многія беларускія хлапчукі-рызыканты, ён паплаціўся рукой за жаданне самому разабрацца ў начыненай толам штукенцыі. Нібы зараз бачу, як ён кладзецца жыватом на зямлю ўдоўж падмурка і засоўвае ў акенца руку — скрыжаваныя пруты свабодна дазваляюць гэта зрабіць. Праз колькі дзён рука не стала даставаць да бульбы — нават яго, доўгая, не кажучы пра кароткую, як ласт, руку нізкарослага Сашкі Зудзіна. Тады мы прыдумалі палачку-даставалачку. На кончык кія загналі тонкі цвічок, засоўвалі кій у аконца і дзюбалі ім па бульбе. Як дзюбнеш — так нейкая і ўсколецца. Выцягнеш, здымеш і ў торбачку. «Тэхніка» патрабавала больш часу, але дзейнічала бяспройгрышна, а галоўнае — абяцала вялікую перспектыву, бо кіёк жа можна ўзяць і ўдвая даўжэйшы. На вялікі жаль, праз тыдня паўтара акенца было зарашочана густой рашотачкай — лёгкае здабыванне харчу спынілася.

Я пралындаў вуліцамі і завулкамі больш гадзіны — нідзе, як-то кажуць, пад нагамі ніякая работа не валялася. Не помню ўжо, якім чынам, але апынуўся я нарэшце каля знакамітай фабрыкі-кухні. Гэты харчовы камбінат быў мне крыху знаёмы — адзін раз летам сорак сёмага, у кампаніі з удзельнікамі рэспублікан-

скай нарады маладых пісьменнікаў, абедаў там на другім паверсе ў рэстаране. Цяпер я ўспомніў: старэйшая мая сястра Ліна гаварыла, што на першым паверсе, у сталовай, працуе тут дзяўчына з нашай вёскі, Зіна Драгун,— тая самая, што была прывезла на вяселле ў Слабаду беларускага пісьменніка. Я не ведаў дакладна, кім яна тут працуе,— нібыта судамыйкай? А можа, усё-такі афіцыянткай? Ах, кім бы яна тут ні была — паспрабую пабачыцца! А раптам... Сорамна, вядома! Ну, але што рабіць? Тут жа столькі яды, на гэтай фабрыцы-кухні! А Зіна ж зямлячка, разам расліі гадаваліся. Дык чаму не пабачыцца?

Праз вялікую залу сталовай я накіраваўся прама да буфета. Быў паабедзенны час, людзей ужо было мала, каля буфета — наогул ні душы.

— Прабачце, калі ласка,— звярнуўся я да буфетчыцы.— Зіна Драгун сёння на рабоце?

— Па-мойму тут, нядаўна бачыла. А што?

— Вы не маглі б яе на мінутку паклікаць?

Буфетчыца паглядзела на мяне ўважліва і, нічога не сказаўшы, пайшла на кухню. Што яна падумала, не ведаю. Кавалер іхняй работніцы? Магчыма. Хаця як для яе, дык, бачна, занадта зялёны: Зіна была за мяне на гады тры-чатыры старэйшая. Хутчэй за ўсё буфетчыцу ўразіў мой жаласлівы пагляд і голас. Праз колькі секунд, абганяючы буфетчыцу, амаль уподбег з кухні вынырнула дробненькая, русенькая, вастраносенькая Зіна. Убачыла мяне і, здаецца, трохі расчаравалася. Але павіталася ласкава.

— Ішоў во міма, успомніў, што тыт тут, дай, думаю, зайду. Я сёння дадому еду, дык, можа, перадаць што вашым? Сама не збіраешся?..

Я выпаліў усё гэта адным духам, бо «тэкст» быў загатоўлены і адрэпеціраваны яшчэ, пакуль стаяў перад дзвярыма сталоўкі і вагаўся: заходзіць ці не заходзіць.

— Не, Нілачка,— адказала са шкадаваннем Зіна,— да Новага года мне ўжо, відаць, не ўдасца. Так што — перадавай, калі ўбачыш, прывітанне, скажы, што ў мяне ўсё добра, і тут, на рабоце, і наогул...— І раптам, сцішыўшы голас, спытала.— Слухай, можа, хочаш супу паесці?

Я апусціў долу вочы. «Божа праміласць! Яна пытаецца, ці хачу я супу! Зіначка! Я з'еў бы цяпер за раз усё, што ў вас там ёсць на кухні — ва ўсіх катлах!

Яшчэ і вылізаў бы тыя катлы чысценька!» Але кажу я, коўтаючы сліньку, іначай. Не кажу, а пытаю:

— Можа, няёмка?

— Чаго? Не саромся, садзіся, я зараз прынясу. Во за гэты садзіся,— кіўнула яна на самы блізкі да кухоннага праходу стол.

Я сеў і ад ніякаватасці пачаў корпацца ў сваёй запісной кніжачцы. Хаця б не падышла афіцыянтка і не спытала: што вам? Чаканне мне здалося доўгім. Можа, не дазволілі? Многа, маўляў, усякіх такіх тваіх землякоў ды знаёмых заходзіць — на ўсіх не набярэшся! А сама яна тут не начальнік...

Але трывогі былі дарэмнымі. Зіна неўзабаве выйшла з ладнай алюмініевай міскай і ёмкім кавалкам хлеба ў руках. Калі яна паставіла абед перада мною но стол, я адразу прыкінуў, што ў місцы не меней як тры законныя порцыі. Густога, з дробнай ячменнай «сечкі» і з бульбай, супу. Вось гэта дык удача! На двое сутак наемся!

Я ўдзячна заківаў ёй галавой, мармочучы «дзякуй, Зіначка, дзякуй!..».

— Еш на здароўе,— усміхнулася дробнымі белымі зубкамі Зіна.— У мяне там шмат работы, дык я пайду. А ты спакойна еш. Да пабачэння!..

— Да пабачэння, Зіна, да пабачэння!..

* * *

Аднойчы мой добры знаёмы пачаў, пры нагодзе, успамінаць свае студэнцкія гады і расказваць, як яму тады, у той пасляваенны час, было цяжка жыць і вучыцца.

— Ты разумееш, як я пакутаваў без грошай? Страшна!

— Галадаў? — пытаюся.

— Ну, галадаць — не скажу, галадаць не прыходзілася. Сала прывозіў з дому рэгулярна, сала было заўсёды. Сала, зэльц, каўбаса, а таксама масла, сыр, яйкі,— гэта я прывозіў кожны раз. Але ж грошай — ну ні халерачкі! Нават іншы раз цукру не было за што купіць! Уяўляеш?

— Мне, братак, уявіць гэта цяжка,— адказаў я знаёмаму.— Я толькі магу паспачуваць табе. Мне, дзякаваць богу, гэтакіх клопатаў зведаць не давялося.

# «ПАШАНЦАВАЛА»

Не помню дакладна, калі пасля вайны пачаў хадзіць рэйсавы аўтобус Мінск — Лагойск, але, мабыць, не раней як у першай палавіне 50-х, бо пакуль я вучыўся ў педвучылішчы, усе чатыры гады дабіраўся да райцэнтра, а як пашанцуе, дык і да Гайны — на спадарожных грузавіках.

Неўзаконеная «пасажырская станцыя», дзе збіраліся ўсе, каму трэба было трапіць у Лагойск, ці ў Плешчаніцы, ці ў Бягомль, знаходзілася на Камароўцы, у пачатку Лагойскага тракту. Там, пад вокнамі старых прысадзістых домікаў, заўсёды стаялі, а як летам, то і сядзелі проста на зямлі людзі. Там шафёры спынялі свае грузавікі і аб'яўлялі пасадку: налятай — у каго ёсць грошы!

У каго ёсць грошы — таму што! Залазь спакойна ў кузаў — і каці. Адно пастарайся заняць месца на лаўцы каля самай кабінкі — дзе зацішней: бо машына непакрытая. А вось як дакаціць да Лагойска, калі грошай няма — не тое што двух чырвонцаў (менш шафярня не бярэ), але нават і дзвюх капеек. А дакаціць — кроў з носа — трэба! Стыпендыя выйшла дарэшты, а новай яшчэ не чутно! Усё, прывезенае [illegible] дому ў мінулы раз — скавароднік-праснак, клінок сыру, слоік заваложанага смятанай тварагу, дзесятак яек і рукавок сушанай, у скрыльках, бульбы,— з'едзена да крошкі. Апошнія дні ўжо сядзеў на пазычанцы, у разліку — дачакацца суботы і зноў махнуць дадому, да мамы, за чарговай торбачкай правіянту і хоць маленькай грашовай субсідыяй.

У бязгрошага пасажыра былі два выйсці: або ўпрасіць шафёра, каб падвёз за так — паспачуваў і не зганяў з машыны, або — у апошні момант, калі ўжо, сабраўшы грошы, ён садзіцца ў кабіну — непрыкметна схапіцца рукамі ззаду за борт і перакінуцца ў кузаў. На першы варыянт мне шанцавала рэдка, а другім я карыстаўся часта і досыць такі паспяхова. Прызна-

юся, нават і тады, калі нейкія рублёўкі ў кішэні былі, але расставацца з імі не было ніякага жадання, тым больш што заўсёды забірала злосць ад пачуцця несправядлівасці: ну, гэта ж дзяржаўная машына і дзяржаўны бензін, дык чаму я павінен яму, паразіту, даваць грошы? Вот ён насадзіў повен кузаў людзей — і з кожнага лупіць па два чырвонцы. За адзін раз кладзе запазуху да паўтысячы! За адзін раз — за паслугу казённым транспартам — столькі бярэ сабе дармовых грошай! Пачуццё абурэння і непрыязні да гэтых абдзіралаў перапаўняла мяне, і колькі хапала сілы, умення і спрыту — я стараўся праехаць, так, не заплаціўшы.

Увогуле, ашукаць вопытнага шафёра-абдзіралу цяжка; здаралася, што толькі я падбягу і хапаюся за кузаў, а ён (хітры, шэльма, бачыў, што я тут поблізу тунькаюся!) вяртаецца ад кабінкі назад і бярэ мяне за шкірку: «А ты куды, галубчык? Думаў мяне аб'ягорыць? Давай гані дваццатку, а не, дык правальвай падальш ад машыны, а то па шапцы стукну!..» Даводзілася перажыць непрыемныя хвіліны ўжо і ў кузаве. Вось ён сабраў з пасажыраў грошы, запхнуў у кішэнь, саскочыў дадолу і накіраваўся да кабінкі, і ўжо — чую — заводзіць. Стралою кідаюся да грузавіка і перакульваюся ў кузаў, там прыгінаюся-прытуляюся каля пасажыраў, каб не заўважыў мяне праз задняе акенца. Сэрца тахкае, моліцца: «Пранясі, божа!», а ён не адпраўляецца, не едзе. Ну, ясна, зараз вылезе з кабіны, прыйдзе і згоніць мяне. Непрыемнае чаканне, скажу вам! Вельмі непрыемнае!

Вядома, і ў беднага студэнта накопліваўся сякі-такі вопыт, як злаўчыцца і ашукаць пільнасць рулявога абдзіралы. Хітрыкі мае былі немудроныя і разлічаны на тое, каб ён не западозрыў, што я хачу на яго машыне ехаць. Для гэтага я, па-першае, увогуле не падыходзіў да шафёра і не пытаўся, куды ён едзе,— я даведваўся пра гэта, і то неўпрыкмет, ад каго-небудзь з пасажыраў; а па-другое, я не круціўся, не тунькаўся каля машыны, а стаяў або сядзеў трохі воддаль, на абочыне, і рабіў выгляд, нібыта мяне зусім, ну ніяк, ні трошкі не цікавіць, што гэта за машына і куды яна паедзе. Я або наогул спакойна і раўнадушна «драмаў», або глядзеў, зноў жа абыякава, у другі бок — як бы бавячы час у чаканні, або нават чытаў кнігу, але чытаў так уважліва, што не ўпускаў патрэбнага

моманту, і калі бачыў — пара! — кніга імгненна апынулася запазухай, а я за адну-дзве секунды апынаўся ў кузаве.

Горш было ў тых выпадках, калі абдзірала здзіраў грошы не на «станцыі», не ў Камароўскім развілку, а на выездзе з горада, дзе-небудзь каля Зялёнага Лугу. Бо тады ўжо або плаці, або — вяртайся пяшком на Камароўку, чэпай вёрст пяць назад і пачынай там паядынак ужо з другім абдзіралам нанава.

У нейкую асеннюю суботу, прыйшоўшы на Камароўку, каб ехаць дадому, я ўбачыў, што мне пашанцавала: каля грузавіка на абочыне вуліцы стаіць і выцірае веташшу замасленыя рукі зямляк — айнараўскі Стасёк Шыкта, мой добры, з гадоў вайны, знаёмы. У сорак трэцім і сорак чацвертым, калі наша сям'я жыла ў бежанцах у Айнаравічах, мы часта з ім бачыліся, летам разам пасвілі кароў, зімой каталіся з гары на санках і нават цэлымі днямі рэзаліся ў карты — у «ачко» ці ў «дурня». Гады на два старэйшы за мяне, ён закончыў неўзабаве пасля вайны шафёрскія курсы і вадзіў грузавік — я ведаў пра гэта ад айнараўскіх знаёмых, хаця асабіста спаткацца з ім з таго ваеннага часу ні разу не давялося.

— Здароў, Стась! — падаў я, не тоячы радасці, яму руку.

— Здароў! — хутчэй мармытнуў, чым сказаў, зямляк і без ніякага імпэту сунуў мне ў жменю кончыкі пальцаў.

— Ці не дамоў, да маці ты наладзіўся? — пытаюся на добрай, радаснай хвалі.

— Да-а, йдрыягамаць, наладзішся тут...— прагамзіў Стась, як бы нечым моцна не задаволены, як бы нехта перашкаджае яму наладзіцца або і зусім зрывае паездку.

— Скора едзеш? — не звяртаючы ўвагі на яго настрой, спрабую ўдакладніць я.

— Да-а, йдрыягамаць, будзе табе тут скора,— цыркнуўшы ўбок слінай, яшчэ больш нездаволена прагундосіў Стась.

І нібы для таго, каб падкрэсліць, што ніякага «скора» быць не можа, адышоўся крокі на тры ад машыны і сеў на ўзбочыне вуліцы на ўтоптанай каля штыкетніку траве. Я ступіў следам і прысеў побач — усё яшчэ стараючыся самім тонам гаворкі напомніць яму, што колькі гадоў назад мы, лічы, былі сябрукамі.

— А я, знаеш, чуў, што ты шафёрам стаў і часта ездзіш, а во ні разу не собіла наўрэцца...

Гавару гэтак і бачу, што ён жа нават і не слухае мяне, і фізіяномію ўбок адварочвае — ну, ніякай ні капелькі радасці, што спаткаліся! Як усё адно якісь вялікі начальнік перада мной. Ці як бы ў яго нейкі надта сур'ёзны клопат і ты яму адно замінаеш. Хоць бы словам пра мяне спытаў: маўляў, а ты як: вучышся? працуеш? Такое няветлівае яго трыманне не магло мяне не збянтэжыць.

— У цябе што-небудзь непрыемнае здарылася? — збавіўшы голас, пытаюся такім тонам, які выдае маю гатоўнасць не толькі паспачуваць, але і дапамагчы.

— Да-а, йдрыягамаць,— зноў цыркнуў слінай землячок і прагугнявіў гэта так, што хоць забі, не зразумееш: здарылася штось непрыемнае ці не здарылася? Раптам ён рэзка падняўся і, зусім забыўшыся на мяне, павярнуўся да ладнай гурмы пасажыраў, што тоўпіліся паблізу, і гучна аб'явіў:

— Хто на Лагойск — садзісь, паехалі!

«Вось дык фокус! — паспеў падумаць я, падхопліваючыся з месца.— То мармытаў, што яшчэ няскора, то раптам — гэп! — паехалі!.. Але чорт з імі — з яго нымі фокусамі! Галоўнае, што едзем і што ён завязе мяне не толькі да Лагойска, але і амаль да самай Слабады. Ну, і канешне ж, два мае чырвончыкі застануцца са мною».

Я спрытна забраўся ў кузаў і паспеў захапіць месца на лавачцы каля кабіны, побач з незнаёмым вясковым дзядзькам, досыць акуратна, па-святочнаму, адзетым. Ужо ўсеўшыся, падумаў: «Можа, я паспяшаўся кінуцца сюды, наверх? Можа, ён запрасіў бы мяне ў кабіну?.. А-а, чорт з ім! — махнуў я тут жа ўслед на гэтую думку рукою.— Ён, аказваецца, такі сугней, што... Невялікая будзе радасць ехаць побач і гаварыць так, як пагаварылі каля машыны. Зрэшты, каб ён хацеў, гэта самае, дык сказаў бы...»

Стаўшы на падножку кабіны, Стасёк моўчкі абвёў вачыма пасажыраў, мне здалося: пералічыў нас, нешта гамзатнуў сабе і стукнуў дзверцамі.

— А што гэта, бабы, ён павязе, не сабраўшы грошы? — пачуўся недаўменны жаночы голас.

— Можа, ён і зусім збіраць не будзе. За так завязе нас! — весела адказала бойкая вастраносая маладзіца.

— Цябе, можа, і за так. Ты маладая, і ён яшчэ маладзенькі,— умяшалася ў размову яшчэ адна кабеціна.— З маладым лягчэй дагаварыцца, ён скарэй саступіць, чымся стары. Старыя, колькі я ні езджу, дык непадатлівыя: плаці — і не знайся!

— Раз малады, дык, можа, яшчэ не паспеў навучыцца, як спаганяць з бедных баб грошыкі...

Машына тым часам загудзела і пакаціла па дрогкім, у выбоінах, бруку.

— Гэ-гэ! — іранічна гэгэкнуў няголасна, але каб і побач пачулі, мой сусед, падкасцюмлены дзядзька.— Не навучыўся! Зараз убачыце, ці навучыўся. Я ўжо з ім разоў колькі ехаў!..

На выездзе з горада, перад Зялёным Лугам, грузавік сышоў крыху на абочыну і спыніўся. Энергічна бразнулі дзверцы кабіны, і праз дзве-тры секунды над заднім бартом узнырнула коратка астрыжаная, прыплюснутая вузкалобая галава, з кірпатым, лычаценькім носам і маленькімі, глыбока ўторкнутымі, як у малпы, вочкамі.

Стасёк залез у кузаў, упэўнена сеў на борт — спіной да горада — і гэтак жа ўпэўнена, хоць і гундосячы, сказаў:

— Давайце разлічымся! І каб без ніякіх аб'ясненняў. У мяне гэта дзела не праходзіць!..

— Во які строгі! — выказала здзіўленне вастраносая маладзіца.— А мы тут гаварылі, што, можа, гэты раз зусім бясплатна праедзем.

Шыкта ніяк не адрэагаваў на жарт гаваркой пасажыркі — як і не чуў усё роўна.

— Давайце па парадку, з першага рада! І хуценька!

Ён гаварыў усё гэта такім тонам, што я адчуў, як у нагруднай, на замочку, кішэньцы маёй цёмна-карычневай футболкі зварухнуліся дзве паперкі — два пазычаныя на дарогу чырвонцы. Гэты яго тон, мабыць, добра адчулі і ўсе астатнія, бо досыць спрытна пачалі развязваць свае вузялкі або даставаць кашалёчкі і працягваць яму грошы. Купюркі ён старанна пералічваў і кожную падушную паасобку піхаў — як усё адно запазуху — ва ўнутраную кішэнь свайго зашмальцаванага шэрага пінжака. Але вось рэй запыніўся. Шыкта працягнуў кучку рублёвак, якія падала яму старая хударлявая жанчына, назад і прагамзоліў:

— Вазьмі іх сабе, цётка. За гэтыя грошы я не павязу цябе. Або плаці, колькі трэба, або злазь!..

— А дзіцятка маё, дык дзе ж я табе болей вазьму! У мяне ж няма болей! Далібожачкі! Як на духу кажу. Во гэта ўсё, што асталося ад пакупак... Ці ж бы я табе пашкадавала? Спусці ты ўжо мне, старой, гэтую недастачу...

— Я ж, па-мойму, ясна сказаў, цётка: або плаці, колькі трэба, або злазь!

«Во, які ты, Стасёк! Якім ты паспеў зрабіцца абдзіралам! Гэта ж ты, мусіць, і мне не дасі спуску! І з мяне, чаго добрага, злупіш? Ну, няўжо? Няўжо і з мяне возьмеш?»

Так мітусіліся мае думкі, пакуль землячок спаганяў недастачу з хударлявай кабеціны.

— Верка, пазыч, калі маеш, сем рублёў, аддам, як прыедзем,— звяртаецца да вастраносай маладзіцы кабеціна.— Бо што ж мне?.. Не злазіць жа тут, сярод дарогі...

Верка падала ёй грошы моўчкі — жартаваць ёй наконт бясплатнага праезду ўжо не хацелася.

— Так, цяпер з апошняга рада падавайце! — усё тым жа тонам прагугнявіў Шыкта.

Я сяджу, прыапусціўшы галаву, і не варушуся. Бачу, як мае суседзі і справа і злева перадаюць праз жанчын свае рублёўкі, але сам не варушуся. Вычэкваю. Няўжо і з мяне запатрабуе?

— Хто яшчэ не аддаў? — неяк асабліва гугнява прагучала ў кузаве.

— Дык жа, мусіць, ужо ўсе, здаецца!

— Не ўсе! — падкрэслена заявіў Шыкта.

— Хіба што ты не плаціў, хлапец? — павярнулася да мяне жанчына.— Нешта я не бачыла, ці ты аддаваў грошы, ці не?..

Так жа, не падымаючы ад сораму галавы, я выняў з кішэнькі дзве перагнутыя папалам, у пунсовых разводах, купюры і працягнуў наперад, ціха папрасіўшы: «Падайце яму...»

— Вот цяпер усе! — прагундосіў Шыкта і саскочыў дадолу.

Зноў энергічна бразнулі дзверцы.

— А што ж ты адразу не аддаў? — запытаўся, павярнуўшыся да мяне, дзядзька.— Хацеў «зайцам»? У гэтага гугнявага? Не, браток! У гэтага зайцам не праедзеш! Гэты злупіць — хоць ты канай тут!..

— Мы некалі сябрамі былі,— адказваю яму досыць голасна, бо разумею, што людзі могуць кепска пра мяне падумаць.— Кароў разам пасвілі, на санках каталіся...

— Сябрамі былі? — здзіўлена перапытаў дзядзька.— І ён узяў з цябе грошы?

— Вы ж бачылі!..

— Цьфу, паскуда! — сплюнуў за борт дзядзька.

* * *

Чым далей, тым часцей думаю пра наша пакаленне — пакаленне гэтак званых «дзяцей вайны», дзяцей партызанскіх лясоў і пушчаў. Добра думаю. З чалавечай годнасцю праз усе пасляваенныя гады несла яно свой жыццёвы крыж — свае цяжкія турботы і клопаты: і тыя, што дасталіся ў спадчыну (сіроцтва, безбацькоўства, беднасць), і тыя, якімі надзяляла штодзённа ява. Заўсёды помню, аднак, што ў гэтым пакаленні ёсць і Стасёк Шыкта. І што ён таксама ўсе гэтыя гады ішоў — дакладней, сядзеў за рулём — побач з намі, сваімі равеснікамі. Уяўляю, колькі ён за гэты час налупіў, наздзіраў з людзей грошай! І колькі яшчэ нам і нашым наступнікам сплёўваць за борт жыцця паскудства.

# І МНЕ ЗАХАЦЕЛАСЯ ЗАПЛАКАЦЬ

Вясною сорак восьмага года ў нашай сям'і здарылася вялікая бяда: забралі і пасадзілі майго старэйшага брата Леўку. За растрату ў краме, у нашай, слабодскай, загадчыкам якой ён стаў месяцаў шэсць назад, калі яму ледзь-ледзь споўнілася васемнаццаць.

Як утварылася растрата — сказаць цяжка; былі і засталіся ў памяці родных дзве версіі — абедзве верагодныя і абедзве звязаныя з продажам гарэлкі — на іншых таварах у малюсенькай вясковай крамцы недалік у суме пяці тысяч (тагачасных!) проста не мог набрацца. Першая версія: у сельпо, дзе Леўка атрымліваў тавары, яго, зусім нявопытнага і даверлівага, маглі ашукаць — недаліць у бочку пяцьдзесят літраў гарэлкі — і толькі. Другая версія, не менш верагодная — залезці ноччу ў краму было больш чым проста — абы было ў каго жаданне. Крама размяшчалася ў другой палавіне звычайнай, старой і пахілай, вясковай хаты, з вузенькімі сенцамі. Пад хатаю быў пограб, з якога, прыпадняўшы падгнілыя дошкі падлогі, залезці ў краму было справай плёвай. А залезшы, нацадзіць з бочкі тых самых пяцьдзесят літраў гарэлкі.

Як яно на самай справе ні было, а рэвізія выявіла недастачу. Па мерках сучаснага зладзейства, пра якое пішуць у газетах,— зусім дробязь, а тады... А тады гэта дробязь абярнулася для нашай сям'і сапраўдным няшчасцем. Па-першае, недастачу патрэбна было пакрыць, і спосаб для гэтага быў толькі адзін: прадаць карову. Так мы развіталіся з нашай дарогай Недзялеькай, якая ў цяжкія часы акупацыі карміла нас і ратавала ад галоднай смерці. Па-другое, хаця растрата і была пакрыта, а Леўку ўсё ж забралі і, пратрымаўшы колькі месяцаў у мінскай турме пад следствам, далі пяць гадоў няволі. Нашаму такому бяскрыўднаму, бясконца добраму і спагадліваму па натуры Леўку!

Становішча дома ўскладнілася ва ўсіх адносінах. І маё студэнцкае існаванне таксама. Сям'я з кучаю дзяцей засталася без каровы, без кроплі малака ў хаце. Раней і я мог хоць жбаночак тварагу ці клінок сыру прывезці з дому — цяпер і гэтага не стала. Апрача таго, пачалася непрыязнь паміж бацькамі: мама не магла даравацъ бацьку і тое, што ён насуперак яе волі «ўпёр дзіця» на гэткую работу, і тое, што не паклапаціўся выручыць сына з бяды — зрабіць так, каб да суда не дайшло. Ёй здавалася, што ён, будучы старшынёй сельсавета, мог бы гэта зрабіць без асаблівых цяжкасцей. Што і казаць: любы іншы на бацькавай пасадзе гэта, напэўна, зрабіў бы. Але толькі не ён — досыць безабаронны і некантактны па натуры і наіўны ідэаліст па маральных перакананнях, катэгарычна не здольны ўступаць у канфлікт са сваім уласным, «партыйным», як ён любіў падкрэсліваць, сумленнем.

Тым часам у педвучылішчы пачалі мяне заўважаць і далучаць да ліку актывістаў. Выбралі членам камітэта камсамола і прызначылі галоўным рэдактарам агульнавучылішчнай студэнцкай насценгазеты «Савецкі настаўнік». Клопатаў грамадскіх прыбавілася, і такіх клопатаў, для якіх патрэбен бясхмарна-аптымістычны, бадзёры настрой. А тут — родны брат у турме і відочнае нарастанне разладу дома. Будзь аптымістам, будзь жыццярадасным і без ніякай паныласці ў самапачуванні! Стараўся быць. І ў цэлым гэта атрымлівалася. У грамадзе, сярод студэнтаў, паміж сяброў і таварышаў горкае асабістае забывалася. Прынамсі, на два тыдні — да чарговага майго паходу ў мінскую турму, куды я пачаў насіць перадачу для Леўкі. Перадача гэта была больш чым сціплая — буханка хлеба і пачак ці два махоркі. Даведаўся, што можна перадаваць і грошы, за якія брат можа сам у турэмным ларку купіць сабе курава або цукру. Якія ў мяне былі грошы — вядома: сто сорак рублёў стыпендыі (цяпер гэта чатырнаццаць), і ні капейкі больш. Але думка, як там галадае і пакутуе бедны, няшчасны Леўка, прымушала мяне на звышэканомію фінансаў, і пакуль ён сядзеў пад следствам, я змог перадаць яму праз канцылярыю турмы тройчы па дваццаць рублёў. Як зараз бачу тое акенца ў сцяне, у якое я стукаўся, называў прозвішча, падаваў грошы і атрымліваў на іх малюсенькі квіток. На душы рабілася лягчэй: хай брат ведае, што я яго шкадую і, як магу, буду дапамагаць.

Восенню, пасля таго як адбыўся суд, Леўку адправілі ў выпраўленча-працоўную калонію на будаўніцтва Мінскага трактарнага завода. Паявілася магчымасць атрымаць «свіданне» — пабачыцца асабіста. Даведаўшыся, дзе тая калонія, я сабраўся на першае — пасля амаль паўгадовай ізаляцыі — спатканне з братам. Высвятлілася, што ісці мне туды лепш за ўсё па насыпе чыгункі Мінск — Масква. Педвучылішча было на вуліцы Захарава, якая адным канцом упіралася ў станцыю Мінск-Усходні. Я выйшаў туды на дарогу, а далей па ўзбочыне, а то і па шпалах, пайшоў на ўсход. Кіламетры праз тры звярнуў направа і непадалёк ад чыгункі, на нейкім пустыры сярод пералескаў, знайшоў месца прыёму перадач для зняволеных і збору тых, хто хацеў атрымаць спатканне. Гэтым «зборным пунктам» быў звычайны, дабіты да ручкі і таму скінуты з колаў вагон, у сярэдзіне якога ўсе лаўкі і сценкі-перагародкі былі выламаны і выкінуты. Парадак для гэткіх, як я, наведнікаў там быў такі. Дзесь гадзіне а трэцяй прыходзіла жанчына-начальніца і забірала ад кожнага перадачу — з запіскай, каму і што, які харч уручыць. Складала ўсе гэтыя пакункі-клункі на каляску-двухколку і каціла туды, дзе была тэрыторыя самой калоніі. Хто ж падаваў заяву-просьбу на спатканне — той заставаўся ў вагоне і чакаў, пакуль яна вернецца к канцу рабочага дня і павядзе сама — строга па спіску — да варот калоніі.

Пасля некалькіх прыходаў сюды я засвою ўвесь гэты парадак і стану для начальніцы — сярэдніх гадоў, грубатварай, з дзюбатым носам кабеціны — даўнім знаёмым і буду спакойна сядзець або стаяць, калі ўсе табурэткі пазайманы, і, каб не марнаваць часу, чытаць кнігу. Але гэта будзе пасля, а цяпер, прыйшоўшы сюды ў першы раз, я да ўсяго прыглядаюся і да ўсяго прыслухоўваюся. Народу назбіраецца ў вагоне ўсё больш і больш. Людзі — самыя розныя і з выгляду, па адзетку, і па тым, што прынеслі на перадачу, і па тым, як яны трымаюцца. Вясковыя дзядзькі або цёткі — з хатулькамі ці нават з кошыкамі, у якіх апрача хлеба хатняе прыгатаванне: сыр, масла, скварка і якое-небудзь печыва. Калі пачынаюць гэта ўсё выкладаць і паказваць начальніцы — ідзе такі прыемны, такі смачны пах, што ў мяне гоніць сліну. Гараджане, якіх пазнаю па мове, тут усякія: ёсць простыя рабочыя, і ў іх авоськах — самы просты харч: хлеб, пара

батонаў, пачак маргарыну, пачак цукру-рафінаду ды яшчэ, калі для курца, пачак ці два махоркі. Амаль дакладна тое ж, што і ў маёй авосьцы. Ёсць людзі іншага сацыяльнага крою — інтэлігентнага і начальніцкага. У іх перадачах я бачу прадукты дарагія і нават рэдкія — магазінныя каўбасы, фабрычныя мясныя вырабы, чырвоная рыба, шакалад, апельсіны або лімоны. Цікава назіраць, як сёй-той з начальніцкага саслоўя трымаецца. На іншых, на «дэмас», гэтакі таварыш увагі амаль не звяртае, старонiцца, а на твары ў яго напісана выразна і катэгарычна: вы не думайце, што калі я вымушаны прыйсці сюды, дык я роўны з вамі, а той, каму я прынёс перадачу, гэткі ж вульгарны злачынец, як тыя, каму прынеслі свае ўбогія авоські вы. У адрозненне ад дзядзькоў і цётак вясковых, у размову ён ні з кім не ўступае, нічога ні ў кога не пытае — бачна, што яму быць тут вельмі няёмка.

Сёння нядзеля, і народу ў вагоне набралася да сотні: біткам набіта. Зразумела: выхадны дзень, а ў большасці тут — людзі прыезджыя. У будучым я па выхадных хадзіць сюды не буду, а толькі ў будні, калі збіраецца не больш трыццаці чалавек, і на спатканне запускаюць усіх у адну рату. Гэты раз начальніца падзяліла нас, прыхаджан, ажно на тры групы — паводле чаргі ў спіску. Я, на шчасце, трапіў у першую.

На дварэ — пачатак лістапада, ветрана, холадна, цярушыць дробны-дробны, як праз густое сіта, дождж; хутчэй — імжака. Начальніца вядзе нас да калоніі — гэта з паўкіламетра, а можа і болей. Ідзём нацянькі, спачатку праз пустыр, затым — міма рэдкіх, высозных сосен. Вось і калонія. Высокая агароджа і калючага дроту, за якою — доўгія прыземістыя баракі. На рагах — вартавыя вышкі. Мы спыніліся за метраў паўтараста — бліжэй нельга — на пагорачку пад соснамі. Зараз «іх» будуць весці з работы. Пасля кожны з тых, да каго прыйшлі, напіша заяву, каб яму далі «спатканне». Яшчэ праз хвілін трыццаць, пасля вячэры, іх прывядуць у асобны спецыяльны пакой. Тады пусцяць і нашу першую групу за агароджу — на спатканне. Так тлумачаць мне наведнікі, якія ўжо бывалі тут неаднойчы.

Дзень канчаецца, навокала пачынае хутка шарэць. Дождж не перасціхае. Мае дохлыя чаравікі намоклі, і я адчуваю, як у ногі заходзіць холад. «Вядуць!..» — прамовіў раптам хтосьці ў нашай гурме і

паўтарыў: — Вядуць!..» Усе заварушыліся, памкнуліся да краю дазволенай мяжы, каб лепш убачыць тых, каго вядуць. І вось нарэшце мы іх убачылі ўсе. Іх вялі па дарозе ўздоўж агароджы да прапускных варот. Першая калона, за ёй другая і трэцяя. У кожнай — чалавек па дзвесце. Паперадзе і з бакоў — людзі ў ваенным, з аўтаматамі. Каля кожнай калоны — адзін або два з вялізнымі аскаленымі аўчаркамі на павадках, якія рвуцца з рук і злосна басавіта гаўкаюць. Дарога разбіта страшэнна, гразь і хлюпа пад нагамі ў зняволеных — за костачкі. Усе яны апрануты аднолькава — у шэрых ватоўках, у шэрых штанах, у шэрых кірзовіках. Я гляджу, як яны цяжка, стомлена дзугаюць па гразі, месяць і без таго жыдкую жоўта-брудную калантэху, і мне становіцца не па сабе, робіцца страшна і вусцішна. Такога відовішча я ніколі не бачыў — такой абязлічанасці чалавека. Думаю я, вядома, пра брата, і сэрца сціскаецца ад болю. «Леўку — пад канвоем? З аўтаматамі і з аўчаркамі? Нашага Леўку, які за жыццё не пакрыўдзіў і мухі?..»

Сёй-той з нашай гурмы пазнае ў калоне свайго і махае над галавой рукою. «Валодзька! — ускліквае побач са мной вясковая жанчына.— Валодзька, сынок мой, я тут!.. А божа ж мой божа!..» — прыгаворвае яна і таксама махае рукой. Уздымаюцца рукі і над калонамі. Але я пазнаць брата не магу — надта ж усе яны між сабой падобныя. Да таго ж я не ведаў, што ў мяне пачала развівацца блізарукасць.

І вось нас, першую групу, паклікалі. Я праходжу праз кантрольную будку і здаю ў акенца свой пашпарт. Услед за другімі, пад назіркам узброеных ваенных, праходжу ў драўляны будынак і трапляю ў пакой, дзе ўжо чую ўсхваляваныя галасы і жаночыя ўсхліпы. Уздоўж адной і другой сцяны стаяць доўгія сталы-козлы, за якімі сядзяць зняволеныя, па гэты бок сталоў, на грубым услоне з дошкі, садзімся мы, наведнікі, кожны насупраць свайго. Я і тут не адразу пазнаю брата, і ён мяне акліквае. Я саджуся таксама і працягваю к яму рукі, якія ён, у вялікай радасці, моцна сціскае, а пасля пачынае гладзіць сваімі вялікімі шурпатымі далонямі.

— Здароў, мой браток, здароў! Ну, вось мы нарэшце і ўбачыліся!..

Я адказваю «здароў», гляджу на яго непаголены твар, на дагала абстрыжаную русую галаву і заўва-

жаю, як ён за гэты час, ад вясны, змяніўся. Схуднеў у шыі, асунуліся шчокі, глыбей запалі і трохі падвыблеклі вочы. Я хацеў бы яго моцна абняць і расцалавацца, але ім падымацца з месца нельга.

— Громко не разговаривать и ничего не передавать! — папярэджвае, прахаджваючыся ў мяне за спіною, адзін з канваіраў.— Повторяю: громко не разговаривать и ничего не передавать!..

— Ты, мусіць, мяне, як ішлі, не пазнаў, браток? — пытаецца, усё яшчэ гладзячы мае рукі, Леўка.

— Не пазнаў,— кажу.— Як ні прыглядаўся...

— А я цябе пазнаў адразу. І замахаў табе. Хоць ватоўка на табе гэта нейкая новая, не тая...

— Новая,— кажу.— Тую ўкралі ў інтэрнаце...

— Укралі! — перапытвае здзіўлена Леўка.

— Ну. Адзін хлапец з нашага курса, яшчэ вясной. Занёс на іпадром на таўкучку і прадаў, але нашы там яго якраз убачылі .Дык вярнуў мне грашыма, і я купіў на таўкучцы гэту. Але няўдачна: ашукалі мяне. Не агледзеў, што ззаду папрапальвана сернай кіслатой, як толькі стаў насіць — дык і пасыпалася. Мама пазалатвала...

Так з абы-чаго пачалася наша размова. Затым Леўка распытаў пра ўсё, што ў нас дома, а перш за ўсё, як здароўе мамы і як мы — без каровы — жывём. «Да труны не дарую сабе, што праз мяне вы там галадаеце! — шчыра, з болем, сказаў ён.— Навука мне, браток, на ўсё жыццё!..»

— Дык ты ж невінаваты,— спяшаюся супакоіць яго.— Мама сказала, што не сумняваецца, чыіх гэта рук справа. Што гэта гэдак бацьку адпомсцілі — за яго прынцыповасць... А як ты тут? Не галадаеш? Не хварэеш?

— Цяпер тут, на будоўлі, лепш. Хоць і работа цяжкая, і пад дажджом часам, але — не ў камеры, усё-такі цэлы дзень на свежым паветры. У турме было цяжка...

— А там, на Валадарскай, табе хлеб і махорку ад мяне перадавалі?

— А як жа, усё, браток, перадавалі, дзякуй табе...

— А грошы?

— Якія грошы?

— Я перадаваў табе і грошы. Тры разы. Нямнога, праўда. Па дваццаць рублёў усяго...

— Не, браток, грошы я не атрымліваў. Ні разу. А як ты перадаваў іх?

— Праз турэмную канцылярыю. Мне нават квітанцыю кожны раз давалі!..

— Не, браток, грошы да мяне не дайшлі. Ні разу.

— Дык як жа так можа быць? Мне ж і квітанцыю выдавалі! — ціха выкрыкнуў я голасам, у якім змяшалася ўсё: і крыўда, і абурэнне, і гнеў, і яшчэ раз крыўда.

Успомніў, як няпроста было ў маім галодным студэнцкім жыцці адрываць ад стыпендыі тых дваццаць рублёў, і мне захацелася заплакаць. Брат, відаць, зразумеў гэта і ласкава, супакойваючы, пацісну́ў мае далоні.

— Не перажывай, браток! Ну, што зробіш? Усюды знойдзецца нягоднік... Ты вунь у нашай калоне сёння бачыў? — панізіў ён голас да шэпту.— Неслі аднаго на насілках.

— Бачыў,— кіўнуў я галавою.— Я нават збіраўся ў цябе спытаць — што з ім.

— Кокнулі. Дошкай па галаве. Нібыта сама незнарок з рыштаванняў звалілася...

— А за што... яго? — пытаюся, страшна ўражаны гэтым паведамленнем. Нават на крыўду імгненна забыўся.

— Не захацеў падзяліцца перадачай з бандзюкамі. А тут, браток, такія бандзюгі, што лепш аддавай адразу, хоць і апошнюю рубашку...

— Свидание оканчивается! — прагрымеў у мяне за спіной знаёмы голас канваіра.— Осталась одна минута!

Гэту апошнюю мінуту гаварыў адзін я: упрошваў брата, каб хаця ён асцерагаўся бандзюгаў і ні ў чым не пярэчыў ім.

— Не бойся, браток, не бойся,— усміхнуўся мне на развітанне Леўка.— І маме скажы, хай не перажывае. Усё будзе добра... А ты прыходзь — як будзе выпадаць табе...

У інтэрнат я вяртаўся тым жа шляхам, па насыпе, па шпалах, калі ўжо зусім звечарэла. Днём, ідучы ў процілеглым кірунку, я ведаў, што сустрэча з Леўкам дасца мне цяжка. Але што яна ўселіць у мяне столькі горычы, засмучэння, болю, пакутна-роспачнай недаўменнасці, што, карацей кажучы, яна так пераверне ўсю душу ўва мне,— не думаў. Жыццё, якое мяне акружала ў педвучылішчы, у нашым вясёлым студэнцкім інтэрнаце, і тое, што я сёння пабачыў уласнымі вачы-

ма, пачуў і перажыў сэрцам,— катэгарычна і рашуча не супадала. Тое, дзе я толькі што быў, здавалася мне цяжкім, немарачным сном. Вярнуцца з яго ў рэальнасць дапамог мне даляцелы з далёкага радыёвяшчальніка гучны голас дыктара, які паведамляў, што працоўныя якогасьці калектыву, стаўшы на перадсвяточную вахту, сустракаюць трыццаць першую гадавіну Вялікага Кастрычніка выдатнымі вытворчымі поспехамі. I я ўспомніў, што мне трэба неадкладна, сёння ж, для насценнай газеты «Савецкі настаўнік» закончыць прысвечаны рэвалюцыйнай даце верш. Пачаў прыгадваць і дэкламаваць уголас радкі першых, ужо гатовых строф:

Мы ішлі няспынна
Праз усе гады.
На пясках пустынных
Зацвілі сады.
У краях суровых
Загукаў цягнік.
Зазіхцелі новых
Гарадоў агні...

Так, сёння, хоць да паўночы, хоць да раніцы, я павінен яго закончыць. Бо заўтра пасля заняткаў будзе рабіцца святочны нумар газеты, адказным рэдактарам якой я, семнаццацігадовы дзяцюк, прызначаны. Верш плануецца на першую паласу — у падвёрстку да перадавіцы. I заўтра ж вечарам рэпетыцыя вучылішчнага хору — будзем развучваць новую песню для святочнага, кастрычніцкага канцэрта.

Вось гэта і ёсць рэальнасць, гэта і ёсць мае святы і будні, маё сапраўднае, паўнакроўнае, маладое, студэнцкае жыццё... А тое, адкуль я вяртаюся,— сон. Пакутны і цяжкі сон... Сон? Які ж сон, калі праз тыдзень — самае большае праз два — я зноў пайду туды і зноў буду ўсё гэта бачыць! I невясёлых, заклапочаных людзей у вагоне, і тую жудкую гразь-калантэху на дарозе, па якой сунуцца шэрыя калоны зняволеных, і той, поўны махорачнага і папяроснага дыму, пакой для спатканняў... I зноў буду сядзець насупроць Леўкі, а злева і справа, гаворачы са сваімі і пра сваё, будуць сядзець такія ж, як я, людзі, і калі жанчыны, то абавязкова будуць хліпаць носам і выціраць слёзы, і нешта расказваць, і нешта прасіць ці раіць... I зноў Леўка будзе сціскаць і гладзіць сваімі шырокімі, мазольнымі далонямі мае ўжо трохі «апанелыя» рукі, а я

буду глядзець на яго бледны твар і астрыжаную русявую галаву і буду душыць у сваім сэрцы ўсё той жа нязмоўчны крык: «За што?! Людзі! Калі вы людзі! За што вы скалечылі навек жыццё чалавеку, які не пакрыўдзіў нават і мухі?! За што адабралі ў яго радасць маладосці, кахання, волі?! Ён жа невінаваты, людзі!..»

І будзе гэты мой страшны сон чаргавацца з маёй жа бясхмарнай, радасна-турботнай рэальнасцю яшчэ амаль цэлы год — аж пакуль не павязуць нашага гаротніка Леўку далёка-далёка на іншую вялікую будоўлю веку, якая тады грымела на ўсю краіну і якой я таксама прысвячаў свае натхнёныя і палымяныя радкі — на Волга-Данскі канал.

## ПРОЦІСТАЯННЕ

Пра тое, што я пішу вершы і нават выступіў з імі ў друку, доўгі час ні адна душа ў педвучылішчы не ведала. Адкрылася гэта мая таямніца толькі праз паўгода, у лютым сорак восьмага, калі я вымушаны быў звярнуцца да завуча з просьбай, каб ён адпусціў мяне з урокаў на... рэспубліканскую нараду дзіцячых пісьменнікаў Беларусі. Здзіўленне ў настаўніцкай было вялікае, калі мне прыйшлося паказаць афіцыйнае запрашэнне і ў сімтым, натуральна, прызнацца.

Запрашэнне, дарэчы, пераслаў мне з дому бацька — з папрокам у пісьме: чаму ты жывеш у Мінску, а пісьменнікі пра гэта не ведаюць і пішуць табе ў Слабаду, чаму ты, маўляў, не заявішся там, куды трэба, не скажаш... Чаму, чаму!.. Ды таму, што гэткі на свет нарадзіўся: заявіцца ў Саюз пісьменнікаў і сказаць: вось я, той самы, помніце? — ну не, адважыцца на гэткае я быў не здольны. Нават і пасля гэтай нарады дзіцячых пісьменнікаў, якая адбылася ў будынку ЦК ЛКСМБ і на якой я пазнаёміўся асабіста і пагутарыў з Міколам Лупсяковым, хадзіць у Саюз або ў рэдакцыі, завязваць і пашыраць сувязі з пісьменнікамі, было мне не пад сілу. Саромеўся. І баяўся. Баяўся пачуць пра свае вершы што-небудзь такое, як тады, у ліпені сорак сёмага, ад Бэнды.

Страціў я з-за гэтай сарамлівасці і боязі столькі, што і цяпер да болю крыўдна ўспомніць. Якія я не выкарыстаў магчымасці, каб атрымаць так неабходную ў тым маім узросце добрую параду і практычную творчую спадмогу ад старэйшых таварышаў! Не кажучы ўжо пра тое, што, жывучы ў Мінску, не дазволіў сабе ні разу быць госцем якой-небудзь рэдакцыі, я неразумна адварочваўся ад лёсу там, дзе ён сам ішоў мне насустрач. Пра два такія выпадкі раскажу хоць коратка.

Летам сорак восьмага адна слабодская жанчына папрасіла мяне з'ездзіць у Харкаў, дзе лячылася ў бальніцы яе дачка, гадоў трынаццаці падлетак, хворая на касцявы туберкулёз нагі. Місія мне была даручана зусім нялёгкая: трэба было не проста праведаць дзяўчынку, але і неяк асцярожна сказаць ёй, што дома, неўзабаве пасля смерці бацькі, памерла і яе адзіная сястра. З вялікай заклапочанасцю выбраўся я ў далёкую дарогу, прыкідваючы, і як я буду шукаць у Харкаве ваенны гарадок, дзе служыць старшыной дзядзька дзяўчынкі, і як пайду да яе ў бальніцу, як яна здзівіцца і адразу зразумее, што нешта здарылася... З такімі клопатнымі думкамі я зайшоў у купэ вагона і — ажно трохі разгубіўся ад нечаканасці: на лаўцы, побач з сімпатычнай жанчынай, сядзеў паэт Дзмітрый Кавалёў, якога я добра запомніў па нарадзе маладых у ліпені сорак сёмага. Мяне ён, як я тут жа пераканаўся, не пазнаў, а, хутчэй за ўсё, проста не запомніў, бо на нарадзе былі мы ў розных секцыях, да таго ж ён, былы франтавік, быў роўна ўдвая — на тым часе — за мяне старэйшы. Кавалёў спытаў куды я еду і адкуль родам, пасля чаго са мною больш гаварыла жанчына — яго жонка, якую ён вельмі ласкава называў любым мне іменем Тоня. Спадарожнікі мае аказаліся людзьмі настолькі сардэчнымі і ўважлівымі, што мне ажно было трохі няёмка, і я пастараўся хутчэй забрацца на сваю верхнюю паліцу, адкуль, канешне ж, уважліва прыслухоўваўся да таго, што гаворыць сапраўдны паэт. К вечару таксама на верхняй паліцы — па суседству — улёгся і Кавалёў. Пацікавіўся, што за кніга ў маіх руках, ці падабаецца мне, выказаў нейкія свае заўвагі. Так мы праехалі разам амаль суткі — да станцыі Варажба, дзе ў іх была перасадка на іншы цягнік — на Куршчыну, радзіму ягонай Тоні. За Гомелем амаль на кожнай станцыі ён сыходзіў на перон і вяртаўся з духмянымі і сакавітымі ўкраінскімі грушамі, якімі частаваў і мяне, і як жа мне хацелася сказаць яму: «Я вас ведаю, чытаў вашы вершы...», але нават на гэта я не адважыўся, а тым больш — на прызнанне, што і сам трохі грашу рыфмамі... Так і развіталіся, не пазнаёміўшыся. Праз дзевяць гадоў я расказаў яму пра гэта ў час нашай сумеснай паездкі на Белгародчыну, дзе мы прабылі разам каля двух тыдняў і дзе я зусім пераканаўся, які гэта слаўны, залаты чалавек... Яшчэ праз год ён перакладзе на рускую

мову для выдавецтва «Молодая гвардия» маю кніжку вершаў, і я на ўсё жыццё захаваю да яго пачуццё ўдзячнасці, і ўсё жыццё буду шкадаваць, што не хапіла тады, у цягніку, духу, каб адкрыцца яму са сваёй таямніцай: якую б, напэўна, падмогу і падтрымку аказаў мне гэты выдатны рускі паэт, рэдкай душэўнасці і прынцыповасці чалавек!..

Другая магчымасць пазнаёміцца з другім — ужо не проста выдатным, а вялікім — нашым паэтам была ўпушчана мною гэтак жа бяздарна, як і першая. Восенню сорак дзевятага я вяртаўся аднойчы вечарам з цэнтра горада ў педвучылішча, і пры ўваходзе ў парк Горкага мяне нагнаў наш новы дырэктар Уладзімір Аляксеевіч Парахневіч — былы славуты партызан, Герой Савецкага Саюза. Пайшлі побач, і праз нейкую хвіліну, на маё вялікае здзіўленне, ён сказаў мне:

— Я чытаў у нашай насценгазеце твае вершы. Памойму, в цябе можа быць толк, калі заняцца гэтым сур'ёзна. Давай я цябе пазнаёмлю з Аркадзем Куляшовым — хай ён пачытае, што ты пішаш. Хочаш? Мы з ім сябры, разам у Лондан ездзілі ў сорак пятым... Так што — калі хочаш — я пазваню яму, і ён дасць табе добрыя парады...

Ад гэтай прапановы я, можна сказаць, нават трохі спужаўся. Ісці да Аркадзя Куляшова? Са сваімі вершамі? А з якімі? З тымі сатырамі, што ў насценгазеце? Хоць яны многім у педвучылішчы і падабаюцца, але ж гэта не зусім усур'ёз — такія вершы для друку не гадзяцца. А на тыя, што я ў апошні час, асабліва летам у вёсцы, пісаў усур'ёз, з надзеяй на апублікаванне,— я ўжо маю з рэдакцыяй адказы, у кожным з якіх тырчыць такое нялюбае, хоць і абгароджанае ветлівымі словамі, «на жаль...». Успомніў выступленне Аркадзя Куляшова на паэтычным вечары ў зале ЦК ЛКСМБ. З усіх паэтаў — удзельнікаў сустрэчы — ён зрабіў тады на мяне самае моцнае ўражанне, асабліва вершамі «Камуністы» і «Слова да Аб'яднаных Нацый». Успомніў, як нядаўна — месяцы тры назад — хадзіў следам за знакамітай троіцай — Твардоўскі, Куляшоў і Сіманаў — у клубе імя Дзяржынскага, на другім з'ездзе пісьменнікаў Беларусі, гасцявым білетам на які ашчаслівіў мяне наш «класны», выкладчык беларускай мовы і літаратуры Абрам Эвадзьевіч Лорман. Успомніў, як яшчэ ўлетку сорак шостага чытаў дома ўголас паэму «Сцяг брыгады» і як на радках «там дзяцей, там ста-

рых і жанок закапалі жывымі — доўга жоўты пясок варушыўся над імі» у мяне падступілі да горла спазмы, і суседка Ганна Барэйчыха сказала маме: «Пачакай, Каця, стракатаць на машынцы, дай паслухаць — надта ж нешта цікавае хлапец чытае...»

Ад прапановы дырэктара я адмовіўся. Сказаў:

— Можа... пасля калі-небудзь. Як напішу што новае...

— Ну, глядзі, падумай... Надумаешся — дай знаць, і я наладжу табе з ім сустрэчу...

Думаў я над прапановай Уладзіміра Аляксеевіча не раз і не два — але ні да чога не дадумаўся. На асабістае знаёмства з Аркадзем Куляшовым не адважыўся.

Тым часам вершы прасіліся на паперу ўсё часцей і часцей. І амаль усе — тыя, што не ўсур'ёз, што не для друку. А іменна — пра нашы студэнцкія будні, пра канкрэтныя рэаліі з жыцця і побыту ў інтэрнаце. За рэдкім выняткам — усе сатырычныя або гумарыстычныя. Накшталт вось гэтага — названага «Палітвучоба» і датаванага лістападам сорак восьмага года:

Як у нас палітвучоба —
Не знайсці нідзе:
Пяцьдзесят асоб «хвароба»
У пасцель кладзе.

А здаровы і вясёлы
Малады народ
Уцякае, зграбшы полы,
Цераз чорны ход.

Уцякае калідорам:
— Вы куды? Куды?
Затрымалі. Ганьба й сорам!
Лезуць у куты.

Палітычная вучоба —
Дарагая рэч.
Без яе ты будзеш чобат,—
Не ўцякай жа прэч!..

Шмат такіх сатыр было напісана мною з сорак восьмага па пяцьдзесят першы год у педвучылішчы — спачатку для курсавой насценгазеты «Камсамолец», а затым для агульнавучылішчнай — «Савецкі настаўнік». Пісаліся і рэчы, не разлічаныя нават на насценгазету, а толькі для чытання ў сваім вузкім сяброўскім коле, у якасці студэнцкага фальклору. Асаблівая папулярнасць выпала на долю паэмы-кулакіяды пра бой-

ку нашых студэнтаў з маладымі рабочымі інструментальнага завода, які знаходзіўся зусім непадалёк ад педвучылішча. Падзея гэта адбылася дзевятага лістапада сорак дзевятага года, а праз два месяцы я ахвяраваў ёй некалькі дзён зімовых канікул і напісаў досыць аб'ёмістую паэму-кулакіяду, якую назваў «Пабоішча, або Варфаламееўская ноч», хаця для аналогіі з вядомай у гісторыі Францыі Варфаламееўскай ноччу падстаў было вельмі мала. Мабыць, таму, што размова ў паэме ішла пра здарэнне, якое доўга бударажыла вучылішчную грамадскасць, і таму, што ў ёй фігуравалі дзесяткі знаёмых імён, пададзеных у гумарыстычным кантэксце, «кулакіяда» адразу ж стала сенсацыяй, пайшла па руках, а аднойчы... Аднойчы на перапынку мне сказалі, што ў нейкай групе выкладчык на ўроку адабраў мой сшытак з паэмай у студэнтаў — бо надта рагаталі — і панёс з сабой у настаўніцкую. На наступным, вялікім, перапынку праз студэнта-дзяжурнага загадалі прыйсці туды ж і мне. Не сказаць, каб я вельмі спалохаўся, аднак жа і не ўзрадаваўся таму, што давядзецца даваць нейкія тлумачэнні выкладчыкам, апраўдвацца, выслухоўваць натацыі. Каля самых дзвярэй настаўніцкай спыніўся, бо пачуў, як за дзвярыма гучна і выразна Абрам Эвадзьевіч Лорман чытае знаёмыя мне радкі:

Яшчэ гісторыя, напэўна,
Такіх не ведала падзей:
На мірны зал наскочыў гнеўна
Атрад узброеных людзей.

Важак наперад выйшаў горда,
Міколу жудасцю праняў
І запытаўся: «Помніш, морда,
Каго адгэтуль выганяў?..»

Суровы наш дваццаты век,
Але павінен быў здзівіцца,
Як сталі рэзацца, давіцца
У зале дзвесце чалавек!

І кроў лілася, як рака.
Ды наш народ быў не такоўскі —
Адно Супрон ды Рудакоўскі
Стаялі супраць сарака!

А Пецькі доблеснага ўдар —
Дакладны, правільны, кароткі,—
І пачарнеў бандыцкі твар
Інструментальшчыка Суботкі.

Вітайма Пецьку! Во — студэнт!
Семнаццаць год, малы сабою —
Сягоння першы прэтэндэнт
На першынство па мардабою!

Дзесяткі супраць аднаго,
А ён убачыць толькі вуха,—
І адлятае, быццам муха,
Любы праціўнік ад яго...

Іван Гаўрылавіч Гамеза
Сюды таксама паспяшаў
І кулаком цвярдзей жалеза
На мордзе цеста замяшаў.

У настаўніцкай раз-пораз чуліся вясёлы смех і галасы адабрэння, я супакойваўся патроху і не спяшаўся заходзіць. Але празвінеў званок, і я, пастукаўшыся, адчыніў дзверы.

— А-а-а, заходзь, заходзь! — сказаў, праглытваючы астаткі смеху, завуч Яўген Пятровіч Ясноўскі. Затым узяў у Лормана мой сшытак і, перад тым як аддаць яго мне, павучальным тонам, адкашліваючыся, сказаў: — Ты вось што, гм... Гэта, канешне... гм, добра, што ты пішаш, ну і так складна, дасціпна, гм... Толькі вось тэму выбіраеш... Ну, што гэта за тэма? Ты б што-небудзь такое, каб і ў друк пайшло, каб наша вучылішча сапраўды праславілася... А гэта вазьмі і схавай, студэнтам даваць не трэба, гм... Пра сур'ёзнае пішы, пра сур'ёзнае!..

Паколькі я чакаў суда куды больш суровага, то з настаўніцкай выйшаў нават вельмі задаволены. Што ж датычыць парады пісаць на тэмы сур'ёзныя, то прыслухацца да яе, хоць і разумеў слушнасць сказанага, я не змог. Не пісалася пра «сур'ёзнае» ці амаль не пісалася. «Сур'ёзных» вершаў я нямала чытаў у газетах і часопісах — і ад чытання іх рабілася вельмі сумна. А хацелася слова жывога, шчырага, нязмушанага. Я разумеў і бачыў, якая патрэбна «сур'ёзнасць», каб вершы пайшлі ў друк. І спрабаваў пісаць такія — правільныя, ідэйна вытрыманыя, грамадска актуальныя, але нават і пісаць іх было сумна, карпеў над імі без ніякага «творчага гарэння». А гэта — тое, чым штодзённа жыў,— натуральна і свабодна вырывалася з душы само; хай сабе бытавое, дробязнае, і не для друку, а для сяброў-таварышаў,— затое і не па ўказцы крытыкі, не па настаўленнях і парадах глыбокамудрых «вучыцялёў». Ва ўсякім разе, душа гаварыла, як маг-

ла і як хацела. Таму і наступная паэма «Фрагменты», напісаная восенню пяцідзесятага года, была цалкам прысвечана нашаму інтэрнацкаму быту, паўсядзённым студэнцкім клопатам, і зноў жа — з прыцягненнем канкрэтных імён і рэалій і з падачай іх — зноў жа — у гумарыстычным плане. Пра яе змест і характар можна меркаваць па наступнаму ўрывачку:

Паколькі тут рэальнае
Само сабой ляціць —
Хачу матэрыяльнае
Пытанне асвятліць.
Сябры, усяк прыходзіцца:
Бываюць тыя дні,
Калі зусім выводзіцца
Капейка ў кішані.
Калі ніхто не хваліцца
Наяўнасцю рубля,
І з рук работа валіцца,
І кружыцца зямля.
Узяць, напрыклад, Зудзіна:
Які ўжо дзень не есць,
А ўласная «пасудзіна»,
Напэўна ж, літраў шэсць.
Бурчыць яна ад голаду,
А Зудзін у адказ:
«Не выдумляй! Ты ў моладу
Цярпела колькі раз!
Успомні, як за Польшчаю
Душыла нас бяда,
Як радасцю найбольшаю
Бывала лебяда...»
І Зудзін цяжка выдыхнуў,
А потым — гэй, народ! —
Пустыя кішкі выцягнуў
І выкінуў за плот...
Сябры, усяк прыходзіцца:
Бывае і ў мяне
Кішка з кішкою сходзяцца,
Прысохлыя к спіне.
Сядзіш, а есці хочацца!
Нашто крывіць душой?
І сніцца і шчакочыцца
Гавядзінка з лапшой.
Ніхто не здагадаецца,
Ніхто не закрычыць:
Таго, хто аб'ядаецца —
Студэнтам не лічыць!..

У студзені наступнага, пяцьдзесят першага года была напісана яшчэ адна паэма — «У дзіўным горадзе Маскве» — пра першую маю паездку ў сталіцу краіны. Ездзіў я туды ў складзе групы студэнтаў на

экскурсію — за кошт прафкома. Паэма цалкам вытрымана ў тым жа духу, што і дзве ранейшыя. Нават такая значная тэма — першая сустрэча з Масквой — не змагла мяне павярнуць на іншы, сур'ёзны, урачыста-патэтычны лад, як гэта тады патрабавалася ад усіх, хто падганяў назву сталіцы пад рыфму. Жаданне застацца сабой, можа быць і не ўсвядомлена, перамагала казённа ўзаконеныя стандарты, клішэ і шаблоны. І дзякаваць богу! — хочацца сказаць сёння, амаль праз сорак гадоў, разумеючы, як бы мог скласціся мой літаратурны лёс, калі б я тады, на пачатку дарогі, перад той забойча-бяздушнай казёншчынай не ўстояў.

# ПАЧВАРНАСЦЬ

Лета паміж педвучылішчам, якое скончыў, і універсітэтам, у які быў залічаны як «пяціпрацэнтнік» без экзаменаў, я рашыў правесці ў роднай вёсцы, дома. Была, як і ў мінулым годзе, прапанова папрацаваць важатым у піянерскім лагеры «Будаўнік» пад Мінскам, але я адмовіўся, хаця ўспаміны пра леташняе лагернае жыццё былі, можна сказаць, спрэс прамяністыя. Захацелася пажыць два вольныя летнія месяцы на радзіме, у бацькоўскім кутку, падыхаць водарам яго спелых лугоў і палеткаў, паблукаць па яго гаях і пералесках, пасядзець у зацішку кустоў каля якой-небудзь крынічкі-рэчачкі... Адным словам, я быў настроены на вельмі лірычны лад. Збіраўся і сур'ёзна акунуцца ў свае творчыя задумы, з галавой аддацца той ні з чым не параўнанай хэнці, што апаноўвала мною ўсё мацней і мацней. Прызнаюся, што хэнць гэтая была здорава падагрэта публікацыямі вершаў у рэспубліканскім друку, якія на працягу апошняга паўгода ішлі адна за адной: у «Чырвонай змене», у «Вожыку», у «Работніцы і сялянцы», у «Піянеры Беларусі»...

Праўда, намеры і планы мае — што і трэба было чакаць — у значнай меры парушыліся. Касавічны, а затым жніўны прыпар у вёсцы не дазволіў мне застацца ў баку ад тых клопатаў, якімі жылі землякі. Дакладней, сумленне не дазволіла. Тым больш што старшынёй калгаса стаў на пачатку года бацька — Сымон Пятровіч. І вось я зноў, як і кожнае пасляваеннае лета, хаджу стагаваць або складаць у калгаснай пуні сена, зноў звожу з поля снапы на калгасны ток або хаджу на малацьбу — у тым ліку на начную: тады была завядзёнка малаціць жыта не толькі днём, але і ноччу, пры святле ліхтароў. Спяшаліся хутчэй выканаць першы запавет хлебаробаў — датэрмінова здаць збожжа дзяржаве. Чаму лепш датэрмінова, а не ў тэрмін, і чаму такою цаной — мардаваннем людзей у начную зме-

ну,— такіх пытанняў у маёй галаве тады не ўзнікала. Так трэба! Так пісалася штодня ў газетах, гаварылася па радыё, так патрабавалі на калгасных сходах незлічоныя агітатары і розных рангаў «упаўнаважаныя па нарыхтоўцы». Да гэтага ж заклікала і паэзія. Вершы пра «чырвоны абоз» ішлі ў друку не менш шчыльным патокам, чым падводы і грузавікі са збожжам. Гледзячы на вядомых паэтаў, стараўся патрапіць у агульны тон і я. На шчасце, амаль нішто з маёй тагачаснай нараджэннай славахлебнай лірыкі на старонкі друку не прабілася — рэдактары і кансультанты, дзякаваць ім, рэзалі ўсё бязлітасна. Не таму, што было горш, чым у вядомых, а таму, што хапала ў адвал «чырвонаабознай» паэзіі, якую пастаўлялі ў газеты і ў часопісы гэныя самыя аўтары з імем.

Духоўнае жыццё вясковай моладзі — прыгледзеўся я тым часам зблізку — пакідала ўражанне даволі сумнае. У лепшым выпадку — зрэдчасу «танцулькі», вечарынка. А так — хіба што пасядзелкі на вуліцы, на лаўцы ці на бярвеннях. І ўсё! Хата-чытальня пустуе нават вечарамі, праводзіць нейкую культасветніцкую работу ў ёй няма каму. І рашыў я падрыхтаваць з удзелам вясковай моладзі хоць невялікі канцэрт мастацкай самадзейнасці. Перш за ўсё сабраў дзяўчат — пераважна сваіх равесніц — і ўгаварыў аб'яднацца ў пеўчы гурт (хорам яго не назавеш — усяго восем — дзесяць чалавек). Пачалі развучваць песні — тыя, што былі ў рэпертуары нашага педвучылішчнага хору, без музычнага суправаджэння, вядома. За «дырыжора і мастацкага кіраўніка» быў я сам. Рэпетыцыі праходзілі ў хаце-чытальні вечарамі.

Аднойчы адпаўднёвік аказаўся ў мяне вольны, і я накіраваўся ў хату-чытальню пагартаць свежыя газеты, пакапацца ў кніжках і часопісах. Начытаўшыся, я ўключыў, як звычайна, вялікі, на батарэях, радыёпрыёмнік — можа быць, натраплю на які-небудзь канцэрт сучаснай ці народнай песні. Дзеля гэтага я затрымліваўся тут вечарамі часта, і іншы раз так надоўга, што загадчык установы пакідаў усё на мяне і адно прасіў прынесці яму раніцою ключ.

Усякія ў маім жыцці будуць здарацца пасля прыемныя выпадковасці, але тое, што я пачуў, уключыўшы прыёмнік, было для мяне настолькі нечаканым і настолькі радасным, што я ледзьве зводзіў дыханне і ледзь стрымліваў сэрца — баяўся, што разарвецца рап-

там. Толькі загарэлася вочка прыёмніка і зашумела ў эфіры, як я пачуў бадзёры жаночы голас: «Дарагія юныя сябры! Сёння мы прапануем вам развучыць разам з намі новую песню кампазітара Кузняцова на словы паэта Гілевіча «У паход». Паслухайце спачатку песню ў выкананні дзіцячага хора Беларускага радыё...» Можа, я не дачуў? Можа, мне здалося? Зрэшты, можа ёсць яшчэ нейкі другі вершатворац з гэтакім прозвішчам? Я не пасылаў ніякаму кампазітару сваіх вершаў!.. Але вось загучаў хор, і сумненне тут жа адляцела прэч: спявалі песню на верш, пасланы мной у газету «Піянер Беларусі».

Дарога ўецца, песня льецца,
Вітаюць нас палі, бары.
А сіні ранак кліча ўперад:
Уперад, юныя сябры!..

Не ведаю, як хто перажываў першую сустрэчу з песняй на свой верш, але помню, што я быў усхваляваны мацней, чым тады, калі ў першы раз убачыў свае радкі ў друку.

Я сядзеў на доўгім дашчаным услоне і слухаў песню, якая, мне здавалася, гучала надта ж прыгожа, і якраз у гэты момант у хату-чытальню зайшлі двое: мой бацька і нейкі незнаёмы мужчына, па выгляду — хтосьці з раённага начальства. Незнаёмы сеў амаль побач са мною, хаця не павітаўся і наогул не звярнуў увагі, што я тут ёсць, адкінуўся спіной да сцяны і, шумна выдыхнуўшы [redacted] сябе паветра, сказаў:

— Во, тут хоць прахалодненька... Давай закурым, старшыня, каб яго шэрсць курэла!..

«Цяпер, сябры, запішыце тэкст песні,— голасна гаварыла тым часам дыктарка.— Называецца песня «У паход». Музыка Кузняцова, верш Гілевіча».

— Ты пішаш вершы? — з вялікім здзіўленнем у голасе павярнуўся да бацькі незнаёмы.

— Не я, а во мой сын за вамі сядзіць, ён піша,— кіўнуў на мяне галавою бацька.— Што, сын, тваю песню перадаюць па радыё?

— Маю,— адказаў я ледзь чутна.

Незнаёмы павярнуўся да мяне, паглядзеў як бы [redacted] недаверам і хрыпла-дзяркатым голасам перапытаў:

— Дык гэта ты пішаш?.. А-а-а,— прамычаў ён неяк няпэўна — не то расчаравана, не то з адабрэннем.— А я падумаў, што гэта твой бацька ў вершы ўдарыўся...

Толькі цяпер я заўважыў і пачуў па смуроду, што ён на добрым падпітку. Ну, ясна: упаўнаважаны па хлебанарыхтоўках. Дзесьці бацька частаваў яго абедам, і, канешне ж, не абышлося без бутэлькі. У тыя часы гэта лічылася жалезным правілам — упаўнаважаных і калгаса «не цёпленькіх» не адпускалі.

Незнаёмы пакруціў папяросіну ў пальцах, пстрыкнуў запальнічкай, прыкурыў і, абдаючы дымам, пахіліўся ўсім тулавам ка мне:

— Слухай, напішы верш пра свайго бацьку, га? Пра тое, які ў яго правал са здачай хлеба, га? А я надрукую, я рэдактар газеты, ты не знаеш мяне?..

— А-ай, Мікалай Фёдаравіч,— заварушыўся на ўслоне бацька,— што гэта вы такое сыну гаворыце!..

— А што? — п'яна адрыгнуўшыся, зноў абдаў мяне дымам рэдактар.— Я сур'ёзна: напішы сатырычны верш пра бацьку, га? Ці ты сатырычных не пішаш?..

Я маўчаў і адчуваў, як са дна душы ў мяне падымаецца перамешаная з агідай нянавісць да гэтага п'янага абармота. Яшчэ глядзіць на мяне і чакае адказу! Скаціна бязрогая! Я б табе зараз адказаў, але ж ты тады ўсю сваю свінячую злосць спагоніш на бацьку. Ён во і так, бачу, баіцца, каб ты не апаскудзіў яго імя ў сваёй газетцы. У яго восем дзяцей, у тым ліку і ўжо дарослыя, ужо і двое ўнукаў ёсць, і ён не хоча перажыць ганьбу...

— Можа, паедзем, Мікалай Фёдаравіч? — занепакоена зноў варухнуўся бацька.— Вы ж яшчэ хацелі ў другую брыгаду заглянуць...

— Ганары-ы-ысты твой паэт,— працяжна прахрыпеў, падняўшыся з услона, рэдактар і, не развітваючыся, падаўся ў дзверы.

Бацька кінуў на мяне сумны позірк — маўляў, што зробіш, трэба цярпець — і выйшаў следам.

«А цяпер паслухайце песню яшчэ раз»,— вяла́ далей перадачу дыктарка. І зноў загучаў хор. І хоць песня была тая самая і ў тым жа самым выкананні, а ўжо яна не здалася мне такой выдатнай, як за колькі хвілін перад гэтым. Штосьці перашкаджала мне і слухаць, як у пачатку перадачы, і ўспрымаць. А што менавіта? Агіда, якая засталася на душы ад сустрэчы з пачварнасцю.

# ПЕСНІ І СПЕЎНІКІ

Маё знаёмства з паэзіяй, прычым — з паэзіяй вялікай, несмяротнай, пачалося яшчэ да таго, як я навучыўся чытаць.

Шчыра кажучы, яно пачалося, у поўным сэнсе слова, з калыскі. Зрэшты, як, бадай, і для кожнага — у нядаўнім мінулым — вясковага чалавека, які нарадзіўся і вырастаў у атачэнні магутнай стыхіі народнапаэтычнай творчасці, на ўлонні паэзіі старажытных свят і абрадаў, у чароўным свеце народных песень і казак, легенд і паданняў, прымхліц і бываліц, замоў і загадак, прыказак і прыгаворак, прыкмет і павер'яў. Я зрабіў агаворку — «у нядаўнім мінулым», бо, на вялікі жаль, сапраўды так: сёння ад гэтага бязмежнага акіян-мора народнай паэзіі засталіся хіба што асобныя азерцы ды ручаіны, у цэлым жа яно «выпарылася» і «высахла» на бязлітасных ветравеях часу.

Калыска — падвешаныя на двух пастронках вялікія ночвы — гайдалася ў нашай хаце, асабліва зімовай парою, амаль кожны дзень. Здымаліся тыя ночвы з вяровак толькі тады, як трэба было купаць малое або мыць бялізну. Гутаталіся ўсёй грамадой: двое ці нават трое меншых садзіліся ў ночвы, а двое большых станавіліся на пелюсці, трымаліся рукамі за пастронкі і разгойдвалі калыску. Колькі гойдаліся — столькі і гучала ў хаце, пад нізкай жоўтай столлю, песня. Да дзіцячай спеўкі іншы раз, у які-небудзь з суботніх ці нядзельных вечароў, далучаўся бацька,— у яго быў добры голас, і ён ведаў нямала як сучасных, навейшых, так і даўніх народных песень. Мама, хаця і мела голас, і любіла песні, ведала іх,— амаль не спявала з намі ніколі. На гэта ў яе проста не было часу: з ранняй раніцы і да самай ночы яна была ў вечным клопаце пра дзяцей і гаспадарку. Гэта будзе тым больш зразумела, калі ўлічыць, што бацька доўгія гады працаваў на нізавой савецкай рабоце далёка ад нашай роднай вёскі і дома бываў толькі наездамі.

Што мы спявалі, гайдаючыся ў калысцы? Самымі першымі песнямі, якія ўвайшлі ў маю дзіцячую свядомасць і засталіся ў памяці, былі любімыя бацькавы: «Зялёны дубочак, шырокі лісточак», «Бяду вяду, бяду вяду — бяда не вядзецца», «Ці ўсе лугі пакошаны, ці ўсе сенажаці», «Камандзір герой, герой Чапаеў», «Лейся, песня, на прасторы...», «Нас не любяць, нас баяцца поп кудлаты і кулак» (толькі ў студэнцкія гады даведаюся, што апошняя з названых — гэта знакамітыя ў свой час «Камсамольскія прыпеўкі» Кандрата Крапівы).

Шмат песень у раннім дзяцінстве пачуў я ад дзядзіны Барбары — першай жонкі старэйшага бацькавага брата Аляксандра. Жыла яна на адным з намі пададворку — дзверы ў дзверы, вокны ў вокны, паміж хатамі — возу не праехаць. Калі Аляксандр сям'ю пакінуў, яна ўзяла прымака і нарадзіла яшчэ трое дзяцей, з якімі мы па-суседску і сябравалі. Барбара спявала дома за работай, асабліва, прадучы кудзелю ці воўну. Калаўрот ціха гудзе, а яна спявае: няголасна, задушэўна, сама для сябе. Песні яе ўсе, як адна, чамусьці сумныя, жаласныя. Але ж надта прыгожыя і бяруць за сэрца. Я сяджу з яе хлопцамі — Алегам і Толем — на печы і, зацінаючы дыханне, слухаю. Іншы раз мне здаецца, што яна пяе са слязьмі, галосячы — ажно хочацца злезці і падысці бліжэй глянуць, бо з печы не відно: яна сядзіць да нас спіною. Глыбей за іншыя ўрэзаліся ў памяць песні: «Ой, на гары ялушачка, пад гарою стаіць сосна», «Ой, пайду я ў каморачку, прыcланю там галовачку...», «Спіўся казак, спіўся, на свой дом забыўся...», «А за садам рэчачка, а за садам быстрая», «Прала бы я кудзелечку, галоўка баліць...» Як яна іх жаласна пела! Няўжо прадчуваючы будучыню?

Лёс нашай дзядзіны і яе сям'і склаўся трагічна. У трыццаць сёмым «хапун» схапіў яе мужа-прымака — непісьменнага калгаснага конюха і вясковага краўца, які, шыючы мужчынскія порткі ды світкі, гэтым падзарабляў крыху. Нехта некуды паведаміў, што ён, пасучы ў полі коней, сустракаецца з польскімі шпіёнамі і прыносіць ім есці. (Між іншым, у тыя ж самыя дні ў суседнім Плешчаніцкім раёне той жа «хапун» загроб і яе першага мужа Аляксандра Гілевіча, з-за чаго і наш бацька, партыец, амаль дваццаць гадоў — аж да смерці Сталіна і Берыі — жыў як родны брат «ворага народа» ў няпэўнасці і вечным страху.)

А першага мая сорак трэцяга года не стала і Барбары, і ўсёй яе сям'і: і яе, і пятнаццацігадовую Лёню, і двух падлеткаў-сыноў, і трохгадовага ўнука расстралялі ў нашым Баранавіцкім лесе фашыстоўцы. За тое, што старэйшы сын, ён жа — сын «ворага народа», Алёшка пайшоў у партызаны. Праз колькі дзён мы адкапалі ўпотай іх трупы і перазахавалі на вясковых могілках. Як-то кажуць: не судзі, доля, ні дзецям, ні ўнукам нашым бачыць такое! Разам з Барбарай былі пахаваны і ўсе яе недаспяваныя песні. Колькі яна іх ведала і колькі панесла навек з сабою — гэтага сёння ўжо ніхто не скажа. А колькі такіх Барбар за тры гады няволі сышло ў зямлю па ўсёй Беларусі? І колькі разам з імі згінула навекі нашых песенных скарбаў?..

Прыгадваю і даваенныя летнія адвячоркі пары касавіцы і жніва. Я стаю, малое хлапчаня, на гумне і гляджу туды, дзе пад звечарэлым сонцам жаўцеюць жытнёвыя пагоркі і адкуль даносіцца чароўны, поўны суму і смутку, працяжны жаночы спеў. Гэта спяваюць жнеі, жнучы жыта. Песні старыя, тыя, што пеліся, можа, і дзвесце і трыста гадоў назад. Галасы жней коцяцца ў перадвячэрняй цішыні далёка-далёка, па ўсім наваколлі. І ёсць у гэтым спеве нешта такое, што зачароўвае і прымушае мяне забыцца на сябрукоў і на тое, чаго я прыбег на гумно. Ой, гэтыя жаночыя галасы ў полі! Здаецца, стаяў бы і слухаў іх вечна! Калі ж жніво будзе закончана, жанкі збяруцца ў хаце старога Банука на дажынкі. Вядома ж, без дзяцей гэта свята абысціся не можа, і я пачую там ужо іншыя песні, якія будуць гучаць у застоллі: жартоўныя, вясёлыя, радасныя...

У школе, у тыя апошнія перадваенныя гады, і на ўроках спеваў і на вечарах вучнёўскай самадзейнасці спяваліся пераважна новыя савецкія песні, папулярныя тады ва ўсёй краіне. Трэба сказаць, што цікавасць да іх у асяроддзі вясковай школьнай моладзі была незвычайная. Помню, настаўніца Зінаіда Аляксандраўна Таболіч прыносіла на ўрок патэфон, і мы слухалі, і прасілі паставіць пласцінку яшчэ раз, калі песня асабліва дападала да душы. Так прыйшлі і назаўсёды аселі ў памяці песні: «Катюша», «По военной дороге...», «Шел отряд по берегу...» (пра Шчорса), «В далекий край товарищ улетает...», «Тучи над городом встали», «На седых уральских кручах вороны кричат» (пра смерць Чапаева), «Якорь поднят. Вымпел алый...»,

«Орленок», «Тачанка», «Ой вы кони, вы кони стальные», а таксама цэлы касяк песень пра Сталіна: «На дубу зеленом...», «Собирались козаченьки», «В седом океане, и полярной пустыне», «Споем же, товарищи, песню» і іншыя. У дзень Першага мая, маршыруючы строем па вёсцы, мы спявалі: «По долинам и по взгорьям», «Три танкиста», «Ну-ка, солнце, ярче брызни» і, вядома ж,— «Если завтра война, если завтра и поход». Пра магчымасць вайны сталыя мужчыны, якія заходзілі вечарамі ў ДСК пастукаць у даміно ці пачытаць газеты, гаварылі тады нямала, можа, таму гэта песня з яе сапраўды «суровым напевам» і трывожыла, мабілізоўваючы адпаведныя пачуцці, і аднак жа ўсяляла безагаворачную ўпэўненасць, што калі давядзецца, то «на вражьей земле мы врага разгромим малой кровью, могучим ударом».

Як атрымалася на самой справе — якой крывёю заплаціў народ за перамогу над ворагам, сёння мы ведаем добра. Ужо на сёмы дзень вайны наша Лагойшчына, ад якое да заходняй граніцы было не менш трохсот кіламетраў, апынулася пад акупацыяй. Неўзабаве ў Слабадзе паявіліся бежанцы з Мінска, дзе, натуральна, не стала чаго есці, і яны перабраліся — хто да бацькоў, хто да сваякоў — сюды, у вёску. Мабыць, некаторыя з іх і прынеслі з сабой спецыфічны гарадскі фальклор — гэтак званыя «блатныя песні», раней для мяне зусім не вядомыя. У большасці сваёй гэта былі песні — як бы мы сказалі цяпер — нечытэльныя, пошлыя і паскудныя. Сярод іх нават такія «перлы», як «Гоп са смыкам» («Граждане, послушайте меня!») ды «Раз я выпил с друзьями по привычке», здаваліся рэчамі досыць бяскрыўднымі. І гэты «фальклор» быў засвоены мной гэтак жа дасканала, як і цудоўныя народныя песні дзядзіны Барбары, як і прыгожая, высокаадухоўленая савецкая песенная лірыка перадваенных гадоў.

На пачатку сорак чацвёртага мяне моцна захапілі песні партызанскія — настолькі, што я нават наважыў запісаць іх у спецыяльна дзеля гэтага зробленую малютку-кніжачку. Так паявіўся першы ў маім жыцці рукапісны спеўнічак. На першай яго старонцы вялікімі «друкаванымі» літарамі было выведзена: «Пішу собсцвеннай крывёю, што перажыву вайну», на другую быў занесены заклік, які часта паўтараўся ў нашай партызанскай газеце: «Забі немца, забі гада, а то ён

цябе заб'е!..» А далей ішлі песні: «На коне вороном выезжал партизан...», «В темной роще густой партизан молодой...», «Не для меня придет весна...», «Бабуся, бабуся, откуда ты родом?» і іншыя. Помніцца, што апошнюю з іх я звязваў з зусім канкрэтнымі трагічнымі падзеямі. Упершыню я пачуў яе яшчэ на зыходзе зімы ў сорак трэцім, пасля невялікага мітынгу ў Слабадзе, на якім партызан-агітатар вельмі ўзрушана, з болем і гневам, расказаў аб тым, як фашысцкія вылюдкі тры дні запар бамбілі і расстрэльвалі з самалётаў вёскі нашага раёна — Дзяніскі, Барыскі, Жабічы, Дашкі, Карпілаўку, Селішча... Спяваў яе тады партызан з суседняй Мураванкі Валодзя Рулькевіч. Калі дайшло да слоў:

— А где же, старуха, старик твой девался?
А где твои дочки, сыны?
— Над дедом и дочкой снаряд разорвался,
Сыны в партизаны ушли,—

у мяне запяршыла ў горле і на вочы набеглі слёзы. Я не сумняваўся, што ў песні гаварылася пра лёс людзей вось з гэтых зруйнаваных фашысцкімі бомбамі нашых вёсак.

Тое, што многія з партызанскіх песень — перайманні або пераробкі даўнейшых песень народных і нават гэтак званых «турэмных», пра гэта я даведаюся няскора, толькі ў гады студэнцтва. А тады як я мог усумніцца, што прыгожы малады партызан, седзячы з гармонікам на імправізаванай сцэне, спявае не пра сябе, а пра кагосьці іншага — партызан, які, можа быць, заўтра пойдзе на баявое заданне і загіне ад варожай кулі.

Не для меня придет весна,
Деревья цветом покрывая.
И соловей, весну встречая,
Он будет петь не для меня.
В бою с немецким батальоном,
Там пуля ждет давно меня...

Былі ў тым маім першым спеўнічку і тры народныя песні. Адна з іх — украінская «Дзеўка ў сенях стаяла». На канцэрце партызанскай агітбрыгады яе выконваў дуэт — незнаёмы партызан, відаць, украінец родам, і наша слабодская дзяўчына Волька Жызнеўская. Песня страшэнна мне спадабалася сваім дасціпным гумарам. На другі дзень вечарам я пайшоў да Жызнеўскіх (яны таксама жылі тады ў Айнаравічах), каб запісаць ад Волькі гэту песню. Волькі я дома не

застаў, але яе маці, Ганна, даведаўшыся, чаго я прыйшоў, прапанавала свае паслугі — сказала: «Дык я ведаю гэтую песню, запісвай!». І, завіхаючыся з чапялой ля печы, прадыктавала мне ўвесь тэкст. Калі праз паўтара дзесятка гадоў я стану чытаць для студэнтаў-філолагаў курс лекцый па вусна-паэтычнай народнай творчасці і затым арганізоўваць вучэбную практыку па збору фальклорных матэрыялаў,— я ўспомню той зімовы вечар і жоўты водсвет, што падаў ад полымя ў печы на мой сшытачак, і падумаю, што, мабыць, нішто ў маім жыцці не было выпадковым — і гэта першая спроба запісаць народную песню непасрэдна ад вясковай жанчыны — таксама.

Дзве другія народныя песні — беларускую «Ой, там, на гары, ой, там, на крутой» і знакамітую рускую «Трансваль, Трансваль, страна моя!» — я запісаў таксама ад слабодскіх жанчын — Марылі Базыліхі (яна жыла з намі ў дзедавай хаце) і Францусі Рулькевіч. Дакладней, спачатку запомніў іх, а тады запісаў. Франуся больш года назад стала ўдавою: наконт смерці яе мужа Віктара, якога немцы сілком паставілі старастам у Слабадзе, існавала нейкая цёмная гісторыя. Выходзіла, што яго расстралялі партызаны. Аднак жа праз колькі месяцаў падаўся ў лес, да народных мсціўцаў, яе васемнаццацігадовы сын, камсамолец Жэня. Сама ж яна з дзвюма дочкамі ратавалася ад фашысцкіх карнікаў гэтак жа, як і ўсе слабодцы, і цяпер жыла ў Айнаравічах у бежанцах. У хату да нас яна зайшла неяк залішне — як для вясковай жанчыны — рашуча, размашыста. Села на драўлянай самаробнай канапе, каля акна, трохі памаўчала, а тады і кажа да мамы:

— Каця, я ведаю, што ў цябе павінна трохі быць... гэтай самай... смердзюхі... Дай во нам з Марыляй па каплі, а то нешта надта на душы мутарна...

— Ты ж ужо недзе пачаставалася! — як бы пярэчачы і папракаючы яе за гэта, адказала мама.— Я ж па табе бачу, што ты ўжо недзе паспела...

— Нясі, Кацярынка, нясі, не бойся: калі-небудзь зраблю сама, аддам з гакам.

— Мне не шкода,— кажа, уздыхнуўшы, мама.— Але ж ты вып'еш, а тады зноў плакаць будзеш...

— Не буду. Пець буду. Во — з Марыляй на пару.

Мама прынесла і паставіла на стол паўбутэлькі смердзюхі — так у нашым баку называлі самагонку. Жанчыны выпілі і, сапраўды, пачалі пець. І пачалі з

вельмі драматычнай і інтрыгоўнай для мяне песні пра нейкую невядомую краіну Трансваль, што, як і наша Беларусь, уся гарыць у агні і дзе, «под деревцем развесистым угрюмый бур сидел». «Бур» я ўспрымаў як імя ўласнае — я не ведаў, што ёсць такая народнасць «буры». Асабліва кранула і расчуліла мяне тое месца ў расказе старога бура, дзе гаварылася пра лёс меншага сына.

И младший сын, тринадцать лет,
Просился на войну.
Но я сказал, что — нет, нет, нет,
Мальчишку не возьму.
Однажды при сражении
Разбит был наш обоз.
Мальчишка на позицию
Тайком патрон принес...

Седзячы за шафай, я слухаў песню, а сэрца білася гулка і выстуквала адно: «Мне таксама трынаццаты!.. Мне ж таксама трынаццаты!.. І я мог бы дапамагаць партызанам — непрыкметна прабрацца на пазіцыю, ці паднесці патроны, ці схадзіць у разведку...»

Пасля «Трансваля» Франуся запела адна, і Марыля, мабыць, адчуўшы, што гэта будзе не так пянне, як галашэнне, сядзела моўчкі. А запела Франуся песню пра голуба і галубку, якія недзе на крутой гары «гулялі, мілаваліся, шызымі крыламі абдымаліся» і якіх разбіў-разлучыў стралок: «голуба забіў, галубку злавіў, узяў пад палу, прынёс дадому». І не стрымала Франуся слова — заплакала. Пяе, а слёзы коцяцца па шчоках аж да губ, і яна іх не выцірае.

Галубка не есць, галубка не п'е,
А ўсё на ту гору ўсё плакаць ідзе.
— Галубка мая шызакрылая,
Чаму ж ты такая гаратлівая?
— А як жа мне жыць дый не гараваць:
Была я ў пары, цяпер я адна...

— Вось бачыш, Франуся, казала ж табе — не трэба,— журліва дакараючы, ціха прамовіла мама.— А цяпер плачаш. Не плач, не зводзь сябе марна... Яшчэ невядома, што з намі з усімі будзе...

Апошні запіс у той спеўнічак быў зроблены мной на свята Першага мая. Партызанскае камандаванне рашыла правесці ў дзень Першамая святочны мітынг у ваколіцы нашай вёскі — у лясным урочышчы Барана-

ва. Недзе гадзіне а дванаццатай дзве роты, якія кватаравалі ў Слабадзе, чынным строем і з песняй памаршыравалі за вёску. А запявалам быў наш слабодскі хлопец Алежка Тромпель. Божа, як ён хораша пачынаў песню і як хораша спявалі партызаны! Паўзводна яны ішлі з песняй да месца мітынгу, а мы, пераважна хлапчукі-падлеткі, дыгалі па ўзбоччы дарогі, стараючыся раўняцца з галавой калоны, і слухалі іх баявы страявы спеў. Запявалу, яшчэ не бачачы за іншымі ў шэрагах, я пазнаў адразу ж — па голасу.

Из востока солнце всходит,
Во-о-рошилов едет к на-ам!

Яшчэ не абрывалася, не ападала ўзнятае да неба гэтае яго звонкае «ам!», як добрая сотня густых мужчынскіх галасоў падхоплівала і двойчы паўтарала:

Из востока солнце всходит,
Во-о-рошилов едет к на-ам!

«Раз-два-тры!» — устаўляў у кароценькую паміж куплетамі паўзу бравы камандзір роты.

Я приехал к вам проститься
И-и-и на фронт вас провожа-ать!..

Песня набірала разгон, разлягалася, кацілася па ўсім прасторы, праз усе пагоркі і лагчыны, да лесу і далёка за лес, і здавалася — яе нішто не стрымае, яна і ёсць тая непераможная ўсенародная сіла, пра што колькі разоў я чытаў у нашай партызанскай газеце і ў лістоўках, чуў на сходах і мітынгах.

Всем желаю возвратиться,
Е-е-ще дома побыва-ать!..

У грудзях у мяне ўсё замірала, сэрца нібы адрывалася і адлятала ўслед за галасамі туды ж — увысь, у вясновы блакіт неба, і я злаваўся на сябрука, які лез да мяне з нікчэмнаю прапановай і замінаў слухаць: «Ты чуў? Хлопцы кажуць, што гаенцы хочуць нам надаваць у Баранаве? Калі што, дык у мяне во з сабой пушчалка! А ў цябе ёсць?..» І ён паказаў мне зробленую з тонкіх аборак прашчу для кідання каменя на далёкую адлегласць.

На невялікай лясной паляне любімая Алежкава песня — па камандзе «стой!» — абарвалася. Роўна праз два месяцы яна абарвецца назаўсёды: на досвіт-

ку другога ліпеня, калі партызанская брыгада «Бальшавік» вызваляла наш раённы цэнтр Лагойск, Алежка загінуў. На дзевятнаццатым годзе жыцця. У доўгачаканы дзень злучэння з часцямі Савецкай Арміі!..

Адвячоркам таго незабыўнага Першага мая нашу сям'ю напаткала бяда: асколкамі гранаты-эфкі была цяжка паранена мая старэйшая сястра Ліна. «Эфка» ўзарвалася на вечарынцы, пасярод хаты. Пасварыліся і счубіліся ў час танца два п'яныя партызаны, і нібыта адзін з іх вырваў у другога з гранаты кальцо. І той другі — наш слабодзец Сёмка Бязушчанка — або не здагадаўся кінуць «эфку» ў акно, або яна выпала ў яго з рук... У акно ён кінуўся сам і ацалеў. А гэны быў забіты на месцы. І яшчэ адзін з партызан аказаўся смяротна паранены і дасягнуў толькі да раніцы. Былі паранены і многія слабодскія дзяўчаты. Сёмку праз якой паўгадзіны партызаны злавілі, вывелі ў канец вёскі і расстралялі — без суда і следства.

Пасля мітынгу ў Баранаве я вярнуўся ў Айнаравічы, гуляў з хлопцамі недзе за вёскай, і нічога пра гэта недарэчнае, сумнае здарэнне не ведаў. Настрой у мяне быў выдатны, і дахаты я ішоў з песняй, якую таксама пачуў і вывучыў у тыя вясновыя дні і якая мне вельмі падабалася яшчэ і таму, што гаворка ў ёй ішла пра зусім юнага партызана (тады я не ведаў, што песня яшчэ даваенная і яе герой — змагар супроць белапольскіх акупантаў).

Над абрывам вецер кідаецца, вые,
А абрыў суровы — грозен і высок.
Галавы схілілі клёны залатыя
І раняюць слёзы на сыры пясок.

А туман калматы вісне над ракою.
Пеніцца сягоння бурная рака.
Хвалі ў падарунак вынеслі з сабою,
Кінулі на бераг цела хлапчука...

Менавіта на гэтым месцы, ледзь я пераступіў парог, маё галоснае піянне страшным крыкам абарвала мама:

— Перастань!

Гляджу,— а яна плача. І сястра Ідзея плача. І мне, спалоханаму, праз слёзы тлумачыць:

— Ліну гранатай паранілі... Можа, не выжыве.

Мама хуценька сабралася і бегма пабегла ў Янушкавічы, у партызанскі шпіталь, куды павезлі са Слабады цяжка параненых.

З Лінай усё абышлося шчасліва. Каля двух тыдняў яна праляжала ў шпіталі — больш нельга было: пачалася блакада, партызаны, усе да аднаго, рушылі ў вялікія лясы на ўсход ад Лагойшчыны, у раён возера Палік, а сем'і — і мы ў тым ліку — пашыліся ў свой балотны гушчар, у дзіч, дзе на пясчанай выспе, на Барку, яшчэ мінулай восенню былі пароблены зямлянкі. Туды, пасадзіўшы на нейкага дохлага коніка, завезлі і Ліну — сама яна хадзіць яшчэ не магла. У той дзічы мы праседзелі амаль аж да самага канца чэрвеня — аж да прыходу нашых. Калі ішло прачэсванне, забіраліся ў глыб лясных балот, у такую дрыгву, куды немцы проста не рашаліся палезці. Абстрэльвалі — дзе заўважалі людзей — зверху, з самалётаў. А калі блакада прайшла, мы зноў вылезлі з балаціны на Барок, да сваіх зямлянак. З жыццём на Барку ў мяне звязаны ўспамін аб яшчэ адной сустрэчы з песняй.

Зямлянкі, у якіх туліліся і партызанскія сем'і, і многія іншыя жыхары навакольных вёсак, былі зроблены не ў адным месцы, а па розных краях вялікай пясчанай, парослай сасоннікам, выспы. Вечарамі я нярэдка хадзіў да суседняга — кіламетры за паўтара — лагера, у якім было шмат маіх знаёмых равеснікаў, асабліва дзяўчатак. Там, каля кастра, для якога хвorasту хапала, заўсёды было весела, ладзіліся забавы і гульні. Дзеці ёсць дзеці: чуць адкацілася небяспека, рэальная пагроза смерці,— і яны зноў жывуць сваім. Аднойчы я ішоў туды, да вясёлага вогнішча, з намерам напалохаць гурму. Днём хтосьці ў нашым лагеры забіў гадзюку, і цяпер я нёс яе, мёртвую, з савосераспусніцкім разлікам, што падкрадуся ціхенька, не бачны ў цемры, да дзяцей і падкіну ў іх цеснае колца гэту ядавітую рэптылію: пакуль зразумеюць, што нежывая — ой будзе крыку-піску-вэрхалу!.. Ой пацешуся-пасмяюся з іх дарэмнага перапалоху!..

Яшчэ здалёк — яшчэ не было відаць водбліску кастра — я пачуў, што ў лагеры пяюць. І пяюць дзеці. Чым бліжэй падыходзіў, тым выразней чулася іх прыгожае зладжанае пянне. Нарэшце я ўбачыў іх, спевакоў — амаль адны дзяўчаткі. Глядзяць на цяпельца, якое ўжо дагарае, і пяюць. Ды так шчыра, так праніклёна і — так балюча-журботна!

Рада б пачакаць,
Каню вады даць —

Мае босенькія ножкі:
Сцюдзёна стаяць.

Песня запыніла мяне. Забыўшыся на свой неразумны намер, я замёр на мяккай лясной сцяжыне і нерухома стаяў у мораку, аж пакуль яны не даспявалі песню да канца. Жартаваць мне раптам расхацелася, і я шпурнуў мёртвую гадзюку далёка ўбок, дзе цямнелі нізкарослыя кусты ялаўцу. Ступіў яшчэ два-тры крокі,— і зноў знерухомеў. Дзяўчаткі пачалі новую песню. Тых, што сядзелі тварам да мяне, я пазнаў, я іх ведаў, амаль штодзень бачыўся з імі і не звяртаў на іх ніякай увагі. Цяпер у гэтым вечаровым бары каля невялічкага вогнішча, з роднай тужлівай песняй на вуснах, яны мне здаліся якімісьці інакшымі — прыгажэйшымі, ці што? Я ніколі не думаў, што яны могуць так хораша пець!...

* * *

Другі свой рукапісны спеўнічак я пачаў запісамі папулярных песень ваеннай пары ў студзені сорак пятага і працягваў аж да лета наступнага, сорак шостага. Частка яго ацалела. На першых старонках песні: «До свиданья, города и хаты», «Синий платочек», «Священная война» і некаторыя з тых, што былі яшчэ ў першым спеўнічку. Далей ішлі: «Калуга» («Дрались погеройски, по-русски»), «Играй, мой баян», «Коса», «У речного далекого брода», «Сядь-ка рядом, что-то мне не спится», «Слушайте, отряды, песню фронтовую». Тут жа — вельмі папулярная ў нашай вёсцы песня пра смерць лётчыка. Яна засталася ў нас пасля таго, як у ліпені сорак чацвертага ў Слабадзе дзён дзесяць адпачывала нейкая лётная часць. Побач з вёскай, на роўным лузе, стаялі — цэлай сямейкай — невялічкія двухмесныя самалёты, каля якіх з ранку да вечара бавілі свой час усе слабодскія падшыванцы. Хадзілі — пад вясёлы рогат — чуткі, што адна са сталых дзяўчат рызыкнула пракаціцца, на пару з лётчыкам, па небе, самалёт зрабіў толькі адзін круг над вёскай, і з ёю здарыўся такі канфуз, што «больш век не захоча лётаць». Дык вось лётчыкі пакінулі нам песню, якая, дзякуючы просценькай мелодыі і такому ж немудрагелістаму сюжэту, доўга трымалася ў памяці слабодскіх дзяўчат і хлопцаў. Пазней, праз шмат гадоў, я даведаюся, што яна з'яўляецца салдацкай пераробкай аднае папулярнай старой песні мяшчанска-гарадскога паходжання.

Дык гэта пазней, а тады... Тады яна мне неймаверна спадабалася. Трагічны расказ пра смерць лётчыка, яго развітальныя, звернутыя да родных і блізкіх, словы здаліся мне паэзіяй не абы-якой.

И понесутся телеграммы —
Родных, знакомых известить,
Что сын ваш больше не вернется
В родимом доме погостить.

В углу заплачет мать-старушка,
Слезу смахнет старик отец.
Лишь дорогая не узнает,
Каков был летчика конец.

И будут карточки пылиться
На полках позабытых книг:
В знакомой форме, при петлицах,
Но ей уж будет не до них...

Ёсць у гэтым спеўнічку і яшчэ адна песня-пераробка — на сюжэт знакамітай «Катюшы» Ісакоўскага. Вядома, што пераніцовак гэтага сюжэта было вельмі шмат, у тым ліку і сатырычнага характару. Якраз такая і трапіла ў мой сшытачак — пра Кацюшу-здрадніцу, што прадалася нямецкім афіцэрам за буханку хлеба, «шнапс пила и ела шоколад». У нашым баку пра нешта падобнае ў паводзінах дзяўчат я нічога за ўсю вайну не пачуў. Але ўявіць такое было зусім няцяжка — пры той нянавісці і пагардзе да здраднікаў Радзімы, што вельмі востра адзывалася тады ў нашых душах. Таму бязлітасна-асуджальны пафас песні надзвычай імпанаваў нам — меншым братам воінаў-франтавікоў і партызан. Тым больш што мы ўступалі ў той узрост, калі ўзаемаадносіны Яго і Яе пачынаюць усё больш цікавіць і хваляваць і ў думках ужо льга паставіць сябе на месца таго, каму гэтак подла здрадзіла Кацюша.

Не твоя ли мучилась в Берлине,
Голодала младшая сестра?
Ты о том забыла на перине,
С офицером спала до утра.

Я приеду в город свой на танке,
Но, Катюша, только не к тебе,
А к своей любимой партизанке,
Боевой подруге по борьбе.

Так гуляй, люби своих ты немцев
И целуй холодные уста.
Все равно тебе, моя Катюша,
Не минуть могилы без креста.

Спеўнічак мой папаўняўся галоўным чынам за кошт песень, якія прывозіла з Мінска сястра Ліна — студэнтка педвучылішча. Сама яна спяваць вельмі любіла, песень ведала безліч, і я прасіў яе прадыктаваць мне тыя з іх, што асабліва былі мне даспадобы. Песні гэта былі самыя розныя: і з папулярных ваенных кінафільмаў («Шаланды, полные кефали...»), і, відаць, з вучэбнага рэпертуару будучых настаўнікаў — песні, што развучваліся на ўроках музыкі і спеваў («За свободу, угнетенный народ, становись на баррикады!»), і некаторыя ўзоры гарадскога песеннага фальклору, у тым ліку — фалькларызаваныя песні кніжнага паходжання («Как на речке, стало быть на Фонтанке, жил извозчик, стало быть молодой», «Вы не вейтеся, черные кудри, над моею больной головой», «Ночами лунными с гитарой семиструнною», «Под окном черемуха колышется...»). Адкуль гэтыя апошнія трапілі да сястры, я зразумеў, калі аднойчы, на прадвесні сорак шостага, начаваў у Ліны, у інтэрнаце педвучылішча (тады яшчэ па вуліцы Фрунзе). Я ляжаў на ложку сястры і, пры слепаватым асвятленні ад адзінай на вялізны пакой лямпачкі, чытаў жудкія апавяданні Конан-Дойла, калі ў госці да студэнтак завітала цэлая гурма гарадскіх хлопцаў — у прыкметна падагрэтым настроі і з гітарай. Вось тады і пачуў я на ўласныя вушы амаль усе гэтыя «душашчыпальныя» гарадскія рамансы і песні, якія праз Ліну трапілі ў мой спеўнічак. Трэба прызнацца, што выкананне іх пад гітару мне вельмі спадабалася, і я глядзеў на гарадскіх кавалераў з зайздрасцю і думаў: можа быць, калі-небудзь займею такую гітару і я...

Цікавасць і цяга да фальклорнай песні была засведчана ў спеўнічку і такімі шэдэўрамі народнай лірыкі, як «Пазарасталі сцежкі-дарожкі» і «Ой, за гаем зелененькім брала ўдова лён драбненькі». Хто гэтую апошнюю прынёс у Слабаду,— не ведаю, але больш папулярнай, чым яна, у тыя гады ў нашай вёсцы, мабыць, не было: без яе не абыходзілася ні адно застолле. Як і ўсе народныя ўкраінскія песні, спявалася яна ў нас, канешне ж, у беларускім вымаўленні — хіба што асобныя словы выдавалі яе нетутэйшае паходжанне.

* * *

На трэцім курсе педвучылішча я абзавёўся яшчэ адным — апошнім у маім жыцці — рукапісным спеў-

нікам. Купіў тоўсты агульны сшытак у каленкоравай светла-фіялетавай вокладцы і пачаў запісваць у яго песні, якія тады ў нашым студэнцкім асяроддзі былі асабліва папулярныя. У большасці сваёй — самыя найноўшыя савецкія, што гучалі з экранаў кіно і па радыё. Трэба сказаць, што новых песень тады, на мяжы саракавых — пяцідзесятых гадоў, паяўлялася безліч, і песень харошых, я нават сказаў бы выдатных, якія могуць спакойна паспаборнічаць з найлепшымі песнямі сённяшнімі. І спявалі мы іх з вялікай любасцю і кожны дзень — на перапынках у аўдыторыі, на калідорах і ў пакоях інтэрната, у клубе на сцэне, у кузаве грузавіка, едучы да сваіх падшэфных — калгаснікаў або вайскоўцаў — з канцэртнай праграмай...

У сшытку — звыш сотні песень. У адрозненне ад тых першых спеўнічкаў, народных, фальклорных, сярод іх няма: усе — прафесіянальнага паходжання. Вядома, не ўсім ім судзіла доля застацца на скрыжалях гісторыі айчыннай песні, але такіх, што не вытрымалі праверкі часам, зусім нямнога. Гартаю старонку за старонкай — і ўспамінаю тыя нялёгкія (можа, таму і незабыўныя?) гады, і адчуваю, як вяртаецца аднекуль здалёк знаёмае, калісьці перажытае, хваляванне, і зноў і зноў дзіўлюся: колькі іх тут, дарагіх табе радкоў і вобразаў, і да чаго ж яна была табе люба — наша родная савецкая песня!.. «Пой, моя хорошая, в поле жито скошено», «В городском саду играет духовой оркестр», «Прощайте, скалистые горы», «Расцвела сирень-черемуха в саду», «О чем ты тоскуешь, товарищ моряк?», «Вот солдаты идут по степи опаленной», «Ой, цветет калина в поле у ручья», «Каким ты был, таким остался», «Услышь меня, хорошая, услышь меня, красивая», «Где же вы, друзья однополчане?», «Если любишь — найди», «Золотые огоньки», «Летят перелетные птицы», «Мне хорошо, колосья раздвигая...», «По мосткам тесовым вдоль деревни», «Далеко, далеко, где кочуют туманы...», «На корабле ходил, бывало, в плаванье», «За дальнею околицей, за молодыми вязами», «Ходили мы походами в далекие края», «Ничего не говорила», «Где ты, утро раннее...», «Когда душа поет» і яшчэ, і яшчэ, і яшчэ, і амаль з кожнай звязаны нейкі ўспамін, прыгадваецца, дзе і калі ты яе ўпершыню пачуў, хто з тагачасных тваіх сяброў-аднакурснікаў асабліва яе любіў і хараша, задушэўна выконваў.

Шукаю песню, якая ў нашым педвучылішчы была асабліва папулярнай і ўспрымалася так, як бы яна была пра нас, маладых і закаханых студэнтаў, будучых вясковых настаўнікаў, складзена. Шукаю — і не знаходжу. Відаць, яна была даўно і так моцна прапісана ў сэрцы, што занатоўваць на паперы не было патрэбы: запісваліся звычайна тыя песні, да якіх ты толькі далучаўся, якія яшчэ толькі станавіліся тваімі. А гэта — гэта, здавалася, была тваёю заўсёды.

Дзе ж ты, чарнавокая,
Блізкая, далёкая,
Светлая, падобная вясне?
Можа, ў гэты вечар
Ты чакаеш стрэчы
І таксама марыш пра мяне?

З песняй «Дзе ж ты, чарнавокая» звязаны ў мяне і ўспамін пра адзін святочны вечар у інтэрнаце. Мы, некалькі хлопцаў і дзяўчат чацвертага курса, якія не паехалі на кастрычніцкае свята дадому, сабраліся вечарам сваёй грамадой у пакоі. Зладзілі сціплае, па нашых магчымасцях, застолле. З віном, канешне. Не ведаю, ці хто з дзяўчат яго запрасіў, ці ён сам напрасіўся, але быў у застоллі і намеснік дырэктара педвучылішча па гаспадарцы — гадоў трыццаці пяці мужчына, шырокі ў плячах, дзябёлы, гладкімі чырвонымі шчокамі і сытым, бліскучым падбародкам, з нахабнымі вачыма і тоўстымі, тлустымі губамі. У нашым баку на такога гаварылі «рыдзель» — мабыць, ад дзеяслова ірдзець, ірдзецца. Пасля аднае-другое чаркі мы, вядома, заспявалі. І пачалі са сваёй любімай: «Дзе ж ты, чарнавокая?..» Пакуль мы пелі гэту песню — гладкашчокі госць маўчаў, не таіўся, што слухаць яму сумна, і глядзеў на нас з непрыхаванай іранічнай ухмылкай. Пасля «Чарнавокай», настроены на мілы сэрцу лад родных гукаў, а можа, таму, што бачыў ухмылку госця і наперакор яму, я адразу ж, не даўшы і хвіліны на перадых, заспяваў, а хлопцы і дзяўчаты дружна падхапілі:

Ці ўсе лугі пакошаны?
Ці ўсе сенажаці?
Пытаецца сын у мацеры:
Ой, каторую ўзяці?

Ой, ці тую багатую —
Што хараша ходзіць?
Ці бедную сіраціначку:
Што ні возьме,— зробіць?

У багатай, у пыхатай —
Валы да каровы,
А ў беднае сіраціначкі —
Толькі чорныя бровы...

І гэту песню госць слухаў з відочнай пагардай на фізіяноміі, што пачало мяне не на жарты браць за жывое. «Як толькі скончым,— прыкінуў я ў думках,— тут жа адразу, назло гэтаму рыдзелю, пачну яшчэ адну нашу — «Пасею гурочкі». Дзяўчаты яе ведаюць — падхопяць таксама...»

Але запець пра «гурочкі» рыдзель не даў: яшчэ не дацягнулі да канца апошнюю ноту, як ён гучна і нахабна асадзіў наш патрыятычны парыў:

— Ну і песні ж у вас, педагогі! Вы што — і дзяцей будзеце гэтаму вучыць у школах?

— А чым яны вам не падабаюцца? — спытаў я ў адказ на яго іранічную рыторыку.

— Сучасным маладым людзям трэба быць на ўзроўні сусветнай культуры. А старыя лапці цягнуць у жыццё ні к чаму,— высакамерна патлумачыў рыдзель.

— Народныя песні — гэта, па-вашаму, лапці? — уставіўся я на яго вачыма, адчуваючы, што вось-вось магу ўспыхнуць, нагрубіць і тым самым сапсаваць усё свята.

Рыдзель, мабыць, адчуў мой настрой і з'ігнараваў пытанне. Ён павярнуўся да дзяўчат і прапанаваў:

— Хочаце паслухаць што-небудзь неапалітанскае?

— Просім!

— Просім!

— Просім!

Адна нават у ладкі запляскала ад радасці — відаць, ужо раней чула ў яго выкананні «нешта неапалітанскае».

І рыдзель запеў. На маё здзіўленне, голас у яго аказаўся досыць прыемны і натрэніраваны. Мабыць, часта ўлагоджваў застольную публіку, асабліва — слухачак, сваім артыстычным, як яму здавалася, пяяннем.

О, не уходи, друг милый,
Мне «прощай» не говори,
Не срывай цветок увядший,
Глаз прощальных не дари.
О, не оставь меня, тебя я умоляю,
Любви моей, любви не отвергай!..

Я сядзеў унурыўшыся, бо чуўся абражаным. І ўжо зусім сапсаваўся настрой, калі ўбачыў, што нашы мілыя аднакурсніцы прыйшлі ў захапленне ад песні рыдзеля, ва ўсе далоні запляскалі і закрычалі:

— Брава! Дык вы ж артыст! Яшчэ, калі ласка! Просім яшчэ што-небудзь! Просім!..

Пад гэты гвалт я неўпрыкмет падняўся з-за стала і падаўся прэч, за дзверы. На душы было вельмі паскудна. Я ўпершыню ў жыцці сутыкнуўся з такім нігілістычна-абразлівым стаўленнем да нашай роднай песні — да таго, што яшчэ з гадоў дзяцінства было для мяне дарагім і свяшчэнным.

Пасля я буду сустракацца з гэтым адукаваным дыпламаваным дзікунствам — чым далей, тым больш. І з кожным разам усё вастрэй і балючэй буду на яго рэагаваць. І ператворыцца ўсё маё жыццё ў суцэльны, бесперапынны паядынак з дзікунствам, у якім толькі той радасці і будзе, калі ўбачу адваяваную для Бацькаўшчыны, а значыць і для Чалавецтва, душу.

7 Зак. 1233

# І ЗНОЎ — ВУЧОБА

Да канца трэцяга курса педвучылішча я не сумняваўся, што па заканчэнні вучобы паеду куды-небудзь настаўнічаць — у нейкую маленькую вясковую школу, у раённую глыбінку. У думках прымерваў сябе да Лабановіча, пры гэтым неадменна ўяўляў, што недзе там, у вёсцы, сустрэнуся і са сваёй Ядвісяй, і толькі лёс наш, вядома, складзецца іначай — не так, як у маладога настаўніка і дачкі падлоўчага з палескіх аповесцей Коласа. Лёс выпадзе нам шчаслівы. Яна — таксама настаўніца, разумная, далікатная, прыгожая. Мы разам вучым дзяцей, карыстаемся ў мясцовых людзей павагай і аўтарытэтам — не такім, як дырэктар сямігодкі ў нашай Слабадзе, ад п'яных кулакоў якога з плачам і крыкам амаль не штодня вылятае на вуліцу яго няшчасная жонка-настаўніца.

Думка пра будучыню і хвалюе, і трохі трывожыць, а тым часам дома ў бацькі нараджаецца ідэя — гэту маю настаўніцкую будучыню на цэлы год да мяне наблізіць. У канцы лета пяцідзесятага года, калі я, пасля двух месяцаў працы ў піянерскім лагеры «Будаўнік» пад Мінскам, завітаў на некалькі дзён дадому, бацька і кажа мне:

— Я вот думаю... Ці не варта і табе зрабіць так, як Геня Кунскі?

Геня Кунскі, сын нашых знаёмых з суседняй вёскі Бухнавічы, вучыўся разам са мной у педвучылішчы, толькі на курс ніжэй.

— А што ён такое зрабіў? — пачуўшы, што гаворка пойдзе пра нешта сур'ёзнае, спытаў у адказ я.

— А ён перавёўся на завочнае і ўжо ўладкаваўся на працу настаўнікам. З першага верасня пачне палучаць зарплату. І сябе карміць будзе, і дому — падмога.— Тут бацька вычакаў з паўхвіліны і дадаў: — Дык ён жа два курсы кончыў, а ты ўжо тры. Можна таксама апошні курс кончыць завочна.

Такой прапановы я зусім не чакаў і таму разгубіўся. Што Геня Кунскі пайшоў настаўнічаць, гэта навіна мяне ўразіла. Уявіў яго — невысокага, як падлетак, гарэзлівага, вечна вясёлага рагатуна — настаўнікам і здзівіўся. Гэткай смеласці ад яго я не спадзяваўся. Зрэшты, не ён першы. Год назад перавёўся на завочнае і паехаў працаваць у Юрацішкаўскі раён мой аднакурснік Лявон Ушаў. Цяпер, выходзіць, і мая чарга — зрабіць гэтак, як яны. Але ж і сумна стала мне ад думкі, што я раптоўна развітаюся з педвучылішчам, з яго інтэрнатам, з усімі таварышамі-сябрамі, і галоўнае — з вучобай, смак да якое, здавалася мне, толькі ў апошні час па-сапраўднаму адчуў. Я добра разумеў, што прымусіла бацьку загаварыць пра мой датэрміновы пераход на ўласны заробак. У хаце панавала беднасць і галеча. Дапамагаць студэнту не было чым. Да таго ж, скончыўшы сямігодку, пайшла па маіх слядах — паступіла ў Мінскае педвучылішча — меншая сястра Ідзея. Значыць, ужо трэба падтрымку — якая яна ні ёсць мізэрная — дзяліць на дваіх... Усё гэта мне было зразумела, і разам з тым — ах, як хацелася яшчэ гэты — апошні! — чацвёрты год, павучыцца на стацыянары! І таму нічога пэўнага бацьку я не адказаў, але ўсім выглядам сваім даў зразумець, што прапанова яго мяне не ўзрадавала. Мама ж, аказваецца, не падзяляла бацькавых намераў і з рашучасцю ў голасе сказала:

— Вучыся, канчай. Год неяк перакідаешся. Хоць сушанай бульбай памагаць будзем...

Тым не менш, першага верасня — у першы дзень майго апошняга курса — я сядзеў на ўроках сумны і думаў пра сваё. Як жа быць і якое знайсці мне выйсце? Вучылішча, канечне, я не кіну, пра гэта і гаворкі не можа быць, але ж і на «аблізанай» стыпендыі не пратрымацца.

І сталася неверагоднае. Выйсце прыйшло — як цуд з неба. Па званку на апошні ўрок разам з выкладчыкам у нашу аўдыторыю зайшла дырэктар базавай пачатковай школы пры педвучылішчы Аляксандра Міхайлаўна. У гэтай школе мы праходзілі і пасіўную і актыўную практыку і яе настаўнікаў добра ведалі. Калі за партамі суцішыліся, Аляксандра Міхайлаўна спытала:

— Таварышы студэнты! Хто з вас ведае нямецкую мову? Мне патрэбен выкладчык нямецкай мовы для 3-га і 4-га класаў. Па дзве гадзіны на клас у тыдзень,

аклад — сто семдзесят рублёў. Урокі ў нас у другую змену, так што можаце спакойна сумяшчаць іх са сваёй вучобай.

Сказана ясна і дакладна. Сто семдзесят рублёў — гэта прыкладна столькі, як і стыпендыя. О, каб мне да стыпендыі яшчэ гэты заробак!.. Але нямецкай мовы, апрача дзесятка слоў ды двух-трох просценькіх фраз, я не ведаю. У педвучылішчы яна не выкладалася, а ў сямігодцы — толькі адзін год і то настаўнікам, які не меў ніякай падрыхтоўкі па гэтым прадмеце і атрымаў яго ў дадатак да асноўнай нагрузкі. Я абводжу позіркам рады партаў — ці падняў хто руку на прапанову дырэктара? Ведаю, што ёсць на курсе студэнты, якія замежную вывучалі ў школе няблага. Але ніхто не квапіцца на такі пэўны і культурны заробак. У аўдыторыі маўчанне і цішыня.

— Таварышы студэнты, вы не бойцеся,— працягвае Аляксандра Міхайлаўна.— Гэта ж самы пачатак навучання замежнай мове: у 3-м класе будзеце знаёміць дзяцей з нямецкай азбукай, вучыць пісаць літары, чытаць просценькія словы, у 4-м — таксама нічога складанага...

Я сяджу і ліхаманкава ўспамінаю ўсё, што ведаю па-нямецку, што некалі вучыў у школе: Анна унд Марта бадэн... Вір фарэн нах Анапа... Эс лебэ геноссэ Сталін... Эс лебэ геноссэ... І нічога больш! Нічога болей!.. Зноў азіраю аўдыторыю — маўчанне і ніякай зацікаўленасці да прадмета гаворкі. І тады я, невядома якім д'яблам падштурхнуты, падымаю руку і ўстаю з-за парты.

— Я магу, калі ніхто не бярэцца...

Аляксандра Міхайлаўна мяне трохі ведае — дапамагаў у школе выпускаць насценгазету, займаўся з піянерамі... Яна амаль удзячна кіўнула галавой і сказала:

— Вось і добра. Пасля ўрокаў зайдзіце, калі ласка, да мяне, пагутарым больш дэталёва...

Дырэктарка пайшла, а мяне пачаў забіраць страх. Вось зайду да яе ў кабінет, а яна і загаворыць да мяне па-нямецку, спытае што-небудзь канкрэтнае. Што я ёй адкажу? Эс лебэ геноссэ Сталін? На ўсе пытанні буду выгукваць «Эс лебэ!»?..

Перахваляваўся я за той апошні ўрок нямала — толькі пра тое і думаў, як я, на выпадак канфузу, выкрыты ў няведанні нямецкай, буду выходзіць са ста-

новішча, буду тлумачыць, што мяне прымусіла зрабіць такі нахабны крок... Але ўсё абышлося для мяне надзіва ўдачна. Як я ведаю нямецкую, Аляксандра Міхайлаўна нават не пацікавілася гэтым. Яна параіла мне схадзіць у метадычны кабінет пры гарана, перапісаць там сабе вучэбныя праграмы для 3-га і 4-га класаў, па магчымасці, узброіцца іншай метадычнай літаратурай. «Дый прыступайце з наступнага тыдня да працы»,— сказала.

І я пачаў працаваць настаўнікам нямецкай — з Аннай унд Мартай і Эс лебэ геноссэ ў багажы. Пашанцавала купіць падручнік для 5-га і 6-га класаў — каб трохі падвучыцца самому. Раздабыў руска-нямецкі і нямецка-рускі слоўнікі. Ну, а ўсё астатняе — у вядомай прыказцы «адвага гарады бярэ». Балазе, у маладосці гэтай самай адвагі куды больш, чым у сталасці. Але хапала і трывання, і сілы волі. Да кожнага ўрока рыхтаваўся старанна, падрабязна пісаў план, рэпетыраваў вымаўленне гукаў і слоў. Даводзілася і выкручвацца, каб не паступіцца аўтарытэтам настаўніка. Напрыклад, нейкі Кручкоў з 4-га класа — от ужо дзе быў ад'яда сэрца! — падымае сярод урока руку і пытаецца: «А як будзе па-нямецку варона?» Пытаецца ён так недарэчы, ні з таго ні з сяго, і з такой інтанацыяй, што не толькі вучням, а і мне самому цяжка стрымацца ад смеху. А каб цябе халерачка з усімі варонамі разам! Сам ты чыстая варона, не раўняючы! Гэта я ў думках так, а ўголас накідваюся на Кручкова рашуча і злосна: «Ты што перашкаджаеш весці ўрок? Ты што выторкваешся са сваімі недарэчнымі пытаннямі? Вот ідзі да дошкі і напішы па-нямецку тыя словы, якія былі зададзены на дом!..» Кручкоў стаіць ля дошкі і нешта крэмзае. Я тым часам паспяваю непрыкметна разгарнуць на стале руска-нямецкі слоўнічак на літары В. Калі Кручкоў — з дапамогай іншых вучняў — сяк-так накрэмзае зададзеныя словы, тады я і кажу яму, як будзе па-нямецку варона. І дадаю — паважна, з годнасцю: «Калі табе так хочацца ведаць — запомні. А ўвогуле — з непатрэбнымі пытаннямі не спяшайся: усё ў свой час, мы вучым словы па парадку і не ўсе адразу...»

Так, папалам з бядой, я цэлы год выкладаў нямецкую мову ў пачатковай — базавай — школе пры Мінскім педвучылішчы. На шчасце, ні разу ніякая дасведчаная камісія на мае ўрокі не заявілася. Аднойчы

толькі сама Аляксандра Міхайлаўна пасядзела хвілін пятнаццаць. Перакаталася, што матэрыялам валодаю, класам — таксама, і пайшла. Не ведаю, чаго варта было маё навучанне, але адзнакі ўсім вучням вывеў я ў канцы мая толькі станоўчыя. А галоўнае — бязбедна пражыў гэты свой апошні год у педвучылішчы. Яшчэ і сястры трохі ад майго заробку перападала.

Тым часам, па меры набліжэння дзяржаўных экзаменаў, мяне ўсё часцей апаноўвала думка пра тое, каб па заканчэнні педвучылішча падацца на вучобу далей — на філфак універсітэта. Па-першае, прага да ведаў пачала іменна ў гэты час адчувальна разрастацца. Па-другое, у дырэкцыі далі мне зразумець, што калі я паспяхова здам дзяржаўныя, то пападу ў лік чырвонадыпломнікаў — у тыя пяць працэнтаў выпускнікоў, якія размеркаванню на працу не падлягаюць і маюць права без экзаменаў паступіць у педагагічны інстытут або ва ўніверсітэт. А па-трэцяе, і гэта, відаць, было галоўнае, што спрыяла выспяванню задумы пра далейшую вучобу, я пачаў шмат пісаць і выходзіць з вершамі на старонкі друку. Стаў членам літаратурнага аб'яднання пры «Чырвонай змене», якім кіраваў паэт Мікола Аўрамчык. Даведаўся, што ў Беларускім дзяржаўным універсітэце і ў Мінскім педінстытуце вучыцца нямала маладых паэтаў, маіх равеснікаў, імёны некаторых былі ўжо мне вядомы па іх першых публікацыях, за якімі, як усе пачаткоўцы, я зацікаўлена сачыў, і гэта падагравала ўва мне жаданне апынуцца ў іх асяроддзі, распальвала творчыя амбіцыі.

І выбар, нарэшце, быў зроблены беспаваротна: буду вучыцца далей. Трэцяга ліпеня нам уручылі дыпломы. На выпускным вечары, у застоллі, я прачытаў прысвечаны гэтай падзеі верш — верш падзякі і развітання. Падзякі — настаўнікам, педвучылішчу, якое чатыры гады было для нас родным домам. Развітання ж — з усімі разам: і з настаўнікамі, і з аднакурснікамі, з таварышамі і сябрамі. А яшчэ — з юнацтвам,— тым раннім, першым, маёва-зялёным, якое няйначай раптам абрывалася і ад якога цяпер трэба перакідваць масток у свет, табе яшчэ не вядомы, дзе ўсё будзе па-іншаму, па-новаму і, вядома ж, па-даросламу. Як-ніяк, а за плячыма — амаль дваццаць.

Сёмага ліпеня я занёс у прыёмную камісію Белдзяржуніверсітэта дакументы з прашэннем залічыць мяне на першы курс беларускага аддзялення філфака.

Дваццаць восьмага жніўня прыехаў ва універсітэт і пасяліўся ў інтэрнаце па вуліцы Віцебскай. Зноў інтэрнат, зноў шумныя студэнцкія аўдыторыі, зноў — вучоба. Цэлых пяць гадоў універсітэцкага асваення філалагічных навук, захаплення літаратурай і паэзіяй, пяць гадоў імклівай, хоць і нялёгкай, хады насустрач будучыні.

Але пра гэта — хіба што выпадзе расказаць калінебудзь іншым разам.

# З ЧЫТАЦКАГА ДЗЁННІКА ТОЙ ПАРЫ

(Дакументальны дадатак да аповесці)

Свой чытацкі дзённік у педвучылішчы я пачаў весці з верасня сорак восьмага года, стаўшы студэнтам другога курса. Чаму не рабіў гэтага на першым курсе, не ведаю. Захавалася пяць тонкіх сшыткаў «па запісу прачытанай літаратуры», як пазначана на першым з іх. Гэтыя сшыткі спецыяльна аформлены — відочна, па якімсьці прынятым тады ўзоры, прапанаваным некім (не помню кім) з выкладчыкаў.

Захаваўся таксама адзін тоўсты, агульны, сшытак, на цвёрдай жоўтай вокладцы якога буйнымі літарамі выведзена: «Запіскі для сябе». У ім ацэнкі прачытанага няма — толькі выпіскі, сярод якіх і асобныя радкі з вершаў і паэм, і цікавыя, дасціпныя афарыстычныя выразы з празаічных і публіцыстычных твораў, і выказванні выдатных ці проста відных палітычных і грамадскіх дзеячоў, вучоных, пісьменнікаў,— выказванні, якія на тую пару здаваліся мне значнымі, важнымі і патрэбнымі. Выпіскі ў гэты сшытак я рабіў не толькі з кніг, але і з часопісаў і, можа, нават з газет. На жаль, назвы твораў ці артыкулаў у ім не пададзены, як няма і канкрэтнай даты, калі выпіска зроблена. Гэты сшытак я завёў у пачатку 1949 года, але асабліва багата папоўніў яго, мяркуючы па саміх выпісках, будучы студэнтам трэцяга і чацвертага курсаў, гэта значыць, у 1950—1951 гадах.

Ёсць і яшчэ адзін сшытак, які я часта адкрываў на працягу двух апошніх гадоў вучобы ў педвучылішчы і які падпісаны так: «Па развіццю мовы». У ім — каля двухсот трапных, дасціпных выразаў, кніжных афарыстычных выслоўяў, проста цікавых, прыгожых стылістычных зваротаў.

Чытацкі дзённік тых гадоў, на маю думку, можа досыць істотна дапоўніць тое, пра што размова ў кнізе; а іменна — характарыстыку духоўнага свету 17—

19-гадовага чалавека, камсамольца, навучэнца сярэдняй спецыяльнай вучэбнай установы, асаблівасці ідэйнага і маральнага станаўлення яго асобы, гэтаксама як і пэўныя асаблівасці таго незвычайнага часу.

Што чытаў малады чалавек, учарашні вясковы падлетак, які на працягу колькіх гадоў амаль зусім быў адарваны ад кнігі і таму прага да чытання ў якога была неймавернай? Чытаў усё, што трапляла пад руку, зусім без ніякай сістэмы, часцей за ўсё — выпадковае, а нярэдка, на вялікі жаль, і зусім пустое, неабавязковае, непатрэбнае. Адно прыкметна, што, папершае, пераважала цікавасць да сучаснай літаратуры, а па-другое, што чым далей, тым больш асвойваў кнігі паэзіі — гэта ўжо даваў пра сябе знаць індывідуальны, спецыфічны інтарэс: трэба ж было на прыкладзе іншых — сапраўдных, вядомых, знакамітых — вучыцца майстэрству вершаскладання, спасцігаць яго сакрэты.

Упершыню чытаў хрэстаматыйныя творы з айчыннай класікі — Гогаля, Лермантава, Тургенева, Чэхава і іншых, паколькі ў сямігодцы іх толькі «праходзіў» па падручніку, саміх жа раманаў, аповесцей, паэм у вочы не бачыў — іх проста не было. Гэта была вялікая бяда, калі хочаце — трагедыя, усяго нашага пакалення: жыць у самым чытацкім узросце (для мяне гэта з дзесяці да шаснаццаці гадоў) без кнігі! Таму, згаладнелы па чытанню, і накідваўся на ўсё, што пападалася на вочы.

Гартаючы гэты дзённік, сённяшні чытач не раз і не два ўсміхнецца, і з наіўнасці, і з маладой катэгарычнасці ацэнак, а найбольш — з неймаверных перападаў густу, калі і «Ціхі Дон» Шолахава, і «Брускі» Панфёрава, і «Порт-Артур» Сцяпанава ідуць па аднаму і таму ж разраду, а эпапея Талстога «Вайна і мір» дык і не дацягвае да гэтага разраду — ва ўсякім разе, водгук аб ёй куды больш стрыманы. А сакрэт просты: не было належнай школьнай падрыхтоўкі для ўспрымання і асваення такіх вялікіх кніг сусветнай літаратуры. Гэтак жа, як і для разумення і спасціжэння Дастаеўскага. Па гэтай жа прычыне выдатнымі ці проста таленавітымі названы ў дзённіку паэты, якіх, на добры лад, было б лепш зусім не чытаць, каб не псаваць і без таго затарможаны ў развіцці мастацкі густ. Але я іх чытаў, і нават знаходзіў радкі, якія рабілі ўражанне і дападалі да сэрца. Зрэшты, думаю, нейкая ка-

рысць была і ад іх. Пад увагу ж браўся перш за ўсё ідэйны змест, грамадзянскі пафас, маральна-філасофскі накірунак.

Так, у адносінах да прачытанага крытэрый ацэнкі быў перш за ўсё сацыяльна-класавы, ідэйна-палітычны. Помніце, як бывала ў дзяцінстве, калі глядзелі кіно пра вайну? Які быў крытэрый ацэнкі? Адзіны: от нашы далі ворагам! (Белагвардзейцам ці, пазней, фашыстам, гітлераўцам.) І не дай бог, каб у фільме не было гэтага! Праўда, у фільмах гэта заўсёды было — нават у самых драматычных. Ну, а як там наконт мастацкасці — гэта малых гледачоў цікавіла мала. Несумненна, што ад той дзіцячай эстэтычнай нявіннасці нямала яшчэ і ў маім тагачасным падыходзе да прачытанага: галоўнае, ці ў карысць нашых ідэй, нашай праўды, ці адпавядае нашай, савецкай камуністычнай ідэалогіі і маралі. Што ж да мастацкіх вартасцей кнігі — то гэта дзесь на другім плане, а то і зусім не разглядаецца.

Напэўна, чытач заўважыць і тое, як аўтар дзённіка патроху ўзбройваўся тыповай фразеалогіяй тагачаснай літаратурна-мастацкай крытыкі, публічных размоў аб літаратуры. Чытаў жа газеты, часопісы — вучыўся! У тым ліку і ў «зуброў» вульгарна-сацыялагічнай крытыкі. Будзем помніць — хто задаваў тады тон усёй размове аб літаратуры і мастацтве. Даклад т. Жданава аб часопісах «Звезда» і «Ленинград» цытаваўся тады амаль штодзённа.

Дарэчы, згадаўшы гэты даклад тагачаснага сакратара ЦК ВКП(б), мушу трохі запыніцца тут і на канкрэтным прыкладзе паказаць, якая шкодная тады ішла апрацоўка ідэйна-эстэтычных поглядаў маладых, зялёных чытачоў, як небяспечна калечыліся наш неўсталяваны мастацкі густ і наша разуменне літаратуры, паэзіі і як разам з гэтым чынілася маральнае нявечанне моладзі, выхоўвалася пачуццё падазронасці і недаверу нават да вельмі заслужаных людзей краіны, прышчапляўся пагляд, што трэба быць гатовым убачыць «ворага народа» ў кожным, каго яшчэ ўчора паважалі, высока цанілі і абдароўвалі шчырай удзячнасцю.

Восенню сорак сёмага, па плану ідэйна-выхаваўчай работы педвучылішча, належала апрацаваць у духу даклада Жданава і нас, першакурснікаў. Выкладчык літаратуры абвясціў, што трэба, каб хтосьці з нас, студэнтаў, выступіў перад курсам з рэфератам на тэму

«Антысавецкая і антынародная творчасць Зошчанкі і Ахматавай». Паколькі ён ужо запрыкмеціў на ўроках маю павышаную цікавасць да літаратуры і пэўную дасведчанасць у сучасным літаратурным працэсе, высокі гонар выпаў на маю долю. «А мне кнігі Ахматавай і Зошчанкі дадуць у бібліятэцы?» — спытаўся я ў выкладчыка. «Не дадуць. Іх кнігі не выдаюцца,— адказаў ён.— А навошта яны вам? Праштудзіруйце добра сам даклад т. Жданава, затым вазьміце зборнік артыкулаў «Супроць безыдэйнасці ў літаратуры», а таксама прачытайце выступленні і артыкулы...» — і ён пералічыў, дзе і што я павінен прачытаць.

Рэферат я падрыхтаваў (не патрымаўшы ў руках ніводнай кнігі праклятых «антысаветчыкаў»), і выступіў з ім, і пачуў вялікую пахвалу ад настаўніка, і, можа, нават падвысіў свой аўтарытэт у вачах аўдыторыі. Але... Засталіся і моцныя сумненні ў душы — асабліва наконт паэзіі Ахматавай. Некаторыя з яе вершаў, якія цытаваліся ў разбойных, пагромных артыкулах, мне вельмі спадабаліся, я запомніў іх і поціху дэкламаваў сам сабе і не мог зразумець, чаму яны кепскія, што ў іх антысавецкага і антынароднага.

Я на солнечном восходе
Про любовь пою,
На коленях в огороде
Лебеду полю.

Вырываю и бросаю —
Пусть простит меня.
Вижу, девочка босая
Плачет у плетня.

Страшно мне от звонких воплей
Голоса беды.
Все сильнее запах теплый
Мертвой лебеды...

Або — з вершаў пра блакадны Ленінград, пра жахлівыя пакуты ленінградцаў:

Щели в саду вырыты,
Не горят огни.
Питерские сироты,
Детоньки мои.

Под землей не дышится,
Боль сверлит висок.
Сквозь бомбежку слышится
Детский голосок...

Так, паверыць, што гэта кепскія і шкодныя вершы, было немагчыма — унутры штосьці пратэставала супроць высноў крытыкі. Але ж і не паверыць нельга было! Патрабавалі, загадвалі паверыць! Хто патрабаваў? Сам факт іх асуджэння ў друку. Асуджэння іменем народа і партыі. Разуменне ў мяне было тады адназначна-катэгарычнае: раз у партыйным друку б'юць — значыць, ёсць за што, там памыляцца не могуць, а ты — проста яшчэ не дарос, каб усё належным чынам уцяміць. Выйсце ў гэтай цяжкай сітуацыі я знаходзіў усё ж хоць трохі кампраміснае: вершаў, якія мне спадабаліся, у рэфераце не цытаваў, а спасылаўся на іншыя — тыя, што сапраўды здаваліся мне безыдэйнымі, накшталт: «Но клянусь тебе ангельским садом, чудотворной иконой клянусь...» Ага, раз яна клянецца абразом, значыць, яна набожная, і значыць... канешне, канешне, яе трэба моцна крытыкаваць!..

Пройдуць гады, адбудзецца XX з'езд партыі, праразжацца — з вялікім болем, з пакутамі — сапраўдны духоўны зрок, і душа пачне ачышчацца ад усяго таго, што паспелі наляпіць, спекулюючы на яе цнатлівай нявіннасці, ідэйныя і маральныя настаўнікі грамадства. Сённяшнім маладым людзям цяжка ўявіць, чаго каштавала нам, блаславлёным у самастойную дарогу з паглядамі і перакананнямі канца саракавых, гэтае прасвятленне і ачышчэнне. Колькі разоў будзе падступаць да сэрца і душыць крыўда за незлічоныя дні і ночы, марна патрачаныя над горамі друкаванай макулатуры, накшталт, псеўданавуковых опусаў «народнага акадэміка» Лысенкі, цытат з якога ў маім сшытку для выпісак аж занадта многа. І будзе думацца аб тым, якія шчаслівыя маладыя чытачы сённяшнія: што яны могуць чытаць! Колькі слаўных літаратурных імён вернута з небыцця, колькі цудоўных твораў адкрыта, адрукавана нанава для прагавітых чытацкіх сэрцаў!..

Да друку ў гэтай кнізе дзённік прапанаваны не цалкам, выбарачна. Апушчаны запісы, у якіх зусім няма ацэначнага моманту — адно называецца тэма і пералічаны героі твора. Многія запісы падаюцца, натуральна, у скарачэнні, але таксама не за кошт ацэнак і крытычных заўваг. Тое, што мной адабрана, падаецца без ніякіх змен і паправак, дакладна так, як запісана ў сшытках. Усе запісы, зробленыя на рускай мове (а іх было большасць), перакладзены на беларускую.

Мальер. «Выбраныя творы». 15.IX.48 г.
«Вельмі цікавае апісанне прадстаўнікоў вышэйшых класаў — бязглуздых, беспрасветна цёмных, амаральных. Напісаны творы па ўсіх правілах класіцызму. Сюжэты ўсіх камедый якіясьці аднастайныя. Маладыя людзі ўлюбляюцца, ім хочуць перашкодзіць, але справа ў асноўным канчаецца вяселлем маладых».

Казакевіч Эм. «Зорка», аповесць. 20.XI.48 г.
«Моцны твор. Ваенная рэчаіснасць і гераізм савецкіх людзей — Траўкіна, Аніканава, Бражнікава, Сербічэнкі і іншых — пададзены надзіва рэалістычна».

Бубянноў М. «Белая бяроза», раман; кніга першая. 25.XI.48 г.
«Уразіла рэалістычнасць адлюстравання пачатку Вялікай Айчыннай вайны і псіхалогіі людзей рознага сацыяльнага асяроддзя. Андрэй, Азёраў, Юргін — вось сапраўдныя патрыёты сваёй Радзімы. Гэтыя людзі, выхаваныя новым часам, непераможныя. Вельмі цікава, што будзе далей».

Паўленка. «Шчасце», раман. 10.XII.48 г.
«З палітычнага боку не падкапаешся. Варапаеў — вельмі моцны тып, сапраўды — бальшавік. І на фронце працы — ён наперадзе, камандзір і арганізатар, у сэрцы савецкіх людзей ён усяляе веру ў сілу і непераможнасць нашага ладу».

Казлоў Іван. «У Крымскім падполлі», успаміны. 18.XII.48 г.
«Вельмі шмат даведаўся я з гэтай кнігі пра арганізацыю барацьбы ў тыле ворага. Якая была барацьба! Што за людзі — сапраўдныя, савецкія! Вельмі не спадабаўся «Косця» пасля яго пытання аб тым, каму прысуджаецца званне Героя Савецкага Саюза».

Макаранка А. С. «Педагагічная паэма». 1.1.49 г.
«Гэта кніга мне здаецца даражэйшай за любую з кніг пра гераізм савецкіх людзей на Айчыннай вайне або ў мірнай працы. Магчыма, гэта таму, што яна з'яўляецца першай прачытанай мной кнігай пра выхаванне ў чалавека тых якасцей, якія толькі і ўласцівы чалавеку нашай сацыялістычнай эпохі. Яна расказвае пра выхаванне непасрэдна і так моцна, што адарвацца немагчыма».

Лермантаў. «Герой нашага часу», раман. 1.II.49 г.
«Выдатнейшая кніга! Сапраўднае мастацтва! Чытаў бы без стомы і без канца. Цікавая і па зместу, асабліва раздзелы «Бэла» і «Журнал Пячорына».

Гогаль М. В. «Мёртвыя душы», паэма ў двух тамах. 15.II.49 г.
«Да чаго ж харошая кніга! Вельмі ж ужо цудоўна адлюстравана ў ёй рускае жыццё! Галоўныя асобы: Чычыкаў, Манілаў, Сабакевіч, Каробачка, Наздроў, Плюшкін, Пятух, Цяцетнікаў, Муразаў і іншыя — усё гэта мёртвыя душы, распусныя і амаральныя, што сабралі ў сабе усе, якія толькі ёсць, заганы».

Конан-Дойл. «Выбранае». 5.III.49 г.
«Герой усіх апавяданняў — сышчык Шэрлак Холмс, які выкрывае дзесяткі цёмных спраў, махінацый усялякіх шулераў і дзялкоў і дапамагае такім чынам высакародным людзям. Апавяданні напісаны вельмі займальна, чытаюцца з захопленасцю, але, на маю думку, нічога добрага нашаму пакаленню даць не могуць,— надта ж не падыходзіць іх тэматыка».

Берды Кербабаеў. «Рашаючы крок», раман. 30.V.49 г.
«У рамане паказана жыццё туркменскага народа да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і яго барацьба за ўстанаўленне Савецкай улады ў Туркменістане. Хораша выведзена ў рамане лінія Артык — Айна: увесь час перажываеш за іх. Вельмі шмат новага даведаўся з жыцця і побыту туркменаў, а таксама з гісторыі прыходу Савецкай улады ў іх край, аб ролі т. Куйбышава і іншых прадстаўнікоў партыі».

Тургенеў І. С. «Рудзін», раман. 10.VI.49 г.
«Бачу майстэрства аўтара, уменне адлюстраваць па-мастацку ўсякую дробязь, але спадабаліся толькі некаторыя моманты і думкі. У цэлым асаблівага ўражання раман не пакінуў».

Барыс Палявой. «Мы — савецкія людзі», кніга нарысаў. 30.VI.49 г.
«Вельмі выдатная кніга! Сапраўды — савецкія людзі! І хлапчук Валодзя, і сяржант Гарэлкін, і Марыя — чытаеш і думаеш пра іх з бясконцым захапленнем. Дзі-

віцца трэба, як мужна, гераічна, храбра змагаліся рускія, беларусы, грузіны і інш. за сваю вялікую Радзіму. Дзівіцца трэба, якая сіла волі можа быць у чалавека!..»

Ціханаў М. С. «Выбранае», вершы і паэмы. 12.VII.49 г.

«Па-мойму, цэласна Ціханава ацаніць нельга. Калі ўзяць такія рэчы, як «Кіраў [redacted] намі», «Камсамольская ода», «Самі» — выдатныя творы; наадварот, «Чырвоныя на Араксе» і большасць вершаў — слабізна. Апрача таго, раздражняе перанасычанасць нярускімі іменамі ды геаграфічнымі назвамі. Цікава, ці чырванее зараз Ціханаў за свае «Вершы пра Югаславію» і за ўслаўленне Ціта?»

Кавалёў Дзм. «Далёкія берагі», вершы. 28.VII.49 г.

«У параўнанні з творамі іншых маладых паэтаў, вершы Кавалёва нашмат лепшыя: у іх багата душэўнасці і мастацкасці».

Васілій Ажаеў. «Далёка ад Масквы», раман. 24.1.50 г.

«Моцны твор, нічога не скажаш! Настолькі поўна і праўдзіва падаць вобразы сапраўдных савецкіх людзей — гэта, несумненна, вялікая творчая ўдача аўтара. Міжволі захапляешся і начальнікам будаўніцтва нафтаправода Батманавым, і інжынерамі Каўшовым і Бярыдзе, і Рогавым, і Мохавым, і Сіліным, і Уварам Магаметам, і многімі іншымі. Цікава сачыць, як сказваецца на асобных героях і выхоўвае іх, робіць іх больш высакароднымі, паспяховае будаўніцтва, калектыўная праца, палітработа ў масах, і наогул — агульнасць інтарэсаў савецкіх людзей».

Панфёраў Ф. «Брускі», раман у чатырох кнігах. 30.1.50 г.

«Гэты раман я паставіў бы пад адну рубрыку з такімі выдатнымі палотнамі, як «Ціхі Дон» Шолахава і «Порт-Артур» Сцяпанава. Вось гэта кніга! Ёсць чаму павучыцца! Цяжка пераацаніць яе пазнавальнае значэнне. Ні з адной кнігі я не атрымаў такіх яркіх уяўленняў пра ломку грамадскага жыцця ў Краіне Саветаў, пра калектывізацыю і індустрыялізацыю, пра духоўны рост савецкіх людзей, пра тое, як складваліся новыя адносіны да працы, да сацыялістычнай уласнасці, пра барацьбу ўнутры краіны і барацьбу ў

партыі,— адным словам, пра тое, як СССР з краіны адсталай ва ўсіх адносінах ператварылася ў краіну квітнеючага сацыялізму... Вельмі цікава паказана, як праходзілі з'езды партыі і пасяджэнні УЦВК, таварышы Сталін і Калінін на з'ездах, а таксама ворагі народа Каменеў, Зіноўеў. Цікава апісаны жыццё, быт і норавы сялянства».

Вольфганг Гётэ. «Пакуты маладога Вертэра», раман. 16.II.50 г.

«Вось і Гётэ. Кніга добрая. Больш таго, у мастацкіх адносінах — гэта выдатная кніга. Дзіўлюся, як можна знаходзіць такія хвалюючыя словы для выяўлення пачуццяў — і радасці, і гора, і роспачы. А стыль! Які цудоўны склад і лад мовы! Раман у асноўным складаецца ■ пісем Вертэра Вільгельму, і толькі часткова — з апавядання выдаўцы. Якой высакароднай душы быў Вертэр! І любіў ён Лотту ідэальна. І ўсё ж яшчэ раз скажу, што падобныя збітыя сюжэты з трагічным канцом мне не падабаюцца».

М. Я. Салтыкоў-Шчадрын. «Паны Галаўлёвы», раман. 20.II.50 г.

«Апрача таго, што ў рамане вельмі добра паказана жыццё правінцыяльнага дваранства напярэдадні і пасля рэформы 61-га года, раман выдатны тым, што ў ім выведзены тып Іудушкі. Гэта — жахлівы чалавек, прагавіты крывапіўца, які страціў у сабе ўсё добрае, чалавечнае. Невыпадкова, што ўвесь род Галаўлёвых вымер».

Мальцаў Ел. «Ад усяго сэрца», раман. 25.II.50 г.

«Прачытаў раман, і хочацца ад усяго сэрца сказаць дзякуй аўтару, а таксама героям рамана — Груні Васільцовай, Радзіёну Васільцову, Чугаеву, Гардзею Ільічу, Ярніну Івану, Фросі, Ірынцы, Клані і іншым выдатным маладым людзям, якія бачаць шчасце ў барацьбе за шчасце народа і Радзімы... Да чаго ж слаўныя гэта людзі! Чытаеш — і неяк сорамна і крыўдна робіцца, што сам не можаш залічыць сябе да гэтай кагорты высокасвядомых людзей. Колькі разоў яшчэ ловіш сябе на дробных, пошленькіх перажытках!..»

А. Дзюма. «Тры мушкецёры», раман. 1.III.50 г.

«Уражання не зрабіла, праўдзівей — не зрабіла таго ўражання, якое напэўна было б, калі б гэту кнігу

я чытаў гадоў пяць — сем назад. Цяпер — позна, не ляжыць душа да такіх твораў».

Ларыса Варнк. «Муза Баркоўская», раман. 10.III.50 г.

«З усіх прачытаных мной раманаў ні да аднаго так не падыходзіць формула «мастацтва для мастацтва», як да гэтага. Здаецца, ён шкодны для савецкага чытача, з'яўляючыся ідэалізацыяй жыцця і кахання, ён можа, адрываючы ад жыцця, зацягнуць чытача ў балота хваравітай летуценнасці».

Тургенеў І. С. «Ася», «Першае каханне», аповесці. І.ІХ.50 г.

«Не ведаю чаму, магчыма па прычыне маёй празмернай адданасці ідэям сучаснасці, але гэтыя аповесці мяне ў захапленне не прывялі, асабліва «Першае каханне». Перажыванні, выкліканыя пачуццём першага кахання, пададзены з выключнай сілай, але само каханне... Хіба гэта каханне? Не падабаецца мне такая рамантыка — застарэлая, архаічная».

Горкі М. «Маці», аповесць. 10.ІХ.50 г.

«Цікава, як магла гэта кніга паявіцца ў друку да рэвалюцыі? У ёй жа з такой сілай адлюстраваў Горкі барацьбу рабочага класа за сваё вызваленне! Гэта сапраўдная рэвалюцыйная рамантыка на глебе рэалізму».

«Песня аб Раландзе», французскі народны эпас. 13.ІХ.50 г.

«Цікавая рэч. Недарэмна адзначаецца ў гісторыі літаратуры побач з іншымі вядомымі народнымі творамі. Уражвае жывой, прыгожай мовай. Але ж гэта пераклад. Трэба думаць, якая сіла — арыгінал».

Лондан Д. «Мартын Ідэн», раман. 20.ІХ.50 г.

«Выдатны, калі не больш, раман. Упэўнен, што Мартын Ідэн прымусіць прызадумацца над станам некаторых рэчаў кожнага, хто свядома прачытаў гэту кнігу. Жыццё Мартына Ідэна — гэта здзіўляючы прыклад, чаго можа дабіцца чалавек на шляху самаўдасканалення дзякуючы сіле волі і настойлівасці. Тут Мартын Ідэн варты пераймання. Яго сіла волі — узор. Гэту кнігу трэба прачытаць кожнаму маладому чалавеку, не кажучы ўжо пра пачынаючых аўтараў: для

апошніх яна павінна быць настольнай. Апрача гэтай, галоўнай, вартасці, кніга выключна цікавая па вырашэнню тэмы і сваёй праўдзівасцю. Нянавісць Ідэна да паразітуючых класаў адпавядае духу савецкай моладзі. Індывідуалізм Ідэна, вядома, трэба ўспрымаць крытычна. Здаецца, што гэта кніга дала мне вельмі многа, і будзе зусім натуральна, калі я заўважу ўплыў Мартына Ідэна на сабе».

Чэхаў А. П. «Чайка», «Вішнёвы сад», драмы. 25.IX.50 г.

«Навелы Чэхава мне падабаюцца больш. Там ён непераймальны. Гэтыя рэчы моцныя мастацкім увасабленнем ідэі, і думкі значныя, але — штосьці не тое, як быццам не чэхаўскае...» «Хто зведаў насалоду творчасці, для таго ўжо ўсе іншыя насалоды не існуюць («Чайка»).

Пячэрнікава. «Падлеткі», аповесць. 3.X.50 г.

«Якая слаўная кніжыца! Гэта добры метадычны дапаможнік не толькі для настаўнікаў, але і для бацькоў. Вось што значыць цесная ўзаемасувязь сям'і і школы! Вось што значыць добрая школа! Гэта аповесць мне проста вочы адкрыла. І толькі балюча, і крыўдна, і страшна робіцца, калі ўспомніш, у якім стане знаходзіцца справа выхавання цяпер у нашых сельскіх школах. Вельмі і вельмі карысная кніга. Аб ёй можна было б напісаць цэлы сшытак водгукаў».

Горкі М. «Справа Артамонавых», раман. 6.X.50 г.

«Раман спадабаўся. А за што? За сапраўдны рэалізм. Горкі глядзіць на жыццё прама, не прыхарошваючы яго, не скажаючы. Усе вобразы — да няма куды больш жыццёвыя. Стыль трохі сумнаваты».

В. Скотт. «Айвенга», раман. 15.X.50 г.

«Прачытаў, але задаволены не прачытаным, а тым, што пазнаёміўся са Скоттам. Хораша піша, займальна, вобразна, прыгожая мова. Калі б гэты раман я прачытаў у дзяцінстве, захапленню, напэўна, не было б мяжы, а цяпер гэты рамантызм і прыгоды ўспрымаюцца па-іншаму».

Ачарэцін. «Я твой, Радзіма», аповесць. 20.X.50 г.

«Нядрэнная рэч — як і ўсе нядрэнныя рэчы аб Вялікай Айчыннай вайне. Галоўнае тое, што твор адпа-

вядае духу савецкага чытача. Аўтар, напэўна, сам удзельнік вайны, добра ведае франтавыя будні. Але мне здаецца, што занадта лёгка даюцца перамогі ў яго аповесці. На апошнім жа этапе вайны было самае яраснае супраціўленне ворага. А ў аповесці гэтага не бачна».

В. Аўдзееў. «Гурты на дарогах», «У нас у дварэ», аповесці. 24.X.50 г.

«Зусім не дрэнныя аповесці, асабліва «Гурты на дарогах». Добры стыль, чытаецца лёгка, без нудоты. Тэма аповесці: вайна — выпрабаванне для кожнага чалавека. Аўдзееў досыць хораша, рэалістычна, хаця не зусім поўна, раскрыў характары сапраўдных савецкіх людзей і спадарожнікаў, што празябаюць пад крылом Савецкай улады (як забеспячэнец Упенік — ох і тып!»).

Смелякоў Я. «Крамлёўскія яліны», зб. вершаў. 1.XI.50 г.

«Першае, калі не лічыць вершаў, змешчаных у перыядычным друку, знаёмства з Я. Смеляковым. Добрае ўражанне. Ёсць нешта сваё, арыгінальнае, што і кідаецца ў вочы. Усе вершы гучаць жыццерадасна, маюць бадзёры, аптымістычны настрой. Большасць вершаў — грамадзянская лірыка, з патрыятычным пафасам і верай у светлую будучыню. Лепшыя, па-мойму, вершы: «Суддзя», «Зямля», «Даўным-даўно», «Другое кастрычніка 1920 года», «Харошая дзевачка Ліда», «1 студзеня 1941 года», «Сабака Кадырбая» (з Джамбула) і іншыя».

«Пускай меня мечтатель не осудит,
Я радуюсь сегодня за двоих
Тому, что жизнь всегда была и будет
Намного выше вымыслов моих».

*(«Давным-давно»)*

С. Васільеў. «Вершы і паэмы». 2.XI.50 г.

«Добры паэт, арыгінальны. Кожны радок вее цеплынёй, пранікнёнасцю.

«Мы мало любили, но крепко любили,
И верили в счастье, и счастливы были,
И не было в мыслях меж нами такого,
Чего б не могли мы понять с полуслова».

У Васільева, як і павінна быць у сапраўднага паэта, у кожным вершы ёсць зерне, якое западае ў душу пры

чытанні; яго вершы запамінаюцца, дзякуючы аграмаднай паэтычнай сіле і вялікай душэўнай выразнасці. Цікава, дзе б пачытаць яго біяграфію?».

А. Фёдараў. «Падпольны абком дзейнічае», кніга другая. 4.XI.50 г.

«Больш года назад я чытаў першую кнігу, уяўленне аб якой ужо сцерлася... Гэта кніга крыху ўваскрасіла тую. Кніга выключна цікавая. Здаецца ж, і сам я жыў ■ партызанамі доўгі час, а прыходзіцца здзіўляцца сапраўднаму партызанскаму руху, паказанаму ў гэтай кнізе, і думаць: што ж такое былі партызаны, вядомыя мне? На гэта пытанне, здаецца, адказаў сам Фёдараў: «Некаторыя групы ратаваліся проста ад праследавання немцаў. Пад уплывам голаду яны, здаралася, цягалі кур, гусей, а то і бычка ў селяніна. Самі таго не разумеючы, яны прыносілі гэтым шкоду партызанскаму руху... Групы, якія толькі хаваюцца, гуляюць па лясах, гэта ж яшчэ не партызаны».

«Камуніст не можа рабіць здзелак са сваім сумленнем» (Фёдараў).

Яршоў П. «Канёк-Гарбунок», казка. 4.XI.50 г.

«Ад усяго сэрца, у поўным сэнсе слова, я ў захапленні ад гэтай рэчы і хачу (можа, для будучага інтэрасу) зазначыць, якое ўражанне зрабіла яна на мяне пры свядомым знаёмстве з ёю. У сэнсе народнасці, у сэнсе даступнасці самым шырокім колам чытачоў, у сэнсе маляўнічасці мовы — гэта рэч непераўзыдзеная. Лепшых літаратурных казак я не ведаю. Міжволі здзіўляюся: Яршову было дзевятнаццаць гадоў, калі гэта казка ўбачыла свет».

С. Шчыпачоў. «Лірыка», паэма. 6.XI.50 г.

«Шкада, што да гэтага часу я не пажадаў як след пазнаёміцца са Шчыпачовым. Такі ж выдатны, арыгінальны паэт! Ні чыя лірыка гэтак не адпавядае душэўным настроям і светапогляду савецкай моладзі, як лірыка Шчыпачова. Апрача свайго патрыятычнага пафасу яна мае своеасаблівы характар, які заключаецца ў канкрэтнасці і сціслаці думкі, у прыемна-гумарыстычных канцоўках, у праўдзівасці перадачы настрояў савецкіх людзей — людзей новага тыпу.

«Мы строим коммунизм. Что в мире краше,
Чем этот труд? Где доблести предел?

Предела нет! А кто сказал, что наша
Любовь должна быть мельче наших дел?»

Верш, з якога ўзяты гэтыя радкі, а таксама вершы «Любоўю даражыць умейце», «Адну цалуеш, а пасля другую» — гэта лепшае ў нашай савецкай паэзіі з усяго, што ў ёй ёсць пра сапраўднае каханне і дружбу, магчымую толькі ў нас, дзе чалавек — горды, прыгожы — сам гаспадар свайго лёсу».

М. Бірукоў. «Чайка», раман. 8.XI.50 г.

«Светлай памяці Лізы Чайкінай, вернай дачкі рускага народа...» — гэтыя словы, што стаяць на першай старонцы рамана, прымусілі мяне здрыгануцца і ўнутры пачырванець: тысячы разоў чуў гэта імя, яно — як святыня захоўваецца ў глыбіні душы побач з іншымі дарагімі імёнамі, а дасюль не чытаў гэтай кнігі! Мала ёсць кніг на тэму Айчыннай вайны, і асабліва аб партызанскай барацьбе, такіх, як гэта, даўно не зведваў падобнага ўражання. Каця Волгіна (яна ж Чайкіна) — вобраз, які будзе жыць у вяках і будзе служыць прыкладам беззапаветнай любові да Радзімы, любові шчырай і непадкупнай, любові дзейснай і гарачай, любові бязмежнай і несмяротнай. Чысціня гэтага вобраза, а таксама вобразаў Федзі, Жэні, Марусі, глыбока хвалюе і прымушае пра многае задумацца».

М. Горкі. «Мае універсітэты», аповесць. 10.XI.50 г.

«Прачытана з цікавасцю, але захапляцца няма чым. Як быццам нічога яркага не было на гэтым этапе жыцця Горкага. І пасля зноў жа: не зусім падабаецца мне стыль твора. Ці то мастацкасці не стае, ці проста склад і лад мовы непрывычны?»

К. Крапіва. «Пяюць жаваранкі», п'еса. 15.XI.50 г.

«Ах, якая цікавая рэч! Да чаго змястоўная і дасканалая па свайму мастацкаму вырашэнню! У кожным радку адчуваецца Крапіва — выдатны гумарыст, тонкі псіхолаг і бездакорны мастак слова. Дзякуючы незвычайнай трапнасці параўнанняў, эпітэтаў і іншых мастацкіх сродкаў, дзякуючы глыбокаму веданню жыцця кожны вобраз гэтага твора паўстае перад вачыма як жывы. Чытаю пра Паўліну, а ўяўляю — удаву-суседку... А гэта і значыць, што аўтар дабіўся поспеху, таму што жыццёвасць вобразаў — самая неабходная ўмова для савецкага пісьменніка. Нашаму чытачу па-

трэбна не бясплодная фантазія, а праўдзівасць, і чым больш яркая — тым лепш! Яшчэ раз хочацца падкрэсліць уменне аўтара заўважыць самае характэрнае, самае важнае ў кожнага свайго героя і даць іх цэласныя, закончаныя вобразы».

А. Пракоф'еў. «Выбранае». 18.XI.50 г.

« У сэнсе мастацкага выканання вершы больш спелых гадоў, асабліва перыяду 1940—45, нашмат лепшыя за вершы, напісаныя раней. Але ідэі адны і тыя ж чырвонай ніткай праходзяць праз увесь зборнік. Гэта ідэі сапраўднага савецкага патрыятызму... Уся яго творчасць у цэлым — як адзін патрыятычны твор. Кожны радок дыхае нашым, рускім, савецкім, сацыялістычным, камуністычным. А што ўжо раздзел «Вершы аб Расіі» — то гэта суцэльнае, радаснае, сардэчнае ўслаўленне Радзімы, услаўленне сынам, гордым за сваю вялікую савецкую Русь.

«Мне в свете нет твоей красивей доли,
Мне так отрадна русская стезя,
И все твое я так люблю до боли,
Что просто не сказать о ней нельзя!» *(1945).*

Хочацца адзначыць, што паэма «Расія» выклікала ў душы сапраўднае захапленне. Выдатная рэч. Яшчэ трэба адзначыць выключную народнасць, песеннасць яго вершаў, багацце рыфмаў, вобразаў і розных мастацкіх сродкаў. Інтымная лірыка вылучаецца трохі звужанай тэматыкай, занадта шмат непасрэдна асабістага, не ўзвышанага да ідэала, да камуністычнага разумення дружбы і кахання».

«Где ты? Облака чуть-чуть дымятся,
От цветов долина, как в снегу.
Я теперь ни плакать, ни смеяться
Ни с какой другою не могу». *(1938).*

«На дворе весна. Трещит подталок.
Что ж, скажу, воистину любя:
Я не знаю, что бы с миром стало,
Если б в мире не было тебя!» *(1933).*

Я. Брыль. «У Забалоцці днее», аповесць. 19.XI.50 г.

«Прачытаў з цікавасцю. Па-першае — актуальная тэма: калектывізацыя ў Заходняй Беларусі. Па-другое — напісана добрай, жывой мовай, відаць глыбокае веданне жыцця сялянства. З боку кампазіцыі — таксама рэч бездакорная, усе часткі гарманічна зліты,

звязаны так, што атрымалася адзінае стройнае цэлае. Паказана і роля настаўніцы пачатковай школы, праўда,— не зусім яскрава: тут аўтар аказаўся не на вышыні свайго дару».

Жорж Сарыа. «Ці стане Францыя амерыканскай калоніяй?», кніга. 22.XI.50 г.

«Перш за ўсё павінен сказаць, што гэта палітэканомія замучыла мяне. Пяць раманаў прачытаў бы за гэты час! Але кніга — моцная. На многае адкрыла вочы. Аказалася, што я меў зусім слабенькія уяўленні пра экспансіўную палітыку ЗША, пра план Маршала, пра розныя блокі і т. п. У гэтай кнізе на прыкладзе Францыі паказана, у якім становішчы можа апынуцца любая краіна, якая ідзе на павадку ў ЗША. Францыя траціць палітычны суверэнітэт і эканамічную незалежнасць. Дзякуючы франка-амерыканскаму фінансаваму пагадненню Бірнса-Блюма, падпісанаму ў 1946 годзе, дзякуючы Жэнеўскаму пагадненню ад 10 красавіка 1947 года па таможанных пытаннях і арганізацыі блока капіталістычных дзяржаў пад кіраўніцтвам ЗША, нарэшце, дзякуючы плану Маршала Францыя становіцца амерыканскай калоніяй. Прыбіраючы да рук усе галіны французскай прамысловасці, пабіваючы сваімі серыйнымі таварамі нізкага сабекошту ўсякую канкурэнцыю, навадняючы імі французскі рынак, што разарае французскіх прадпрыймальнікаў і кустароў, ЗША вядуць Францыю да гібелі. Думка аўтара: толькі народ, зрабіўшы якіясь рашучыя крокі, можа ўратаваць Францыю.

Удала выказаўся пра план Маршала лорд Біверорук: «План Маршала настолькі велікадушны, што мы павінны з энтузіязмам адвергнуць яго». І яшчэ: «Нам прапаноўваюць абмяняць наш эканамічны суверэнітэт на амлет з яечнага парашку».

Выпіска: «У 1939 годзе сухапутная армія Злучаных Штатаў займала 17 месца сярод іншых армій капіталістычнага свету».

Ісакоўскі М. «Вершы і песні». 23.XI.50 г.

«Вершы і песні... А я сказаў бы, што ў Ісакоўскага няма вершаў, у яго — усё песні, у яго — кожны радок пяецца, ён — народжаны для песень. Да чаго ж выдатны паэт!..»

«Какое б ты ни делал в жизни дело,
Запомни — цель одна:
Гори, дерзай, чтоб вечно молодела
Великая страна».

В. Вольскі. «Высокі бераг», раман, кніга першая. 25.XI.50 г.

«Раман прысвечаны партызанскай барацьбе на Беларусі. Першая кніга канчаецца першай дыверсіяй камсамольцаў-падпольшчыкаў. У рамане вельмі многа надуманасці і штучнасці, больш чым у любой кнізе аб партызанскай барацьбе, з прачытаных мной. Чытаеш і сумняваешся ў праўдзівасці таго ці іншага выпадку, прыгоды, вобраза. Людзі разважаюць шаблонна, штучна, не надзелены ўласнымі рысамі. Адным словам — твор нізкапробны».

Антакольскі. «Выбранае», вершы і паэмы. 26.XI.50 г.

«Нешта не разумею, што за паэт. Чытаць страшна цяжка і сумна. Няма ў вершах чагосьці спецыфічна рускага, раздольнага, вясёлага, напеўнага, задушэўнага... Чытаеш, нібы пераклад з Гамера. Якісьці цяжкі склад і лад. Сказ канчаецца пасярэдзіне радка. Наступны, перарваны рыфмай, пасярэдзіне наступнага радка. Далей — зноў. І так скрозь і ўсюды. Напрыклад:

Рисунки. Готовальня. Плоский ящик
С палитрой. Два нетронутых холста.
И тюбики впервые настоящих,
Впервые взрослых красок. Пестрота
Беспечности. Все начерно. Все наспех.

Ці нават больш таго:

И все в нем недолюбленное. Недо-
любившее. В мозгу — как звон косы...

Адсюль — губляецца рыфма, цяжка за ёй сачыць, таму што міжволі робіш паўзу ў канцы думкі, сказа, а канец-то гэты — пасярэдзіне радка. Адсюль — дысгармонія, адсутнасць плаўнасці, атрымліваецца штосьці рыхлае, непрыгожае.

Пры гэтым — якаясьці неактуальная тэматыка: кожны верш — зарыфмаванае разважанне над нязначнымі фактамі жыцця.

Выгадна вылучаюцца паэмы «Чкалаў» (драматыч-

ная паэма) і «Сын». Бачна, што эпічныя рэчы ў яго атрымліваюцца лепш, чым лірыка».

«Броўка П. «Чырвон-гарадок», паэма. 4.XII. 50 г.

«Зусім не спадабалася. Аўтар у аснову паклаў рэалізацыю пастановы Савета Міністраў аб узбуйненні калгасаў, паказаў, як паспяхова стала развівацца гаспадарка аб'яднанай арцелі. За выняткам толькі некаторых трапных вобразаў, паэма слабая ў мастацкіх адносінах. Старшыня калгаса Маставы не надзелены такімі яркімі рысамі, якія б заваявалі сімпатыю чытача і маглі б застацца ў памяці».

Куляшоў А. «Толькі ўперад», паэма. 4.XII.50 г.

«Зусім іншая рэч — у параўнанні з Броўкавай — паэма Куляшова. Вот піша! Проста дзіва! Ужо пятая паэма пасля «Сцяга брыгады» — і ўсе выдатныя. Чытаеш,— і адарвацца нельга, наадварот,— яшчэ вяртаешся назад і перачытваеш:

Вальс іграе баян на гары за ракой,
Весяляцца студэнты пад зоркай сваёй.
Што ж, спявайце, сябры, на высокай гары,
Каб чуваць былі песні далёка ў бары.
Вы спявайце, гуляйце да самай зары,
У жыцці весялейшай не будзе пары.
Да шчакі прытуляйцеся шчыльна шчакой,
Да рукі дакранайцеся ціха рукой,
Гаварыце ўсю праўду каханай сваёй,
Не бывае другой маладосці такой.

Паэма глыбока хвалюючая, поўная прыгожага і цёплага лірызму, расказвае аб каханні і дружбе, раскрывае выдатныя якасці маладога савецкага чалавека. Асабліва спадабалася месца пра сталь. Запомнілася само сабой. Вельмі моцныя радкі. Куляшоў — бясспрэчна вялікі талент!

«Шчасце ў працы, у светлым здзяйсненні надзей,
Шчасце ў тым, каб змагацца за шчасце людзей;
Не жадаю я лёгкай удачы ў жыцці...
Толькі ўперад ісці, толькі ўперад ісці!..»

Бальзак О. «Страчаныя ілюзіі», раман. 19.XII.50 г.

«Першае сур'ёзнае знаёмства з Бальзакам. У захапленні. Захапляюся глыбінёй думкі, сілай логікі, здзіўляючым веданнем жыцця і душы чалавека. Здаецца, ні адна кніга не дала столькі пазнання, не адкрыла столькі новага, колькі гэты выдатны раман. Трэба пры-

знацца, што чытаецца ён даволі цяжка, трудна, і чытаў я яго не спяшаючыся, мабыць, больш тыдня. Прычым спачатку досыць такі не спадабаўся, а потым — не адарвацца. У рамане паказаны лёс мастацтва і навукі ў буржуазным грамадстве, у свеце, дзе ўладарыць капітал».

Выпіскі: «З усіх відаў адзіноты самая страшная адзінота душэўная». «Дружба прабачае ўчынак, нястрымны рух страсці, але яна няўмольная, калі размова ідзе пра гандаль сумленнем, розумам і думкай».

Лебедзеў-Кумач. «Выбранае», вершы і песні. 29.XII.1950 г.

«Добры паэт. Выдатныя вершы, так і пяюцца самі. Не дзіўна, што на яго словы напісана вельмі шмат, у тым ліку папулярных, савецкіх песень. У сэнсе мастацкага выканання яго вершы зусім бездакорныя. Якаясьці лёгкасць, натуральнасць, як быццам усе яны вылілісся адным духам. А якое багацце рыфмаў! Апрача таго, Лебедзеў-Кумач зусім не кепскі сатырык і гумарыст. Такія яго рэчы, як «Любоў і абавязак», «Аб крытыцы», «Чорнае слова», «Ліберал», «Актывіст» і іншыя, з'яўляюцца ўзорамі сучаснай надзённай сатыры і гумару. Акрамя таго, цікавыя яго выступленні-прамовы ў вершах, як «Нашай краіны калектыўны партрэт» (1938) і «Народ не забыў свайго Тараса» (1939). Цікавы жанр. Такі я сустракаў у Безыменскага».

Писатель лишь тот, кто стал человеком.
И тот, кто не любит людей — не поэт!

Камароў П. «Выбранае», вершы. 3.1.51 г.

«Дальбог, добры паэт! Выдатныя вершы! Не ведаю, як іншым, а мне страшэнна спадабаліся. Проста — зрабіўся паклоннікам яго. Для мяне цяпер Камароў — адзін з самых лепшых паэтаў у нашай савецкай літаратуры. Ёсць у Камарова штосьці характэрнае, асаблівае, міма чаго нельга прайсці, не заўважыўшы і не палюбіўшы,— штосьці добрае, прыемнае, светлае, моцнае, пранікаючае ў душу,— тое, што ў маім уяўленні ёсць сапраўдная паэзія. Яго вершы — якіясь закончаныя, цэласныя, гарманічныя; з такога верша не вырваць ні радка і не прыбавіць ні радка. Вобразы і мастацкія сродкі выключна ўдалыя — яркія, моцныя, трапныя, «падагнаныя» і ў той жа час свабодныя, жывыя, рухомыя. Чытаеш і думаеш: «Як хараша! Цудоў-

на!» У гэтай кнізе літаральна ўсе вершы добрыя, але асабліва моцныя раздзелы «Зялёны пояс» і «Маньчжурскія сшыткі». Камароў — цудоўная паэтычная натура, надзвычай тонкі лірык. Вось верш з адной страфы «Дуб»:

Словно часовой в широкой пойме,
Он стоит, оберегая рожь.
И недаром на патрон в обойме
Каждый желудь у него похож.

Луконін М. «Выбранае», вершы. 18.1.51 г.

«Вершы неаднолькавыя: ёсць добрыя, нават вельмі, ёсць і слабейшыя, значна горшыя. Характэрная творчая манера аўтара: бачна, што шануе Маякоўскага. Ёсць вельмі шмат трапных, удалых мясцін, мастацка-моўных зваротаў, прыёмаў».

В этом зареве ветровом
Выбор был небольшой,—
Но лучше прийти с пустым рукавом,
Чем с пустой душой.

*(«Приду к тебе»).*

Я бы всем запретил охать.
Губы сжав — живи! Плакать нельзя!
Не позволю в своем присутствии плохо
Отзываться о жизни, за которую гибли друзья.

*(«Коле Отрада»)*

Алесь Ганчар. «Сцяганосцы», раман у трох частках. 4.II.51 г.

«Выключная кніга! Даўно не зведваў такога задавальнення. Здаецца, што лепшай кнігі на тэму Айчыннай вайны няма. Наколькі хвалюючая, поўная вострых момантаў ваенная рэчаіснасць. Чытаеш — і не адзін раз сціскаецца сэрца ад неадольнага жадання даведацца: што ж далей? Чытаеш — і не раз зойдзешся смехам ад натуральнасці, праўдзівасці адлюстравання салдацкага жыцця, поўнага трывог і небяспекі і ў той жа час — бадзёрага, вясёлага, цікавага. Думаю, што імёны Бранскага, Яснагорскай, Чарныша, Варанцова, Макавея, Сагайды, Блажэнка, Хаецкага, Казакова, Багірава — назаўсёды ўрэзаліся ў памяць. І што галоўнае, што аўтар змог паказаць, у чым выток сілы і непераможнасці нашай арміі, паказаў глыбокае ўсведамленне свайго патрыятычнага абавязку кожным салдатам, паказаў савецкага воіна як воіна-вызваліце-

ля, воіна-чалавека, а не забойцы і марадзёра. Захапляешся і радуешся, наколькі гэта ўсё харошыя, выдатныя людзі,— здаецца, кожнаму пакланіўся б у пояс. А мастацкія асаблівасці рамана! Гэта сапраўды штосьці асаблівае!..»

Часопіс «Пытанні філасофіі», № 3 за 1948 год. 10.II.51 г .

«Цяжкі для чытача часопіс, але дае шмат — асабліва ў сэнсе агульнага развіцця. Філасофія ж — аснова ўсіх навук. Вось гэтак то ўжо можна выправіць усе памылкі і ліквідаваць усе прабелы — маю на ўвазе: у правільным , матэрыялістычным, марксісцкім светапоглядзе, у правільным разумені палітыкі партыі і ўрада СССР і ўсіх партый і ўрадаў свету; многае — у сферы навукі, ва ўсіх яе галінах, і ў мастацтве — ва ўсіх яго відах, і ў культуры ўсіх накірункаў».

М. Галодны. «Выбранае», вершы. 15.II.51 г.

«Калі прызнацца па шчырасці — то проста расчараваўся ў Галодным. Пакуль не прачытаў, а ведаў яго па некаторых вершах і тэкстах песень — Галодны быў вышэй за аўтара гэтага «Выбранага». Чагосьці не стае. Здаецца,— душы, цеплыні, пачуцця. У вершах — якаясьці нязладжанасць, чытаюцца без захаплення; сухія, цяжкаватыя, сыраватыя. Хаця аўтар і сам бічуе раўнадушнае рамесніцтва: «Долой равнодушных — они отвратительней жабы!»

«В окно струится зимний свет,
Но холоден узор стекла.
Чего в нем нет? В нем жизни нет,
Одни законы ремесла.
Таков бывает и поэт:
Он рвет стихи свои со зла.
Чего в них нет? В них жизни нет,
Одни законы ремесла.»

Часопіс «Пытанні філасофіі», 1949, № 2, 3, 20—28.II.51 г.

«Цікавыя артыкулы пра Вільямса, пра савецкую інтэлігенцыю (Кафтанава), затым — «Сталін і тэорыя пазнання». Выпісак раблю вельмі шмат: авось спатрэбяцца; каб чытанне не аказалася бясследным. Зрабіў вывад: як мага больш чытаць часопісаў і перыядычнай прэсы наогул».

Ерыкееў. «Вершы пра сяброў», лірыка. 5.III.51 г.

«Добрыя вершы, надзвычай добрыя, асаблівыя вершы! Падобную лірыку цяжка спаткаць у друку. Калі апісанне прыроды, то вобразы, параўнанні, эпітэты адмысловыя. Калі інтымная лірыка — цудоўна! І прытым — якая народнасць! Кожны верш дыхае чымсьці блізкім, мацярынскім, дарагім і як быццам знаёмым з дзяцінства і ў той жа час — новым. Некаторыя вершы хочацца чытаць і перачытваць,— кожны раз знаходзіш што-небудзь новае, цікавасць і захапленне не падае, і кожны раз гаворыш: так, гэта паэзія!..

Яшчэ хочацца адзначыць (чаму і асаблівае захапленне!), што Ерыкееў — паэт татарскі. І нацыянальны каларыт у яго вершах вылучаецца асабліва выразна. Як расцвіла культура народаў СССР! Татарскі ж народ быў у царскай Расіі амаль пагалоўна непісьменны. А цяпер!..»

«Хорошо друзей прекрасных
На большой земле иметь
И о звездах в синем небе,
И о дружбе песни петь».
«С какою любовью сравнится
Святая любовь матерей!..»
«Мой каждый вздох и выдох слит
С твоим дыханием, народ!..»

## ЗМЕСТ

Литературно-художественное издание

**ГИЛЕВИЧ Нил Семенович**

**ПЕРЕЖИВ ВОЙНУ**

**Повесть**

*Для старшего школьного возраста*

**Минск, издательство «Юнацтва»**

**На белорусском языке**

Літаратурна-мастацкае выданне

**ГІЛЕВІЧ Ніл Сымонавіч**

**ПЕРАЖЫЎШЫ ВАЙНУ**

**Аповесць**

Загадчык рэдакцыі *В. М. Новік*. Рэдактар *У. Б. Ідэльсон*. Малодшы рэдактар *Г. Д. Зінчанка*. Мастацкі рэдактар *В. І. Кліменка*. Тэхнічныя рэдактары *М. Ц. Папкова, С. А. Абрамчук*. Карэктар *Л. П. Стэсік*.

ІБ № 1029

Здадзена ў набор 25.03.88. Падпісана да друку 29.08.88. АТ 16485. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура Школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 11,76. Ум. фарб.-адб. 11,76. Ул.-выд. арк. 11,61. Тыраж 12 000 экз. Зак. 1233. Цана 90 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Гілевіч Ніл**

Г47 Перажыўшы вайну: Аповесць у абразках памяці: Для ст. шк. узросту/Маст. В. П. Масцераў.— Мн.: Юнацтва, 1988.— 222 с.: іл.

ISBN 5-7880-0048-3.

Гилевич Н. Пережив войну: Повесть в образках памяти.

Кніга прозы вядомага беларускага паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Ніла Гілевіча — пра пасляваеннае юнацтва, з роздумамі пра дзень сённяшні.

І ўсё, што напісана аўтарам «пра час і пра сябе», успрымаецца як вобраз пакалення, тых юнакоў і дзяўчат, якім, перажыўшы вайну, давялося яшчэ перажыць цяжкасці і нягоды пасляваенных гадоў.

Кніга аўтабіяграфічная, толькі некаторыя імёны, па зразумелых прычынах, заменены.

Г $\frac{4803010200-124}{М 307(03)-88}$ 49—88

ББК 84Бел7